№3(52)
/ травень-чэрвень / 2011

ДЗЕ
дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Проза**

**Леанід Дранько-Майсюк.**
У Вільні і больш нідзе. *(Працяг.)* / 5
**Віктар Карамазаў.**
Мастак і парабкі. *Раман. (Заканчэнне.)* / 44
**Галіна Каржанеўская.**
Прыхадні. *Прыпавесць.* / 138
**Сяргей Календа.**
Хлеб свой пускай па вадзе.
*Прыпавесць.* / 150
**Ігар Сідарук.**
Стадыён. *Прыпавесць.* / 160

**Паэзія**

**Фелікс Баторын.**
Калі баліць, значыць жывеш. *Вершы.* / 34
**Юрась Пацюпа.**
Тваё імя – на вуснах цішыня... *Вершы.* / 130
**Алесь Емельянаў-Шыловіч.**
Бурштынавыя вершы. / 144
**Валер Дубоўскі.**
Дарога дамоў. *Вершы.* / 154
**Алесь Вярцейка.**
Рэха чорна-белых сноў. *Вершы.* / 164

**Дэбют**

**Юлія Цяльпук.**
Дзень чужой мовы. *Вершы.* / 169
**Наталля Ярмольчык.**
Блог анёла. *Аповед.* / 175
**Алесь Плотка.**
Шлю паштоўку арыштанту. *Вершы.* / 178

**Пераклады**

**Алона Кімхі.**
Зацьменне Месяца. *Апавяданне.* / 183
“Скразная свядомасць”.
*Вершы пяці расійскіх паэтаў.* / 204
Сухбат Афлатуні. / 205
Святлана Буніна. / 206
Андрэй Каровін. / 210
Анна Гарэнка. / 214
Даніла Давыдаў. / 215

| | |
|---|---|
| **Архівы** | **Сяргей Шапран.**<br>“Кіно – мастацтва калектыўнае...”<br>*Драматычны кінадраматургічны лёс Васіля Быкава. (Працяг.)* / 218 |
| **Дзённікі** | **Ніл Гілевіч.**<br>Трагічны дзевяноста шосты.<br>*Выбраныя старонкі дзённіка.* / 233 |
| **Час** | **Рыгор Сітніца.**<br>Неюбілейнае.<br>*Да 65-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Някляева.* / 254 |
| **Словы** | “Не ўратуе і тое, што лечыць заўсёды?..”.<br>*Гутарка Андрэя Масквіна з Сяргеем Законнікавым.* / 260 |
| **Эсэ** | **Уладзімір Содаль.**<br>Дудка грае – ён жывы...<br>*Да 120-годдзя з часу выхаду “Dudki Białaruskaj”.* / 269 |
| **Мастацтва** | **Кацярына Безмацерных.**<br>“Мастацтва – не пустазелле, а жыта”.<br>*Гутарка Кацярыны Безмацерных з мастакамі Таццянай РАДЗІВІЛКА і Канстанцінам СЕЛІХАНАВЫМ.* / 277 |
| **Крытыка** | **Аляксей Рагуля.**<br>Сярод лесу, сярод поля – у цэнтры Еўропы<br>*Эстэтыка і сацыялогія прозы Генрыха Далідовіча. (Пачатак.)* / 281<br>**Яўген Лецка.**<br>Зрухі жыцця і літаратуры. *Творчы партрэт Вячаслава Адамчыка. (Заканчэнне).* / 292<br>**Ірына Шаўлякова.**<br>Дыялогі пасярод мяжы.<br>*Культурна-камунікатыўныя перспектывы найноўшай беларускай літаратуры.* / 315 |
| **Кнігапіс** | **Барыс Клейн.**<br>Што бачыцца цяпер.<br>*Чытаючы кнігу Сяргея Шапрана “Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця”.* / 320<br>**Леанід Галубовіч.**<br>“Мы адкуем сябе ў агні паразы”.<br>*Нататкі пра кнігу паэзіі Славаміра Адамовіча “Рым”.* / 324 |
| **Дзеяпіс** | *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова».* / 330 |

Леанід Дранько-Майсюк



...на Вялікдзень трэба ўспомніць свайго ворага,
запрасіць у рэстарацыю і добра накарміць...

# У Вільні і больш нідзе

## Максім Танк. 1938 год

*Хтось "Мацюся" хрыпла запеў*
*Пад струны гавайскай гітары...*
Максім Танк. "На пероне".

*Працяг. Пачатак у №4 (41) за 2009 год і №4 (47) за 2010 год.*

Дзе мяне паліцыя шукае –
На Завальнай, Бакшта, Каляёвай?!
Канфідэнты, шпікі і шакалы
Кожны крок абнюхваюць і слова.

Іхнія візіткі і манішкі,
Іхнія пранізлівыя вочкі –
Напамінак слаўны пра Лукішкі,
Пра лагоду вабнай адзіночкі...

Цяжка мне з Луцкевічам згаджацца,
Але ў гэтым, пэўна што, згаджуся –
Ён Лукішкі ахрысціў палацам
Найгалоўным самым Беларусі!

Беларусь у тым палацы, бачыш,
Ад аратага і да паэта...
Неба добрае, чаго ты плачаш?
Хіба першы раз такое гэта?!

От у парку над Вілейкай мнішкі
Хай памоляцца за камсамольца,
Каб не трапіў зноў ён у Лукішкі,
Дзе па лыжцы ў дзень прыносяць сонца!

Хай памоляцца яшчэ й за тое,
Каб, сваёй не трацячы свабоды,
Беларусі слова дарагое
Засталося дарагім заўсёды.

І каб несціханая Вілейка
Дзецям гаварыла і дарослым:
Гедзімінавы мудрэц Ліздзейка
З беларускае паходзіў вёскі!

Але до пра гэта. Шчасце будзе,
Лішне гаманіць аб ім не трэба.
Золата ягонае ў пакуце
Выспее і выбухне да неба.

А пакуль што, радасны вандроўнік,
Я іду па вуліцы Вялікай.
Дзе ты – стражнік-пракурор-пшадоўнік –
Звер, ап'янены турэмным крыкам?!

Знікні, спрахні, счэзні, утапіся
У нагах святога Хрыстафора;
Застаніся за магільнай рысай
І за нарачанскаю прасторай!

Мне ж далей трывожнае трывожыць,
А прыгожае рабіць патрэбным
І ў нацыянальным бездарожжы
Маршы выдумляць, а не малебны.

А таксама ж на сваё настройваць
Струны той гавайскае гітары,
Каб забыла на чужыя мроі
І пра нашыя спявала мары...

На пероне холадна і ціха.
Цягнікі на захадзе далёка.
Можа, хоць якім цыганскім цыркам
Вільня посная пацешыць вока?!

*7 траўня 2010. Пятніца. Менск.*

*4 красавіка 2010. Нядзеля.* Дзяўчына М. ехала да чыгуначнай станцыі Солы, вязла торт бацькам (сёння ж Вялікдзень!), гартала гламурны часопісік і нешта слухала ў навушніках.

З яе худзенькай шыі звісаў каляровы шалік з надпісам па-англійску: "Манчэстэр"; такімі шалікамі заўзятары звычайна вітаюць футбалістаў.

М. набыла яго за 20 даляраў у Менску, бо любіць каманду "Манчэстэр Юнайтэд", у якой гуляе яе кумір – нястрымны Руні.

Вучыцца М. у БНТУ, мае стыпендыю 160 тысяч; грошай такіх, канечне, бракуе, таму пайшла ў начны клуб барменам-адміністратарам.

Заробак у клубе 600 тысяч ды яшчэ чаявых за месяц тысяч на 300 набіраецца, а гэта для студэнткі ўжо добрая капейка!

Бацька ж М. працуе на нафтабазе, маці ў школе, а родная цётка...

З роднай цёткай надзвычай пашанцавала, бо тая жыве ў Лондане і аднаго разу, калі М. гасцявала там, цётка завезла яе ў Манчэстэр на матч з удзелам любімай каманды...

Такая от сучасная сацыяльная к*а*зачка.

А вось яшчэ адна.

Памятаючы запіс Максіма Танка: "...Уладак Барысевіч завёў мяне на Скапуўку, дзе ў доме № 5 размясцілася рэдакцыя "Папросту"..." – я пайшоў па гэтым адрасе.

Скапуўка, Скапоўка, Скапо – само чыталася ў маёй душы.

Гісторыкі ж у гэтай назве чулі словы – "капа", "капіць", "копны суд".

Іван Касяк і Язэп Найдзюк у сваім папулярным нарысе "Беларусь – учора і сёння" тлумачылі: "...Копныя суды збіраліся пераважна ў найважнейшых месцах гарадоў каля княжых палацаў, на рынках і ад гэтага нават гэным месцам даваліся адпаведныя назовы. Так, прыкладам, у Вільні па сённяшні дзень адна з вуліц, недалёка Замкавай гары, называецца "Скапоўкай"..."

З нашымі гісторыкамі згадзіцца можна, хоць іншая крыніца кажа гэтак: каралеўскі сакратар Станіслаў Скап у пачатку 16 стагоддзя купіў тут зямлю, пабудаваў дом, чым і паспрыяў таму, што вуліцу назвалі ў яго гонар.

Зусім не думаючы, што рэдакцыя "Папросту" магла знаходзіцца ў сакратарскім будынку, на Скапоўцы сустрэўся з былым жыхаром нашых Паставаў М. Ш. – ён якраз выходзіў з брамы, над якой чарнела лічба "5", што й спакусіла мяне загарадзіць яму дарогу.

– Чаму так называецца вуліца? – спытаў я, вядома ж, толькі дзеля аднаго, каб завязаць гаворку.

М. Ш. не ведаў адказу, тады я разгаварыў яго лягчэйшымі пытаннямі і от што пачуў: М. Ш. нарадзіўся ў 1962 годзе, працуе ў Вільні інжынерам, зарабляе 2000 літаў, жыве з дачкой і жонкай у доме № 5 на першым паверсе ў двухпакаёвай кватэры...

Маім словам, што, магчыма, у яго кватэры некалі бываў малады Максім Танк, М. Ш. не здзівіўся і не ўзрадаваўся.

– Кватэра не халодная? – так сабе пацікавіўся я.

– Ёсць электрабатарэі, а калі трэба, то палю дровамі.

– Дровамі?!

– Так, дровамі...

– А дзе вы іх складаеце?

– Маю адрынку ў двары...

Пачуўшы пра адрынку – "...недалёка Замкавай гары..." – мне захацелася ўжо не сацыяльнай, а велікоднай казкі.

З самага ранку, як толькі паміж пагранічнымі слупамі бліснуў цень плыткага ручая; як толькі ясная Вільня сустрэла на Кармеліцкай птушынымі спевамі; як толькі на Замкавай за 5 літаў і 90 сантымаў узяў кавы з мінеральнай вадой і пагаварыў з падносчыкам Альбертам пра нарцысы, якія ўквецілі ганак яго кавярні; як толькі ў Мікалаеўскай і Раманаўскай цэрквах паставіў свечкі ў падсвечнікі, а ў касцёле бернардзінцаў у белы пясок; як толькі ўспомніў, што Святая Ганна здавалася Наталлі Арсенневай зыркай кветкай; як толькі пацікавіўся ў прыкасцельнай гандлярк, ці б'юць сёння ў Вільні яйкі...

Інакш кажучы, з самага ранку мне захацелася таго, давыд-гарадоцкага...

На Вялікдзень у Давыд-Гарадку па царкоўнай адправе з радасным воклічам: "Хрыстос уваскрос!" б'юць яйкі, звараныя ў цыбульніку.

Перад біццём іх каштуюць, спрабуюць на моц, злёгку пастукваючы аб сціснутыя зубы.

Калі ад такога каштавання йдзе добры гук – значыць, яйка моцнае, калі слабы – тады слабое.

Выбраўшы моцныя, рахуюцца – хто першы будзе біць...

Той, каму выпадае яйка трымаць, далікатна сціскае яго ў кулаку, закрывае шчыльна, пакідае адкрытай толькі вострую дзюбку, якая, як вядома, мацнейшая за бакі.

Калі ж дзюбка разбіваецца, тады яйка падстаўляюць пухой – тупым канцом.

Калі ж і пуха не вытрымлівае, то такое яйка называецца біткай і аддаецца таму, хто біў.

Здаровым яйкам можна выбіць да дзесяці бітак...

Раней ішлі на хітрасць – голкай прапорвалі шкарлупіну, выпускалі бялок і жаўток і залівалі пустое яйка гарачым воскам.

Такой "вошч*а*нкой" можна было набіць мора бітак, аднак жа, калі лавілі на падмане, то тады падманшчыку давалі ў косці.

Іншы раз у кулаку хавалі мацнейшыя за курыныя – яйка цэсаркі ці пафарбаванае гусінае.

І за гэта ж таксама, калі лавілі, давалі "копняка"!

І хай сабе!

Велікодная казка не магла быць без вясёлага падману!

А што яшчэ?

Ага, на Вялікдзень трэба ўспомніць свайго ворага, запрасіць у рэстарацыю і добра накарміць!

Прызнаюся: гэта ўжо чыста мая прыдумка!

Мне пашанцавала: свайго ворага сустрэў у Гарбарскім, ля індыйскай ядальні, але зазваць туды не насмеліўся.

Прычына ў маёй абачлівасці: вораг жа таксама чалавек, а ў індыйскай ядальні Бог святы ведае што за кухня!

Яны ж там робяць усё вельмі адмыслова, гатуюць шмат нейкай каляровай яды – не, яна не для майго ліпкага недруга.

От блізенька страўня "Зое", і гэта, здаецца, тое, што й трэба...

Мы селі за стол ля вялікага акна, якраз напроці званіцы Кафедральнага сабора, – і наплыло-набегла чытанае ў Лявона Луцкевіча, што менавіта пра гэтую званіцу Максім Багдановіч сказаў: "... І на вежы, як круглае вока савы, Цыферблат – пільны сведка мінулых учынкаў..."

Я любаваўся званіцай і радкамі Багдановіча; афіцыянтка ж Алена кар-

міла майго праціўніка, а той, сыта чвякаючы, гроб усё, што яна ставіла перад ім.

Адным словам, дзюдзік, лабай скану (вельмі смачна)!

У выніку рахунак склаўся такі: гарэлка “Фінляндыя” 100 грамаў – 17.50, бульбяны суп з цыбуляй – 14, бартфіш (смажаная рыба, пададзеная на дошцы) – 35, гарбата – 7.

Разам – 73 літы 50 сантымаў.

Дорага, вядома, асабліва, калі згадаць інжынерскі заробак М. Ш.

Але ж полудзень велікодны і для найлепшага ворага, таму не шкада.

Ну што, наеўся, убогі?

Наклаўся за губу?

Тады паўзі ў сваю мураўёўскую нару, друкуй украдзеную прозу, абслугоўвай маскоўскіх памешчыкаў, пашырай русіфікацыю...

Што?

Ты не русіфікатар?!

Ты гатовы памерці за беларускую мову?

Заяву такую зрабіў...

Не, такія, як ты, за мову не паміраюць...

Зрэшты (раптам надумаеш!), то скажы, калі гэта будзеш рабіць і дзе, – прыйду паглядзець на тваю агонію!

Ды не, ніякай агоніі не будзе!

Ты сыты, ты збіраешся доўга жыць!

Аднак, дарагі мой накормлены, заўважу: калі ты паабяцаў жыццё аддаць за беларускую мову і не аддаў, то ты тады паводле дзіцячай цвяльбы: няўдака – гола ср...ка!

Схапі сябе за сядро і выкінь на сметнік, або накаўтайся чаго і здохні!

Беларускай мове непатрэбны вылюдкі!

Беларуская мова не хоча, каб яе баранілі крэціны...

Так я развітаўся са сваім ворагам і пайшоў у касцёл Святога Станіслава.

У бажніцах, у якія заходзіў зранку, надзіва было мала людзей (нібыта й не свята сёння, дарэчы, праваслаўна-каталіцка-іудзейскае!), а от у гэтым калонным касцёле крыху сабралася вернікаў.

Паволі абышоўшы храм, на выхадзе прыстоіў ля скульптурнай фігуры Майсея, і тут у кішэні заспяваў далькажык: мой траюрадны брат В. Я. падаў думку на Радаўніцу паехаць дадому.

Там, у Давыд-Гарадку, у яго дзве свежыя магілы – братава і матчына; у мяне таксама ж дзве...

В. Я. – гасцінны, вытрыманы, адукаваны; працуе ў Доме Урада.

У свой час меў работу ў Кіеве.

Яго ўкраінскія калегі-эканамісты звычайна пры чарцы чыталі вершы Тараса Шаўчэнкі і кожны раз падступалі з просьбамі:

– Пачытай што-небудзь па-беларуску!

І ён тады вывучыў на памяць амаль усю “Новую зямлю” Якуба Коласа...

В. Я. – сын залатой маці, якую за яе дабро гарадчукі ласкава называлі Надзечкай; яго маці была ўмелай вышывальшчыцай і чытальніцай – чытала па нябожчыках малітвы з псалтыра і за духоўную работу сваю грошы не брала; летась чытала па маіх бацьках – 27 красавіка па Васілю, 2 верасня – па Любе; 12 ж лістапада ў свае восемдзесят прыехала за 300 кіламетраў у Менск праспяваць і па Алегу “Памілуй мя, Божа”, а тады ўжо вярнулася дадому, пажыла з нейкі месяц і ціхенька сышла на вечны спакой.

Ад Надзечкі ніхто ніколі не чуў ніводнага благога слова...

У В. Я. на руках застаўся бацька (дзядзька Міхалко – колішні майстар, сталяр), скалечаны старасцю і цяжкой хваробай.

Некалі я атрымаў ад яго важны маральны урок.

А было так.

У траўні 1978-га, вяртаючыся з войска, я даў тэлеграму дадому: “Буду 19-га”, а прыехаў на суткі пазней, бо затрымаўся ў Маскве.

Вось тады дзядзька Міхалко й падступіў да мяне на вуліцы:

– Лёнік, так няможна рабіць!

– Як?

– Калі абяцаеш 19-га, то й будзь 19-га!

А я, дурны малады, вякнуў:

– Нічога страшнага. Усё адно ж я прыехаў!

– Як гэта нічога страшнага?! Маці ж твая ўсю ноч на аўтобуснай прастаяла...

Такі ён, дзядзька Міхалко...

В. Я. забраў яго ў Менск (яшчэ да смерці маці) і глядзіць ужо тры гады.

Божа мой, тры гады – гэта ж не мае васямнаццаць бальнічных начэй...

В. Я. баіцца за бацьку, любы напамін пра Давыд-Гарадок выліваецца для старога ў бясконцыя слёзы, слабое здароўе імгнення горшае, таму пра смерць маці В. Я. не сказаў яму, на пахаванне яго не вазіў, на сорак дзён таксама – рассудзіў, што адкрыецца на Радаўніцу...

Разважлівасці свайго траюраднага брата я зайздрошчу і крыху шкадую, што цяпер ён не са мной, а то пасядзелі б на Вастрабрамскай, на тэрасе рэстарана “Феліцыя”, за куфлем нямецкага піва “Эрдзінгер”.

А так сяджу адзін; бачу ненавідны ганконг – сінія гнілыя зубы на Сніпішках; яны злавесна ўзвышаюцца над старым местам.

Дзе тыя архітэктары, якія так спаскудзілі Вільню?!

Пакажыце мне іх, недарэкаў!

Кельнерка Аушра (і тут Аушра!) крыху прытушыла мой пафас, сказаўшы вінавата:

– Сёння нельга піць на тэрасе...

“Прычына, відаць, у тым, што сёння Вялікдзень!” – здагадаўся я.

Але ўсё ж дазволіла, праўда, з той умовай, каб я, калі трэба будзе, сказаў, што сам напрасіўся на тэрасу.

І тут падсеў нейкі стараваты паляк – чалавек гасціннага выгляду; ён таксама ж папрасіў піва, але адкінуў сваю просьбу, калі даведаўся, што піць можна толькі ў самім рэстаране.

– Я проста пасяджу, падыхаю! – сказаў Аушры.

Далікатны!

І не кіўнуў у мой бок: маўляў, а чаму ён з півам на вуліцы?!

За гэта я захацеў патрактаваць яго цыгарэтай, але паляк шырока развёў рукамі, што значыла: не палю!

Я тут жа згадзіўся: паліць шкодна, і патрэбная мне мова павялася.

Я дазнаўся, што ён эмерыт (пенсіянер), што ягоны цесць нарадзіўся ў Браславе, што яго жонка любіць трускалкі, а дачка замужам за аўстрыйцам, і гэты аўстрыец не можа дня пражыць без індычай смажаніны з памідорамі.

А яшчэ мы пагаварылі пра чыгунку – далікатнага старога цікавіла, якая каляя ляжыць з Вільні да беларускай мяжы: шырокая ці вузкая...

Спадабаўся мне гэты гжэчны выпадковец!

Ад такіх, як ён, не баліць галава і не распаляюцца нервы; пасля сустрэчы з такімі людзьмі хочацца яшчэ болей захоўваць спакой, быць памяркоўным, незаўважным і, здушыўшы ў сабе дакучлівую несамавітасць, хочацца ў дарозе перачытваць тое, што прыносіць радасць – напрыклад, апавяданне Якуба Коласа "Пракурор": "Рабілася гэта тады, калі не было ні дроў, ні газы, ні солі, а важныя чыноўнікі сядзелі без службы..."

На аўтобусным гадзінніку запалілася 24-я хвіліна, а на дарожным указальніку мільгануў 24-ты кіламетр.

Вядома ж, наступная хвіліна была 25-я, а кіламетр – 23-ці.

Час рос, адлегласць памяншалася.

Такая ж сувязь – паміж клопатамі і ўласным жыццём; клопаты большаюць, жыццё скарачаецца...

Словам, як было, так і будзе, і, як той казаў, як ёсць, так і добра.

А калі добра, то вельмі хочацца даведацца, што робіцца на чыгуначнай станцыі Солы – у доме дзяўчыны М.

Магчыма, усе ўжо спяць, а на апошні кавалачак велікоднага торта мышыным позіркам нацэлілася блізкая ноч.

*10 траўня 2010. Панядзелак.* У 9-ым томе Максіма Танка (з новага 13-томнага збору твораў) ёсць фотаздымак з такім подпісам: "Дом у Вільні па вул. Букавай, 16 (цяпер Скроблю, 16), у якім жыў Максім Танк у 1930-я гады..."

Мікола Арочка ў кнізе "Максім Танк. Жыццё ў слове" кажа: паэт жыў на гэтай вуліцы, але ў доме 11.

А ў паліцэйскіх данясеннях указана: дом 14...

24 сакавіка 1932 года ваяводскі камендант дзяржаўнай паліцыі дакладваў акруговаму следчаму суддзі Віленскага акруговага суда Язэпу Булгаку, што Яўген Скурко жыве ў Вільні пры вуліцы Букавай 14, кв. 1...

Дакладны адрас, вядома ж, пазначаны ў паліцэйскіх паперах, але яны трапіліся мне пазней, таму 10 траўня 2010 г. я шукаў у Вільні на вуліцы Скроблю дом менавіта пад нумарам 16.

Гэты дом, мяркуючы па фотаздымку, – драўляны, доўгі, самавіты, на два чыстыя хады; а пра дом пад нумарам 14 самадзейны паэт Пятрусь Граніт сказаў: "...драўляная хата, але на два канцы і на падмурку высока паднятая..."

Людзі радзей, а будынкі часцей бываюць падобныя адзін на аднаго!

Карта падказвала: вуліца з таемнай назвай Скроблю знаходзіцца паблізу добра вядомай мне Навагрудскай, і таму адсюль, з Навагрудскай, і пачаў дазнавацца: што значыць Скроблю?..

Жанчына ля рэстарана "Пан Тадэвуш" адно паціснула плячыма:

– Гэта нейкае дрэва...

– Можа, бук? – падказаў я.

– Можа...

Вуліца ж называлася Букавай да 1940 года, а пры царскай уладзе была Базарнай, і от, ужо ідучы па ёй, апісальна кажучы, базарнай, застаўленай пуставатымі камяніцамі і ўбогімі гаражамі, запыняю мужчыну з сіямскім катом на плячы.

Пачуўшы, што я хачу, мужчына няцямліва паглядзеў на мяне і, пасля кароткага роздуму, пяшчотна пагладзіў ката:

– Скроблу, Скроблу... Жыву тут, а што гэта такое, і не ў галаве мне...

Тады, падкусіўшы верхнюю губу, я падступіў да юнака з гантэляй.

– Скроблу?! – юнак апусціў гантэлю на лаўку. – Гм, гэта штосьці такое, куды зойдзеш і не выйдзеш!

Во як!

Мяне разабрала яшчэ большая цікавасць, і я пастанавіў: разаб'юся ў блін, а дамагуся свайго!

Узброены такой рашучасцю і адзначыўшы: тутэйшыя кажуць не "Скроблю", а "Скроблу" – праз нейкую хвіліну загарадзіў дарогу... здаецца, былому афіцэру.

Ён быў стрункі, пруткі, станісты – сапраўды ж, выпраўка вайсковая.

– Гэта нейкае дупло! – голасна рэкнуў "афіцэр".

Розум пагонны, называецца: унёс яснасць!

Я саступіў з ходніка, бліжэйшым дваром прайшоў да школы, вядома ж, не ведаючы, што выйду да школы, і ўткнуўся, як у скамечаную газеціну, у вёрткага п'яніцку...

– А-а-а! – сплюнуў травіну п'яніцка. – Гэта вуліца Кляновая!

Так, гэта Кляновая (я й сам бачу), на ёй і стаіць школа, але ж пытаўся я не пра Кляновую.

Тады п'яніцка больш акрэслена падняў на мяне свае галубіныя вочы, пагаварыў сам з сабою па-літоўску і раптам скокнуў за бліжэйшы куст, за якім, як выявілася, спаў яго напарнік.

Напарнік прачнуўся адразу, бо, мусіць, падумаў: яму прынеслі выпіць!

О, як ён па-турынаму незадаволена рыкнуў, ушалопаўшы: гарэлкай і не пахне; ад яго проста хочуць пачуць пра нейкую там назву!

Не, ён нічога не скажа!

Не ўстаючы, з прыкрасцю павярнуўся за сваім утульным кустом на ямчэйшы бок і зламаў пры гэтым некалькі галін.

Неадступная цікаўнасць, можна сказаць, раз'ядала мяне, і я не засмучаўся, бо чамусьці шчыра верыў у поспех свайго пошуку.

Вось падсунулася нямоглая жанчына, не проста ж так прыстала да нас, калыхнуўшыся на распухлых нагах.

Убачыўшы яе, вёрткі п'яніцка надзвычай узрадаваўся:

– Во, цётка Марыя скажа!..

Пакуль цётцы Марыі казаць, я падумаў, гледзячы на яе, пра сваё...

Гадоў пяць мучылася й нагамі маці; яны апухалі, на нейкі тыдзень стухалі і зноў апухалі.

Хады, не хочацца ўспамінаць, было столькі ж, колькі ў напарстку вады магло набрацца – ад ложка да печы, а калі пашанцуе, то ад ганка да хорткі.

Што тут казаць, хады ніякай не было, і лячэнне калыхалася такое ж, як і хада.

Рабілі і тое, і гэтае; прыходзіў адзін доктар і другі, і трэці – нічога не памагло.

Старасць!

І вось ужо пяты год, як сэрца маё закіпае, калі бачу старых жанчын з распухлымі нагамі...

Цётка Марыя нарадзілася ў гэтым віленскім кутку і пражыла тут усё

сваё доўгае жыццё, але таксама ж не ведала, што такое Скроблу і – што цікава – вельмі здзівілася, што яе родная вуліца так называецца.

– Гэта вуліца Букова! – рашуча сказала цётка Марыя, у хваляванні не могучы ўтаіць свой беларуска-польскі акцэнт. – З Ізраіля мне пішуць лісты і на канвертах так і ставяць: Букова!

– І лісты даходзяць?

– Даходзяць...

Тады я павярнуў гаворку пра дом 16 і пачуў гісторыю, вартую сапраўднай прозы...

У гэтым доме, якога ўжо няма, некалі жыла таварышка цёткі Марыі; да вайны яна габрэям насіла ваду, а пры немцах ратавала іх у сваім падвале; пасля вайны ж тыя ўдзячныя людзі выпісалі яе да сябе ў Ізраіль і ўжо самі – так яна пісала цётцы Марыі – носяць ёй ваду!

Я слухаў з такім захапленнем, што й не заўважыў, як вёрткі п'яніцка ўвёў у мой клопат і чалавека інтэлігентнага вобліку.

Так я пазнаёміўся з Сігітасам Саладжынскасам, знаўцам у інжынернай графіцы.

Сігітас – пенсіянер, але яшчэ працуе – у прыватнай калегіі дызайну і ў гэтай школе на Кляновай; выкладае нарысную геаметрыю і матэматыку.

Калі ён даведаўся адкуль я, то тут жа адкрыўся, што сябруе з даследчыкам беларускага друкарскага шрыфту прафесарам Паўлам Семчанкам.

– А хто жыў у доме 16? – спытаў Сігітас.

– Максім Танк...

(Зноў жа нагадаю: 10 траўня я не ведаў, што ў 16-ым доме паэт не жыў, а паводле даклада ваяводскага каменданта кватараваў у доме 14.)

– Максім Танк? – Сігітас паглядзеў на мяне здзіўленымі вачыма.

– Вы ведаеце Максіма Танка?!

– А хто не ведае Максіма Танка! – быў такі Сігітасаў адказ.

Ад пачутага на душы маёй пацяплела.

Я тут жа па-школьнаму загаварыў, што Максім Танк сябраваў з Ёнасам Каросасам, Альбінасам Жукаўскасам, Уладасам Дрэмам, Онай Міцютэ, Ёзасам Кекштасам...

Склаў, як умеў, беларуска-літоўскі творчы букет, і гэты букет прыйшоўся да душы Сігітасу – асабліва сяброўства Максіма Танка з Уладасам Дрэмам.

Такая маладая здаволенасць жыла ў маёй крыві, што на хвіліну нават здалося: ключ ад Вільні ў маёй кішэні!

Сігітас тым часам параіў звярнуцца ў Дзяржаўны архіў Літвы, там павінны ж быць паперы пра дом 16, а над словам "Скроблу", дарэчы, таксама ж задумаўся: маўляў, трэба зірнуць у слоўнік.

– А дзе стаяў дом? – схіліўся я перад цёткай Марыяй.

– Ля гаражоў, там такая пустка цяпер...

Цётка Марыя паказала куды йсці і дадала:

– Я правяла б, але не з маімі нагамі...

Мы развіталіся.

Я дайшоў да пусткі, прыкметнага хацішча, пастаяў з нейкую хвіліну, а потым, паволі кіруючыся на высокую Навагрудскую, ужо весела думаў: і літоўцы ж часам разбіраюцца ў сваіх назвах гэтак жа, як і мы ў сваіх!

На сцежку да хацішча, на стаянне там і далей на павольную хаду адпусцілася, мусіць, хвілін з дзесяць.

І добра, што не спяшаўся, бо неўзабаве пачуў здалёку сваё імя:

– Леанід! Леанід!

Сігітас даганяў мяне, каб сказаць, што “Скроблас” па-літоўску – граб, і, значыць, вуліца называецца Грабавая.

Першае, што зрабіў гэты слаўны чалавек, калі прыйшоў на работу (у тую школу, што на Кляновай) – разгарнуў слоўнік...

Сігітасаў учынак зачараваў мяне, шляхетная сіла жыла ў гэтым учынку, і я прапанаваў абмяняцца нумарамі тэлефонаў...

Я ап’янеў ад раптоўнай радасці і з вышыні Навагрудскай, убачыўшы тры белыя крыжы, выгукнуў э**р**ныя радкі Пімена Панчанкі:

Вунь Трохкрыжовая гара.
І як тут ні кружы –
На ёй пад промнямі гараць
Дакладна тры крыжы...

А на Францысканскай, у кавярні “Шауні ветале” (Удалае месцейка), падумаў: некалі ж пасяджу тут, у зацішку, напроці каталіцкай кнігарні, і з Сігітасам Саладжынскасам.

А на Ратушным пляцы...

На Ратушным пляцы ў сеткавай загарадзі хлопчыкі гулялі ў футбол, а ў пустым касцёле Святога Казіміра было поўна святла і прахалоды.

*23 траўня 2010. Нядзеля.* Сігітас ведаў, што сёння я з Эдуардам Акуліным буду ў Вільні (паэт Ромэк Мячкоўскі запрасіў нас на польскае літаратурнае свята “Май над Вяллёй”).

За апошнія два тыдні разы чатыры я званіў Сігітасу – то ўдакладняў сэнс патрэбнага мне літоўскага выразу, то пытаўся, як правільна пісаць тое ці іншае прозвішча, або вулічную назву, а таксама ж расказваў пра адрасы беларускай Вільні, і яны, дарэчы, зацікавілі Сігітаса.

Ён пабываў на Піўной – у кватэры, дзе жыў Антон Луцкевіч; адшукаў таксама й загадкавага спадара Шымелёніса, з якім па-беларуску (!) – удакладненне Сігітаса – можна пагутарыць пра лёс антыкварнай спадчыны братоў Луцкевічаў.

У архіве ж літаратуры і мастацтва зрабіў ксеракопіі фотаздымкаў Максіма Танка, Я. Шутовіча, А. Салаўя і падрабязна апісаў два іншыя фота: на першым зняты А. Жукаўскас, Ё. Каросас, Максім Танк, Я. Шутовіч; на другім – О. Міцютэ, Максім Танк, А. Салавей, Я. Шутовіч.

А ў фондзе Онэ Міцютэ знайшоў для мяне ліст гэтай паэткі, адрасаваны Максіму Танку.

Сказаць, што мне пашанцавала – значыць, мала сказаць!

Здавалася, сама ўдача паціснула мне руку!

Сігітас прыйшоў на вакзал і паводле свайго маршруту правёў нас па старым горадзе.

Пра Вільню ў Сігітаса – воз гістарычных навін!

Слухаючы, можна й стаміцца...

Аднак жа, поўныя ўвагі, мы не стаміліся.

Гледзячы на “...акрэслены контур званіцы вялікага Яна...”, якой захапляўся Караткевіч, у канцы шпацыру павярнулі на Нямецкую, і наш ветлівы павадыр паказаў, дзе могуць знаходзіцца падмуркі некалі разбураных на Нямецкай будынкаў, а на Вялікай Пагулянцы коратка й цікава расказаў

пра выдатнага архітэктара Чагіна (сябра дыктатара Мураўёва!); яшчэ сыпануў поўнай жменяй самых розных звестак, а тады ўжо запрасіў да сябе на Закрэтавую – то бок, на сённяшнюю вуліцу Чурлёніса...

Жонка Сігітаса – Апалінарыя Лаўраўна, жанчына прыроднага хараства, расіянка паходжаннем, дзіця стараверскай сям'і – накарміла нас пловам і з настальгічнай ноткай у голасе ўспомніла пра сваіх менскіх знаёмых.

Нам было добра і ўтульна.

Мы не глядзелі на гадзіннік і надта не думалі аб тым, што нам трэба быць у Францысканскім касцёле, дзе збіраюцца па абедзе ўдзельнікі літаратурнага свята; мы адпачывалі ў аб'ёмнай, высокай, поўнай лёгкага паветра кватэры, багатай на кнігі, сярод якіх вылучаліся два тамы нашай энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае", і таксама ж бачным было менскае выданне 1988 года "Францыск Скарына і яго час".

А на ўзроўні вялізнага балкона рунелі купалы Раманаўскай царквы!

Гутарка задоўжылася і не задоўжылася, вялася роўна столькі, колькі й патрэбна звычайна бывае гасцінным гаспадарам і (пахвалім жа й сябе!) не вельмі дакучлівым гасцям...

На адыход Сігітас пацешыў гістарычным жартам, расказаў, як у 1927 годзе Антанас Сметана прыехаў да старавераў у вёску Дзягучай, што непадалёку Зарасая.

Падзея ж, вядома, для паспалітага люду была вялікая, таму ўзрушаныя жыхары Дзягучая сустрэлі першую асобу Літоўскай Рэспублікі самым урачыстым і святочным творам, які ведалі – спевам "Боже, Царя храни!.."

Сметана ж не ўбачыў у пяянні царскага гімна ніякай правакацыі, ніякага пратэсту – усё зразумеў па-чалавечы, падзякаваў і сказаў, што ён не цар, а ўсяго толькі прэзідэнт.

А каб такіх казусаў болей не было, рэдактар часопіса "Балтийский альманах" паэт Яўген Шкляр (з 1921 г. жыў у Коўне) адмыслова для старавераў (пэўна ж, выконваючы просьбу-загад якога-небудзь службоўца з прэзідэнцкага круга) у 1928 годзе пераклаў на рускую мову гімн Літвы Вінцаса Кудзіркі:

Летува, отчизна наша,
Ты – земля героев,
И сыны Твои на прошлом
Все величье строят.

Пусть шагают Твои дети
К правде, шаг за шагом.
Пусть творят Тебе на пользу
И людям на благо.

И пусть солнце Летувы
Мрак ночной развеет,
И слава, и право
Путь наш озаряют.

Пусть горит любовь Литвы
В сердцах яркой чашей.
В честь судьбы той Литвы –
Единенье наше!

Трэба сказаць, Літоўская Рэспубліка прыхільна ставілася да стараверaў, лічыла іх надзейнымі грамадзянамі.

20 траўня 1923 года ўрад прыняў часовыя правілы, якія ўнармоўвалі адносіны паміж стараверскімі прыходамі і дзяржавай – гэта значыла, што менавіта ў Літве ўпершыню ў гісторыі стараверская царква была прызнана дзяржавай.

У Польшчы ж яна была прызнана ў 1928 годзе, а ў Латвіі – у 1935-ым.

Стараверы ацанілі мудрасць Літвы – яны выконвалі ўсе законы, былі паслухмяныя, выказвалі ўдзячнасць кіраўніцтву краіны, святкавалі дзяржаўныя святы – і 16 лютага (Дзень незалежнасці), і 23 лістапада (Дзень літоўскай арміі)...

Ідучы ў Францысканскі касцёл і пазней, па Вялікай Пагулянцы вяртаючыся ў гасцініцу, Эдуард Акулін узбуджана гаварыў пра Сігітаса, усё не мог паверыць:

– Вы сапраўды пазнаёміліся на вуліцы?

– На вуліцы...

– І пасля выпадковага вулічнага знаёмства нас, чужых людзей, ён сустрэў на вакзале і, як экскурсавод, вадзіў па Вільні, а пасля запрасіў у свой дом?!

– Як бачыш...

– Чалавек, адным словам!

– Мы пазнаёміліся, дзякуючы Максіму Танку! – знарок пафасна заключыў я.

Увечары ж прачытаў ліст Онэ Міцютэ:

“Вільня, 1970. 02. 19.

Шаноўны Дружа Максіме,

Перад Новым годам у нас выйшла Твая кніга “Лісткі календара” ў літоўскім перакладзе. Я ў захапленні! Які гэта цудоўны дзённік маладосці, вясны жыцця, незмарнаванай на спакусы і на пустыя легкадумныя рэчы!

Дарагі Сябра, шчыра дзякую, што ў сваім дзівосным жыццяпісу маладых гадоў не забыў і маю сціплую асобу, а таксама ж згадаў і пра іншых літоўцаў з таго далёкага і цяжкога для ўсіх нас часу. Я вельмі ўдзячна Табе за гэта.

Наша віленская маладая літоўская літаратура ў 1937-1939 гадах рабіла першыя, але самастойныя і даволі моцныя крокі. Перш за ўсё гэта заслуга перадавой моладзі, якая здолела заснаваць літоўскі рух і ўзяць яго ў свае маладыя, моцныя рукі. На вялікі жаль, – вайна, наплыў новых людзей, якія не разумелі нашага жыцця, прынеслі нам багата шкоды, а некаторых маладых літаратараў нават выкраслілі з творчага жыцця.

Яшчэ раз дзякую за напамін аб маладых творцах таго часу.

Зычу Табе, дарагі Сябра, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, і каб Тваё пяро (а яно мае вялікі талент) доўга служыла на карысць братэрства і адзінства народаў.

З павагай

Она Міцютэ-Шутовіч.

Выбачай, калі ласка, што пішу па-польску. Не зусім упэўнена, ці здолела б дакладна выказаць свае думкі па-беларуску”.

На адвароце архіўная пазнака: фонд 269, вопіс 1, справа 3, ліст 1 і

прыпіска, зноў жа па-польску: “Максіму Танку” – пэўна ж, гэта адказ Онэ Міцютэ на пытанне: “Каму адрасавана пісьмо?”

Пра гэты ліст хочацца сказаць, як пра добрага чалавека – ён мілы і культурны!

Гэты ліст, як доказ таго, што на беларуска-літоўскіх творчых шляхах усё яшчэ можна дыхаць нечапаным архіўным паветрам.

Адам Мальдзіс у кнізе “Белорусские сокровища за рубежом” апавядае пра нашага паэта Янука Касцевіча, рукапісы якога знаходзяцца ў лонданскай бібліятэцы імя Францішка Скарыны.

Невядомы нам Касцевіч сябраваў з Майронісам, Басанавічусам, Прапалянісам, прысвячаў сваім літоўскім сябрам вершы...

У той жа кнізе А. Мальдзіс піша і пра Янку Шутовіча (мужа Онэ Міцютэ) і нібыта прымушае сваіх чытачоў падумаць, што беларуска-літоўскія творчыя сем’і – кропля шчасця і мора пакуты!

Янка Шутовіч, рэдактар-выдавец часопіса “Калосьсе”, быў арыштаваны сталіністамі і вярнуўся ў Вільню толькі ў 1956 годзе.

Выпускнік універсітэта Сцяпана Батуры, ён працаваў пажарным вартаўніком у карціннай галерэі, у якую быў перароблены віленскі Кафедральны сабор...

Вучыўся на тэалагічным факультэце, а таксама ж на факультэце права і грамадскіх навук, пісаў рэфераты “Праблема кампенсацыі ў законе аб зямельнай рэформе ў Польшчы” і “Крыніцы фінансавання органаў самакіравання сельскай гміны на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў”, браў удзел у семінарах па цывільным праве, падрыхтаваў двухгадзінную лекцыю пад назвай “Судовая медыцына”.

Штудзіраваў палітычную эканомію, палітычнае права, нацыянальнае права, дзяржаўны лад Францыі, гісторыю рымскага права, гісторыю дзяржаўнага ладу Польшчы, старое судовае польскае права, касцельнае права, а таксама іншыя прадметы.

Адзнакі ж меў у асноўным здавальняючыя; часам здаваў іспыты па два разы – так на вясновай сесіі 1928/29 навучальнага года атрымаў пераэкзаменоўку на восень па рымскім праве.

Універсітэцкае жыццё адкрылася перад ім 25 верасня 1924 года; у гэты дзень склаў заяву (вядома ж, па-польску):

“Яго Магніфіцэнцыі Пану Рэктару Універсітэта С.(цяпана) Б.(атуры).

Яна Шутовіча, які жыве на вуліцы Вастрабрамскай № 9, кв. 23.

Заява

Прашу Яго Магніфіцэнцыю залічыць мяне слухачом на Юрыдычны Факультэт.

Дадатак:

1. Гімназічнае пасведчанне № 140/330.
2. Пасведчанне аб нараджэнні.
3. Апытальнік.
4. Тры фотаздымкі.
5. Curriculum vitae.

25.09.1924 г. Вільня. Ян Шутовіч...”

У канцы заявы прыпіска падаўца, з якой вынікае, што арыгінал атэстата сталасці і арыгінал пасведчання аб нараджэнні з 9 лютага 1920 года знаходзяцца ў куратарыуме Віленскай школьнай акругі.

А зверху накладзена рэзалюцыя: “Прыняць вольным слухачом...”

Праз тры гады 28 верасня 1927 г. Я. Шутовіч, а жыў ён тады ўжо на вуліцы Полацкай (дом 4, кватэра 10) злажыў на імя дэкана заяву наступнага зместу:

“Гэтым прашу Пана Дэкана ласкава залічыць мяне студэнтам на Факультэт Права і Грамадскіх навук.

У 1926/27 навучальным годзе з'яўляўся студэнтам Тэалагічнага Факультэта У.(ніверсітэта) С.(цяпана) Б. (атуры).

Да заявы прыкладаю:

1. Атэстат сталасці.
2. Пасведчанне аб нараджэнні.
3. Біяграфія.
4. Апытальнік.
5. Тры фотаздымкі.

Ян Шутовіч, 28.09.1927 г., Вільня...”

Заява засведчана круглай пячаткай дэканата тэалагічнага факультэта; побач дазвол дэкана Фалькоўскага: “Не пярэчу”, – і 14 кастрычніка Я. Шутовіч стаў студэнтам факультэта права і грамадскіх навук...

З апытальніка ж можна даведацца, што ён беларус веры рымска-каталіцкай, што родная мова ягоная беларуская, а бацькоў клікаць Язэп і Ядвіга.

Паводле ж Curriculum vitae (жыццяпісу) – нарадзіўся 11 студзеня 1904 года ў вёсцы Шутовічы, Смаргонскай гміны, Ашмянскага павета, Віленскай зямлі; пачатковую адукацыю атрымаў у Шутовіцкай нелегальнай пачатковай польскай школе; калі скончыў два класы, паступіў у чатырохкласную расійскую пачатковую школу ў вёсцы Сукневічы, вучобу ў якой завяршыў у 1915 годзе – пасведчання ж не атрымаў, таму што на Віленшчыну прыйшла вайна; у 1916 годзе паступіў у мінскую польскую гімназію таварыства дапамогі ахвярам вайны, але праз два месяцы вучобу пакінуў, бо не было чым плаціць; у 1918 годзе быў прыняты ў пачатковую меставую рускамоўную школу ў Глыбокім; адвучыўшыся ў другім класе, праз год паступіў у Віленскую беларускую гімназію, па сканчэнні якой у 1924 годзе займеў пасведчанне № 140/330...

У адным з пазнейшых сваіх жыццяпісаў Я. Шутовіч паведамляў, што сусветная вайна перапыніла яго навуку, і да 1918 года ён жыў на вёсцы з бацькамі, а восенню 1919-га быў узяты ў чацвёрты клас Віленскай беларускай гімназіі; восенню ж 1925-га пачаў вучыцца і ў Віленскім духоўным вучылішчы, у якім у чэрвені 1926-га здаў іспыт сталасці для экстэрнаў гуманітарыяў перад дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіяй, створанай куратарыем Віленскай школьнай акругі...

Вучоба ва ўніверсітэце расцягнулася, бо давялося 28 ліпеня (па іншых дадзеных – 13 жніўня) 1929 года йсці ў салдаты; просьбу адтэрмінаваць прызыў, не прынялі – яшчэ 8 чэрвеня прыйшла адмова...

За час вучобы здаралася ўсялякае: скажам, 19 лютага 1931 г. студэнцкі суд універсітэта вынес Я. Шутовічу заўвагу за невыкананне пісьмовага абавязацельства, якое ён даў Альбіну Стаповічу 16 снежня 1930 г.

Што гэта за абавязацельства, гадаць не буду, але сюжэт цікавы: студэнт нешта пісьмова паабяцаў нядаўняму дэпутату сейма і не стрымаў сваё абяцанне!

А вось новы эпізод: 18 лютага 1932 г. (роўна праз год!) усё той жа студэнцкі суд ужо ад імя дэкана зноў жа зрабіў заўвагу Я. Шутовічу.

За што?

Гэтым разам за злоўжыванне дазволам рэктара.

Дзеля дакладнасці было б цікава дазнацца – якога рэктара?

Аляксандра Янушкевіча, які ў 1932 г. здаў рэктарства, ці Казіміра Апачынскага, які з рук Янушкевіча ўсяго толькі на год рэктарства прыняў?

Аднак вынятка з пратакола разбору вельмі скупая; з яе можна зразумець хіба толькі тое, што Я. Шутовіч, атрымаўшы дазвол на выступленне, публічна выказаў нейкую сваю нязгоду і тым самым выйшаў за межы дазволенага.

Трэба сказаць, што будучага рэдактара-выдаўца "Калосьсяў" не толькі цягалі па студэнцкіх судах, не толькі "каралі", аднак жа й спрыялі яго настрою.

Напрыклад, ужо новы рэктар Вітольд Станевіч прызначыў яму грашовую дапамогу (60 злотых) на аплату другога паўгоддзя 1933/34 навучальнага года.

Тут, канечне, уражвае не сума (хаця таксама ж грошы немалыя), а хуткасць, з якою рэктар разгледзеў просьбу: сваё прашэнне Я. Шутовіч падаў 22 лютага 1934 г., і ўжо праз два дні – 24 чысла – яно было станоўча вырашана.

Пра Вітольда Станевіча вядома, што ён дапамагаў беларусам – скажам, дамагаўся, каб з турмы выпусцілі Тарашкевіча (дарэчы, і Станевіч, і Тарашкевіч належалі да віленскай масонскай ложы імя Рамуальда Траўгута).

А вось яшчэ прыклад адміністрацыйнага спрыяння – 3 сакавіка 1934 г. з варшаўскага міністэрства веравызнанняў і грамадскай асветы ў рэктарат універсітэта прыйшло распараджэнне, паводле якога студэнту Я. Шутовічу вярнулі 92 злотых (вярнулі грошы, заплочаныя за 1929/30 навучальны год, калі не вучыўся, а служыў у войску)...

Вучоба вучобай, аднак жа галоўнай падзеяй у жыцці беларуса Я. Шутовіча была сустрэча з літоўкай О. Міцютэ.

"...Амур сваёй стралой даўно прыгваздзіў яго сэрца да адной харошай дзяўчыны-літвінкі, ад якой ён зараз ні на крок не адступае..." – пісаў Максім Танк 18 траўня 1938 года.

Арсень жа Ліс адкрыў мне: О. Міцютэ пераняла ад мужа беларускую мову.

*24 траўня 2010. Панядзелак.* У "Лістках календара" Максім Танк незычліва згадваў Антона Луцкевіча (класава ацэньваў!), аднак жа перад смерцю, згадаўшы яго ў вершы "Кафэ "Штраль", нібыта папрасіў у "кніжніка Антона" прабачэння.

"Кафэ "Штраль" – дзівосны верш...

І ў старасці паэт ствараў шэдэўры – "Іудавы сярэбранікі", "Карыятыды", "Калі памёр змагар за волю – Байран...", "Errata", "Над эпітафіямі Мастэрса", "Від аць, ад найвышэйшага прысуду...", "Карынфская ваза" і зноў жа – "Кафэ "Штраль"...

І "Лісткі календара" – дзівосная кніга...

Праўда, ёсць крытыкі, якія даводзяць і, здаецца, доказна, што асобныя запісы Максіма Танка недакладныя!

Магчыма, але толькі не гэты запіс; ён ад 27 снежня 1936 г.: "... я, з накіраваннем доктара Кона, мусіў ісці на прыём у яўрэйскае процітуберкулёзнае таварыства "Брыюс"..."

Хворы паэт прыехаў у Варшаву, каб прайсці "...усе аналізы, рэнтгены і кансультацыі..."

Захаваўся бланк габрэйскага процітуберкулёзнага таварыства "Брыюс – Здрове" ад 28 снежня 1936 г., на якім змешчана надрукаванае на машынцы і падпісанае доктарам заключэнне:

"...№. 1065

Яўген Скурко, г.(адоў) 25

Накіраванне д-ра Кона.

Не выяўлена паталагічных змяненняў ва ўнутраных органах грудной клеткі..."

Таварыства "Брыюс – Здрове" знаходзілася на вуліцы Гранічнай у доме 15, туды можна было тэлефанаваць па нумары 234-59, а нумар рахунку ў ПКО (Польска Каса Ошчэндносьці) быў – 5457.

Колькі паэт, як пацыент, пералічыў злотых на гэты рахунак, на жаль, невядома...

З самага ранку гартаў "Лісткі календара", пераконваючы ў думках недаверлівых крытыкаў, што гэта ўсё ж такі збор дакументальна-пацверджаных запісаў.

Магчымыя ж несупадзенні – плён стомленай памяці.

Пастанавіўшы, што гэта так, выбраўся ў Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў; ехаў у тралейбусе, маючы ад Сігітаса адрас, патрэбныя тэлефоны і нават падказку, што чытальная зала знаходзіцца на першым паверсе.

Там, у чытальнай зале (як часам у жыцці ўсё складна бывае!) пазнаёміўся з даследчыцай Аленай Глагоўскай – яна збірала звесткі пра паэта Хведара Ільяшэвіча.

Колькі гадоў таму я чытаў артыкул спадарыні Алены пра рэлігійнага дзеяча Лукаша Дзекуць-Малея "...Хоць бы і памёр, жыць будзе" – артыкул змястоўны, таму з чытацкім смакаваннем уявіў глыбіню яе будучай працы пра творцу, жыццё якога было і авантурным, і трагічным...

Ромэк Мячкоўскі запрасіў на сваё свята таксама ж і Алену, але от жа, прыехаўшы ў Вільню, выбрала яна архіў.

Я ўхваліў гэткі выбар і пажартаваў:

– Ад нас на свяце будзе Эдуард Акулін! Ён хоць і не складае верлібраў, але, спадзяюся, гэта не вельмі засмуціць польскіх верлібрыстаў!

Алена прыняла мой жарт і сказала, што ёй падабаюцца Эдуардавы песні.

У зале аматараў даўніны было мала, аднак жа ўсё адно ўголас не пагаворыш, таму нам даводзілася перашэптвацца, балазе сталы нашы стаялі побач.

У жаўтлявых польскамоўных паперах я шукаў сляды Антона Луцкевіча і Максіма Танка; вельмі часта, дарэчы, сустракалася імя Браніслава Тарашкевіча; Алена ж, гартаючы інвентар Віленскага акруговага суда, раз-пораз паказвала мне: прозвішчы засуджаных найчасцей беларускія!

І напраўду ж, я бачыў доўгія-доўгія спісы пакараных беларусаў, у ліку якіх быў і дзед паэткі Тацяны Сапач...

Ці ведаюць сучасныя польскія паэты, што слова "беларус" для афіцыйных мужоў даверасьнёвай Польшчы гучала нароўні са словам "камуніст"?

Думаю: не ведаюць, а можа нават і не хочуць ведаць, таму варта нам часцей казаць ім, што менавіта з такой прымітыўнай палітычнай мудрасцю "паньства" і ўехала ў 1939 год і далей – у Катынь!

Светлыя бельведэрскія галовы!

Далі б нацыянальным “меншасцям” аўтаномію і свае школы, адкрылі б у Львове – украінскі, а тут, у Вільні, беларускі ўніверсітэт – і займелі б сабе шмат абаронцаў.

Аднак жа не аўтаномію, не школы, не ўніверсітэты – давалі часцей Картуз-Бярозу і Лукішкі.

Антыбеларускай, антылітоўскай, антыўкраінскай, антыгабрэйскай – такой ты была, мая любая даваенная Польшча!

Дзяржава, у якой нарадзіліся мае бацькі...

– А вось і жыхарка Давыд-Гарадка! – Алена падала мне бланк з фотаздымкам.

На фота – красуня, а з напісанага даведаўся, што гэта Брэўда Эстэра, што бацька яе – Шмул (крамар у Беластоку), а маці – Гэня (пэўна ж, хатняя гаспадыня).

Нарадзілася Брэўда Эстэра 10 ліпеня 1901 г. у Давыд-Гарадку, нацыянальнасць яе (як сказана ў дакуменце) – ізрайліцкая, вера – Майсеева, а мова – жыдоўская.

Скончыла ў Беластоку гімназію саюза настаўнікаў, а 21 верасня 1923 г. паступіла ў Віленскі ўніверсітэт на мастацкі факультэт вольнай слухачкай (жыла ў Вільні на вуліцы Вэнглёвай 12, кв. 11).

Для ўнукаў і праўнукаў Брэўды Эстэры (а раптам ёсць такія!) падаю архіўнае апісанне гэтага дакумента: фонд 175, вопіс 9ХІВ, справа 14...

А што да маіх пошукаў, то й тут усё складна адбылося: я знайшоў тое, што хацеў.

І апошняе на сёння.

У нашых з Аленай шэптах узнікла імя і Францішка Аляхновіча.

Ад Сержука Вітушкі Алена даведалася, што мой Васіль у Менску праводзіць канцэрты-чытанні п’ес Аляхновіча і пераказала мне летуценнае жаданне спадара Вітушкі: а што, калі б такое чытанне правесці ў любімай кавярні Аляхновіча, што паблізу Кафедральнага сабора?!

*25 траўня 2010. Аўторак.* “...Максіма Танка звыкла называюць песняром Нарачы, а мне больш падабаецца, што ён пясняр журавінавага цвету... Паэт вельмі дакладна акрэсліў паняцце *беларуская доля:* “...Больш нараканняў на жыццё, як самога жыцця, больш дыму лучыны, як святла...” – гэта аднойчы я давёў удзельнікам народнага клуба “Жывіца”, і тады да мяне падступіла жанчына:

– Мой бацька ў маладосці сяброваў з Максімам Танкам, разам яны разносілі забароненую літаратуру... Праўда, бацька быў вельмі сціплы, маўклівы, сваёй падпольнай дзейнасцю не хваліўся і пра яго нідзе не напісана...

– З якога года ваш бацька?

– З 1913-га...

– А з якой вёскі?

– Са Слабады...

– А як яго зваць?

– Кірыла Карабейнік...

– Пра вашага бацьку ў “Лістках календара” напісаў Максім Танк!

– Праўда?! – жанчына паглядзела на мяне шчаслівымі вачыма...

У архіве зноў сустрэў Алену Глагоўскую.

Колькі трэба мы пасядзелі над сваім папкамі, зрабілі выпіскі і копіі, дамо-

віліся вечарам убачыцца і па абедзе раз'ехаліся – Алена на Зыгмантоўскую ў бібліятэку Акадэміі Навук чытаць старыя газеты, а я на Святаянскую ў польскае пасольства, дзе Ромэк Мячкоўскі праводзіў чытанні, паводле якіх урэшце трэ было вызначыць: хто ўсё ж такі перамог пад Грунвальдам – палякі? літоўцы? беларусы? украінцы? татары?

У фае пасольства была разгорнута фотавыстаўка, і мяне зацікавіў віленскі здымак Пілсудскага: не, не сам Пілсудскі, а тое, што за яго маршальскай спінай, на бліжэйшым доме, добра чыталася шыльдачка – "вуліца Ахвярная".

На вуліцы Ахвярнай, у цэнтры Вільні, Максім Танк працаваў чорнарабочым.

У "Лістках календара" за 22 траўня 1939 г. сказана: "...Праз нашага знаёмага студэнта В. Папуцэвіча Лю атрымала на пару тыдняў працу на віленскім складзе насенных траў, а разам з ёю – і я. Цяпер штодзень ходзім на вуліцу Афярную (якая назва!). Праца як для мяне не такая цяжкая, толькі вельмі пыльная. Вяртаемся дамоў чорныя, як чэрці. За тыдзень можна зарабіць 16 злотых..."

У даведцы, якую працадаўца выпісаў для страхавой касы, адзначана: Яўген Скурко прыняты рабочым і падлягае абавязковаму страхаванню на выпадак хваробы.

Дата на даведцы супадае з датай вышэй працытаванага, а менавіта – 22 траўня 1939 г. (паклон недаверлівым крытыкам!), аднак сума заробку не супадае; даведка гаворыць: за тыдзень Яўгену Скурко адлічвалі не 16, а 18 злотых.

Трэба думаць: 2 злотыя якраз і ўносіліся ў страхавую касу...

У дакуменце аднатаваны й такія звесткі, як адрас склада насенных траў – Ахвярная, 2; нумар рахунку працадаўцы ў страхавой касе – 20029; на пытанне, скажам, трэцяй графы: ці дамова па найму будзе працягнута? – адказана: *так*; на пытанне графы чацвёртай: ці застрахаванаму адмоўлена ў працоўным пагадненні? – адказана: *не*...

Як бачна, усё зроблена па закону, а тое, што паэт пайшоў у чорнарабочыя – нядзіва.

Як вядома, у жніўні 1938 г. была распушчана КПЗБ, ранейшая матэрыяльная падтрымка спынілася, таму давялося станавіцца хоць на якую працу...

Пабыўшы на чытаннях і нават коратка выступіўшы (маўляў: пад Грунвальдам перамаглі ўсе!), сабе ж самому сказаў: выбачай, літаратурнае свята, дзе шмат гавораць і мала слухаюць – я з радасцю ўцякаю ад цябе!

Уцякаю, бо раптам адчуў тую эмацыйную вышыню, калі здаецца, што рэальнасці няма; калі згадваецца ўсё аднагасова, калі ўяўляецца неверагоднае – Вільня ў тваёй душы плача і плача таму, што ніяк не можа сустрэцца з усімі сваімі дзецьмі, цені якіх раскіданы скрозь...

Вільню любіў Караткевіч, пісаў пра места ў рамане "Каласы пад сярпом тваім", і нават у самых выпадковых сказах гэтага слаўнага рамана мне чуецца віленскае дыханне:

"Як можна было хлусіць, калі на свеце ёсць салаўі?..

...Не магло здарыцца нічога дрэннага, пакуль на зямлі існавала надзея...

...Ён быў малады чалавек і любіў ужыць лацінскае слова..."

Як тры асобныя сціслыя вершы, мне ўспомніліся гэтыя раманныя сказы, і раўналежна ім паўсталі ў памяці і Купалавы словы пра Сыракомлю:

Над Вяллёй, дзе сталіца была Гедыміна,
На магілках, што Роса завуцца...

Караткевіч у "Каласах" параўнаў Сыракомлю з меламанам, у якога абсалютны слых!

Пра віленскага падданага Сыракомлю Караткевіч пісаў, што ён жыў недзе на рагу Нямецкай і Даміціканскай, і героі ж Караткевіча Алесь Загорскі і Усяслаў Грыма аднойчы йшлі па Дамініканскай да Святаянскіх муроў (міма сённяшняга польскага пасольства!) у госці да гісторыка Адама Кіркора – дзе і ўбачылі Лірніка Вясковага...

Вось так.

Я лёгка зайшоў у дзевятнаццатае стагоддзе, нібыта ў палац, з якога ўцякла варта.

Якім бы крывадушным і крывавым гэта стагоддзе не было, аднак жа мараль тады яшчэ заставалася мараллю...

Я жыву ўяўленнямі і страхамі, мяне абурае тое, што свінства ўжо амаль нікога не абурае!

Трэ было ездзіць і ездзіць у Вільню, каб менавіта ў Вільні зразумець простае і жахлівае – мараль памянялася...

Некалі чуў:

– Рабі так, як людзі робяць!

А тады людзі (прынамсі тыя, што былі вакол мяне) у пераважнай большасці сваёй і рабілі добрае.

А што сёння?

А сёння я ўжо гатовы пачуць:

– Не рабі так, як людзі робяць!

І пачую, нідзе не дзенуся...

Я сустрэўся з Аленай ля дома, ад якога некалі пачыналася вуліца Міцкевіча; у гэтым доме, на першым паверсе, і павінна была быць любімая кавярня Аляхновіча, над якою, дарэчы, жыў яго сябар мастак Адам Медзыблоцкі.

Аднак жа заместа кавярні мы ўбачылі банк.

Расчараваныя, знайшлі сабе іншае кафэ непадалёку – "Санатору калонас".

Алена цікава расказала пра польскамоўныя публікацыі Аляхновіча ў "Кур'еры Віленьскім", яна старанна расшыфравала ў гэтым выданні крыптанімы і псеўданімы драматурга...

Я слухаў і лавіў сябе на тым, што слухаць пра Аляхновіча, усё адно што слухаць пра кароткую радасць і хуткую бяду...

Алена пагартала мой архіўны здабытак – ксеракопіі крымінальных спраў, заведзеных на Максіма Танка, і прызналася, што любіць перачытваць "Лісткі календара".

Калі ўжо добра змеркла, тады й развіталіся...

З Вялікай Пагулянкі падалькажыў Сігітасу, сказаў пра свой плённы архіўны дзень і аб тым, што заўтра зноў жа буду ў архіве, а ўвечары з Эдуардам пакідаю Вільню.

– Тады заўтра я правяду вас! – падаў думку Сігітас.

Я ж прапанаваў развітацца па-іншаму: паглядзець на купалы Раманаўскай царквы!

От у гэтую хвіліну!

Ён – са свайго вялізнага балкона, а я – з Вялікай Пагулянкі...

*26 траўня 2010. Серада.* Жыццё Браніслава Тарашкевіча, невядомае беларусам, схаванае ў архівах, зняважанае бяспамяцтвам – жыццё незвычайнае, прыгодніцкае, шляхетнае, прыгожае, трагічнае.

Яно цікавае рамантыкам і мянялам...

Тарашкевіч кіраваў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой (БСРГ) – легальным парламенцкім клубам, пасля разгрому якога ў студзені 1927 г. на бясконцых допытах і судах даказваў следчым і суддзям, што Грамада не займалася змоўніцкай антыдзяржаўнай дзейнасцю і, галоўнае, не мела кантактаў з камуністамі.

Уяўляю, як следчыя і суддзі паблажліва ўсміхаліся, бо цудоўна ведалі пра сувязь кіраўніка БСРГ з лідарамі кампартыі Польшчы і кампартыі Заходняй Беларусі.

Кажуць, трагедыя Тарашкевіча ў тым, што звязаўся з камінтэрнаўскім рухам; кажуць гэтак, бо, пэўна, не хочуць разумець: у 1920-я гады кіраўніку масавай беларускай арганізацыі проста немагчыма было пазбегнуць стасункаў з Менскам і Масквой...

У крымінальнай справе Тарашкевіча, пачатай 31 жніўня 1932 г., а скончанай праз тры месяцы 29 лістапада, напаткаў заяву на беларускай мове:

“Да Пана Гарадзкога Старасты ў Вільні.

Паведамленьне.

Гэтым паведамляем Пана Гарадзкога Старасту ў Вільні аб тым, што на паседжаньні ініцыятыўнае групы 15 гэтага месяца ў памешканьні пры Вострабрамскай вуліцы № 27 утварыўся Беларускі Цэнтральны Сялянска-Работніцкі Выбарчы Камітэт у Вільні, старшынёй якога зьяўляецца грамадзянін Язэп Баліцкі, сэкрэтаром гр. Ўладзімір Кур’янка і скарбнікам грамадзянка Кацярына Шаблоўская.

“Беларускі Цэнтральны Сялянска-Работніцкі Выбарчы Камітэт у Вільні” месьціцца пры вуліцы Вострабрамскай у доме № 27.

Вільня, 16.09.1930 г. Старшыня Камітэту Я. Баліцкі.

Сэкрэтар Кур’янка Ўл.

Старшыня Я. Баліцкі пражывае – вул. Бэліна (?) 40 – 6 у Вільні.

Сэкрэтар Ўл. Кур’янка (пражывае) – вул. Вінгра 15 – 8 (у Вільні).

Скарбнік К. Шаблоўская (пражывае) – вул. Шкаплерная (?) 42 (у Вільні)...”

У той жа дзень, 16 верасня, паведамленне, а яно за нумарам 1, было зарэгістравана ў старостве, а вось новае, за нумарам 2, на тую ж тэму паведамленне, але ўжо на польскай мове, зарэгістраванае 11.10.1930 г.; яно сведчыць: ролі размеркаваліся іначай...

“Да Пана Гарадскога Старасты ў Вільні.

Паведамленне.

Гэтым паведамляем Пану Старасту, што 9.10.1930 года на пашыраным сходзе выбаршчыкаў быў рэарганізаваны перад гэтым заснаваны Беларускі Цэнтральны Сялянска-Работніцкі Выбарчы Камітэт на Беларускі Цэнтральны Работніцка-Сялянскі Выбарчы Камітэт “Змаганьне”.

У склад Камітэта ўвайшлі: старшыня – Бранілаў Тарашкевіч, сакратар – Ян Грэцкі, скарбнік – Мікалай Верамей.

Камітэт знаходзіцца на вуліцы Вастрабрамскай № 27.

Вільня, 11 кастрычніка 1930 г.

За старшыню: Мар’яна Петкунова.

За сакратара: Вацлаў Баярчук...”

М. Петкунова – імя невядомае мне, а В. Баярчук – паводле нататак Тарашкевіча – былы вучань радашковіцкай гімназіі, выключаны з 7 класа; на той час яму было 24 гады, 4 месяцы адбыў за кратамі, 2 разы (у якасці кур’ера) ездзіў у Вішнева Маладзечанскага павета; Тарашкевіч адзначаў, што хлопец ён “...вельмі разумны...”

Прыведзеныя дакументы гавораць: у другой палове 1930 года Тарашкевіч паспрабаваў вярнуцца да легальнай палітычнай работы.

28 красавіка (прыкладна 5 месяцаў таму) яго выпусцілі з турмы, і ён, як піша Арсень Ліс у нарысе “Трагічны пошук свабоды”: “...з восені 1930 года абраны старшынёй Цэнтральнага сялянска-работніцкага выбарчага камітэта “Змаганне”, уключыўся ў яго працу, даў згоду балатавацца ў дэпутаты. Аднак магчымасць дзейнасці была мізэрнай, улады “апякалі” ўзніклую структуру жорстка: спіс, пададзены выбарчай камісіяй, быў адразуануляваны. Тарашкевічу, як і іншым вызваленым паслам, якія ўзялі ўдзел у новай выбарчай кампаніі, давялося перабрацца ў Гданьск і адтуль праз сувязных кіраваць ёю. Працавалі ва ўмовах поўнай канспірацыі...”

Аднак жа й “поўная” канспірацыя не ратуе ад турмы!

Дарэчы, турмы ў міжваеннай Польшчы былі, кажучы мовай 1970-х гадоў, ці не разлікова-гаспадарчымі прадпрыемствамі?!

Падлічваўся кожны злот.

Скажам, за 300 дзён (з 1 ліпеня 1929 г. па 26 красавіка 1930 г.), якія Тарашкевіч правёў у вязніцы Грудзёндза, на яго ўтрыманне згодна турэмнай бухгалтэрыі пайшло 450 злотых.

А вось яшчэ рахунак, падпісаны начальнікам турмы ў Каранове 11 жніўня 1933 г.: тут распісаны расходы на вязня Тарашкевіча, асуджанага 29 лістапада 1932 г. на 8 гадоў зняволення пасля вядомага арышту ў Тчэве (у дакуменце пазначаны й тэрмін сканчэння кары: 6 траўня 1939 г.).

За першыя два гады з 11.02.1931 г. па 23.02.1933 г. (744 дні) сума склала 1116 злотых.

Начальнік караноўскай турмы накіраваў рахунак у крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда з просьбай распарадзіцца адносна пагашэння сумы.

Суд сабраўся ў складзе: старшыня – Бжазоўскі, суддзі – Сянкевіч і Занеўскі, віцэ-пракурор – Гедройц, пратакаліст – Вільканец і 21 верасня 1933 г. пастанавіў: спагнаць з асуджанага Тарашкевіча 1116 злотых.

І ўжо назаўтра дзве копіі пастановы былі высланы пракурору да выканння і асуджанаму да ведама.

І тут варта звярнуць увагу на такую акалічнасць: два тыдні таму, 7 верасня, у Коласаве адбыўся гістарычны абмен – польскага засуджанага Тарашкевіча памянялі на савецкага катаржніка Аляхновіча.

Два тыдні мінула, як Тарашкевіч ужо быў у СССР, а суд усё яшчэ разбіраўся з яго “неўпарадкаванымі” фінансамі!

Вельмі верагодна, што копію выслалі жонцы Тарашкевіча Веры Снітчанцы, яна ж з маленькім сынам Радаславам засталася ў Польшчы.

Магчыма й тое, што Веры Андрэеўне растлумачылі: 1116 злотых будуць пагашаны з тых сум, якія выяўлены ў яе мужа пры затрыманні ў Тчэве, а рэшта забіраецца ў бюджэт, бо суд не палічыў, што гэтыя грошы сумленна зароблены.

Празрысты намёк на тое, каб ніхто з сям'і аўтара "Беларускай граматыкі для школ" не прэтэндаваў на астачу камінтэрнаўскай гатоўкі...

А вось і данясенне пра затрыманне ў Тчэве.

27 лютага 1931 г. камісар паліцыі Люцыян Галчынскі далажыў у пракуратуру пры Варшаўскім акруговым судзе віцэ-пракурору па шпіёнскіх і палітычных справах:

"5 лютага 1931 г. у цягніку № 118 Гданьск – Мальборк, які прыбывае ў Тчэў у 21 г. 32 хв., падчас праверкі ў пасажыраў дакументаў кіраўнік Памежнага Камісарыята Дзяржаўнай Паліцыі ў Тчэве падкамісар Скальскі ўстанавіў па фатаграфіі на адным з пашпартаў, што асоба, якая мае замежны чэхаславацкі пашпарт № 758 на імя Уладзіслава Паўляка (?), грамадзяніна Чэхаславакіі, – гэта збеглы ў другой палове мінулага года з Польшчы ў Гданьск былы пасол Сейма Польскай Рэспублікі Браніслаў Тарашкевіч..."

Заўважу: у далейшых данясеннях падробленае прозвішча *"Паўляк"* падаецца як *"Паўлік"*!

Паводле камісара Галчынскага, у купэ (а Тарашкевіч ехаў адзін!) было знойдзена шмат літаратуры, змест якой звязваў беларускі рух з 3-ім інтэрнацыяналам (камінтэрнам); затрыманы прызнаў, што ў 1930 г. па выхадзе з турмы напісаў дэкларацыю, якую разаслаў дзеячам беларускага руху, а таксама надрукаваў яе ў "Звяздзе" і "Новым Пшэглёндзе" і ў гэтай дэкларацыі выказаў свае выразныя адносіны да польскай дзяржавы...

Сваё данясенне камісар завяршыў паведамленнем, згодна якога 10.02.1931 г. акруговы следчы суддзя Уладзіслаў Хмеляж пастанавіў: затрыманага Тарашкевіча (Уладзіслава Паўляка), сына Адама і Алены, народжанага ў 1892 г. у Мацюлішках Віленскага павета, рыма-каталіка, жанатага, які апошнім часам жыў у Сопаце на вуліцы Швэдэнхофштрасэ 12, і які падазраецца па артыкулу 102 частка 1 крымінальнага кодэкса (пашырэнне рэвалюцыйнай прапаганды – Л. Д.-М.) – даставіць у варшаўскую турму, што на вуліцы Дзельная 24/26, у распараджэнне таго ж суддзі...

А яшчэ камісар Галчынскі адзначаў: Тарашкевіч у 1920 г. арыштоўваўся за камуністычную дзейнасць і ў дачыненні да яго ў Вільні вялося следства...

А яшчэ камісар пісаў пра вялікія грошы: у час арышту пры Тарашкевічу было 1792 даляры, 1790 злотых, 939 нямецкіх марак, 3 гульдэны і 59 пфенігаў.

Банкноты і манеты, вядома ж, былі ўзяты на ўлік – з кожнай (!) банкноты старанна перапісалі нумары.

Суддзя Я. Булгак вызначыў колькасць і якасць грошай, і 21 сакавіка 1931 г. склаў у Вільні на чатырох старонках пратакол агляду з такой высновай: даследаваныя прадметы маюць для судовай справы істотнае значэнне, іх трэба далучыць да справы ў якасці рэчавых доказаў...

Цікавы рукапісны тэкст Я. Булгака пачынаецца з апісання дзвюх 50-ці даляравых банкнотаў ЗША за нумарамі АО1267378А і АО1027873А, далей ідзе падрабязная абмалёўка марак, злотых і нямецкіх манет, а завяршаецца рукапіс апісаннем металічных галандскіх грошай – адной срэбнай паўгульдэнавай манеты, адной нікелевай пяціпфенігавай і чатырох медных аднапфенігавых манет...

У пратаколе адзначана: у Тарашкевіча знойдзена яшчэ й распіска на нейкія 10 злотых, атрыманых з дэпазіту.

Словам, была ўлічана любая драбніца...

Каб уявіць вартасць канфіскаванага багацця, нагадаю тадышнія цэны: за гадавое навучанне ў гімназіі плацілі 600-700 злотых, гектар зямлі каштаваў 500 злотых, карова – 250-300 злотых, аперацыя на апендыцыт – 150-200 злотых, конь – 100 злотых...

За адныя толькі злотыя, з якімі ў Тчэў прыехаў Тарашкевіч, можна было прыдбаць добры табун коней!

Улада, вядома, чакала паясненняў, і ён тлумачыў следчаму: такая ладная гатоўка падрыхтавана на тое, каб у Берліне заняцца выдавецкімі справамі і каб выдаць там свой пераклад "Іліяды".

Разумнае тлумачэнне.

Улада верыла і не верыла, ведаючы адно: Тарашкевіч заўсёды распараджаўся значнымі сумамі.

Вось паказанні старшага пшадоўніка следчай службы Яна Крулікоўскага, які сачыў за Тарашкевічам з 1924 года.

12 траўня 1931 г. у Вільні ўсё той жа суддзя Язэп Булгак дазнаўся ад Крулікоўскага, як ад сведкі, што, напрыклад, Мікалай Верамей атрымаў ад Тарашкевіча на выбарчыя справы 33440 злотых; актывіст ТБШ Юры Муха першы раз з "фонду" Тарашкевіча ўзяў 200 даляраў і 500 злотых, а другі раз – 13000 злотых; рэдактар варшаўскага часопіса "Рух" Уладзімір Павелкевіч займеў 3500 злотых, а за друкаванне выбарчых нумаркоў – 1100 злотых...

Шкада грошай.

Яны гінулі ў палітычным пяску, шырокай ручаінай сплывалі ў паліцэйскую касу, у бюджэт Польскай Рэспублікі.

Лепей было б, каб разумная рука накіравала іх на заснаванне беларускага ўніверсітэта, які мог бы дзейнічаць у той жа Празе ці, скажам, у Стакгольме!..

9 лютага 1931 г. старшы пшадоўнік следчай службы Уладзіслаў Грэла дапытаў Тарашкевіча ў Варшаве і склаў на 3,5 старонках запіску, з якой можна даведацца, што гульдэны, даляры і нямецкія маркі – уласнасць арыштаванага, а злотыя – узносы, прызначаныя для беларускага фонду ў Берліне.

Уласнасць Тарашкевіча (паводле яго дыпламатычнага тлумачэння!) паходзіла з наступных крыніц: 700 даляраў палітык атрымаў авансам за сваю "Беларускую граматыку для школ"; 500 даляраў – за "Сінтаксіс беларускай мовы"; 300 даляраў вярнуў інжынер з Коўні К. Дуж-Душэўскі, якому пазычыў іх яшчэ ў студэнцтве; 500 даляраў аддаў надзейны чалавек, які назаўтра па арышце лідара БСРГ (па Тарашкевіча "прыйшлі", як вядома, 14 студзеня 1927 г.) нейкім цудам паспеў забраць гэтыя грошы з яго варшаўскай кватэры № 14, што ў доме 8 на вуліцы Новасенатарскай, перад самым правядзеннем вобыску...

Магчыма, пан Грэла паверыў у ганарары за граматыку і сінтаксіс, а таксама ж у сумленнасць не названага, але надзейнага (!) чалавека, існаванне якога мог пацвердзіць Радаслаў Астроўскі.

У запісцы адзначана, што гісторыю вяртання 500 даляраў са сваёй варшаўскай кватэры Тарашкевіч расказваў Астроўскаму ў часе іхняга турэмнага побыту.

Але ці паверыў пан Грэла ў тое, што некалі ў Пецярбурзе студэнт Тарашкевіч пазычыў студэнту Дуж-Душэўскаму 300 даляраў?

Ці мелі наогул студэнты, няхай сабе й царскія, такія грошы?

Анатоль Сідарэвіч сказаў на гэта проста:

– Тут Браніслаў Адамавіч прыдумаў не вельмі ўдала!

А мне здаецца: ён разлічваў на тое, што інжынера Дуж-Душэўскага не спытаюць, бо ён жа ў Літве...

Скажу й пра такую акалічнасць: канфіскавана 1792 даляры, а тлумачэнне дадзена роўна на 2000 – то-бок, на 208 даляраў больш!

Паколькі адносна паходжання нямецкіх марак і жменькі галандскіх гульдэнаў у запісцы нічога не сказана, то, магчыма, гэты лішак не што іншае, як тыя ж маркі (939) і гульдэны (3) па тадышнім даляравым курсе?!

А яшчэ з Грэлавай запіскі можна даведацца, што на часопіс, які меўся выходзіць у Берліне, знаёмая Тарашкевіча Кульчыцкая атрымала ад эміграцыі каля 150 нямецкіх марак, а сам ён у студзені 1931 г. у тым жа Берліне ад эмігрантаў і Беларуска-вызваленча-народнага фонду займеў 300 нямецкіх марак на выданне беларускай газеты, а таксама ж яшчэ былі атрыманы сродкі на выбары, на дапамогу вязням і зноў жа на выдавецкую дзейнасць.

Лінія абароны Тарашкевіча была простая: увесь час ён даводзіў следству пра свае кантакты з беларусамі на эміграцыі – з навучэнцамі, студэнтамі і рабочымі, якія вучацца і працуюць у Нямеччыне, Чэхаславакіі, Францыі, Амерыцы – гэта, маўляў, яны даюць грошы на беларускую культурніцкую (!) справу.

Нядаўні лідар БСРГ нібыта казаў: я займаюся асветніцкай дзейнасцю і нічым больш!

Пра грошы, якія йшлі з Менска, вядома ж, маўчаў – умовы палітычнага існавання прымушалі маскіраваць камуністычныя крыніцы фінансавання сваёй небяспечнай работы...

Шчыра кажучы, здзіўляюць не так гэтыя сумы, як тое, што палітык вёз з сабою цэлы архіў (сапраўдны скарб для паліцыі!) – рэфераты, праклamацыі, справаздачы, шматлікія запісы пра выбары, пракамуністычныя лекцыі, фінансавыя ведамасці, лісты з Парыжа і Берліна (там было бюро КПЗБ), 90 пустых, але заадрасаваных (!) канвертаў (збіраўся дарассылаць заяву-тлумачэнне пра сваё датэрміновае звальненне з турмы ў Грудзёндзу 28.04.1930 г.); урэшце меў пры сабе картатэку на 537 старонак з прозвішчамі і адрасамі падпісчыкаў...

Адрасы былі занатаваны на васьмі асобных старонках...

А яшчэ вёз доўгія спісы – напрыклад, на 16 машынапісных старонках спіс чальцоў Таварыства Беларускай Школы (ТБШ) з гродзенскага, маладзечанскага, ашмянскага, баранавіцкага, браслаўскага, беластоцкага і брэсцкага паветаў, а таксама ж спісы чальцоў ТБШ з асобных гмін; спіс студэнтаў з азначэннем іх спецыялізацыі і партыйнасці; спіс і адрасы выключаных за прыналежнасць да камсамола вучняў...

Адрасоў было шмат.

Вядома, паліцыя ўчыталася і ў асобныя чатыры старонкі, густа спісаныя адрасамі і прозвішчамі ад рукі па-польску; учыталася і ў адну польскамоўную паперыну, на якой была выкладзена прычына скасавання выбарчага спіса Беларускага Сялянска-Работніцкага Клуба “Змаганне”, і старанна вывучыла ўсе беларускамоўныя старонкі...

Але найбольш старанна, трэба думаць, следчыя гарталі блакнот у чорнай скуранай вокладцы з рознымі нататкамі па-беларуску і па-польску; з

розньмі ж імёнамі, кароткімі характарыстыкамі і зноў жа адрасамі, найперш варшаўскімі:

1. Марыя Глесманова, вуліца Паркавая 39, кв. 16 (гандлярка).

2. Казімір Таран, вуліца Груйецка 39, пакой 414, інтэрнат (студэнт 2 курса ўніверсітэта, слухач аграномічнага факультэта, каталік, скончыў беларускую гімназію ў Дзвінску, грамадзянін Латвіі... "Вясковы хлопец. Жыве сціпла...")

3. Уладзімір Павелкевіч, вуліца Бельведэрская 48 (рэдактар часопіса "Наш Рух", адміністратар газеты "На варце").

4. Ян Піваварчык, вуліца Зэмбкоўская 45.

5. Міхал Шэўко (скончыў беларускую гімназію ў Навагрудку, былы камсамолец; 2 курс... "Мае арганізатарскія здольнасці. Вельмі добра працаваў у ТБШ... Найлепшы...")

6. Уладзімір Тамашык (скончыў школу і беларускую семінарыю, з Вільні паехаў у Прагу; меў 4 гады турмы па 102 артыкуле /рэвалюцыйная прапаганда – *Л. Д.-М.*/)

7. Якуб Тарасевіч (скончыў беларускую гімназію ў Навагрудку, былы камсамолец, 2 год вывучае ветэрынарыю).

8. Пратасевіч (скончыў беларускую гімназію ў Навагрудку, былы камсамолец, студэнт універсітэта, 2 год вывучае хімію).

9. "Казік" (скончыў беларускую гімназію ў Дзвінску, грамадзянін Латвіі... "Уражанне, здаецца, добрае...")

Паліцыя наведалася да М. Глесмановай – кабета часта ездзіла ў Гданьск, прадавала ў мясцовыя рэстараны прадукты і курэй з качкамі.

Праўда, вобыск у яе доме нічога не даў, і гандлярка заявіла, што пра Тарашкевіча нават не чула і камуністычную літаратуру з Гданьска не прывозіла.

Пэўна ж, 42-гадовая пані Глесманова была авантурысткай: 20 кастрычніка 1926 г. яе арыштавалі ў Гурнічай Дэмброве за тое, што пусціла ў абарот фальшывую манету; за гэта сядзела ў турме на вуліцы Дзельнай да 5 кастрычніка 1929 г., а 1 сакавіка 1930 г. здала пакой для працаўнікоў беларускай газеты "На варце".

Паводле следчага пратакола, газету спачатку рэдагаваў Сцяпан Дзядовіч, а тады ўжо рэдакцыяй кіраваў У. Павелкевіч.

М. Глесманова расказала, што аднойчы па пошце з Вільні рэдакцыя атрымала 300 злотых, што ў рэдакцыю часта заходзілі беларускія студэнты, у тым ліку і К. Таран; яна чула пра паслоў-дэпутатаў Дварчаніна, Грэцкага, Крынчыка і Гаўрыліка, аднак жа наогул пра што йшлі размовы ў рэдакцыі не магла зразумець, бо не ведае беларускай мовы...

Будучы аграном 23-гадовы Казімір Таран (а ў яго інтэрнацкім пакоі паліцыя таксама нічога не знайшла) даў такія паказанні: палітыкай не займаецца, бо вельмі заняты вучобай; адрасоў Шэўко, Тарасевіча і Павелкевіча не ведае, а Пратасевіч жыве ў студэнцкім інтэрнаце...

З беларускіх дзеячоў знае Радаслава Астроўскага, нават прасіў яго дапамагчы перавесціся ў Пражскі ўніверсітэт, аднак просьба засталася не пачутай; знае таксама Янку Станкевіча і Антона Луцкевіча, а пра Тарашкевіча толькі чуў, зрэдку чытаў пра яго ў газетах і, вядома ж, ніякія грошы ад яго ніколі не атрымліваў.

Грошы атрымлівае ад бацькоў з Латвіі, а яшчэ штомесяц мае 75 злотых ад пана Галуўкі з усходняга аддзела міністэрства замежных спраў.

Адзначу: стыпендыю Галуўкі атрымлівалі таксама Тарасевіч, Пратасевіч і Шэўко, і менавіта пан Галуўка фінансава паспрыяў, каб у Варшаўскім універсітэце 1 лютага 1931 г. паўстаў гурток беларускіх студэнтаў (у гурток увайшло 20 чальцоў)...

Казімір Таран прызнаўся, што заходзіў у дом, які на вуліцы Паркавай 39, кв. 16, але толькі для таго, каб пазнаёміцца з дзяўчатамі, якія жылі ў пані Глесмановай...

Як бачна, паліцэйскія чыноўнікі мала пажывіліся ад Казіміра Тарана, а з Уладзімірам Павелкевічам ім наогул не ўдалося спаткацца.

Апошнім часам Павелкевіч пражываў не на Бельведэрскай 48, а на Паркавай 48, але 12 снежня 1930 г. выпісаўся адтуль і выехаў невядома куды.

Ці праверылі адрас: Зэмбкоўская 45 (жытло Яна Піваварчыка) – у пратаколе не адзначана, але адзначана іншае: паліцыя не ўстанавіла адрасы Шэўко, Тамашыка, Тарасевіча, Пратасевіча і, напэўна ж, і “Казіка” таксама.

Усё, здаецца, для ўсіх складвалася няблага, і ў сваіх паказаннях Тарашкевіч быў даволі асцярожны.

Пра таго ж Павелкевіча гаварыў зусім скупа і прыкладна так: знаёмства нейкі час было завочным, а наогул жа сустракаліся яны разы два; раіў Павелкевічу стрымана пісаць у часопісе “Наш Рух”; падтрымліваў рэдакцыю грашыма; абгаворваў магчымасць выдання часопіса “Беларускі Гаспадар”, прысвечанага эканамічным, сельскагаспадарчым і культурным праблемам, але справа далей за гаворку не пасунулася, бо Павелкевіч раптам пакінуў грамадска-палітычную працу...

Відаць па ўсім, гэты Павелкевіч быў не зусім шараговым дзеячом, Тарашкевіч разлічваў на яго і ў сваіх нататках згадваў часта:

“...Газета Павел.(кевіч). Праз Мушку 21.10.(19)30 – 2000 зл.(отых). З забраных пры сваім прыездзе 1000 зл. з 3000 зл.

Прыблізны падлік: Павелк.(евіч). 1. Кватэра – 100, 2. Заробак Пав.(елкевіча) – 300, 3. Дагаворная стаўка 2 тыд.(ні) – 200, 4. Зіц-рэдактар – 50 зл., за нумар – 100 зл., 5. Памочнік – 150 зл., 6. Замежная экспедыцыя маркамі – 25-50, 7. Дробязь – 50, 8. Нумар разам з экспедыцыяй – 700-1400-2350 зл. На 10 (?) да гэтага часу трэба 1225, засталося 750, трэба 475.

Беларускі гаспадар. Фактычны рэдактар Павелкевіч. Эканоміка, гаспадарка, трохі літаратуры, вершы, хроніка. У Вільні. Прыблізны падлік. Наклад 1000 паасобнікаў. 1. Кватэра – 100, 2. Укладанне двух аркушаў – 250, 3. Вокладка – 20, 4. Пераплётчык – 30, 5. Папера – 30. Экспедыцыя, маркі – 100. Адказны рэдактар – 100, фактычны рэдактар – 250-880...”

Грошай Павелкевічу Тарашкевіч не шкадаваў.

На іншых старонках свайго славутага ў чорнай скуранай вокладцы блакнота пакідаў такія выразныя запісы:

“...У Варшаве Павелкевіч надрукаваў № 8 – 250000; № 3 – 250000. Праз салдат распаўсюдзіў у Беластоцкім ваяводстве (гаворка пра выбарчыя нумары – *Л.Д.-М.*)... Павелкевіч 4.11. – 10000; Павелкевіч 20.11. – 10000... Трэба грошы для Павелкевіча на газеты і харчы (падкрэслена – *Л. Д.-М.*)...”

Грошы трэ былі, вядома, не толькі Павелкевічу, – і Тарашкевіч не шкадаваў іх нікому.

Ён выступаў як бухгалтар, як фундатар, як мецэнат, падрабязна занатоўваючы кожную дачу, кожную рату:

“...Памяняў 22.10. (19)30 2000 зл. (на) 223 даляры. Даў на дарогу 1. Бурсевічу 100 дал.(яраў), 2. Сымону 70 дал.(яраў), 3. Пятру 20 дал.(яраў), Бакачу 24.12.(19)30 – 2440...”

Праясню для сябе, аб кім гэтым разам паклапаціўся Тарашкевіч.

Бурсевіч – гэта, відавочна, Максім Бурсевіч (кіраўнік Цэнтральнага Сакратарыята БСРГ); Сымон – думаю, што гэта С. Рак-Міхайлоўскі; Пятро – магчыма, Пятро Мятла...

Апошні ж у спісе – гэта, мусіць, той Бакач, за якога ў 1938 г. прасіў у чэхаславацкага кіраўніцтва Васіль Захарка, калі хацеў, каб менавіта П.Бакач стаў загадчыкам Беларускага Заграністычнага Архіва ў Празе...

А вось новы запіс:

“...Прасілі трохі грошай. Я паслаў прыблізна 6000 злотых...”

І такіх сведчанняў шмат.

Вышэй я казаў, што грошы гінулі ў палітычным пяску, шырокай ручаінай сплывалі ў паліцэйскую касу...

І гэта так.

Аднак жа часта яны йшлі і на вельмі патрэбную дапамогу сем’ям арыштаваных.

Толькі адзін прыклад.

У жніўні 1930 г. былі кінуты ў вязніцу дэпутаты сейма Язэп Гаўрылік і Флягонт Валынец, а праз два месяцы ў кастрычніку ў турме апынуўся й знакаміты Рыгор Шырма.

Жонкам пацярпелых Тарашкевіч тут жа зрабіў наступныя выплаты:

“...Гаўрылікова – кастр.(ычнік) 300 зл., ліст.(апад) 300 зл.

Валынцова – кастр.(ычнік) 200 зл., ліст.(апад) 200 зл.

Шырмова – кастр.(ычнік) 300 зл., ліст.(апад) 300 зл. ...”

У гэтым спісе былі таксама іншыя жанчыны, чые мужы сталі арыштантамі, таму агульная сума, якую Тарашкевіч выплаціў, склала 1360 злотых...

Дык вось, у сваіх паказаннях ён быў асцярожны – пра гандлярку Глесманову, студэнтаў Піваварчыка, Тарана, Шэўко, Тамашыка, Тарасевіча, Пратасевіча і “Казіка” заявіў: гэтых людзей не знаў і не ведаў, і толькі збіраўся з імі пазнаёміцца, а запісы пра іх зрабіў з чужых вуснаў...

Уведзена ў пратакол і такая ягоная характэрная фраза: “Знаёмых жыдоў у часе свайго побыту ў Гданьску і Сопаце не сустракаў...”

Не хацеў тапіць людзей!

І ўсё рабіў, каб даказаць: ТБШ – арганізацыя культурніцкая, а не палітычная, і ён, палітык, у яе рабоце не ўдзельнічаў (гэтак спрабаваў адвесці ад Таварыства Беларускай Школы пагрозу закрыцця).

І ўсё ж, і ўсё ж...

Чаму ён – вопытны канспіратар (вольны мысляр! рыцар чырвонай ружы!) паступіў так легкадумна?

Можна сказаць, даставіў у рукі паліцыі воз дакументаў, адна спецыфікацыя якіх склала ажно 77 пунктаў!

Ён вёз тэксты, змест якіх і малапісьменнаму паліцыянту праясняўся ж адразу, бо меў выяўнае “антыпаньствовае” (антыдзяржаўнае) гучанне: “... Грамаду народ разумеў як падрыхтоўку да паўстання... Няхай жыве рабоча-сялянскі ўрад!.. Папулярызацыя поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, увага на добраахвотную калектывізацыю, машынізацыю і механізацыю гаспадаркі...” і г.д.

Ці не стаўся палітык ахвярай правакацыі, скажам, таго ж Камінтэрна – выканаўчай структуры АДПУ?

Аляксандра Бергман у кнізе “Слова пра Браніслава Тарашкевіча” пісала: “Мяркуючы па судовых актах, арышт быў старанна падрыхтаваны. 5 лютага 1931 года Тарашкевіч павінен быў ляцець на самалёце з Гданьска ў Берлін. Калі ж прыехаў у аэрапорт, то выявілася, што самалёт, на які меў куплены квіток, вылецеў на паўгадзіны раней. Тады купіў квіток на наступны самалёт. Праз нейкі час яму сказалі, што другі самалёт не паляціць, вярнулі грошы і параілі ехаць цягніком. Паколькі меў устаноўлены тэрмін прыезду ў Берлін, сеў у цягнік. У купэ быў адзін, таму замкнуўся. У Тчэве ў купэ ўламаўся камісар паліцыі Тадэвуш Скальскі. Пакуль камісар тузаўся з дзвярыма, Тарашкевіч паспеў толькі знішчыць адрасы...”

Не, адрасы, як мы ўжо бачылі, знішчыў не ўсе...

Аналізуючы сітуацыю, можна пэўна сказаць: Тарашкевіч ужо быў непатрэбен камуністам (прынамсі, на свабодзе!); яму прапанавалі з усім рукапісна-машынапісным скарбам перабрацца ў Берлін (зманлівую легенду не цяжка было прыдумаць: тая ж выдавецкая дзейнасць, да якое беларусы заўсёды ахвочыя!); яго забяспечылі грашыма, фальшывым пашпартам і, вядома ж, “стукнулі” пра пераезд у дэфензіву...

Дэфензіва ой як узрадавалася!

Невыпадкова ж, правяраць падроблены пашпарт узяўся сам кіраўнік памежнага камісарыята пан Скальскі, – нібыты на гэты час усе ягоныя падначаленыя былі занятыя...

Дарэчы пра пашпарт.

Следчаму Грэлу Тарашкевіч даў такое тлумачэнне: за 100 даляраў дастаў ліпу на імя Уладзіслава Паўліка, віза ў “дакуменце” несапраўдная, а фотаздымак яго; асобу ж, якая пасрэднічала ў выпрацоўцы фальшыўкі, назваць не можа...

На пытанне, чаму вырашыў стаць чэхаславацкім падданым, адказаў, што збольшага ведае чэшскую мову – нямецкай жа, французскай і англійскай валодае не вельмі добра, каб выдаць сябе за немца, француза ці брытанца...

Чамусьці пра свае моўныя здольнасці выказаўся вельмі сціпла!

Аляксандра ж Бергман адзначала:

“Побач з валоданнем беларускай, польскай, чэшскай і рускай мовамі... грунтоўна вывучыў грэчаскую і лацінскую... лёгка чытаў па-французску і па-нямецку. Вывучаў літоўскую, англійскую мовы, а таксама санскрыт...”

У гэты зайздросны пералік можна яшчэ дадаць – іспанскую; за мову Сервантэса ўзяўся ў апошнія гады жыцця...

Справа з пашпартам набыла дыпламатычны розгалас.

Суддзя Я. Булгак звярнуўся ў чэхаславацкае пасольства ў Варшаве з адпаведным запытаннем, і 28 верасня 1931 г. атрымаў адказ:

“Консульскі Аддзел Чэхаславацкага Пасольства ў Варшаве мае гонар паведаміць, што згодна заявы Камісарыята Паліцыі ў Усці н./Л. (Усці-над-Лабай. *Л. Д.-М.*) Уладзіславу Паўліку, які нарадзіўся 16.10.1893 г. у Усці н./Л., чэхаславацкі пашпарт не выдавалі. Памянёны грамадзянін ні ў якім паліцэйскім участку не зарэгістраваны і наогул такой асобы ў Усці н./Л. няма.

Праўда, названая ўстанова выдала пашпарт за № 758, аднак жа не на імя Паўлік (пасля коскі ўсё падкрэслена – *Л. Д.-М.*), а на імя – Валерыі

Хулзелавай, памочніцы ў гаспадарцы; В. Хулзелава нарадзілася 23.09.1909 г. у Страйкове, пав.(ет) Усці н./Л., дзе й жыве; яе пашпарт прыгодны для паездак у Аўстрыю і Нямеччыну да 19.06.1932 г.

З прычыны падробкі чэхаславацкага пашпарта, Консульскі Аддзел Чэхаславацкага Пасольства просіць Вашай ласкі зрабіць і спешна выслаць фатаграфіі пашпарта, а перш за ўсё – зняць вокладку з абодвух бакоў і 1, 2, 3, 4 і 5 старонкі, а таксама ўкладышы з савецкай візай, выдадзенай 1.09.1930 г. Генеральным Консульствам СССР у Гданьску.

Таксама ж Консульскі Аддзел Чэхаславацкага Пасольства просіць Вас ласкава паведаміць пра вынікі следства ў справе падробкі чэхаславацкага пашпарта, знойдзенага ў Браніслава Тарашкевіча.

За Вашу ласку Консульскі Аддзел Пасольства дзякуе наперад...”

Пісьмо гэта (1/2 старонкі машынапісу) прыйшло за нумарам 9562/31, і замест пасла яго падпісала нейкая чыноўная душа.

На дакуменце, да слова сказаць, ёсць пасольская пячатка, аднак жа ніякай рукапіснай адзнакі па-польску – нібыта яго й не чыталі.

Мінула больш за два тыдні.

І што, пасольства атрымала адказ?

Не, ні радка не атрымала, таму 15 кастрычніка тая ж старанная чыноўная душа за нумарам 10.014/31 і пад дэвізам: “Уладзіслаў Паўлік – падробка чсл. (чэхаславацкага – *ЛД.-М.*) пашпарта” зноў напісала вяльможнаму пану Я. Булгаку ў Вільню:

“Консульскі Аддзел Пасольства Чэхаславацкай Рэспублікі ў Варшаве мае гонар прасіць Вашай ласкі зрабіць і даслаць фатаграфіі вышэйназванага падробленага чэхаславацкага пашпарта для рэквізыцыйных спраў у Варшаве, Новы З’язд № 1. Аб гэтым ужо прасілі Пана Следчага Суддзю ў пісьме 9562/31 ад 28 верасня г.г. і маем надзею разам з фотаздымкамі атрымаць і судовыя пратаколы крымінальнай справы, заведзенай на Браніслава Тарашкевіча.

За аказаную прыязнасць Консульскі Аддзел загадзя ўдзячны Пану Суддзі...”

На дакуменце дзве паметкі, адну з якіх (чорным алоўкам) лёгка расчытаць: “Атрымана 19.10.31 г. Я.Б. (Язэп Булгак. *Л. Д.-М.*)”

І што, пасля гэтага спадар суддзя, сарамліва ўздыхнуўшы, засеў за сваё пасланне?!

І блізка таго не было!

Пачакаўшы 19 дзён, 3 лістапада невядомы чэхаславацкі чыноўнік мусіў быў зноў скласці за свайго пасла эпісталу (№ 10.654/31) – вельмі кароткую і, здаецца, ужо з ноткай раздражнення:

“Консульскі Аддзел Пасольства Чэхаславацкай Рэспублікі ў Варшаве ветліва просіць Вяльможнага Пана Суддзю тэрмінова адказаць на наша пісьмо ад 15.10. г.г. за нумарам 10.014/31...”

Гэты па аб’ёме тэлеграмны ліст паклалі перад Я. Булгакам 6.11.31 г., рэзалюцыю суддзя пакінуў зноў чорным алоўкам, але нечытэльную і, трэба думаць, на тым ліставанне й скончылася.

*30 красавіка 2011. Субота. Менск.*

Фелікс Баторын



...Бог не слухае просьбаў.
Ён ведае сам, што рабіць...

# Калі баліць, значыць, жывеш

* * *

І як толькі імпэту стае
На Радзіму пагрозліва тупаць
І крычаць: “Ненавіджу яе
За дрымучасць і рабскую тупасць!”

Без яе ж ты не зможаш пражыць
І з натурлівым лёсам спрачацца.
Ты – хлапчук, што на матку крычыць –
І бяжыць да яе ратавацца.

## *БЭНДАВІЧУ*

Вы – вераемны мой калі не кат,
То экзекутар строгі, педантычны.
Штохвілі адчуваю я крытычны
Ангажавана-пільны ваш пагляд.

На ўсё і ўся ў вас адмысловы тэст.
Вы не аматар з некім разбірацца,
І проста прадумова вашай працы –
Вышукваць скрозь эзопаўскі падтэкст.

Вы маўчыцé, ды гэта да пары:
Часы надыдуць вашых слова й справы.
Няма нідзе слядоў іржы крывавай –
Шчэ салідол на вашым тапары.

* * *

Конь сíвы і коннік сівы,
І шэрань сівая на шляху,
І хмары сівой сінявы
Глядзяць на ссівелыя дахі.
А дрэвы й кусты пагатоў
У пасмах сярэбрана-белых.
А мне ўсё шаснаццаць гадоў,
Ды толькі прыкметна ссівелых.

* * *

Забытыя словы, забытыя гукі,
Забытыя рухі, забытыя рукі
Вяртаюцца раптам, наяве нібыта,
Сцвярджаючы тым: не бывае нябыту.

У твары старэчым – юнацкія рысы,
У хаты збуцвелай – жывыя абрысы,
І крыўдам даўнейшым застацца сабою,
І нават магілы гавораць з табою.

Святло, што запаліш, павек будзе днецца,
Дабро, што ты зробіш, дабром застанецца,
А зло, што ты ўчыніш, вяртаецца рэштай.
Ты помні пра гэта, аж покі жывеш ты.

* * *

Не ўмелі жыць, а толькі ўмелі выжываць –
І існуем у калаўроце выжывання.
Так развіліся нашы мускулы жавання,
Каб неспажыўнае маглі мы спажываць.

Тым неспажыўным найшчасліўша мы жывем,
Каб цэлы свет здзіўляць сваёй дубовай моцай.

У каламутнай першабытнасці эмоцый
Штопакаленна мроім прывідны Эдэм.

Мы порткі латаем, трымаючы фасон.
А груганы ўсе і пракокі хай заткнуцца!
Сто год таму Купала клікаў нас прачнуцца,
Ды так мы ўчадзелі, што вечным стаў наш сон.

* * *

Сумётаў старадаўнія магілы
Самоцяцца ў залітым поўняй полі.
Ваўкі апавядаюць небасхілу
Пра поўную згрызот зямную долю.

Умерзлыя ў сусвет, ашклелі зоры,
Акамянелі хлябі ад марозу.
Ад сцюжы і ад ветру, а не з гора
На вейках ледзяшамі віснуць слёзы.

Патрэскваюць ствалоў замерзлых па́лі,
Хмызы бялеюць холадам пухнатым.
І цягне ў перасцюжаныя далі,
І вабіць у цяпло гасціннай хаты.

* * *

Як ні спяшаўся, а заўжды пазніўся:
Жыццё наперад неслася хутчэй.
На фінішы злічыць спрабую дні ўсе,
Калі свяціла сонейка ярчэй,
Калі ад шчасця крылы прараслі
І адступаўся доўгі, ліпкі страх,
Калі наўкола праўду ўсе казалі –
І мне хапае пальцаў на руках...

* * *

Узгоркі, узлобкі, груды,
Гарбы курганоў ды магілы...
Пакрытыя іхнія схілы
Залеўнаю плынню вады.

Аднак неразмыўна жарству
Наскрозь перавіла карэнне.
Прад мудрасцю вечнай Стварэння
Схіляю штора́з галаву.

Самому сабе не мані,
Але й не адшуквай вачыма
Грудок, пад якім ты, магчыма,
Заснеш, каб жывіць карані.

* * *

Электрычка б’е капытамі.
Усяведнай, рашучай няўцерп
Развітацца з санлівымі намі
І пабегчы па месячны серп.

І пакаціцца пошчак па ночы,
І гудок пракрычыць на ляту.
Я па серп той бег не аднойчы –
І заўжды хапаў пустату.

* * *

Нырнуў – і паменела цела ў вазе,
А рэха нябёсаў сінела ў вадзе,
А золата пырскаў ляцела
І весела, звонка зіхцела.

Паплыў па нагрэтай праменнем рацэ,
Нібыта памыты ў жывым малацэ,
Нібыта люляны ў калысцы.
Так плысці б, і плысці, і плысці...

Стаміўшыся ўрэшце, на бераг ступіў
І вецер, на кветках настоены, піў,
І голаў кружылі абшары,
Апетыя сонечнай Шчарай.

А потым было і нуды, і бяды,
Ды помніўся дзень той чароўны заўжды,
І часта, шукаючы выйсця,
Хацеў бы ўсё плысці і плысці.

* * *

Свет стаіць нязвыкла новы.
Камяніц і хатак дахі
Панасоўвалі на бровы
Танкарунныя папахі.

Свет хрумсціць марозным хрумстам
І звініць марозным звонам,

Апрануты з тонкім густам,
Па-шляхецку выкшталчоны.

Ён паблажліва смяецца,
Як над конскім дабрадзействам
З шумнай прагнасцю таўчэцца
Вераб'інае плябейства.

* * *

Вецер вуха прыклаў да дзвярэй майго дома,
Пэўна, хоча ён думкі падслухаць мае.
Што яму, плеткару-легкадумцу, вядома
І якіх таямніцаў яшчэ не стае?

Але ў доўгім маўчанні дранцвее знямога
І няўцямна на цені глядзіць на сцяне.
О, калі б я сябе зразумець мог самога,
Мо знайшоў бы тады я патолю. Ці не.

* * *

Чалавек з пагаслымі вачыма
Адпачыць спыніўся пад кустом.
І яму цяністая ляшчына
На гадзіну падарыла дом.

Ложак з траў духмяных разаслала,
Залюляла песняю лісця...
Каліва спакою – то не мала
Ў мітусні тлумлівага жыцця.

Пад густой цяністаю ляшчынай
Пасярод сусвету і вясны
Светлымі, шчаслівымі вачыма
Падарожны ўглядваецца ў сны.

* * *

Нам новы дзень патолі не дае
І кулакі свярбяць парой пабіцца.
Дзе ж ка́са, што білеты прадае,
Каб разляцецца нам па розных быццях?

Нас падхапіў аднойчы калаўрот,
Але аселі мы руціннай цінай.
Мы думаем яшчэ, што мы – народ,
Той, што "народ і нешта там адзіны".

Старое ж сонца села за адхон,
І абдае нам зімным ветрам плечы.
І мы спрабуем распаліць агонь
У жарале даўно астылай печы.

Папесціўшы свой настальгічны боль,
Падкінем смалякоў, адсунем юшку
І выпарым душу сваю на соль,
Каб пасаліць начальніцкую юшку.

** * **

Мінулае – гэта бясконцасць,
Якая ўсё большае.
Будучыня – гэта бясконцасць,
Што траціцца – і не меншае.
Сучаснасць – гэта імгненне,
Што адрывае ад будучыні
І кідае ў мінулае.
Мы існуем у сучаснасці,
Жывучы ўспамінамі з мінулага
І надзеяй на будучыню.

** * **

Просяць Бога: “Ратуй і ад воргагаў нашых пазбаў,
Ад прытворных зычліўцаў і іхніх двудушных забаў!”
Бог не слухае просьбаў. Ён ведае сам, што рабіць.
А інакш бы Ён мусіў усіх на зямлі перабіць!

### ***АТЛАНТ***
***Балада***

*Ад усіх цяпер патомкі ёсць,*
*Ды няма адных – Страцімавых.*
М. Багдановіч.

Промні цьмянелі залатыя.
Вось і неба ўжо не відно.
Апускалася Атлантыда
Акіяну на самае дно.

А пагібель зямлі той бачыў
Найгаротнейшы рызыкант:
Ацалеў у лодцы рыбачай
На ўвесь свет адзіны атлант.

І, нясёны хваляй гіганцкай
Да нязнаных мацерыкоў,
Ён адчайна крычаў па-атланцку,
Патанулых зваў сваякоў.

Быў ён вынесены шчасліва
На чужых берагоў пяскі,
І глядзелі на гэта дзіва
Драбнацелыя чужакі.

І яны павялі атланта
Да сваіх нягеглых хацін.
Шкадавалі шчыра гіганта,
Што застаўся ў свеце адзін.

Аж спакон вякоў чалавеку
Уласцівы быў жаль такі.
Кідаць сталі яму, як калеку,
Грошы дробныя і кускі.

Яму горла пякло іх смакам
І хацелася ўголас выць.
Не было каму з небаракам
Па-атланцку пагаварыць.

Без агменю і без айчызны
Ён сканаў. І, нібыта цуд,
Яшчэ доўга касцяк вялізны
Разглядаў драбнацелы люд...

## *МАШЭКА*
***Паэма***

### *Уступ*

Ільвом называлі Машэку
За сілу, за жорсткае зверства,
За тое, што мы ў чалавеку
Сурова завем “крыважэрства”.

І ў тысячным нават калене
Мы ўспомнім у жаху і ў жалі
Ільвоў, што на рымскай арэне
Няшчасных жыўцом разрывалі.

А можа, мы ўпалі ў аблуду?
Мо штось недачулі, глухія?
А можа Хрыста і не Юда
Прадаў за чырвонцы ліхія?

### *І. Першая песня Машэкі*

О, любая, імя твайго
Не смею называць уголас.
На кос тваіх малюся волас,
На кожны завіток яго.

О, любая, калі б я мог,
Увесь абшар – даліны, горы,
Увесь сусвет, дзе сонца й зоры,
Прынёс табе б і склаў ля ног.

О, любая, мне стане сіл
Абараніць цябе ад скрухі,
Ад пошасці і завірухі
І ўзнесці ўвысь, хоць я без крыл.

Я дзеля той, каго люблю,
Пасеяў у раллю зярняты.
Я сад заклаў, паставіў хату,
Агмень я ў хаце той палю.

О, любая, маё баства!
Наш не звядзецца род у свеце:
Напоўняць хату нашу дзеці,
Тваё памножаць хараство.

### *II. Плач Машэкі*

Украў маю каханую
Каршак залатапёры,
Панёс маю каханую
Не за лясы ды горы –
Схаваў маю каханую
За моцныя муры,
Задзьмуў маю каханую,
Як свечку на вятры!

Няможна ўбачыць любую
Мне скрозь муры каменныя,
Заглушаць голас любае
Палаты таўстасценныя.
Мне не пагладзіць любая
З пяшчотаю руку,
Мне не народзіць любая
Ні сына, ні дачку.

Не ўпільнаваў я любае,
Бо не чакаў я здрады.
І ўратаваў бы любую,
Ды як дасі тут рады?
Імкнуся я да любае,
Ды не праб’ю мUроў.
Вартуе зграя лютая
Раз’ятраных звяроў.

Сабе я ў кузні выкую
Вялікі нож сталёвы,
Скручу пятлю вялікую
Праз вузел адмысловы
І стану я ва ўрочышчы,
Дзе дуб стары, крывы.
О-то-дзе-ж я папомшчуся,
О-то-ж палью крыві!

### *III. Другая песня Машэкі*

Праз цемру бязмоўную
рушу крадком, асцярожна
І, зліўшыся з ёю, між дрэў прыдарожных стаю.
Выходжу на жыр і пільную, хто дужы і можны,
Хто выпаліў крыўдай пякучай пяшчоту маю.

Ніякіх сумненняў, штó мае адбыцца са мною,
Бо нават зязюлі даўно ўжо не лічаць мне год.
Як сонца, сякера ўзышла над маёй галавою,
І вечную цемру мне зычыць агністы ўзыход.

Няма ў мяне крыўды і ценю на шэрых зязюлек.
Мяне не стрымае купляных судоў прыгавор.
О, ночка, ты зор неспатольных
спагадны прытулак.
Схавай неспатольнага ты і мяне сярод зор!

### *IV. Балада пра Машэку*

Калі ў торбу старцá і калекі
Лезе хціва ў пярсцёнках рука,
Прачынаецца ў лесе Машэка,
Дзе гару абдымае рака.

Калі жорсткі юрлівец са здзекам
Зневажае любоў і цнату,
На дарогу выходзіць Машэка,
За тры крокі мінае вярсту.

Скаланае хада яго цяжка
І жарству, і дзірван, і пяскі.
Па баках калыхаюцца важка,
Як дубіны, яго кулакі.

Чуе нюхам ён можных і прагных,
А зламысных – вастрэй мнагакроць.
І наўкола ў смуродлівых багнах
Аксаміт датлявае і плоць.

І пакуль на бяду чалавеку
Ёсць злачынства, і подласць, і здзек,
Неспатолены будзе Машэка,
Ён спакою не знойдзе павек.

## ДЗІКУНСТВА

Дзікунства не ходзіць у шкурах пячорных,
Не топча сцяжын басанож.
Дзікунства ўжывае ў гасцёўнях прасторных
За ежай відэлец і нож.

Яно, зрабаваўшы амаль што паўсвету,
Няспынна грабе і грабе,
Цкуе і за краты кідае паэтаў
І служак скупляе сабе.

Наводзіць на вочы праўдзівай маною
Трутліва-шаманскія сны.
Датуль застаецца дзікунства сабою,
Пакуль бальшыня – дзікуны.

* * *

Жывы кумір сышоў у неўміручасць –
І затрымцеў агонь у алтарах,
І з душаў ападала нерашучасць,
Развейваўся, як дым кумірняў, страх.

Бурылася збуцвелым гмахам вера,
З яе руін тырчала дрэнь ды хрэнь,
І ў прывід праклінаны Агасфера
Перацякаў куміра грозны цень.

Але ўвесь час трывожыць адчуванне,
Што з вышыні алтарнай не сышло
З навечнаю пячаткай пазнавання
Ліхое, смертагрэшнае чало.

* * *

Нашто прасіць у Бога бессмяротнасці? –
Не дасць.
Нашто прасіць у Бога смерці? –
Сама прыйдзе.
Нашто прасіць у Бога шчасця? –
Яно ці ўчора, ці заўтра.
Прасіце ў Бога болю:
Калі баліць, значыць, жывеш.



Віктар Карамазаў



…Што ж гэта за народ, які не хоча волі?..

Як няма волі — ці ёсць народ?..

# Мастак і парабкі

***Раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №2 (51).*

### Хто ў доме гаспадар?

Яшчэ колькі дзён і начэй мастак не выпускаў з рук прывезеную ад бацюшкі кнігу. Як толькі за яе садзіўся ці адрываўся ад яе, дык і думаў, чаму бацюшка даў чытаць пра Малую Русь, калі прасіў пра Белую? Адчуваў у гэтым загадку не выпадковую, бо бацюшка не той быў чалавек, каб крок ступіць, не падумаўшы. Разам з тым не мог надоўга адарвацца ад кнігі, бо адчуваў у яе тэкстах руку не толькі гісторыка, а летапісца. Што ні гетман, то пакручасты сюжэт жыцця, казацкай прагі волі, бясконцыя ў змаганні за яе ахвяры. Лёс Хмяльніцкага ад малых гадоў, калі яшчэ быў валанцёрам пры мужным бацьку сотніку Міхайле, да смерці, аплаканай народам, чытаў ды перачытваў, дзівіўся, як аддана служыў айчыне гетман, як рашуча вызваляў краіну ад чужынцаў, з якою моцнай верай у Хрыста гнаў з праваслаўных храмаў здрадцаў.

Чытаў— задумваўся: калі тое адбывалася на Малой Русі, дык што тады рабілася на Русі Белай? Адна была дзяржава, Рэч Паспалітая, адзін на ўсю дзяржаву ў Варшаве сядзеў кароль, адзін быў сойм, была адна ад кароны ласка там і тут, у Малой Русі і ў Белай, але чаму ад тае ласкі ў Белай ціха, а ў Малой кроў бясконцая? Ці, можа, не было і ў Белай ціха? Што казаў Пракоп пра сваіх продкаў Хаму Войну і яго сыноў Яшку ды Цешку, калі Сапега, канцлер, сек мужыкам у Віцебску галовы, вешаў на шыбеніцах, панастаўляўшы слупоў рагатых у горадзе ды за горадам па бальшаках? За што чыніўся здзек з народа? Што мужыкі з-за веры ўзбунтаваліся і пад гарачую руку забілі уніята? А ці магло гэта адбыцца на Малой Русі, каб гетман вешаў сваіх казакаў? Там хіба не гетманы вялі ў бой за веру, спаконвечную сярод усходніх славянаў? Хіба не гнаў Сагайдачны здрадцаў з самой Сафіі ў Кіеве? Было на Белай Русі паўстанне мужыкоў з Вашчылам супраць паноў ды гандляроў-жыдоў? Там — не за веру, там — за волю і за праўду. А чым закончылася? Ужо гетман Радзівіл саджаў на калы ды вешаў на шыбеніцах сваё паспалітае людства. У суседзяў тое магло адбыцца? Магло, як гетманамі былі Перавязка, Барадаўка, Кушка, пастаўленыя на гетманскі пасад не казакамі, а магнатамі ды каралём у Варшаве. Але чым закончылася іх гетманства? Здрадца Перавязка ўцёк ад казацкага гневу за мяжу, Барадаўку казакі расстралялі, а Кушка быў павешаны. Там права самім выбіраць гетмана адстойвалі не толькі ў дамовах з каралём, але ў баях, і таму гетман заўсёды быў з казакамі, служыў народу, змагаўся за волю айчыны. Двойчы пры Хмяльніцкім Польшча абвяшчала Малой Русі паспалітае рушанне, выстаўляла супраць яе па трыста тысяч войска на чале з каралём ды каронным гетманам. Гэтакага войска ў Хмяльніцкага не было, ён мог сабраць не болей за восемдзесят тысяч вольных казакаў, але ніводнай бітвы не прайграў, усіх, хто нёс у Малую Русь няволю, гнаў. І не чужынцы пісалі яму ўмовы міру, а ён пісаў, у тым ліку і Збароўскі мір: “Народ Малой Русі з усімі яе абласцямі, гарадамі, сёламі і з усёй іх маёмасцю вызваляецца ад усіх прэтэнзій Польшчы на вечныя часы як народ вольны, самабытны і нікім не заваяваны”. А як годна трактат пачынаўся, гэтак годна і заканчваўся: “Межы Малой Русі прызнаюцца ад Чорнага мора ды лімана Дняпроўскага на поўдзень па Днястры, ад яго вяршыні да ракі Гарыні, ад Гарыні да Прыпяці, адтуль Дняпром да Быхава, далей да Сажа і Сажом да павета Смаленскага. А вярхоўны гетман выбіраецца ў народзе вольнымі галасамі, і чужынцу альбо супраціўніку гетманам тут не быць ніколі”.

Слава пра Малую Русь, вольную ды непераможную, гуляла далёка па Еўропе, і панаехалі сюды ад іншых краінаў урадовыя дэлегацыі з багатымі дарункамі, і кожны пасол ад сваёй краіны заманьваў казакаў да сябе ў саюз ды брацтва. Хмяльніцкі бачыў, што хоць краіна ў славе, але страты ад няспынных войнаў вялікія, шмат войска загінула, а з суседзяў, што дораць ды віншуюць, нямала тых, хто ўжо гострыць шаблі, не хоча мецць побач Русь моцную, туркі з татарамі патрабуюць разам рушыць на княства Маскоўскае, каб забраць ханства Астраханскае, іначай пойдуць супраць Малой Русі  Сабраў гетман вышэйшыя казацкія чыны, дэпутатаў ад усіх палкоў, спытаў, з кім быць у саюзе. Пратэкцыю Польшчы казакі адмялі адразу: сытыя яе хлуснёй ды здрадаю. Быць з туркамі ды татарамі? А колькі казацкіх дзетак яны выкралі і прадалі ў рабства? Ісці з Масквою? Тут выступіў генеральны есаул Багун: “Народ маскоўскі — рабства неключымае, там нічога свайго, усё Божае ды царскае, там чалавек — раб, нават вяльможы ды баяры называюць сябе рабамі царскімі, перад царом б’юць

у зямлю ілбамі, людзі паспалітыя прадаюцца як быдла, выменьваюцца на сабак. Жыць з гэтакім народам — як кінуцца з агню ў полымя".

Задумаўся зноў Неўраў: што за народ — казакі? Суседзі-мужыкі, як мужыкі ў Лыскаўшчыне, у Грыбіне, у Красулі? Зямлю аралі, сеялі, касілі, дзяцей гадавалі. Але і ваявалі, бо не хацелі быць ні парабкамі, ні рабамі. Жыццё чым вымяралі? Хіба кавалкам? Воляй! Бо ведалі: не будзе волі — не будзе і кавалка, жыцця не будзе. А тут, у Лыскаўшчыне? За дзесяць гадоў хоць ад каго пачуў пра волю?

Чытаў і разважаў пра волю тут і там.

Давёў Хмяльніцкі, што шляху іншага няма, угаварыў казакаў хінуцца да Масквы. Што атрымалася? Час тую дружбу высветліў, але пазней, калі ўжо Мазепа быў за гетмана, а Пётр — царом у Маскве. Цар не хацеў мець побач моцную Малую Русь, вольнага казака баяўся больш за шведа ці паляка. Таму і загадаў Мазепу скасаваць усе вольнасці казацкія, а войска мець рэгулярнае, як у яго. Тут і наскочыла каса на камень. Хоць цар быў грозны, але Мазепа быў казакам: воля казаку — мамка родная, за яе — хоць і на смерць. Цар ухапіў Мазепу за вусы. Вусоў не вырваў, але Мазепа цара са свайго сэрца выкінуў: вусы ў казака — як тая воля. І як сышліся пад Палтавай войскі караля Швецыі Карла XII ды войскі цара Пятра, Мазепа абвясціў "нейтрал". Гэта быў мудры палітычны крок гетмана, як мудрым было і слова яго да войска і народа: "Браты! Мы стаім паміж двух пропасцяў, якія нас праглынуць, калі не знойдзем шлях іх абысці. Манархі, што падышлі з вайной паміж сабою да нашых межаў, нясуць бездань зла сваім народам, а мы будзем цярпець ад іх абодвух. Яны абодва дэспаты, якіх не ведалі ні Азія, ні Афрыка, і тут мы павінны добра падумаць пра сябе. Калі кароль пераможа цара, мы немінуча будзем прададзеныя ў рабства палякам, дзе на троне яго любімец Ляшчынскі, і лёс наш зробіцца горшым за той, што мелі ад палякаў нашы продкі. А калі пераможа цар, то беды прыйдуць ад цара, які любіць уладу бязмежную, карае ўсіх як сам захоча, на нас глядзіць як на быдла і сваё дзярмо. Мы не павінны ваяваць ні са шведамі, ні з палякамі, ні з Масквою, а павінны ўсімі сіламі бараніць Айчыну ад тых, хто хоча яе зняволіць, і аб сваім нейтрале заявіць каралю і цару. Бо што гэта за народ, які пра сваю волю не дбае? Гэтакі народ — блудная морда, брыдкая ўсім іншым народам..."

Неўраў сядзеў, чытаючы, як на гарачым вуголлі, і калі тое вуголле запякло нясцерпна, зноў усхапіўся. Усяго калацілі нервы, а ён іх супакойваў — хадзіў з пакоя ў пакой, кружыў вакол стала і паўтараў у думках, шэптам, як зноў чытаў ды перачытваў, ужо сваё:

— Што ж гэта за народ, які не хоча волі?.. Як няма волі — ці ёсць народ?.. Ёсць проста морды блудныя?.. Ну, так... Сціснула грудзі. Паветра хапануў адкрытым ротам, на ўвесь бас зароў, нібы рвучы тую пятлю на горле: — Блудныя морды!..

Выйшаў на ганак, аддыхваўся, як доўга бег ці падымаўся на гару, вярнуўся ў дом, хадзіў вакол стала ў майстэрні, сеў у крэсла, падсунуў кнігу да сябе. Чытаў пра тую Русь, казацкую, а думкі зноў ды зноў пра гэтую ўзнікалі — Белую. Мазепа: хто ён і адкуль? Вальтэр пісаў, што з Літвы. А што Літва, як не Русь Белая? Дык ёсць на Белай Русі гэтакія людзі — раўня казакам на Малой Русі?

Пра Мазепу было цікава ўсё. Як ён, літовец, быў настаўнікам у сям'і польскага караля, які быў эрудыт у навуках, які музыка, паэт, спявак, якая вольная была ў яго душа, як ён кахаў жанчын, як раўнавалі яго да

ягонымі цівунамі. Ноччу, каб не ўбачыў які злыдзень, яны раскапалі магілу ды перанеслі мастака на вясковы могільнік. І было ў яго пэўны час дзве магілы: адна — для пана, яго дворні ды ўлады, а другая, у якой ляжаў мастак, — для вёскі.

Праляцелі гады і гады. Рэвалюцыі ды войны павыкошвалі сялян, але выкасілі і пана з ягонымі суддзямі. Вёска засталася, хоць вельмі змянілася, і не памерла ў ёй памяць пра мастака.

У 1947 годзе вясною, у белую, на пачатку мая, квецень, у Лыскаўшчыну наведаўся мастак Бялыніцкі-Біруля. Прыехаў ён на сваю бацькаўшчыну, каб паглядзець, ці дужаю яна выйшла з вайны ды напісаць яе ў сваім адраджэнні, і не мог не завітаць у Лыскаўшчыну, блізкую ад родных яму Крынак пад Бялынічамі. Сустрэў тут старога селяніна Паўла Дэмбіцкага і папрасіў яго паказаць магілу Неўрава. Прыйшлі да магілы, а там і Мар'я Іванаўна Цыкунова, дачка Параскі, кухаркі Неўрава, без якой ён у вёсцы не мог і дня пражыць, якую пісаў на сваіх эцюдах і, рызыкнём сказаць, — кахаў, тая Марыля, што была сястрою Восіпу, які мастаку прыносіў з Талачына пошту, рабіў падрамнікі і яшчэ шмат чаго, тая Марылька, якая дзяўчынкаю пасабляла маме ў доме мастака, прыносіла яму з крыніцы ваду і мыла падлогу.

Пра што была ў іх размова на магіле Неўрава? Ды, безумоўна, пра мастака, які ён быў, як жыў і як загінуў.

Як жыў у вёсцы — пра тое было што распавесці і Цыкуновай, і Дэмбіцкаму. Біруля слухаў уважліва і параіў пакінуць свае ўспаміны на паперы. Ён сам умеў і любіў гэта рабіць — пакідаць на паперы ўспаміны пра дарагіх яму людзей. Скупа, як маглі, яны гэта пасля зрабілі. А Біруля ім распавёў, які быў Неўраў у крузе бліжэйшых сваіх сяброў — славутых мастакоў Сурыкава, Рэпіна, Паленава, Васняцова, — як яны яго паважалі за смелы жывапісны талент, высокую годнасць, праўдзівасць, адданасць мастацтву і народу. І пра славутыя карціны мастака, якія Біруля выдатна ведаў і высока цаніў.

А як мастак загінуў? Была вінаватая хвароба нерваў, як пісалі газеты, ці штосьці іншае?

Успамінаючы, які́м ён быў, сяляне сказалі, нібы пра не самае галоўнае, як Неўраў даводзіў мужыкам: зямля тут ваша, а не панская, вашы палі, вашы лясы, не кланяйцеся пану, як папракаў іх— халопы, парабкі!.. Часам — ціха, задумліва, а часам — на ўвесь свой бас, — як біў у звон.

— А наша вёска — што такое? У прыгон жылі тут панскія рабы, усе на паншчыне гарбелі, — сказаў стары.

— У прыгон? А пасля прыгону?

— Ды... тое самае. Не пераробіш мужыка.

Біруля ведаў, як Неўраў ненавідзеў рабства, як выліўся ён у гэтай нянавісці ў сваіх карцінах “Гандаль”, “Агледзіны”, “Дзеці скупога”, “Паніхіда на вясковых могілках”, “Выхаванка”, “Пахаванне селяніна”, “Купец-куціла”, нарэшце — у адной з самых апошніх сваіх карцін “Чым былі моцныя сувязі брачныя”, якім сэрцам і якой крывёю іх пісаў, сябе самога адчуваючы прыніжаным у краіне рабства.

Біруля, як мастак-псіхолаг, ведаў, куды і ад каго, куды і ад чаго бег Неўраў у пошуку сваіх карцін — як апынуўся ў Лыскаўшчыне. Шукаў у простым народзе волю і красу, а што знайшоў?..

Сваю магілу пры дарозе.

Біруля ведаў, як помсціць рабства мастакам.

Юрась Пацюпа



...я дом, дзе аніколі не жылі,
я бераг, куды чайка не прыстане...

# Тваё імя – на вуснах цішыня...

* * *

Жнівень. Спёка. Памідорны рай.
Любая-каханая, бывай,
на рамонках болей не гадай.

Не для нас цвітуць цяпер рамонкі.
Можа, станеш ты каханай жонкай –
ну, а мне рабін даспеюць гронкі.

Маю я ў запасе сто дарог,
дзе расце абапал сіні мох,
дзе яшчэ ніхто прайсці не змог.

Паглядзі! Якія далячыні!
Вокны сярод ночы мы расчынім,
зэгар надакучлівы прыпынім...

Гэты кубак нас не абміне!
Хоць не знойдзем праўды ні ў віне,
ні ў да дна расчыненым акне.

*13 жніўня 2010 г.*

* * *

Сумны воран сядзіць, як вехаць.
Мо' лянуецца ён прарочыць?
Ці заснуў у зімовай журбе?
Без цябе я не ўмею дыхаць,
без цябе я не ўмею бачыць...
Раскажы, як мне жыць без цябе?

Пра цябе мне і вецер шапоча,
і на снезе сініца піша,
і снягі маўчаць пра цябе.
Як жа сэрца ў адказ не заплача,
як жа свята не ўспомніцца наша,
калі жыць мне з табой без цябе?

Вось ідзеш па заснежаным краі –
так ніхто больш хадзіць не ўмее,
што не чуеш сама сябе.
Мне аднаму снег напявае –
ён з тваёю хадою ў сумоўі,
я ж аглух, але чую цябе.

Па-за снегам наслухваю вечнасць
і вясну нашу ў шэлесце крокаў,
а матыў, то гучней, то слабей...
Аж пакуль не зрабіўся ён вершам –
гэты верш не пісаў я, а плакаў
без цябе, без цябе, без цябе.

*4 студзеня 2011 г.*

* * *

Як Геракліт, закопаны ў гнаі,
дні пражываю марна без кахання –
я дом, дзе аніколі не жылі,
я бераг, куды чайка не прыстане,

я сфінксам, звераяшчарам брыду,
малю, хоць і адмоўчваецца неба,
пакутую – глядзяць, як на брыду,
люблю, але заўжды ў адказ: не трэба.

І гэты верш – паперка для цябе,
ніхто абгорткі ў доме не трымае –
іх восень разам з лісцямі зграбе,
зіма яшчэ надзейней захавае.

Для ружаў, для уцех табе вясной
мой боль, павер, найлепшы перагной.

*7 студзеня 2011 г.*

* * *

Ноч глядзіць мільярдамі воч,
як спадаюць сукенкі, карункі,
ты ступаеш у гэтую ноч
уладаркай маіх пацалункаў –

іх пагарда твая не астудзіць,
бо закружыцца галава,
і закружацца вусны і грудзі
і забудзеш калі цалаваў

з лёгкай драпінкай... (– Ціха, маўчы!)
і з радзімкай... (– Мо' годзе трапацца!)
Рот замкну я замкоў на трынаццаць
і закіну у мора ключы,

бо памру, калі ўведае свет
таямніцу каханых прымет.

*10 студзеня 2011 г.*

* * *

А ў яе у кожным воку па лязу,
і у кожным скача дзіўны чалавечак,
а яшчэ зна́йдзеш гарачую слязу,
ды глядзі ж ты, не паранься аб красу
і, глядзі, не затушы вясёлых свечак.

Бо ў мяне ляжыць за пазухаю нож,
а у сэрцы шмат пяшчоты ёсць і веры.
Толькі крыўдзіць паспрабуй яе! Ну што ж...
за душу тваю ніхто не дасць і грош,
як расплачацца сястра мая пантэра.

У сястры маёй такі чысцюткі смех,
што паблякла і цану згубіла срэбра,
з ёю святасцю заззяе кожны грэх,

памятáй, каб ад агню яе не збег,
бо штылет мой тады мецімеш пад рэбры.

Як туман наранку спбдзе на ваду
і як дума ўночы ляжа ёй на сэрца,
я пайду перамагу яе бяду
і тады на дно вачэй яе ўпаду,
каб хоць гэтак паяднацца з ёй па смерці.

*13 студзеня 2011 г.*

* * *

Там, дзе клёны чоламі спляліся,
там, дзе неба цвіце галубамі,
другі месяц ападае лісце –
яно помніць: нашае між намі!

Пацалункі долу абляцелі,
быццам лісце, ты іх не шкадуеш,
ты прасціну новую пасцелеш
і наўлечку зменіш на падушцы.

А каханне пчалой у бурштыне
ў нашу восень западзе навекі.
Ты мне снішся з думаю аб сыне,
ты мятлушкай б’ешся аб павекі.

Мне не спіцца, іду ў ноч пад клёны,
як ружанец, ніжу успаміны.
Лістапад мой, грахом благаславёны,
дажджы ў вочы сёначы абрыне.

Я ўсе клёны марамі аздоблю,
сёння голуб збудзіць цябе рана,
сёння можна абраць сабе долю –
снег кладзецца на восені раны.

*16 студзеня 2011 г.*

* * *

Пагавары з’ імною пра каханне,
мне не шкада таго, што не было.
Шкада цяпла – яно ўсё роўна з намі,
і што было, у Лету не сплыло.

Пагавары, і нам абоім стане
крыху лягчэй, не бойся, бо цяпло –

было й не вымерзне ў самападмане...
Пагавары, для нас маўчанне – зло.

Пагавары! Кахала, не кахала...
Быў толькі міг, і ты маёй была,
да ног тваіх страла тады упала,

а я, каб не чыніць каханнем зла,
шпурнуў ў агонь Амуравае джала
і змоўк. Але ўнутры – смыліць страла.

*21 студзеня 2011 г.*

* * *

Я прачнуўся, а свет,
нібы з'ела вайна,
ні дамоў, ні дымоў,
толькі ты ёсць адна,

ні дарог, ні слядоў,
снег вятрыска грабе,
калі сцежка дзе ёсць,
то вядзе да цябе.

Але глянуўшы раз
у праломку ў ваду,
зразумеў я, што век
да цябе не дайду.

Як да месяца воўк
у бязлюднай цішы
не змагу да тваёй
дакрычацца душы.

Што меў духу, я збёр
у адзін толькі крык:
хай бы жыў гэты свет,
але я у ім знік!

Мяне Бог шкадаваў,
зразумеў Сатана,
толькі ты на сваім
настаяла адна.

І тады я спасціг,
што жывое ўсё тля,
нават сонца ўпадзе,
але ёсць ты і я.

*24 студзеня 2011 г.*

* * *

Пакладзі шчаслiва рукі мне на плечы,
так, як ты умееш, моцна абдымі,
тады твае вусны маю скруху ўлечаць,
бо не размінуся з тваімі вачмі,
бо ўжо зачакаўся гэтае сустрэчы.

Так будзе давеку – сонца ў небе стала,
глянь, маленькай кропляй зрабіўся Сусвет.
Не, іншых мужчынаў ты не цалавала,
бо на тваіх вуснах няма іх прымет,
бо тых пацалункаў мне й самому мала.

У цябе на шчочках сонца і пушынкі,
толькі я ды вецер знаем гэты пах,
зелянкавы, грэшны, з лёгкаю кіслінкай,
бо сама ты зелле з вінам у руках,
бо сама ты вецер, страчаны ў галінках.

Крык зламаю ў горле – вецер, ну дык вецер!
Пайду ўсіх красуняў стрэчных цалаваць,
але марна долу аблятае вецце,
бо ўжо не здалеюць па табе суняць
смагу векавую ўсе жанкі на свеце.

*31 студзеня 2011 г.*

* * *

Сёння крычаць у парку
каўкі, нібы званы,
а закаханых паркі
ловяць туман вясны.

Некалі ў тым тумане
сам я да дна зблудзіў
так, што стаю з пытаннем:
жыў я ці мо' не жыў?

Стаў 'ля твайго парога,
быццам згубіў ключы.
Заўтра надыдзе нічога –
хоць із званіц крычы.

Выйдзі на холад весні,
кінь пры агні варажыць –
трэба нам жыць няспешна,
трэба спяшацца жыць.

Гэта не так і мала –
я да цябе прыйшоў!
Што ж ты мяне не пазнала,
ў сэрца не стукнула кроў?

Ціха пайду па парку,
люстрамі стануць сляды –
так замярзае шпарка
шлях мой у нікуды.

Быццам само чаканне
ўмерзла ў тваё акно.
Крыкні! І я ў тумане
стану мільёнам званоў.

Што адбылося з намі –
стане мільёнам зор.
Месяц над туманамі
лье на зямлю дакор.

Сёння стаяць у парку
дрэвы, як здані званіц,
сёння скончае парка
віць залатую ніц.

*2 лютага 2011 г.*

* * *

Гэты свет не вернецца ніколі –
ты і я падзеленыя шклом,
ты без болю выкінеш на злом
свет, які не вернецца ніколі.

Дык за крок спыніся перад злом
і сама задумайся да болю:
гэты свет не вернецца ніколі,
ты і я – разрэзаныя шклом.

*11 лютага 2011 г.*

* * *

Недзе далёка за сінім светам
суняло неба залеву злую,
там што ні краска – дажджом апета,
душа твая там – маю цалуе.

Мускулы хваляў і тваё цела
разбілі сонца, як тое спала.

Твая душа так маю хацела,
што неба з неба залевай спала.

У гэтым краі хіліўся бераг,
калі ішла ты з вады насустрач,
і ўсе глядзелі, калі ты бегла –
зоры і краскі, азёраў люстра.

Там па-за светам нас не забылі
пругкія хвалі, ільдом адзеты,
што нават следу твайго не змылі,
прастора рэхам гукае: «Дзе ты?»

Вядзе дарога нас кругавая
на той жа бераг, да тых жа хваляў,
дзе ўсе рамонкі цвердзяць «кахаю»,
чмялі і пчолы каханне хваляць.

Якая сіла мяне вадзіла,
якія хвалі мяне трымалі,
што цяпер стаўшы выгукну мілай:
«Любі, забі, а я ўсё прымаю!»

*12 лютага 2011 г.*

* * *

.............................................

*26 лютага 2011 г.*

* * *

Тваё імя – на вуснах цішыня
і ночны лес, і змоўклы птушак крык.
Даруй, што я – гукнуў тваё імя,
даруй мне крык, свінцовым стаў язык.

Тваё імя – як сонца майго дня,
апошні гук і бездань вечных мук.
Спяшаю ў ноч, цалуючы імя,
даруй, шапчу, а рэха множыць гук.

Тваё імя прыйшло пачаткам дня,
дня без мяне, бо я дарэшты знік,
дзе ў сіні дня лунае след імя,
дзе выпаў з рук, разбіўшыся, мой крык.

*13 сакавіка 2011 г.*

проза

Галіна Каржанеўская



...госці таму і госці,

што яны тут часовыя...

# Прыхадні

### *Прыпавесць*

Людзі прыходзілі па адным, звычайна ноччу і ў адным і тым жа месцы. Яно было зацішным, атуленым з аднаго боку густым лесам, а з другога падперта стромкім узгоркам, які таксама зарос дрэвамі і кустоўем. Пра сам узгорак хадзіла нядобрая слава: быццам валуны на яго макаўцы ўвесь час ляжаць па-іншаму, хоць і ў роскід; і як бы ні ляжалі, а адзін заўсёды размяшчаўся ў цэнтры, нібыта які правадыр ці начальнік.

Калі тут пачалі з'яўляцца людзі – наконт таго існавала некалькі здагадак-дапушчэнняў. Адны казалі, што так было заўсёды: людзі не прыходзілі, яны іменна з'яўляліся, як бы звальваліся з неба. Апраналіся ў адзежу, якую пакідалі жыхары паселішча (спецыяльна для гасцей, на выпадак, калі тыя ўцялесняцца), скіроўвалі на дымы з комінаў, знаёміліся і пачыналі тут жыць. Праўда, «знаёміліся» сказана гучна. Ім для

пачатку належала даць імёны, для чаго існаваў нескладаны рытуал: у круг станавіліся старэйшыны, задзіралі галовы да зорак, і на макаўку аднаго з іх звальвалася імя – гэтак жа спантанна, як і сам госць.

Сказаць, што мясцовыя напачатку былі агаломшаныя – нічога не сказаць. Хутчэй гэта напамінала шок. Жыхары збірался купкамі ў дварах альбо ў чыёй-небудзь хаціне і бясконца пераказвалі гісторыю, як кульгавы Юз, што пасвіў коз, убачыў ля ўзгорка першага прышэльца – абсалютна голага, як вы разумееце, бо ён быў першым.

Адзежу для прыхадняў клалі на плоскі валун з дзіўнымі знакамі. Клалі то жаночую, то мужчынскую, і было смешна, калі памыляліся: мужыкі блыталіся ў спадніцах, а жанкі мусілі надзяваць кашулі ды штаны. Зрэшты, клімат тут быў такім лагодным, што апрананне было ў асноўным данінай традыцыі, а не жыццёвай неабходнасцю.

Прыхадні не выглядалі разгубленымі, трапляючы ў незнаёмую мясцовасць, ды яшчэ неапранутымі. Так, паазіраюцца для прыліку – і чэшуць у напрамку паселішча. Размаўлялі яны гэтак жа, як і тутэйшыя, так што моўнага бар'еру не існавала. Пра назвы хатніх рэчаў, посуду, раштунку часам пыталіся. Увогуле яны зашмат распытвалі – як быццам засланыя кімсьці шпіёны. З цягам часу да іх і мянушка такая прыклеілася – «шпіёны». А ў астатнім былі людзі як людзі: абжываліся ў хацінах, якія самі ж і будавалі з дапамогай мясцовых, знаходзілі пару (абавязкова са сваіх) ды жылі сумеснай гаспадаркай. Вось толькі дзяцей ні ў кога не нараджалася. Можа, лічылі перажыткам выпускаць маленькіх чалавечкаў з сябе, можа, ім гэта проста забаранялася.

Дэмаграфічнага прыросту не назіралася і ў мясцовых. Ну, цяпер-то няма пытанняў – усе старыя, але і раней жанатыя пары з зайздрасцю назіралі, як давалі прыплод козы альбо з яек выводзіліся хатнія птушкі.

Прыхадні – ні мужчыны, ні жанчыны -- не дапускаліся ў раду старэйшын, а ў астатнім мелі тыя ж правы: права мець асобную хату, асобную жонку (ці мужа), асобны лапік зямлі для земляробства. Участкі з хатамі яны чамусьці называлі д а ч а м і. Паходжанне слова ніхто не ведаў. Участкі выдзяляліся аднолькавай плошчы, кожны дом меў свой парадкавы нумар. Госці садзілі і сеялі, выраблялі прасцейшыя прылады працы, займаліся разьбой па дрэве. Коз і авечак, праўда, не разводзілі, і паляванне ў іх было забаронена. Толькі не падумайце, што яны былі вегатарыянцамі. Мясныя (ці падобныя да мяса) прадукты прывозілі па рэйках суседзі – супольнасць, якая адрознівалася колерам скуры і разрэзам вачэй. Яны згружалі прадукты, а часам і прылады ў вызначаным месцы і ехалі назад у сваіх міні-вагончыках, больш падобных на тачкі. Пры гэтым выглядалі задаволенымі – быццам груз які з плячэй скінулі, і па дарозе моцна гарлалі свае незразумелыя песні. Якогась грашовага разліку пры гэтым мясцовыя не заўважалі. Было падобна, што жоўтаскурых проста абавязалі падтрымліваць жыццё прыхадняў. Тутэйшым не падабалася, што з суседзямі не ўдавалася завязаць кантакту. Што ж гэта за суседзі, калі яны паводзяць сябе так высакамерна?

Са "шпіёнамі" было прасцей. Увесь вольны ад хатніх справаў дзённы час тыя трацілі на распытванне, разглядванне, звычайнае назіранне, а вячэрні – на бязмэтнае сядзенне кругам, дзе ніхто не падаваў голасу. Кіравалі яны ў крузе па чарзе, і кіраванне зводзілася да таго, што галоўны падчас маўчання рэзка ўскрыкваў, але толькі адзінкі спалохана

ўздрыгвалі. Астатнія сядзелі з каменнымі тварамі, засяроджаныя і расслабленыя адначасова.

У гэтым свеце ўсё было больш-менш наладжана і зразумела: людзі па адным з’яўляліся і па адным адыходзілі: паднімаліся на ўзгорак -- і проста знікалі. Як раствараліся сярод зараснікаў, і толькі слабае свячэнне ў небе ды мерны гул заставаліся пасля іх адыходу. Але звыклы парадак пачаў даваць збой: прыгатаванае адзенне ўжо некалькі месяцаў ляжала некранутае. Лік прыходняў змяншаўся, тыя, што заставаліся, сядзелі ўжо зусім вузкім кругам, і многа дачаў стаялі пустымі.

Старэйшына па імені Гай лічыў сваім абавязкам кожны дзень наведваць Месца з’яўлення. Папраўдзе, у тым не было пільнай патрэбы: і таму што прыходні перасталі з’яўляцца, і таму што, з’явіўшыся, беспамылкова выходзілі на паселішча, як быццам мелі яго карту. Мала таго, хадзілі чуткі, быццам кожны з іх меў сваё ўласнае заданне і падпісваў якісь кантракт. Адкуль пайшла пагалоска – невядома. У чым мог заключацца кантракт – тым больш. Але заўважылі: чым больш дзейсным, неабыякавым быў прыхадзень, чым актыўней ён удзельнічаў у жыцці мясцовых, тым пазней яго з а б і р а л і.

Яшчэ на падыходзе да плоскага валуна Гай спыніўся. Яму здалося, што чуцён дзіцячы плач. Адтуль, з боку каменя. Ён не паверыў сваім вушам. Тым болей – вачам, калі ўбачыў неверагоднае: на траве сядзела і румзала голае малое дзіця. Стары падумаў: а што калі б сюды ніхто доўгі час не наведваўся? Навошта такі сюрпрыз? Хто будзе гадаваць хлопчыка?

Сабралі сход з удзелам прышэльцаў. Дзіця прыгрэлася на руках у Гая і заснула. Адна з новенькіх, падышоўшы, пакратала перш пальчыкі на ножцы, потым ружовую пятку. Усмешка асвяціла круглявы твар. Астатнія назіралі за ёй, і рашэнне было адзінадушным: даглядаць дзіця даверылі ёй. Прыкінулі: да шасці прыкладна гадоў. Бо калі т а м усе такія разумныя, то з цягам часу прышлюць і настаўніка.

Старэйшыны прынялі беспрэцэдэнтнае рашэнне: і новенькая, і хлопчык будуць жыць сярод іх, а не на дачах. Іх не хвалявала, як на гэта паглядзяць няпрошаныя госці. Зрэшты, тыя і не аспрэчвалі рашэнне, толькі наведваліся з падарункамі.

Мясцовыя амаль не здзівіліся, калі ў чарговай прадуктовай тачцы аказаліся байкавы касцюмчык, памперсы і нават пустышка, а таксама некалькі пакетаў сухога малака. Як быццам у іх не хапала “мокрага”!

Падзея ўзрушыла ўсё паселішча. Кожны ведаў, што сам калісьці быў малым і бездапаможным, а потым падрастаў, сталеў, але ўспаміны неяк не тычыліся гэтай мясцовасці. Дзяцінства, відавочна, праходзіла не тут. Дакладна – не тут. Яны ведалі адзін аднаго з маленства, але як сюды трапілі -- ніхто не памятаў, і для чаго тут пасяліліся, заставалася таямніцай.

Не прайшло і двух месяцаў са дня з’яўлення хлопчыка, як мясцовыя зноў перажылі немалы – можа, нават большы стрэс: не стала кульгавага Юза. Козы, якія ён пасвіў, разбрыліся. Добра, што не пагубляліся. Сам Юз ляжаў пад дубам халодны і маўклівы, нават не выпусціўшы з рук пугу. Гай зразумеў: пара даставаць інструкцыю. Яна была надзейна схавана на гарышчы, і пра яе не ведала нават жонка.

Дрыжачымі рукамі Гай расправіў паперыну. Там былі тэкст і малю-

нак. У прыцемках старэйшына з цяжкасцю разбіраў напісанае: “Калі закончыцца жыццёвы рэсурс клонаў...” Якіх клонаў? Які рэсурс? Ад раптоўнай слабасці захацелася сесці. Інструкцыя вучыла, як правільна капаць магілу і праводзіць у апошні шлях спачылага. Усё лагічна. Ім яшчэ не выпадала х а р а н і ц ь, бо ніхто дасюль не паміраў. Паколькі не было здарэння, то не магло быць і традыцыі. Я н ы прадугледзелі і гэта. Самі сабой выстройваліся ў адзін шэраг падзеі іх доўгага, ненармальна доўгага жыцця сярод зяляніны, райскіх кветак, азярын, поўных рыбы... Дык вось чаму яны прыслалі дзіця. Услед за Юзам пойдуць іншыя.

Адно заставалася няясным: у чым сэнс іх тутэйшага, па сутнасці расліннага існавання? Не выключана, што над імі проста ставяць эксперымент. Хто і дзеля чаго? І ці не час зразумець яго сутнасць?

Халодны пот выступіў на ілбе. Калі яны пахаваюць пастуха, то давядзецца зрабіць яшчэ адзін крок, прадугледжаны інструкцыяй: звязацца з і м і па апараце, які таксама знаходзіўся на гарышчы і быў надзейна завалены рыззём.

Не, здаецца, ён забягае наперад. Сувязь належала ўсталяваць тады, калі памруць двое. А што, калі другім будзе ён сам? Ці прадугледжаны такі варыянт тымі разумнікамі, што назіраюць за імі, як за паддоследнымі звяркамі? У паперыне нічога падобнага сказана не было.

Кожны з 12-ці старэйшын меў свой абавязак. Хто адказваў за будаўніцтва, хто – за разводзенне жывёлы, хто – за падтрыманне міру ў супольнасці, хто – за стан здароўя. Ён, Гай, таму і быў галоўным, што на яго папячэнні знаходзілася мясцовая бібліятэка. Святая святых, можна сказаць. Няхай сабе яны і клоны, як абазвалі іх у інструкцыі, але старэйшына зрабіў усё, каб людзі знаходзілі час для чытання і праслухоўвання запісаў. І не проста чыталі – абмяркоўвалі, стваралі ўласныя песні, казкі, паданні, і ўвесь гэты фальклор Гай збіраў, перапісваў уласнаручна, абцягваў скуранымі вокладкамі...

Прыхадні абступілі магілу разам з мясцовымі, але глядзелі не на памерлага, а на тых, што яго засыпалі зямлёй. Жанчыны плакалі. Адна спрабавала нават галасіць, хаця не была з нябожчыкам у блізкіх адносінах. І ў фанатэцы нічога падобнага не было. Адкуль гэта, з якіх схованаў, з якіх патаемных глыбінь падсвядомасці? Гай стараўся запомніць кожнае слова, каб пасля запісаць. На пахаванні не было толькі выхавацелькі з малым. Ёй было загадана заставацца дома.

Круглатварую назвалі Еўрай, калі яна спусцілася ў паселішча. Цяпер, калі яна пад апекай мясцовых, ніхто з прыхадняў не мае права прапаноўваць ёй сямейны саюз. Хлопчык ужо хадзіў, нават бегаў, рос шустрым і дапытлівым. Ён быў агульным любімцам, і Гай сачыў, каб дзіця не раздурвалі, каб не давалі залішне многа ласкі і ўвагі. Бо той, хто расце ў рэжыме “прыёму”, пасля не здольны аддаваць. Ён ужо марыў пра той час, калі малога завядзе ў бібліятэку і раскрые перад ім фаліянт з каляровымі малюнкамі – гісторыю іх супольнасці. А пакуль што казкі і калыханкі вучыла на памяць Еўра. Што ж гэта за выхавацелька, калі яна сама не абазнаная ў мясцовай культуры?

Кнігі і фанатэка былі завезены сюды жоўтаскурымі, і вельмі даўно. Гэта быў адзіны – і вельмі важны – момант іх кантакту. Праз кнігі ім быццам гаварылі: не захаваеце – і хана вам, можаце здзічэць сярод першароднай прыроды, страціць інтэлект і ўсе прыкметы чалавека разумнага.

Так, яны дасюль не паміралі, аднак аднаго са сваіх мясцовыя страцілі-такі. Той ніяк не мог змірыцца з неабходнасцю жыць на адным месцы. Непраходны лес яго прыцягваў, як магніт. Ён прападаў у ім цэлымі суткамі, пакуль не сапраўды не прапаў, і яго цела не знайшлі. Адказны за бяспеку старэйшына быў пакараны, а потым і адлучаны ад пасады. Каралі сваіх заўсёды аднолькава: поўнай ізаляцыяй ад іх нешматлікага соцыуму на пэўны тэрмін. І горшай кары прыдумаць было нельга.

Дзіўныя адносіны складваліся ў мясцовых з "гасцямі". Нібыта і прыязныя (дапамагалі адзін аднаму пры выпадку), але з адценнем афіцыёзу. Прыхадні з падкрэсленай павагай ставіліся да абарыгенаў, нізка кланяліся іх жанчынам, а старэйшынам увогуле цалавалі рукі. Гэта было дзіўна, незразумела, але з цягам часу да такога стаўлення прывыклі. Яго ў рэшце рэшт растлумачылі так: "госці" падкрэслена дэманстравалі тутэйшым свой залежны стан, бо мелі да іх невядомы інтэрас, а можа, і разлік. Госці таму і госці, што яны тут ч а с о в ы я. Але і мы не вечныя, падумаў Гай, прыпомніўшы пахавальны абрад, і думкі звыкла пачалі круціцца вакол аднаго і таго ж пытання: хто такія клоны? Мабыць жа, людзі, у тым суняваццa не даводзілася. Тады чым яны адрозніваліся ад астатніх? Бо менавіта а с т а т н і я напісалі тыя кнігі і песні, што з'яўляліся залатым фондам, падмуркам іх культуры.

Наступным знакам кепскіх перамен стаў недахоп пітной вады. Калодзежы за апошні год прыкметна змялелі. Часам за ноч не набіралася столькі вады, колькі патрабавалася для гаспадарчых патрэб. З-за размеркавання вады здарылася нечуванае: пабраліся за грудкі два мясцовыя мужыкі. Іх развёў самы рослы і аўтарытэтны з прыхадняў – Юпітэр. І хто мог даць яму такое недарэчнае імя? Гай не ўмешваўся, бо лічыў ніжэй сваёй годнасці прымяняць фізічную сілу.

Нават клімат пачаў мяняцца, бо сонечны дыск зрабіўся менш яркім, прыхаваным у марыве, а вецер падчас дыхаў такой спёкай – ну як з пустыні, а не з пракаветнай пушчы, якой не было канца і краю.

З Юпітэрам Гай блізка не сышоўся, але аднойчы меў цікавую размову з прыязнай і гаваркой Еўрай. Вельмі цікавую, бо з падступамі, з адхіленнямі, дзякуючы правільна пастаўленым пытанням, тое-сёе выведаў. Найперш наконт таго, чаму з'яўляліся без вопраткі. Аказваецца, для засланых сюды як бы пачыналася новае жыццё. А ў якім выглядзе чалавек нараджаецца? Зразумела – у якім. У чым маці нарадзіла. Аднак "засланым" казаць было няправільна, недакладна. Кожны трапляў сюды выключна па ўласным жаданні; мала таго – прыходзіў спецыяльны адбор, нават конкурс, каб у адзін цудоўны момант апынуцца ў іх "рэзервацыі". Чаму мясцовая супольнасць настолькі адгароджана ад усяго свету – гэта пытанне "на засыпку", і нават Еўра, схамянуўшыся, змоўкла і зрабіла выгляд, што не зразумела.

Будуць, будуць перамены... Госці ўсё часцей кучкаваліся, штосьці абмяркоўвалі – азіраючыся, каб іх не пачулі, а пры сустрэчах не паднімалі вачэй. Як вінаватыя ў чым...

Заняпад станавіўся ўсеагульным. Козы пачалі хварэць, іх пагалоўе змяншалася на вачах. Многія прылады працы паламаліся, і жоўтаскурыя не спяшаліся падвезці новыя. Іх тачкі ўсё радзей палохалі непужаных птушак у лесе. Ды і выглядалі суседзі нейкімі заклапочанымі, незадаволенымі нават, як быццам адбывалі павіннасць. Сярод мясцовых праявілі-

ся нездаровыя настроі. Яшчэ не дэпрэсняк, не пратэст, а проста ледзь прыкметная, разлітая ў паветры туга... Альбо трывожнасць, падобная на нявыказанае пытанне: а што далей? Што з намі ўсімі будзе?

Адказ дало само жыццё. Ідучы ўгару на Месца з'яўлення, адкуль даўно ўжо ніхто не прыходзіў, Гай перажыў яшчэ адзін стрэс: насустрач яму па сцяжыне шыбаваў чалавек у камуфляжнай форме. Яму не хапала хіба што аўтамата на плячы! Асілак наблізіўся і без ніякага палітэсу, не павітаўшыся, коратка мовіў: "Трэба старэйшына". "Я старэйшына", – адказаў Гай, у якога вочы ўсё яшчэ лезлі на лоб. "Маю загад давесці наступнае, – працягваў мужчына ў камуфляжы. – У сувязі з экалагічнай катастрофай і перанаселенасцю планеты, прынята рашэнне зліквідаваць паселішча клонаў і рассяліць іх у горадзе. Тут будзе размешчаны дзіцячы лагер. Вы ўсё зразумелі?" "Усё", – кіўнуў Гай, хаця на самай справе не разумеў нічога. "А як жа пры?.." – ледзьве не ляпнуў старэйшына, маючы на ўвазе прыхадняў. І скоранька папраўіўся: "Як жа нашы госці?" "А-а, даследчыкі... Яны ў курсе. Мне даручана арганізаваць адпраўку і вас, і іх." Камуфляжны рашучым крокам пашыбаваў у бок паселішча, а Гай сеў на траву ад раптоўнай млявасці. Было адчуванне нерэальнасці ўсяго – і гэтага вайскоўца-вестуна, і многіх год іх спакойнага, размеранага існавання. Адно хіба стала ясна: жыццё, якое ў іх было, скончылася. Ды і ці можна яго назваць сапраўдным жыццём?

Штосьці перамянілася ў наваколлі. Гай няўцямна азірнуўся. Знізу, дзе паўставаў неабсяжны лес, жаўцелі барханы. За імі высіліся будаўнічыя краны. І ўжо зусім далёка відненліся стромкія спічастыя высоткі – горад. Пачуўся мерны гул. Гэта пад'язджалі крытыя тэнтамі фуры і аўтобусы. "Што ж, пераезд дык пераезд", – падумаў Гай. І заспяшаўся да паселішча.

*Восень 2008 – сакавік 2009 г.*



Алесь Емельянаў-Шыловіч



...наступны жыццёвы цыкл
я жадаю пачаць з натхнення...

# Бурштынавыя вершы

### АРМЕНІЯ

*Орущих камней государство –*
*Армения, Армения.*
*В. Мандэльштам*

**1**
Караундж глядзеў на калядныя зоры
вачыма галодных каменных адтулін.
нібыта цыклопы ў пярэстай прасторы
з дазволу суворага часу паснулі.

Бадзяцца па зорным чужым лабірынце
я ў мроях сваіх нечакана паехаў
туды, дзе мацней арыяднінай ніці
камення спрадвечнага зычнае рэха,
дзе вецер салоны бядзе спачувае,
зямля пад нагамі паэта спявае:
“Каб музыка шчырага сэрца не ўмёрла,
крычы, не шкадуючы хворае горла...”

І – крыкнуў.
Шалёная воўчая зграя
жахлівыя іклы свае агаляе...

**2**
Крышыцца грыфель, трывае папера,
крычма крычыць у паэта душа.
Муза-пакутніца моўчкі сышла,
каб нарадзіцца ў наступную эру.
Чуеш, як гучна вібруе струна –
гэта ад сну ачуняла яна.

**3**
І зноў у срэбры год знікае,
нібы ў трызненні прамаўляе:
“Краіна, дзе крычыць каменне, –
Арменія, Арменія...”

## *CREDO*

У пошуках кон паэта –
адчужанасць ад сусвету,
ды я не зважаў на гэта,
і бліжай да апраметнай
цяпер я, чым быў калісь.
каб плоць, як паперу спаліць –
зрабіцца адным з сусветам –
не быць для таго, каб быць.

* * *

Содні дзяжурства прайшлі амаль незаўважна:
у аддзяленні для хворых
з парушэннем мазгавога кровазвароту
ніхто не памёр
Кагосьці кармілі праз зонд,
і сястру з гэтага ледзь не зблажыла,
кагось ратавалі,
а хтосьці ў хваравітым трызненні
ляцеў да зор.

Пацыенту з чацвёртай здымалі кардыяграму,
а ў суседа ягонага бралі тым часам кроў;
хадзячыя бегалі
па “пладова-выгоднае” ў краму,
а ўвечары пад звон кілішкаў
чулася: ”Будзь здаровы!”

Нямоглых лекавалі кропельніцамі,
пігулкамі і суцяшэннем,
на што тыя злаваліся й лаяліся:
“Маць тваю так!”
...Содні дзяжурства
прабеглі амаль без здарэнняў,
ну, дзякуй Богу, вось каб заўсёды так.

* * *

Дні апошнія года Быка
лічыць, лічыць калядны гадзіннік.
Застаюцца ў мяне на руках
365 залацінак.

І, хоць кожную шчыра люблю,
але з ёй развітаюся строма.
Не шкадуючы ўсё аддаю
з завірухамі году старому.

Я не маю ніякіх пазык
і прымаю душой ачышчэнне,
бо наступны жыццёвы цыкл
я жадаю пачаць з натхнення.

*17 снежня 2009*

* * *

Калі ў краіне,
дзе бязмовяць валуны,
нат чорны рыс
каштуе
даражэй,
чым гарэлка,
што ж запасаць
тады на
чорны дзень

*Люты, 2011*

* * *

Раніца.
        Возера.
У калысцы хваляў
            белы гарлачык
прачынаецца,
          раскрывае пялёсткі,

ласкавыя промні
будзяць пяшчотна
кожны лісточак,
быццам рукі твае
кранаюць цела маё.
Лёгкі ветрык твайго подыху
варушыць мае валасы,
прымушае забыць пра былое.
І хачу я штодня,
як гарлачык,
прачынацца ад дотыкаў і пацалункаў.

### *НЕСАНЕТ*

Калі скажу – цябе кахаю,
Дакладна ведай, што маню;
Бо пра каханне не гавораць,
Жывуць, не спадзяваючыся на

Ўзаемнасць, хоць намёкі на яе;
На жаль, жыву і разумею:
Снег робіцца вадою
Не таму, што пацяпленне,

А снег кахае моцную зямлю
І штогадова дотыкам нясмелым
Ласкава дакранаецца – пяшчоціць,

Да кроплі растваряецца ва ўлонні.
Віецца пара – гэта подыхі зямлі,
Якая ведае, што значыць
Быць каханай...

### *БУРШТЫНАВЫЯ ВЕРШЫ*

Верш – імгненне, выхапленае ў вечнасці
і застыглае на паперы,
нібы закрышталізаваная ў бурштыне кузурка,
травінка ці каменьчык.
Першыя вершы пісаліся менавіта бурштынам,
ён надта ўдала вычапляў вобразы і
аблямоўваў іх непаўторную форму,
метафарычна спалучаў немагчымае.
Яго ўдасканальвалі і рэдагавалі
марскія хвалі,
і вершы, давершаныя імі,
мы бачым цяпер,

праз тысячы тысяч гадоў.
І напрыканцы я не стаўлю кропку,
бо я за давершанасць
бурштынавых вершаў

* * *

Зірнеш ільвіцай агнявою,
аж пот праступіць на ілбе.
Я ж кіраваць хацеў табою,
утаймаваць жадаў цябе.

Маланкай-пугаю паветра
хрышчу, трапеча ўсё ўнутры.
Страх на адлегласці паўметры,
і ўсё гучней звярыны рык;

бліжэй, бліжэй – прымружу вочы,
пад горла сэрца камяком.
Ільвіцай мне на грудзі скочыш –
кранеш ружовым языком.

## НЕПАЭТЫЧНЫ ТРЫПЦІХ

*Sic transit Gloria.*

***1. Размова Аляксандра Вялікага з Феапомпам****

А л я к с а н д р:
Што застанецца пасля мяне?
Ф е а п о м п:
Памяць.
А л я к с а н д р:
Ты ў гэтым упэўнены?
Ф е а п о м п:
Не.
А л я к с а н д р:
І я таксама.
Не жадаю памяці герастратавай,
што пакінуў пасля сябе толькі страты,
хаця,
ведаеш, ён, відаць, быў паэтам,
бо любіў, як дзіця,
ўсё падпальваць,
асабліва агульную памяць...
Можа, для самарэкламы?

---

* Феапомп – старажытнагрэцкі гісторык, першым напісаў пра ўчынак Герастрата і тым самым пакінуў памяць пра яго.

Ф е а п о м п:
Не, ён ведаў – жахлівей за ўсё –
забыццё,
і баяўся яго,
і свядома пайшоў на злачынства.
Ён быў паэтам
і ведаў адно: шанаваць можна розных багоў,
але гэта не замінае вылучыцца.

***2. Эпітафія на магіле Аляксандра Вялікага***
Зазнаўшы слодыч перамог,
Апошняй бітвы ты не змог –
Спачыў, вялікі, вечным сном.
А сонца над тваім пагоркам
Гарыць і ў пракаветным змроку,
Але ты іншым знішчаны агнём.

***3. Паслямова***
Калі сплыве вада,
струхлее дрэва
і з'есць жалеза
ненажэрная іржа,
згадай пра запалкі,
што ў кішэні ляжаць.

Сяргей Календа



...я цяпер у метро еду, нічога не чую, ператэлефануй праз колькі хвілінаў...

# Хлеб свой пускай па вадзе

***Прыпавесць***

*Ахвярам тэракту ў метро 11. 04. 11*

*Хлеб свой пускай па вадзе,*
*час міне, і зноў знойдзеш яго.*
*Давай частку на сем і нават на восем,*
*бо не ведаеш, якая нагода чакае зямлю.*
*Эклезіяст 11: 1–2*

*I see you found my underground*
*Help yourself to guns and ammo*
*Nothing here has ever seen the light of day*
*I leave it in my head*

*It's the first day of the rest of your life*
*It's the first day of the rest of your life*
*It's the first day of the rest of your life*
*It's the first day of the rest of your life*
*Песня Timo Maas feat. Brian Molko*

– Мікітка, ты чуеш?! Я кажу, каб ты сёння скарыстаўся метро, бо я не хачу, каб ты ў гадзіну-пік ехаў ізноў аўтобусам, каб я цябе чакала немаведама колькі гадзінаў! Я так да старасці пасівею! Чуеш?!

– Божачкі, ну чую, чую я! Ты мне адно і тое ж кажаш кожны дзень! Я не магу так!

– А чаму ты мяне не слухаеш? Вось мне і даводзіцца столькі разоў адно і тое ж казаць!

– Я ўжо стомлены ад усяго гэтага, я даволі дарослы й самастойны, каб самому вырашаць, як і на чым ездзіць! – абурыўся Мікітка, адчыняючы ўсе засаўкі на металічных уваходных дзвярах, яму зноў трэба было ехаць да рэпетытара ажно да станцыі “Пушкінская”. Ён вельмі не любіў ездзіць пад зямлёю, сумна, моташна, шумна, не тое што звонку, калі ёсць магчымасць назіраць за наваколлем... Нават калі цябе з усіх бакоў ціснуць пасажыры, якія няшчадна ўпіхваюцца ў аўтобусы, быццам у Ноеў каўчэг, гэта больш цярпіма за падарожжа пад зямлёю, хоць пад зямлёй і хутчэй...

– Ты чуеш?! Мікіта, я з табою размаўляю, дзе ты думкамі ізноў лётаеш, вось так мне настаўніцы й кажуць, што на занятках, як пачнеш лётаць, дык так цэлыя чвэрці праз цябе й праходзяць, нават не кранууўшы! – ягоная маці злавалася й не знаходзіла сабе месца... Пасля разводу ёй не надта карцела ўсё сваё лепшае жыццё марнаваць толькі на побыт, але яна вельмі любіла сына, таму працавала й даглядала адзінае сваё дзіця.

– Чую-чую, мама!!! – нерваваўся хлапчук.

– То добра! І глядзі мне, каб быў уважлівы з рэпетытарам, не дзеля таго я шмат працую й аплочваю гэтыя заняткі, каб цябе пакінулі на другі год!!!

Металічныя дзверы грымнулі й Мікіта пабег да ліфта, ён яшчэ паспеў пачуць, як за ім мама зачыніла дзверы, павярнуўшы ключы двойчы ў левы бок... Хлапчук выбег на вуліцу, было каля трох гадзінаў, сонца ледзь праглядала праз хмары, якія былі відавочна вясновымі і вабілі сваім шэра-малочным колерам... Мікіта пабег да прыпынку, прытрымліваючы заплечнік за шлейкі... Ён не любіў панядзелкі... Пасля школы – хуткі абед і да рэпетытара... Быццам спецыяльна тыдзень пачынаўся з такіх цяжкіх выпрабаванняў – дзве вучэбныя гадзіны матэматыкі... Гэта псавала яму настрой... І кожны раз, калі трэба было спяшацца, менавіта па панядзелках ягоныя аднакласнікі прыдумлялі розныя цікавыя забаўлялкі й гульні пасля школы... І кожны раз ён быў заняты... І так цягнулася ажно з верасня... не, лухта... з траўня... калі настаўніца па матэматыцы выклікала бацькоў, дакладней, матулю і ціхенька, у куточку, паведаміла ёй, што можа пакінуць яго на другі год, калі ён нарэшце не возьмецца за алгебру й не падцягне яе... Вядома, настаўніца давала нядвухсэнсоўны намёк на тое, каб яе зрабілі рэпетытарам... Але што тут паробіш... Мама пагадзілася й пачаліся ягоныя пакуты... Настаўніца хацела, каб ён да яе прыходзіў ажно тры разы на тыдзень, але цяжкое фінансавае становішча не дазволіла, і Мікіта гэтаму быў рады... Магчыма, упершыню ён быў рады, што ў іх сям'і не было дастаткова грошай...

Ён не дабег да аўтобуснага прыпынку і, збочыўшы, нырнуў у прахалодныя тунелі падземкі... “Асцярожна, дзверы зачыняюцца”... Мікіта ніколі не чуў гукаў і чужых размоваў у метро... ягоныя слухаўкі, яшчэ калі ён пакідаў кватэру, уздрыгвалі ад музычных бітоў Фэт Бой Сліма, дыджэя, якога яму адкрыў сябра, старэйшы за яго на два гады... Мікіта любіў бавіць час за слуханнем музыкі й марыў пра тое, як ён будзе стаяць за пультам і круціць вінілавыя кружэлкі... А яшчэ ён марыў пра кар'еру біёлага...

Цягнік зачыніў дзверы і рушыў у чорны тунель...

Мікіту нельга было назваць няўважлівым альбо неразумным хлопцам... Ён, як звычайна гэта надыходзіць у пэўным узросце, марыў пра каханне, дзяўчат, пра будучыню і, лежачы ў ложку, часта ўяўляў сябе тым ці іншым героем... Часцей за ўсё ён уяўляў сябе ў ролі Чубакі з “Зорных войнаў”, а таксама Чалавекам-невідзімкам...

Праз трыццаць хвілінаў ён ужо быў у кватэры Вольгі Аляксандраўны, настаўніцы... Жанчыны, тоўстай у сцёгнах, з круглаю кучараваю (хімічная завіўка на маленькія каклюшкі) галавою... і расфарбаваным тварам, нібыта ў грыме... Яна кожны раз усім сваім выглядам нагадвала яму Рональда Макдональда... І кожны раз ён уяўляў сабе, як яна дастае з кішэні шырокіх штаноў абалонік і робіць з яго надзьмутага сабачку... Але кожны раз усё заканчвалася аднолькава... Вольга Аляксандраўна прыціскала яго старым фатэлем да стала й яны пачыналі працаваць... Выгляд настаўніцы цалкам не пасаваў ейнаму характару... Яна была жанчынай злой і тоўстай, таму часта на сваіх уроках прасіла дзяцей набываць ёй яблычны воцат і прыносіць перад заняткамі... Бо калі яго, яблычны воцат, піць у пэўнай колькасці, ён дапамагае худнець... “Нічога табе ўжо не дапаможа, курва”, – разважалі вучні, седзячы за партамі...

Час пачаў марна цягнуцца... У пяць пятнаццаць ён будзе вольным, але да гэтага – цэлая вечнасць...

– Не, ну я не разумею, як гэта ты ніяк не можаш уцяміць дзяленне дробаў!!!

– Вольга Аляксандраўна, я проста не разумею, як можна падзяліць, напрыклад, траціну яблыка на чвэрць... гэта НЕМАГЧЫМА! – абураўся Мікітка.

– Божухна Святы... Дзякуй табе, што гэтаму дзіцёнку не трэба здаваць іспыты ў які “мехмат” альбо на “фізіка”! – уздымала вочы да столі настаўніца. – Ты ж, Мікітка, ніяк не здольны да матэматыкі, табе трэба ў які гуманітарны... Добра, што мне з табою даводзіцца падцягваць толькі школьную праграму! – плакалася Вольга Аляксандраўна.

Праз неймаверна доўгі час Мікітка нарэшце апынуўся на свежым паветры, і яму больш не заміналі ані парфума настаўніцы, ані пах ейнай коткі з туалета... Ён увабраў лёгкімі свежае паветра й хуценька пабег да падземкі...

Метро праглынула яго... У чэраве цягніка было не надта ўтульна, але скразняк крыху аблягчыў цяжкасці пераезду... Вагон быў спрэс напампаваны пасажырамі, якія, стомлена пазіраючы ў прастору, ехалі з адзінымі думкамі: хутчэй дадому, а там фатэль, вячэра, адпачынак...

Панядзелак – дзень цяжкі...

Са слухавак даносілася, як голасна спяваў Токіа Гатэль... Раптам зазваніла мабілка, Мікіта дастаў з аднаго вуха “музыку” і, пабачыўшы на экране слова “мама”, адказаў:

– Ма, я цяпер у метро еду, нічога не чую (!),ператэлефануй праз колькі хвілінаў, якраз буду пераходзіць з “Купалаўскай” на “Кастрычніцкую”!!!

Праз дзесяць хвілінаў грымнуў выбух на станцыі “Кастрычніцкая”... Святло адключылася... Пайшоў дым, попел, нехта крычаў, хтосьці ляментаваў... нехта гарэў... Людзі беглі ў розныя бакі, ступаючы адно на аднаго,

трымаючы адно аднаго, дапамагаючы адно аднаму... Вакол жах смерці... жах... жах... жах.

Калі спусціліся першыя брыгады хуткай, лекары пабачылі шмат параненых, забітых... Людзі плакалі й стагналі... Гэта было падобна да таго, нібыта спускаешся ў пекла... Малады лекар, пабачыўшы разарваную на шматкі вопратку на яшчэ амаль дзіцячым целе, схапіў яго й пабег вонкі, на вуліцу, на праспект...

Але было ўжо позна... Пакуль лекар бег па прыступках эскалатара, спрэс закіданага рэкламаю, якая ад выбуховай хвалі ўпала са сценаў, ён чуў, як няспынна ў кішэньцы хлопчыка грае музыка... "Магчыма, рынгтон мабілкі", – падумаў лекар... Ужо на вуліцы ён паклаў цела на насілкі і з жалем у сэрцы выявіў, што хлопец памёр... Ён дастаў мабілку... Гэта была спартовая мадэль "Нокіа" – корпус гумовы, каляровы дысплей, магчымасць запампоўкі сваёй музыкі на рынгтоны, mp3, плэер, гульні, слухаўкі ў дадатак... Лекар паклаў мабілку, ужо без слухавак, каля цела... Яго адразу паклікалі на дапамогу параненай дзяўчыне... А мабілка звaніла... На дысплеі свяцілася "мама"... Рынгтон на ёй быў нейкі нязграбны, гэтую песню Мікіту яшчэ сябра запампоўваў, недзе з тыдзень таму: "It's the first day of the rest of your life"... Цалкам дурны й абсурдны рынгтон, які цяпер гучаў неяк няўтульна й ненатуральна... Быццам спявак не ведаў таго, пра што спяваў.

*13.04.2011,*
*Мінск*

Валер Дубоўскі



...відочнае –
гэта часовае,
невідочнае толькі –
вечнае ...

# Дарога дамоў

* * *

Самы ранні
апалы лісток –
нібы чалавек,
няўрымслівa ранні,
які спяшаецца,
даўшы зарок,
на апошняе спатканне.
Ён аднойчы
мару прыснiў –
толькі з зорамі
тайнай дзяліцца.
Ад чалавечай
быць мітусьні
далей
і з дурнямі не вадзіцца.
Ён, здаецца,
зрабіў усё:

і дом,
і пры доме ганак.
Усцешваўся:
як шапаціць лісцё!
Мроіў:
як свеціць світанак!
Ногі мачыў
у золкай расе.
Асушваў часам
горкі кілішак.
Шчасціўся:
сын разумны расце.
Саромеўся:
вершы навошта піша?
Прамяніў, было,
і сам прамянеў
ад крэўных слоў
водара агністага.
Айчыны самотнай
нязніклівы спеў
слухаў –
паланез Агінскага.
Да памяці продкаў
на куце туліўся
за бела-чырвоным абрусам.
А матчынай мовы
ледзь не пазбыўся ...

Быў чалавек
беларусам.

* * *

Урэшце
мне сэнс вядомы
і слоў,
і далёкіх дымоў.
Думаў –
дарога з дому.
Напраўдзе –
дарога дамоў.

* * *

Чэрвень.
Пярэспа.
Вечар.

Пяшчоціць таполевы пух.
Марыць і плакаць
Аб нечым
Лягчэй, калі вы удвух .

Калі
Набрынялыя стомай
Сэрцы гатовы змаўчаць,
Збылое даруй другому,
У прышлым
Другому дарадзь.
Калі
Незбянтэжана й плыўна
Пасля гаваркіх перуноў
Пачуццяў таемных
Хвіліна
Звякуе ў Свіслачы
Зноў.

* * *

Ад збалеласці
Хмараў-часін
Грамы
У нябёснай ступцы
Б'юць.
...Немагчыма дайсці
І немагчыма вярнуцца.
І хочацца прыпыніцца
Пад зоркай
Самай высокай,
На беларускім
Гасцінцы,
Ля гаваркога вытоку.
Небрутальным
Мужчынскім плачам,
Нязмушаным,
Некрыклівым,
За плынь вытоку аддзячу,
За празрыстасць
Кожнага звіву.
За тое,
Што чуе шчыра
І слабасць тваю даруе.
І усміхнешся,
Мужчына,
На дарожку,
Яшчэ даўгую.

Брыду
Па апалым лісці,
Па жыцці –
Нехаджанай вулцы.
І немагчыма дайсці,
І немагчыма вярнуцца.

* * *

...А часткі
ў цэлае звяду.
Ты новай еднасці
не руш.
Вітаецца
свавольства дум,
ды толькі
не свавольства душ.

* * *

За жыццёвай
спазнанай высноваю
нам віднечаю
одум высвечвае:
што відочнае –
гэта часовае,
невідочнае толькі –
вечнае.

* * *

Пятага ліпеня,
На пляцы Волі,
Дзе таполяў сцішаных
Гонкія станы,
У цэнтры горада,
Не ў чыстым полі
Вачыма тваімі
Я быў расстраляны.

***МАЛЫЯ ЛАЗІЦЫ***

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя...
Далягляд –
Як душа наросхрыст.

Матулі маёй
Малыя Лазіцы
Досвіткам свецяцца
Ясным і росным.

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя...
Вы яшчэ ёсць,
І гэта дзівосна.
Вам, як і мне,
Небадолу маліцца,
Сланечным і зямным
Матуліным кроснам.

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя...
Пах ваш радзінны,
Пах лазовы
Мацней
Паўразбураных камяніцаў,
Трывалей за цьмяныя
Звыклыя словы.

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя...
Ад марнадумства
І ад скуголля,
Вы падкажыце,
Чым бараніцца.
Як не пазбыцца
Мовы і волі?

Лозы ніцыя,
Лозы ніцыя...
Далягляд –
Як душа наросхрыст.
Матулі маёй
Малыя Лазіцы
Досвіткам свяцяцца
Ясным і росным.

* * *

Вэлюмам снежным
Акрыўся
Горад. Прыпынак трамвайны.
З вяснянай узрушанай

Тайны
Мне без цябе
Што карысці!
Такая ўся
філарманічная –
Ты з акадэміі
Музыкі.
А я ў пераходзе вузенькім
Грошы
У шапцы падлічваю.
Ні скрыпкі,
Ні акардэона.
Песню адну вясковую
З паганскім тэкстам-высноваю
З гармоніка цісну
Шалёна.
Пра тое,
Што зоркі не ўпалі
І жыць на зямлі
Не горка,
І прыйдзеш ты,
Босая зорка,
Паўторыцца зноўку
Купалле.

* * *

Маё старое драпавае
паліто
даўно зраслося
са мной.
Стала мной.
Увасабленнем мары:
бадзяцца па свеце,
па шклоўскіх пагорках,
па ашмянскім бруку.
Паліто
гатовае без мяне,
ужо былога,
як сцень-невідзімка,
пайсці самахоць.
Адчуць пах
неспазнанай прасторы.
І маёй самоты.

Ігар Сідарук



...замахвацца на свабоду народа –
дабром не скончыцца...

# Стадыён

## *Прыпавесць*

Пад сінім небам радзімы гучаў дзяржаўны гімн.

Стадыён стаяў столькі, колькі стаяла дзяржава. А можа, і нашмат болей. Проста ніхто дакладна не памятаў. Аб часе яго збудавання нават не захавалася ніякай дакументацыі. Урэшце, гэтая акалічнасць мала каго цікавіла.

Стары стадыён жыў. Штодзённа, напружана, функцыянальна. З раніцы і амаль да змяркання ён быў вялізнай гандлёвай пляцоўкай. Па ўсім перыметры стадыёна стаялі гандлёвыя шапікі, намёты, раскладныя сталы. Натоўп віраваў. Людзі хадзілі, прыцэньваліся, спрачаліся. Куплялі або проста разглядвалі ці абмацвалі тавар. Пілі піва ці елі марозіва, неслі купленае дахаты. Надвячоркам усё замірала. Але толькі на час. На гадзіну-другую, што дазваляла дворнікам змесці дзённае гандлёвае смецце, навесці звыклы парадак на падыходах да трыбунаў.

А потым усё ўзрывалася. Бязлітасныя пражэктары ў тысячы мегаватаў асвятлялі зялёнае поле. Пад яркімі электрычнымі промнямі была бачная кожная травінка і нават жылкі на ёй. Трыбуны гулі перагрэтымі трансфарматарамі. Яны былі поўныя. Яшчэ не было такога дня, каб недзе заставалася вольнае месца. Калі ж такое нечакана здаралася, асабліва бліжэй да поля, за права валодаць ім усчыналася жорсткая бойка. Тады безразборліва й цвёрда ў ход ужо ішлі дручкі паліцыянтаў. Паміж трыбунамі й полем яны заўсёды стаялі ў некалькі шчыльных, непрабівальных шэрагаў.

На шчасце, усё дзейства было бачна як на далоні. Да таго ж, некалькі неабсяжных, велічынёй у палову неба, табло дапамагалі ў тым. Людзей заўсёды цікавілі падрабязнасці й дэталі. Без іх яны не маглі жыць.

Людскі гуд заглушаў усё. У ім патаналі непахісныя, узнёслыя словы каментатара. Растваралiся гукі строгіх урачыстых маршаў, губляліся лірычныя паўзы між імі. Разбіваўся ўзарваным і безвыходным, іншым разам магло падацца, проста іранічна-здзеклівым енкам яшчэ нечы няўцешны крык...

А потым людзі сыходзілі. Невялічкімі натоўпамі і па адным. З бачнай шкадобаю й пачуццём добра выкананае справы пакідалі стадыён. Многія жанчыны ціха, каб толькі не ўголас, плакалі. Хтосьці смяяўся, распавядаў падрабязнасці. Але часцей ішлі моўчкі. Моўчкі некага ванітавала ў траву...

* * *

– Як стадыён?.. – строгім і стомленым вокам змерыў ён справаздатчыка.

– Пакуль стабільна. Сто тысячаў даляраў штодзённага прыбытку ў казну. Гэта без уліку той арэнднай платы, што за гандлярамі. Але ёсць акалічнасць. Стадыён даўно ў аварыйным стане. Патрабуе капітальнага...

– Зробім! Дам распараджэнне, – нецярпліва пляснуў далонню па сталу. – Білеты па-ранейшаму па два даляры?

– Так.

– І ўсё ж на некаторыя праекты... – задумліва пагрукаў алоўкам па стосіку шэрых тэчак перад сабой. – Падвышаць не думалі?

– Дазвольце маё меркаванне? Людзям трэба стабільнасць. Яны да яе прывыклі. Падвысіць можна. Але заўсёды знойдуцца незадаволеныя. Незадаволеныя і вы – гэта, як самі разумееце, нонсенс. Хопіць з нас таго, што на стале ў міністра замежных справаў – зноў з раніцы чатыры пратэсты. І зноў – тое ж самае...

– Плюнь. Што ж, калі не стаміўся... Можаш быць вольны.

– Я дык не стаміўся. Стаміўся чалавек...

Ён ускінуў свае строгія, шырокія бровы.

– Ад чаго ён стаміўся? Здаецца, не даём перапрацавацца.

– Не ад гэтага. Але кажа, што болей не можа.

– Дык зрабіце, каб мог! Знайдзіце яму жанчыну, сто восем жанчын!.. Кватэру яму памяняйце на ўласную выспу ў Гвадэлупе! Грошай просіць? Дык дайце...

– Прапаноўвалі й спрабавалі. Нічога не хоча. Хоча сысці.

– Знайдзіце іншага! А гэтага – самі ведаеце...

– Спрабавалі таксама. Але...

– Што?

– Ніхто не хоча.

– Чаму?

– Думаю, элементарна баяцца.

– Што, ва ўсёй краіне няма ніводнага чалавека?!

– ...

– Ведаеш што? Калі ты гэтаму стомленаму ўсё ж свежага паветра ў зад не ўдзьмеш, ты ў мяне свой зад уласнага твару адрозніваць перастанеш! Або шукай іншага. Або самога цябе на пасаду афармім. Ганаровую!.. Усё, свабодны!

* * *

Суддзя выцер чыстай насоўкай пот з ілба і нават незаўважна страсянуў кропельку з носа. Чарговы вырак быў вынесены. Вырак, які, па ўсім было бачна, быў адобраны прысутнымі аднагалосна.

Не сказаць, каб ён быў задаволены. Штосьці яго насцярожвала. І ўжо не першы раз. Па-першае, ніхто з іх не прызнаў сябе вінаватым. Па-другое, пад надта сур'ёзны артыкул яны патраплялі, пад надта сур'ёзны... Ды так часта. Па-трэцяе... Па-трэцяе, урэшце, усё астатняе – матэрыялы следства, паказанні сведкаў у судзе, прамова дзяржаўнага абвінаваўцы і нават няўцямныя рэплікі адвакатаў – усё гаварыла, што чалавек вінаваты. А значыць...

А значыць, ён зноў сёння ці заўтра будзе чэрпаць маленькай срэбнай лыжачкай чорную ікру з пупка белакудрай дзівы, злізваючы апошнія ікрынкі языком на пару з гэткай жа бялявай лярвоткаю.

* * *

А потым усё змянілася. Нечакана хутка і радыкальна. Прыйшлі іншыя людзі й парадкі. І над краінай – залунаў іншы дзяржаўны гімн.

Толькі над старым стадыёнам – па вечарах па-ранейшаму білі яркім і несканчальным электрычным святлом пражэктары.

Білі да той пары, пакуль раптам кудысьці не знік чалавек, які стаміўся нашмат раней да часу тых пераменаў.

* * *

– Дакладвайце.

– Пакуль нідзе не можам знайсці. Нібы вада скрозь сіта...

– Ці трэба, аднак? Гэты стадыён... У наш час!.. Ганьба нацыі!

– Так...

– Дык зрабіце што-небудзь!

– Так, ганьба. Толькі вы самі скажыце. Мы спрабавалі. І што? "Будзе стадыён – пойдзем! І за вамі, і за пераўтварэннямі вашымі. А не будзе..." Ды вы самі паслухайце.

Гардзіны крыху адхінуліся. У кабінет нібы ўварваўся гарачы, рухомы шар, сплецены з рыку, шалу, патрабаванняў.

– Да таго ж, людзі хочуць элементарнага: есці, цяпла, мыцца ў ванне...

– Усё дадзім, усё зробім. Але гэта – трэба прыбраць!

– Без сумневу. Але стадыён... Яны не здадуць. Дый судовыя механізмы... Усё без збояў. Ужо дзесяцігоддзі...

– Божа. Ужо дзесяцігоддзі, а то й стагоддзі гэты народ не ведае чаго хоча!

– Ведае. Таму й стаіць. За свой стадыён. За сваю свабоду. – Падначалены ўсміхнуўся. – А замахвацца на свабоду народа – дабром не скончыцца.

– Але гэта ненармальна!

– Ненармальна. Толькі вы самі чулі... – кіўнуў ён у бок вакна. – Як варыянт, можна было знайсці іншага. Нават з нашых... Так нават прасцей.

Бо з гэтых... – зноў ківок у бок вакна. – Ніхто не хоча. Толькі гэта, можа, і не варыянт. Уцягваць іншых людзей, пускаць нежаданыя пагалоскі... Ці трэба? Чужародны элемент у адладжаным механізме – самі ведаеце...

– Ідзіце. Я падумаю над гэтым.

Наступным ранкам было аддадзенае распараджэнне знайсці стомленага чалавека, дзе б той ні быў. І не толькі знайсці, а прымусіць да працы як бы ні адпіраўся.

* * *

Ён стаяў пасярод стадыёна. Стаяў, апусціўшы галаў, неадрыўна гледзячы ў траву... Ён спрабаваў адагнаць тыя думкі, аднак важкі пісталет у руцэ ўпарта нагадваў аб ягонай шматгадовае справе. Справе, якую ніхто не бачыў, і якая ўрэшце мела зыход на вачах шматтысячнага натоўпу.

Ён спрабаваў адмовіцца, уцячы, ніколі таго не рабіць. Толькі яму не давалі. Знаходзілі, вялі гутаркі. Душэўныя і не вельмі. Забяспечвалі да дзясятага пакалення. Іншым разам – проста білі. Жорстка, бязлітасна. Адліваючы вадою і зноў апрацоўваючы пад арэх.

І ён зноў выходзіў на працу. Амаль штодзённа, выконваючы сваю місію (ха, місію!..) трапна, дакладна, як мае быць. Ён быў прафесіяналам. Адзіным... Так, ён ведаў: яго шукалі й цяпер. Паўсюль, дзе маглі, але толькі не тут. Не тут, дзе знаходзілі апошні кавалачак сіняга неба над галавою тыя... Тыя, каго ён ніколі не бачыў у твар, хоць ведаў: зусім не яны павінны былі стаяць у такія хвіліны сярод стадыёна, а... а...

Стрэл прагучаў, як пішуць у танных раманах, суха й нечакана. Перад тым, як апусціцца на роўнае, акуратнае падстрыжанае пакрыццё стадыённага поля, ён крыху здзіўлена ўскінуў вока на мачту з пражэктарамі – нібы хтосьці страляў адтуль. Толькі страляў ён сам. Кантрольнага стрэлу не спатрэбілася – паколькі на працягу стольких гадоў ён усё ж быў прафесіяналам.

Адзіным прафесіяналам, які ўрэшце стаміўся.

Ягоны твар навечна зліўся з зямлёй. Кроплі крыві пырснулі на траву, якая надта добра ведала гэты смак. І – гэты стрэл аказаўся фатальным не толькі для яго. Стадыён, стары стадыён, час збудавання якога ніхто дакладна не памятаў, і пра што нават не захавалася ніякай дакументацыі, раптам нібы цяжка ўздыхнуў, потым задрыжаў, пахіснуўся ўсімі сваімі трыбунамі, пражэктарамі, збудаваннямі. І лёг, апусціўся, рассыпаўся – каляровым і брудным тынкам, вечнымі кавалкамі, цяжкім і пыльным друзам.

Наступнымі днямі шалёны натоўп, які разам са старым стадыёнам нібы страціў самае інтымнае і дарагое, змёў прэч і назаўжды рэжым, які нават прэтэндаваў называцца рэжымам пераўтварэнняў.

* * *

Першым падпісаным дакументам новае ўлады было распараджэнне аб аднаўленні стадыённае чашы. Група добраахвотнікаў запусціла ў паветра тысячы рознакаляровых балонікаў. Чуліся радасныя, усхваляваныя крыкі. Мужчыны чокаліся бутэлькамі з півам, жанчыны плакалі й усміхаліся.

Пад сінім небам радзімы гучаў чарговы дзяржаўны гімн.

*31 ліпеня, 2009 г., Кобрын.*



Алесь Вярцейка



...я як расліна
расту ўгару...

# Рэха чорна-белых сноў

*   *   *

Мы дзеці ў бясконцым свеце:
Ляцім за трызнай наўздагон.
Усё паставіўшы на кон,
Шукаем шчасця на планеце.

Мы птушкі: вышыня нябёс
Уздымае ціск, спыняе дых,
Наш дзіўна-незвычайны лёс
Імкне пераадолець іх.

Мы – птушкі...
Мы – дзеці неба...

*   *   *

У рэху чорна-белых сноў
Злаўлю цябе мярэжай думаў

Аркуш жыцця пачну наноў
Пад шэпт старых крывіцкіх рунаў
Памкнуся ў невядомы край
У калаўрот штодзённых мрояў
Дзе пераможаны адчай
І зніч гарыць святлом герояў

* * *

Раніца. Думкі, народжаныя ў кубку
экзістэнцыяльнай вусцішы пёркамі
кладуцца на аркуш бялюткай паперы
вымалёўваючы дзівосны піруэт.

Раніца. Свядомасць улятучваецца
ў нябыт падсвядомасці й лунае
крывіцкім сцягам па-над соннымі дахамі
менскіх гмахаў.

Раніца. Душа, вызваленая з княства Тартару,
адраджаецца крыкам ненароджанага
немаўлятка й патрабуе новага жыцця
з бялюткага аркуша паперы...

* * *

Я сёння ізноў адзін
Поруч стаіць кубак
даўно астыглай гарбаты.
Ноч пануе знадворку.
Ты недзе там –
У палаце № 13.
Уваччу праплываюць вобразы –
глюкі, узніклыя ад самоты,
міражы маіх думак, ахутаныя
ў шызафрынічную смугу:
рассеяныя расейцы,
іранічныя іранцы,
затурканыя туркі –
ў агоніі апатычна пачуваюся
Хадановічам, які, напэўна, не ведае
пра маё існаванне на гэтай
планеце з гучнай назвай Зямля.
На ўскрайку адчайнай бездані
на выспе маёй горычы
застаецца адзінае выйсце:
“Вольныя танцы” пад музыку

Сокалава-Воюша,
на тэксты Адама Глёбуса,
пад воплескі вірлівага натоўпу,
які даўно забыўся на сваё
чалавечае накаванне.

* * *

Я дзіця Сусвету
сяджу на ўскрайку
абшарнага космасу й
грэюся прамянямі
усмешліва-яскравага сонца.
Ты ўсмешліва-яскравае Сонца
сагрэй мяне сваімі пратуберанцамі
бывае, часам ты так прыпякаеш,
што вірам кружляе галава ў
хаосе.
Але.
Цягну свае парасткі да тваёй
шматкропнае існасці, жыву,
дык грэй жа, Сонца, грэй!

* * *

Наступіць ноч.
І кавава-цыгарэтныя сны
агарнуць тваё зграбнае цела
сваёй тытунёва-попельнай
існасцю. У салодка-жахлівых
снах ты будзеш шукаць шлях да
неба, але ў натоўпе менскага
дэмасу ён згубіць свой сэнс:
праўда у кожнага своя (!). І
застанецца спадзеў на гэту
лютаўска-цыгарэтную ноч,
калі ты ўзнялася над прыступкамі
ўласнай Свабоды.

* * *

Дождж – стыхія раўназначная маёй існасці:
сённяшнія думкі, настрой, характар –
дождж, які лагодна накрыў Зямлю ў
гэты шэры восеньскі дзень.
Я ж – малое дзіця гэтага вялікага

свету, лаўлю яго буйнакаліберныя
пацалункі ў зняможлівай смазе
раскрыўшы рот.

* * *

адзінота
дурнота
гаркота
рэчаіснасць
кастрычнік
слота
закавулкі
развагі
маркота.
хто ты?

* * *

водар свабоды ў паветры лунаў
промнем вясёлкі імкнуўся ў абшары
жарсцю натхнёны ў нябёсы імчаў
ў празе дасягнуць жаданае мары

знічкай нязгаснай ляцеў наўздагон
супроць цямрэчы паўсталай з Тартару
вольнаю пташкай крочыў да зор
пераадолеўшы чорныя хмары

* * *

Аднойчы напісаў паэт:
“Каханне выратуе свет...”
Паклаўшы словы ў трыялет,
Аднойчы напісаў паэт...
Ды толькі быў глухі сусвет,
А хтось сказаў, што “это бред”,
Як толькі напісаў паэт:
“Каханне выратуе свет...”

## *МАНАЛОГ АНАТОЛЯ СЫСА*

Я п’ю адзін чырвонае віно:
Каханне, Адраджэнне, мова,
Усё мінула, страчана даўно,
Я пакараны за грахі сурова.

Я сам спаліў апошнія шляхі,
І не ўратуюць створаныя вершы.
Ох, лёс мой! Брыдкасна-сухі,
Ты ж ведаеш, што я ў цябе не першы.

Да досвітку дарога ў крокаў сто,
Пара ляцець. Збіраюся ў вырай.
Мне так туды хацелася даўно,
Хоць і трымаўся за абшары ніваў.

Але чуваць, грукоча ў дзверы рок,
Ў сутоннях сонных менскіх хатаў,
Бы ў даўніх мроях. Думак вадасцёк
сыходзіць чарадою вольных птахаў.

дэбют

Юлія Цяльпук



...гэты вечар
не па кішэнях нам...

# Дзень чужой мовы

* * *

ніколі не будзе дастаткова
кавалі і падковы
мармуровыя паўзы
у гісторыі словаў
наступная серыя Гаўза
Дзень Мовы

тое што несла мяне на плячох
спынілася
а я без панчохаў
не рэдзі
не ледзі
ружовыя ногі
замерзлі ў снезе
але не ратуйце
я мушу быць незде
уласнай дарогаю

хоць нeяк
хоць трохі

лірыка белых пухнатых аблокаў
з покатам памаранчовага дыску
за небакраю пруцце
ніколі не плыць мне такою шырокаю
густою ракою празрыстых пачуццяў
так блізка зямлі
што туман уцякае
з яе ў варожыя грудзі

як спраўдзіцца
так
цераз ўласны праклён
цераз уласны
пра клён
аповед
на Мове
якая сканае
на Мове
якою не важна пра што
толькі б апавядалі

ніколі не будзе дастаткова
кавалі і падковы
пакручастыя словы
з адмыслова
зробленаю паміж паўзаю
апошняя серыя Гаўза
Дзень Мовы
чужой мовы

на ёй не гучыць Нарачанскі Хлеб
Бабуля на ёй
не такая трапяткая
і Вогнішча
нібы ўжо не гарыць
і Сонца
якое ўстае з-за гары
нібы напалову сонца
Паветраны Шар разбіваецца на балонікі
свінцовыя конікі-аднадзёнкі
змятаюць дворнікі з-пад балконаў
калі яшчэ цёмна
і спяць непрытомныя
пад пільнай аховаю звонку...

й няможна выказацца без цябе
няможна да сэрцаў знайсці пароляў
дастаткова не будзе ніколі
я смакую твой снег
я няспынна гатова
даць свой голас табе
быць адбіткам цябе
даравацъ табе сціпласць
Мова

* * *

хіт-малахіт
я на мапе цалую Крыт
я ў вочы гляджу
відавочнасцю нізкіх патрэбаў
калі гэтае неба
над табою балюча вісіць
фак ін неба

кажаш – веюць не тыя вятры
пазяхаеш на роспач
а ў мяне было
цэлых тры
а чацвёрты быў трошкі-трошкі
і заўсёды глядзеў згары...

90 старонак падману
шпацыруе з табою Мой Бой
па алеях і рэстаранах
там дзе кідаюцца глыбінёй
крывапжэрцы навечна п'яныя

гэты вечар
не па кішэнях нам
дай мне плечы
гайда ў натуральны стан
фарбаваць зразумелыя рэчы
гэты вечар
не па кішэнях нам
дай мне плечы

кажаш – цёплага не нацякло
ад сярэдзіны кнігаў не пішуць
з ніадкуль не гарыць святло
не спявае начная ціша...

я цябе абдымаю-маю
бачыш краем

правага вока
як шкляныя згасаюць вокны
як за дзіва цябе прымаюць
як трымаюць адлегласць сэрцы...
вер мне
спраўдзіцца і праліецца
хто нясе той заўжды атрымае
пераможа хто б'ецца

...лёсы як кросны
сплятае рука твая рваная
бронзавым кноццем
па нягнуткасці чорнага вечара
запалілі ліхтар
і зрабілася простае спрэчным
не глядзі
не глядзі
чысцінёю сваёй не знявечвай...

хіт-малахіт
паляцелі са мною на Крыт

* * *

вераснем быць
а застацца знаёмым
цацкі мае
цяпер бяздомныя
любыя людзі
зрабіліся гномамі
ходзяць прыдуманыя
пад балконамі
вясны непрытомнай
па мапах сталіц
дабіцца якіх –
літаральна – на «хуткім»
і проста

якога росту
мяцеліца ў горадзе
імклівыя людзі
фарбуюцца ў чорнае
ад вейкаў густых
да лабковай косці
кантрастныя ў снезе
малююць сляды
а ты вырываеш
пазногцямі
сівое з сваёй барады

звыклы з маршрутамі
не прымае
рамонту дарог
й неспадзеўнае слаты
а я вываpочваюся
вар'ятам
пракладваючы шляхі
да хворай сваёй
невяртальнасці
я ў нідзе
як заўсёды адзін

мелодыі мрояцца
б'юць у падрэбра
у сонечны зайчык
ля цвёрдага сэрца.
манія дбання
і несупынны кантроль
над сваім
чалавекаўмельствам

гэты горад
мая бандэроль
з сургучнай пячаткаю
падобнай да шакаладу
недасціпная
і бескаштоўная
таму я рассыпаны
як вінаград
бо не ведаю
што за сусвет
трапіў
у папяровы квадрат

дзень ляціць
без любых варыянтаў
і цыклічнасць яго
узаконеная
я палю
на балконах горада
я не кінуў
і страціў спробы
не паліць
не любіць
і не быць
апраўдаў сябе
выкінуў прэч
я быў трусам

шэрым як воўк
і ваўком
палахлівым
як трус

а цяпер
я не звер –
я гнюс
што бяжыць мімаходзь крыватолкаў
у новы свет
дзе накрыты абрус
дзе вятры
не чакаюць прычынаў
там я здзейснюся як мужчына
бо любая баба надломіцца
кожны раз націскацца спачатку
і спыняцца ў першай трацiне

* * *

мурашы завяліся
рудыя
вымятаюць усё
што знайшлося

пад плітой
у каралеўскіх талерках
пад адзеннем
і перад вачыма
пралятаюць яны
як лавіна
нас жывымі ядуць!!!
нас жывымі!!!
непрыкметна!!!
непрыкметна!!!
вымятаюць усё
што знайшлося...

...нам самотна было
ды страшна
што заўважылі іх
выпадкова
проста седзячы
у мурашніку

Наталля Ярмольчык



…чым мне не падабаецца Зямля,
дык гэта тым, што там
усё вакол нежывое, штучнае…

# Блог анёла

***Аповед***

Ніколі не думаў, што пачну пісаць блог, але ж дзе ты тут дзенешся: кіраўніцтва гэтак настойліва-ветліва папрасіла занатоўваць сваю дзейнасць (дзеля справаздачы і, канешне, дзеля самаразвіцця працаўнікоў), што адмовіцца не атрымалася. Яшчэ і конкурс аб'явіла на самы лепшы блог.

Я разумею, што шанцаў у ім перамагчы ў мяне няма, не толькі таму, што пішу я так сабе, ані дрэнна, ані добра. Усё значна прасцей: калі астатнія анёлы пахапалі свае ноутбукі, і навыперадкі распачаўся забег іхніх пальцаў па клавіятуры, я займаўся зусім іншай справай. Вельмі важнай, дарэчы... Кажу пра гэта шчыра, без аніякіх там аківокаў, нават нягледзячы на тое, што гэтая карысная справа была маім пакараннем.

Так, я не з'яўляюся прыкладам для пераймання, як Ален, які зусім хутка пяройдзе з нашага аддзела кахання-замілавання ў аддзел выратавання. Што і казаць, ратаваць людзей больш прэстыжна, чым займацца ўладкаваннем іх асабістых лёсаў. У якія толькі

сітуацыі не патрапіш, пакуль Ён і Яна нарэшце закахаюцца і пачнуць жыць шчасліва разам. Яны ж, падчас сваркі шпурляюць адзін у аднаго ўсё што пад руку патрапіць, і хоць мы заўжды ў такіх выпадках імкнемся ім лёгкія рэчы падкладваць, але ж не заўсёды паспяваем, бо альбо ты рэчы падкладаеш, альбо адскокваеш ад таго, што ў цябе ляціць.

Ален, сумленны Ален... З ліхтаром пад вокам, здараецца, ходзіць. Ратаваць людзей – гэта добра, праўда, таксама небяспечна і зноў жа адказнасці больш, але ў якасці кампенсацыі за фізічныя пашкоджанні табе забяспечана маральнае задавальненне і адчуванне сябе героем амаль што кожны дзень.

А я вось ужо ніколі не стану анёлам аддзела выратавання і ўсё праз гэтыя гульні кампутарныя – як толькі выходзіць новая цацка, забываю пра ўсё на свеце і завісаю перад ноутбукам. Менавіта праз іх мяне і пакаралі: два месяцы я працаваў у бібліятэцы. Пераносіў са старажытных фаліянтаў у нашую сістэму гісторыі кахання людзей. Ой, чаго толькі я там не начытаўся.

Але пра тое пазней раскажу, не дзеля захавання чытацкага інтарэсу адкладаю я гэтыя аповеды, а таму толькі, што не маю зараз дастаткова часу.

Праз гадзіну ляцім мы з Аленам у новую краіну. Адказны і старанны Ален ужо рыхтуецца да паездкі, учора зазірнуў да мяне, пагутарылі крыху, казаў, што вывучыў ужо некалькі выразаў з мовы краіны нашага прызначэння. Я запомніў толькі некалькі: “Прывітанне!”, “Дзякуй”, “Калі ласка”, “Купляйце беларускае”.

Не скажу, што я ўсцешаны тым, што ў бліжэйшы час буду працаваць з Аленам. Мы не сябры, дый наўрад калі-небудзь імі станем, не магу я яму адну рэч дараваць. Калі мы яшчэ былі малымі і толькі вучыліся таму, што павінны ведаць анёлы, Ален неяк выпадкова ці наўмысна (хто яго разбярэ!) выпэцкаў пасму маіх валасоў атрамантам. Гэта потым, значна пазней, з’явіліся асадкі, ноутбукі, мабільныя тэлефоны, а ў нашым дзяцінстве нічога гэтага не было. Дык вось пасля гэтага здарэння я маю на светлай маёй галаве чорную пасму, што, на маю думку, перашкаджае іншым гарманічна ўспрымаць мяне як асобу. Што я толькі ні рабіў, каб пазбавіцца ад ганебнай плямы, чым толькі ні мыў валасы, як толькі патрапляў на Зямлю, бег у крамы, набываў пральныя парашкі з надзеяй на хуткае збавенне, ды дзе там... Нягледзячы на тое, што ўсмешка плямы з кожнай спробай зіхцела не так пераможна-радасна, але межы яе тэрыторыі, так па-здрадніцку захопленыя, заўжды заставаліся непарушнымі. І няхай пасля гэтага рэкламам верыць працягваюць адно толькі даверлівыя людзі, але не я!

Патэлефанаваў Ален, дамовіліся сустрэцца праз паўгадзіны каля ліфта, які апусціць нас на Зямлю, у патрэбную нам краіну. Ален нагадаў не забыць узяць з сабой новы гаджэт, лавшукач. Дзе ж ён? Вунь ляжыць на далонях лілеі.

Чым мне не падабаецца Зямля, дык гэта тым, што там усё вакол нежывое, штучнае, няма ні сталоў з кветак, ні мяккіх фатэляў з травы, ні ложка з ліянаў. Добра, калі мэбля будзе з дрэва, а не з пластыку, які так страшэнна смярдзіць. Давядзецца прызвычайвацца...

Так, не забыць, лавшукач, гэтае ноу-хау нашага тэхнічнага аддзела. Напрыдумляюць там усяго, а нам потым правярай іхнія дасягненні на практыцы. Кіраўнік нашага аддзела кахання-замілавання генеральны анёл

Антоніо (даведка: імёны ўсіх анёлаў пачынаюцца выключна з літары А) спачатку быў катэгарычна супраць усялякіх навінак, але з часам зразумеў, што мабільныя тэлефоны, ноутбукі, інтэрнэт значна спрашчаюць і паляпшаюць нашую працу. Пераканаўчым доказам неабходнасці выкарыстання сучасных гаджэтаў сталі вынікі мінулай пяцігодкі, якія засведчылі, што колькасць людзей, знайшоўшых сваіх каханых, павялічылася ўдвая.

На дасягнутым шэф вырашыў не супакойвацца і загадаў тэхнічнаму аддзелу знізіць верагоднасць памылкі пры вызначэнні хто-каму-як найлепш падыходзіць і, такім чынам, паменшыць колькасць скасаваных шлюбаў на Зямлі. Яны ламалі галаву, ламалі – і прыдумалі лавшукач. Цяпер анёлу дастаткова навесці яго на чалавека, і на экране гэтага маленькага цуда-апарата (з выгляду ён нагадвае мабільны тэлефон) з'яўляецца інфармацыя як пра чалавека, так і пра яго будучую палавінку. Фотаздымак, узрост, характар, звычкі, адрас, месца працы і нават адбіткі пальцаў. Генеральны ўскладае на яго вялікія надзеі, а пакуль нам патрэбна яго пратэсціраваць, выявіць недахопы, выказаць пажаданні распрацоўшчыкам перад масавым выпускам у вытворчасць.

Ну ўсё, час развітвацца. Яшчэ пераапрануцца патрэбна, зняць крылы і нацягнуць звычайную чалавечую вопратку. Учора пры Алене прыкінуў сваё адзенне, ён сказаў, што на Зямлі так апранаюцца толькі рокеры-вар'яты. Ну дык што, мы ж у асноўным з моладдзю будзем працаваць.

Я хацеў было заўважыць, каго ён мне нагадвае ў сваім касцюме і чаравіках, але стрымаўся. Да таго ж, ён збянтэжыў мяне сваім адказам. Калі я спытаў: транты Дольчэ Габана ці Версачы на ім, Ален паглядзеў на сябе неяк дзіўна знізу ўверх і прамовіў важна "Марко... Камінтэрн". Мабыць, нейкі малады італьянскі альбо іспанскі дызайнер, мне пакуль невядомы.

Учора, па маёй ініцыятыве, мы і імёны сабе выбралі ў адпаведнасці з фанетычнымі і лексічнымі асаблівасцямі мовы краіны нашага падарожжа: мяне завуць Алекс, значыць буду Алесем, а Алену прапанаваў імя Алень, ён пагадзіўся, я асабліва не разбіраўся, што яно значыць, думаю, на месцы пабачым, што да чаго. Адно магу сказаць, калі Ваш анёл Алень, то Вам пашчасціла вельмі, але я таксама збіраюся станавіцца на шлях выпраўлення, бо хачу, каб людзі знаходзілі адно аднаго і былі шчаслівымі. Як падумаю, колькі людзей на Зямлі праз мяне засталіся ў самоце, пакуль я ў гульні рэзаўся, аж не па сабе становіцца. Абяцаю выправіцца.

Ваш анёл Алекс-Алесь

*P. S.* Наступны мой допіс будзе ўжо з краіны, пра якую я пакуль нічога не ведаю, але спадзяюся, мне там спадабаецца. Абяцаю, што мы з Аленам-Аленем зробім усё магчымае і немагчымае, каб шчаслівых людзей там стала больш.

Такім чынам, у наступны раз чытайце:

Краіна нашага прызначэння, эканамічная і палітычная сітуацыя.

Як перажылі мы культурны шок.

Умовы, створаныя для працы анёлаў, вырашэнне побытавых праблем, праблем камунікацыі з насельніцтвам.

Колькасць заключаных і скасаваных шлюбаў.

І яшчэ шмат-шмат цікавага.

Што яшчэ можна сказаць? А вось... Чытайце мой блог, Людзі! Не веру, што перамагу, аднак, надзея ёсць...

дэбют

Алесь Плотка



...Ты ніхто
І я ніхто
Так камфортна
Быць на роўных...

# Шлю паштоўку арыштанту

## *ВОДАРАМ*

Водарам,
А не кветкай
Застацца добра ў вяках!

Гонарам
Чужым дзеткам
Дрэўкам, што ганьбіць сцяг

Гоманам
Па-над лёсам
Сваім і чужым, бо ты -

Колерам
Занябёсным,
Не першым і не другім

Талерам
Неразменным,
Якога ў кішэні няма

Возерам
Неабсяжным,
Бязводным, дзе плыць дарма

Берагам
Запаведным,
Які не ўбачыш у снах

...Водарам,
А не кветкай
Застацца добра ў вяках!

## ...НАЗАЎТРА БЫЛА ЗІМА

Ці ўсё мы сказаць паспелі?
...назаўтра была зіма...
Хісталі жыцця арэлі
...хісталі кагось дарма...

Хісталі жыцця дарогі
Шырока, на ўсе бакі
Маўкліва ведалі ногі
Што трэба ісці напрасткі

Паснулі Купала і Колас
Над светам сапе вайна
Гукайма ж вясну ўголас!
...назаўтра была зіма...

## 1937

шлю паштоўку арыштанту
пішу шэптам і з пашанай
штандар шэры над кляштарам
шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
на паштамце шалясценне
аркушоў і шапаценне
шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
шэльмы шэльмаў шкваркай лашчаць
штольні душаў нібы пашчы
шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
плошчы нашы нібы прошчы

шчокі нам на шчасце хвошчуць
шлю паштоўку арыштанту

## КАЛОНЫ

пешшу
ісці
дадому

несці
свой крыж самому

лепшым
гасцям
садому

вершы
наўсцяж
калонаў

## ДАРУЙ МНЕ, МАМА

Даруй мне, мама, што не стаў інжынерам
Даруй мне, мама, што не стаў афіцэрам
Бо інжынераў і афіцэраў
Тут да халеры заўжды

Як хаваюць паэтаў – не чутна стрэлаў
Як хаваюць паэтаў – не чутна гімнаў
І толькі ціха, з зямлёю побач
Пачуеш – звіняць званы...

## ВЕЦЕР І ВЯРБА

Ці кахаў ён яе? Вядома – кахаў!
Гэта ведалі ўсе. Не было гэта простым
Вецер лісце-далоні яе калыхаў
Вярба пела яму, усцілаючы ростань

## КЕЛІХ ВІНА

Келіх віна, салата, брынза:
Сам на сам сёння,
Danke schön!
Мая вайна апошняй гільзай
чарговы  выпусціць патрон

І на паклон я крочу моўчкі
Бы ў палон да думкі той,

Што пляц свой самі робім творчым.
Jedem das Seine…
Зранку – бой!

### МУЗА

Ты ніхто
І я ніхто
Так камфортна
Быць на роўных

Ты ніхто
І я ніхто
Хопіць песень
Памяркоўных

Мая муза п’е штоночы
Твар у твар вочы ў вочы
Так прыемна быць на роўных
...ты ніхто і я ніхто

Ты ніхто
І я ніхто
Жнівень. Ранак
Шклянка піва

Ты ніхто
І я ніхто
П’яны ганак
Будзь шчаслівай

След бензіну на асфальце
Дайце волі, курвы, дайце!
Так прыемна быць на роўных
...ты ніхто і я ніхто

...Мая муза п’е штоночы
...Твар у твар вочы ў вочы
...Мая муза п’е штоночы
... ты ніхто і я ніхто....

### НАША АЛЬТАНКА

А ты даруй нам, дзед Васіль,
Не ўсё мы, пэўна, зразумелі
Жаўцее восень. Еду. Стыль
Жыцця майго, нібы арэлі

А ты даруй нам, дзед Рыгор,
Мы ў гэтай восені шукаем
І рай і вырай. За бугор
Таксама нехта адлятае

Даруй, дзед Фёдар, што сышлі
Зямлі так мала зналі пальцы.
Ды дрэвы песняй прараслі
Шумяць у нашае альтанцы

## ПАРАНОЙЯ.BY

лінія
высакавольтная
уздоуж ідзе
моўчкі еду я

лінія
мой цягнік нясе
хто я ёсць?
і ці гэта я?

лінія
па далонях прэч
кожны дзень
маю рацыю

лінія
метамфетамін
модны дзэн
канспірацыя

лінія
гарызонтам ёсць
твой канал
тэлевізія

лінія
і вакол вачэй
марны час
межы лініі

лінія
ты заусёды сам
кожны дзень
маеш рацыю

лінія
метамфетамін
модны дзэн
канспірацыя

Алона Кімхі



...новыя рэпатрыянты — гэта як турысты, толькі на ўсё жыццё...

# Зацьменне Месяца

***Апавяданне***

Сёння ноччу будзе месяцовае зацьменне.

Сёння ноччу чорны цень ахіне Месяц, і той знікне. Трэба чакаць — гэта не ў восем-дзевяць, калі мне кажуць ісці спаць (бач ты, спаць яны мяне кладуць!). Не, гэта будзе пазней, амаль апоўначы.

Роўна ў адзінаццаць трыццаць восем чорны цень апусціцца на яго, на Месяц. Цень зямнога шара заслоніць яго, і той знікне. У сэнсе, Месяц знікне. А потым вернецца. І я выключу святло толькі тады. Толькі тады.

Гэта ён сказаў мне пра зацьменне. Пра месяцовае. Ён сказаў мне так: «Анастасія, будзе зацьменне Месяца, і гэта астраномія, разумееш, як ты ўжо ведаеш, дзе знаходзяцца сузор'і (па-руску — *созвездія**), Касіяпея,

*Пераклад з іўрыту Паўла КАСЦЮКЕВІЧА.*

---

* У арыгінале ўсе расійскія словы пішуцца іўрыцкімі літарамі і нахіленым шрыфтам, таму, каб захаваць аўтарскія асаблівасці тэксту, у перакладзе расійскія словы падаюцца беларускімі літарамі – *заўв. перакладчыка.*

Арыён (гэта тры зоркі ў дзязе), Вялікі Воз, Малы Воз, Палярная зорка (ты ведаеш, як яе знаходзіць), і проста зоркі: Сірыус (гэта самая вялікая, якую бачым), і Вега. Дык зараз пабачыш яшчэ месяцовае зацьменне. Гэта прыгожа».

У яго ёсць такая схільнасць — вучыць мяне ўсяму на свеце, каб я была разумным чалавекам. Вось дзе ж лухта непадсяваная! Як быццам бы пакуль яго не было, я нічому не вучылася. Пры тым што я ўмею чытаць з чатырох гадоў. Гэта, вядома ж, у яго не лічыцца, і тое, што я ўмею гуляць у шахматы таксама... І яшчэ я шмат чаго ведаю без яго!

Мяне вучылі процьме ўсялякіх рэчаў, яшчэ да таго, як з'явіўся ён. Яна́ мяне вучыла. Яна...

А таксама дзед і бабця мяне вучылі. Бабця — настаўніца, гэта яе праца, настаўніца матэматыкі ў малодшых класах. Настаўніца-выхавацель. Але яна не вучыла мяне лічыць, бо мяне запісалі ў першы клас у іншай школе, каб іншыя дзеці не зайздросцілі, што яна мая бабуля. І таму пасля школы яна вучыла мяне ўсялякім іншым рэчам. Брала мяне на класічны балет — гэта такі гурток у доме Культуры нашага горада.

У гуртку нас было адзінаццаць дзяўчатак: каб дарослыя — дык не сказаць, гэта называецца пачатковы ўзровень, усе дзеці з садка. У кожнай унутры бальных сукняў — вялікі пузік, падобны да кавуна. Гэта таму што нашыя тулавы яшчэ дзіцячыя, так сказала нам настаўніца Наталля Пятроўна. Гэтая Наталля Пятроўна была калісь вялікай танцоўшчыцай у балеце, прымай-балерынай, але ж пастарэла. І ў яе не было моцы скакаць, як раней. Яе жывот зрабіўся вялікі, як у нас, але ж тое ад старасці. Быў там таксама піяніст Шурык, які па сваёй сапраўднай прафесіі наагул быў студэнтам у тэхнікуме.

А граў ён на піяніна толькі таму, што Наталля Пятроўна была яго персанальная мама.

Я шмат чаму навучылася на тых занятках. Для кожнага руху, высвятляецца, ёсць свая назва, па-французску.

Напрыклад «гранд-пліе-рэлэвэ», што азначае апусціцца на дупку і падняцца. Або напрыклад «батман-тэндзю» ці «гран-батман»,«арабеск» — што гэта ўсялякія падыманні нагі ўперад і назад, якія трэба паказваць, а патлумачыць — дык немагчыма.

Часам Шурык граў што-небудзь вясёлае, напрыклад, вальс, і мы бегалі па зале, гойсалі туды-сюды, кожны раз як нейкая істота: адзін раз як птушкі, потым — як пчолы. І адзін раз ад усіх гэтых бегаў і скокаў я нават паваліліся, бо ўвесь час глядзелася ў вялікае люстэрка на ўсю сценку, аж пакуль не паслізнулася — мне ж было важна ўбачыць, ці падобная я трошкі да сапраўднай балерыны. Як толькі я павалілася, то адразу пачаўся страшэнны вэрхал, і з майго носа палілася кроў; тады Шурык узяў мяне на рукі, і ўсе пабеглі шукаць маю бабцю, якая піла чай у кавярні з іншымі мамамі і бабцямі. Потым да носа прыклалі мокрую насоўку і сказалі адкінуць галаву назад, пакуль не перастала цекчы кроў. Потым бабця купіла мне таматны сок, і мы паехалі дадому.

Вялікай панікі бабця не падымала ніколі, бо яна — настаўніца-выхавацель у малодшых класах, і ва ўсім гэтым у яе шмат досведу. Яна, бабця, была што трэба. *Бабушка.* Яна нават не мела такіх рук, якія былі ў іншых бабцяў, якія любяць хапаць цябе, абдымаць, цалаваць слінай. Усялякія такія ўтомныя рэчы. Максімум, яна мяне абдыме і дасць маленечкага плескача па дупцы, але тое з любові. У яе быў такі сабе стыль любасці да мяне. Яна таксама брала мяне на балетныя сеансы: «Шчаўкунок», «Прыспаная

прыгажуня». Калі мы ішлі ў Палац культуры, я абувала свой звычайны абутак, але калі мы заходзілі ў сярэдзіну, дык яна даставала спецыяльныя балетныя тапачкі з гуртка і надзявала мне на ногі, каб я, калі буду глядзець балет, таксама рабілася крыху танцоўшчыцай.

Праз досвед настаўніцы-выхавацеля ў бабці заўсёды былі розныя штучкі-хітрыкі на ўсялякую бяду. Напрыклад, калі пасярод балету мне хацелася піць, дык яна даставала са свайго каша біклажку з сіняй пластмасы, налівала ў накрыўку халодны чай і давала мне яго ціхенька папіць, каб я не выбягала за дзверы і не нервавала гледачоў. У некаторых выпадках выбару не заставалася — я мусіла выйсці, дык яна праціскалася ў цемры і гучна-гучна шаптала: «*Ізвініте, ізвініте пожалуйста*», што азначае «прабачце, калі ласка» па-руску, і нават, нягледзячы, што ўсе злаваліся, ніколі не саступала пакуль мы не апыналіся ў вестыбюлі і адтуль ужо ішлі ў прыбіральню Палаца культуры.

Дома мы таксама не нудзіліся. Часам яна вучыла мяне ляпіць катлеты з фаршу, але не давала мне рабіць усе катлеты разам — толькі парачку маленькіх катлетак, і я ела іх сама — каб навучылася быць самастойнай. А таксама бабця вучыла трушчыць арэхі дзвярмі, лічыць табліцу памнажэння, штукаваць піражкі з цеста ў форме сабачых гаўняшак, засоўваць падушку ў наўлечку — усё ў такой манеры. Час ад часу мы гулялі ў шахматы. Раз яна перамагае, раз — я. Вось такое навучанне было ў нас.

Дзед, да прыкладу, вучыў мяне крыху менш за бабулю, бо цэлы дзень працаваў. Ветэрынарам. Але не для ўсялякіх там капіталістычных кацянят ці сабачанят, а для кароваў у калгасе. І таксама для коней. Для розных такіх патрэбных жывёл. Калі дзед вяртаўся ўвечары, дык ад яго пахла каровінымі ляпёхамі, і ён хапаў мяне, колючы мяне сваёй шчэццю, але я на скардзілася, бо ён з любові.

Аднойчы дзед прынёс мне марскую свінку. Я яе назвала Тарасік, паводле імені доктара Оснеса — сямейнага лекара нашай сям'і. Рудзенькую такую. Сімпатычная свінка, але трошкі смярдзіць. Мне сказалі, што я павінна мыць ейную скрынку кожны дзень. У педагагічных мэтах. Мне шмат якія рэчы казалі рабіць не таму, што трэба, а ў педагагічных мэтах. Цікава, хто такі гэты Педагагіч, які прыдумаў такую лухту непадсяваную. Але тыя завіханні доўга не працягнулася — праз каторы час, можа быць, праз месяц, Тарасік памёр. Я тут жа папрасіла, каб мне прынеслі іншага, бо я ўжо навучылася як мае абыходзіцца са скрынкай, але мне сказалі, што так хутка забываць — гэта з майго боку негуманна, і што я павінна пачакаць нейкі час і пасумаваць, каб усцешыцца, калі мне прынясуць новага тарасіка.

Пасля таго, як я даволі шмат пасумавала, я сказала дзеду: «*наверное, уже хватіт*» — «пэўна, ужо досыць». І тады ён пайшоў на кухню спытаць бабцю, і яна крыху падумала, глянула на мяне, удыхнула гэтак на поўныя грудзі: «Ну, хай ужо». І тады дзед зрабіў мне гэты знак вялікім пальцам, што ўсё ў парадку і сказаў, гэтым разам будзе сапраўдны сюрпрыз.

Наступным ранкам ён прывёў мне такога маленькага козліка, казляня, з калгасу. Гэты козлік быў увесь чорны, з мяккай і прыемнай, усё роўна як ядвабнай поўсцю, і чорнымі бліскучымі вачыма. Я на яго мела шмат планаў. Думала, што калі ён вырасце, дык яму можна будзе адразаць поўсць і зрабіць каўнер для ангельскага палітона бабці, а таксама гуляць з козлікам па вуліцы на аброжку і перад усімі красавацца.

Але ўрэшце нічога такога не атрымалася. Дзед забраў козліка назад у калгас ужо назаўтра. Рэч у тым, што гэты казёл меў цяжкі характар.

Значна цяжэйшы за Тарасікаў. Козлік не быў гатовы сядзець у скрыні і ўночы чыніў шмат шкоды: жаваў фіранкі, чвякаў і выплёўваў шматочкі паперы і раскідваўся сваімі казлінымі гаўняшкамі па ўсёй хаце. І тады яго забралі назад у калгас. Там яму дазваляецца ўвесь гэты ягоны вэрхал. Проста ёсць такія жывёлы, якім лепей гадавацца на вуліцы. Во як.

Цяпер, калі мы ў Ізраілі год і дзевяць месяцаў, ён думае, што мяне трэба ўсяму вучыць. Бач які адказны. Педагагічны. А Яе ўнёсак? Яе навучанне ўжо не ў лік. Вось такая выснова. Чаму? Бо Яна не педагагічная. Яна мяне раздурвае ўвесь час. Так лічыць ён. А тое, што я ўмею чытаць з чатырох гадоў і ведаю на памяць песні па-французску, і гуляю ў шахматы, Ёй гэтага не залічваецца. Для яго гэта нішто. А як патрэбна вучыць, разумее толькі ён.

Тата дык наогул не ў лік, бо ён памёр. І нават тое, што ў мяне ягоныя валасы і ягоны нос, гэта ўжо няважна. Цяпер ёсць ён. Замест майго таты. Але я ні за што не буду клікаць яго «тата», нават калі мяне будуць катаваць у інквізіцыі! «Якаў» і кропка. Па яго імені, і толькі так. А яшчэ Яна называе яго «Якаў» або «Яшенька». «Яшенька» — гэта памяншальна-ласкальнае імя. Як маё ласкальнае імя «Настенька» ці «Настёна». Але ён называе мяне толькі *Настя*.

Цяпер, калі Яна ажанілася з ім, і забрала мяне ў Ізраіль, усё памянялася. Цяпер мы нічога не робім проста так. Цяпер усё толькі ў выхаваўчых мэтах. Нават калі ідзем на мора. Наша мора — гэта пляж у Ака[1]. Назва пляжу — Фінікавы пляж. Але ніякімі фінікамі там і не пахне. Пляж назвалі Фінікавым, каб людзі хацелі сюды прыходзіць. Усё капіталістычная рэклама.

У нашым Львове ніякага мора не было. Калі мы хацелі на пляж, дык трэба было ляцець у Адэсу. На самалёце. Штолета Яна брала адпачынак на працы, брала мяне, сваю сястру Ксеню з хлопчыкамі блізнятамі — Мішам і Лёнчыкам, найлепшую сваю сяброўку Галю з яе тоўстай дачкой Софачкай, і яшчэ гумовы матрац, напалову чырвоны, напалову — сіні, каб плаваць у моры, і тады мы ляцелі на самалёце ў Адэсу.

У Адэсе было небяды. Мы знаходзілі пакой у доме адэскай сям'і (цётка Ксеня казала, што яны антысеміты, то бок ненавідзяць габрэяў, то бок нас, але не паказваюць гэтага, бо гэта так не прынята) і арандавалі яго. Адзін пакой для ўсіх. Адзін на адным — трое ў адным ложку, а некаторыя на матрацах, на падлозе. Але цесната нас не трывожыла, бо гэта была прыгода. А галоўнае? Галоўнае — гэта мора.

Кожны ранак мамы будзілі нас. Мы чысцілі зубы і вырушвалі ў паход. Звычайна мора было далёка ад месца, дзе мы жылі. Часам мы ішлі паўгадзіны і можа нават больш, але мы былі ўсцешаныя. Папераддзе беглі блізняткі, потым я, і вельмі далёка, амаль разам з мамамі, — тоўстая Софачка са сваім жоўтым вядзерцам.

Мамы ішлі апошнія і неслі кошыкі з ежай на ўвесь дзень: садавіна, памідоры, яйкі ўкрутую, ды іхні гумовы матрац, на якім яны любяць гойдацца на вадзе ўсё роўна, як салёныя агуркі.

Калі што мы з блізнятамі таксама любілі, дык гэта купацца, дарма што плаўчыха я невялікая, так сабе трохі плёхкаюся, абы не патануць. Яна заўсёды глядзела на мяне і смяялася, нібыта гэта анекдот ці што, і яе грудзі скакалі як пры землятрусе, і таксама казала, што я плаваю стылем сабачкі. Па-сабачы. Я трохі крыўдавала, але мае плёхканні былі значна

[1] Гарадок на поўначы Ізраіля, непадалёк ад Хайфы.

лепшыя, чым Софачкі, якая не ўмела плаваць наогул, і проста ляжала ў вадзе, як селядзец.

Цяпер усё становішча з морам цалкам памянялася. У вясёлы бок? Ой, дакладна, не ў вясёлы. Далібог. Тут у Ізраілі нікуды не трэба ляцець на самалёце, бо блізка мяжа, а мора ёсць у кожным горадзе, нават у самым дробным. Якраз гэта мне вельмі падабалася — але тое было яшчэ да таго, як я даведалася, як усё пойдзе. Цяпер мы нават на мора ходзім па педагагічнай прычыне. Ён хоча памяняць мяне ў лепшы бок. І Яе таксама.

Цяпер, больш ніколі не ходзім туды дзеля плавання або загарання. Цяпер ён тлумачыць: «Гэта пабудавалі крыжакі, тое — туркі-мамлюкі... Халва-пахлава, нацыянальная арабская кухня....»

А Яна? Яна ўвесь час слухае яго. Цікаўная. І кажа мне: «Хадзі, Настенька, паслухай Якава, вельмі цікава ён кажа».

У моры цяпер нават сабачы стыль не ў лік, і нельга проста плёхацца. Бач ты — плаваць ён мяне вучыць. Хапае за жывот і кажа: «Рабі так рукамі, па баках, удыхай праз нос, выдыхай праз рот». Гушкае мяне, блытае мяне. І я ўвесь час глытаю ваду! Вось чаму ў моры трэба дыхаць неяк па-іншаму, а не як заўсёды?!

Калі ён пакідае мяне ў спакоі, я адыходжу як мага далей. Іду ўздоўж пляжа. На аўтобусным талончыку, які я дастала з торбы, пішу слова «Ратуйце!», трохі корпаюся ў марской гразюцы, дастаю пустую бутэльку «кока-колы», кладу ў сярэдзіну гэты талончык, заляпляю дзірку смалой. Можа, яе знойдуць піраты, ці яшчэ хто, і выратуюць мяне з гэтай дрыгвы.

Раптам я чую крыкі. Паварочваюся. Яна і ён махаюць мне рукамі, як паліцыянты машынам. Я ж — паслухмяная дзяўчынка, іду да іх назад. Ён пытае, чаму я шпурляю бутэлькі ў мора. Засмечваю. Яго любы Ізраіль засмечваю, ды глядзіць на Яе. А Яна, кажа (і вочы Яе бегаюць), што я ўся ў смале. У педагагічным тоне. Раптам і Яе пачаў хваляваць гэты Ізраіль. У Савецкім Саюзе Ізраіль яе не хваляваў. Напрыклад, калі дзед пачынаў слухаць «У эфіры голас Ізраіля з Ерусаліму» на іўрыце, дык Яна рабіла такі кіслы твар, а Яе вочы станавіліся вялікія, як вінаградзіны, і яна казала: «*Папа, ради Бога!*», што па-расійску азначае «Тата, напрамілы Бог!». Бо Яна пакутавала ад рыпаў і сыкаў, якія даносіліся з прыймача. Проста расійцы не хацелі, каб габрэі слухалі гэтае ізраільскае радыё, і таму рабілі гармідар у хвалях: «т-ррр, т-ррр, бі-біп, бі-біп».

І раптам Ёй стала цікава. Раптам Яна таксама зрабілася сіяністкай.

Пасля мора мы не вяртаемся дадому. Ідзем гуляць па вулках, па Ака. Якаў працягвае: «Гэта крыжакі, а там — мамлюкі», а мне хочацца піць, піць! І есці таксама. А ўжо полудзень. Калі быў, напрыклад, поўдзень у Адэсе, дык мы елі. І да полудня, і пасля. Але ж тут па-іншаму. Аднойчы я бачыла фільм пра крыжакоў, якія елі курку і цымес. Пілі віно. У кнізе «Айвенга» крыжакі таксама елі даволі рэгулярна. Пра туркаў-мамлюкаў я ведаю менш, але ўпэўненая, што яны таксама трушчылі за абедзьве шчакі, былі не супраць шашлыка і халвы-пахлавы. У маёй галаве карусель са словаў. Я паўтараю іх, пакуль яны не пачынаюць свой сэнс і робяцца смешныя-смешныя, без усялякай сувязі, што яны азначаюць, «мамлюкі—крыжакі», «крыжакі—мамлюкі». Гэтакая спёка!

Мы мінаем кіёск з «Кока-колай», або рэстаран, дзе людзі ядуць, дзе так прыемна пахне, а ён кажа Ёй: «Звярні ўвагу, Маша, гэта ўсходні рэстаранчык, а тое — тыповая арыентальная кавярня». Урэшце я кажу ёй

ціхенька: «*Мама, я хочу пить*», шапчу Ёй па-расійску, і Яна так імгненна адказвае: «Пацярпі, хутка паедзем дадому».

Ён кажа, што купляць на вуліцы ежу — гідка, брудна, у ёй процьма мікробаў. Так яго прывучылі ў Савецкім Саюзе. Выдае, што яму ў Савецкім Саюзе ніхто ніколі не купляў нічога на вуліцы. Можа быць, таму што ў яго такі несімпатычны характар, ніхто не хацеў яму нічога купляць. А вось мне, у Савецкім Саюзе, якраз куплялі на вуліцы. І яшчэ як! Бабця купляла мне газіроўку, семкі — усё што было. Эскімо. Пеўніка чырвонага колеру на палачцы. Вось такія ласункі.

Цяпер мы «новыя рэпатрыянты». Новыя рэпатрыянты — гэта як турысты, толькі на ўсё жыццё. Ды ў іх мала грошай. Праз гэта мне не купляюць на вуліцы нічога. І таксама таму, што бабця з намі не пайшла. Калі я думаю пра гэта, у мяне шчыпае ў носе. Такая вось чуллівасць. Ад самоты. Калі мы ехалі па дарозе ў Ізраіль, я думала што гэта будзе цікава. Думала, што будуць цікавыя здарэнні, прыгоды. У самалёце «Эль-Аль» я ўвесь час паўтарала іўрыцкія словы, якія я вывучыла з дапаможніка для новага рэпатрыянта: «Рэпатрыянт, я не размаўляю на іўрыце, інтэрнат для рэпатрыянтаў, рэпатрыянт, я не размаўляю на іўрыце, інтэрнат для рэпатрыянтаў». Аж пакуль Яна мяне не перапыніла: «Насця, што такое? Ты што, здурнела! Што ты там усё мармычаш?»

Гэта Яна сказала ад нерваў. Яна была ўзлаваная ўсю дарогу ў Ізраіль, бо на пачатку мы згубілі Якава. Так, так. Калі мы перасаджваліся ў Вене, дзе была нашая перасадка паміж Савецкім Саюзам і Ізраілем, Якаў знік. На вуліцы. У Вене. Яго шукалі ўвесь дзень, да вечара, нават з венскай паліцыяй, і ўсялякімі прадстаўнікамі габрэйскага агенцтва, і з перакладчыцай Зінай, і мы таксама шукалі. А Яе твар выцягнуўся ад хвалявання, і кончыкі яе вуснаў апусціліся долу, як на масцы грэцкай трагедыі з міфалагічнай кнігі. Урэшце ён вярнуўся сам. Пехам. Да палаца. Выяўляецца, ён зайшоў у кнігарню з геаграфічнымі кнігамі. Знянацку, яму, бач ты, раптам захацелася пачытаць якую-небудзь геаграфічную кніжку, пакруціць які-небудзь венскі глобус, крышку пашырыць свае гарызонты. Я ўвогуле не ўцяміла, у чым тут цымус, бо ў Вене ўсе кнігі ўвогуле па-нямецку: як ён думаў у іх нешта зразумець? Як?! Я запытала Яе пра гэта, а Яна адказала, што ён разумее ідыш, а гэта трошкі падобна, і таксама сказала, каб я не была такой абрыдлівай. Тады я больш нічога не пыталася, але дагэтуль не разумею, чаму яму намуляла пашырыць свае гарызонты менавіта ў Вене, якраз у той час, калі яна ўся на нервах. Калі я з усяе моцы намагаюся паводзіцца, як след, дык і ён таксама можа. З часу таго знікнення, усю дарогу ў Ізраіль, Яна засталася знерваваная і ўвесь час трымала мяне за руку, а яго — пад локаць, каб мы не згубіліся, нібыта ў Вене заблукала і я таксама. Са мною ж такога нізавошта не магло здарыцца. Я заўсёды баюся згубіцца, і ў мяне няма патрэбы пашыраць свае гарызонты менавіта ў той момант, калі мы едзем у Ізраіль. Але ўсё гэта было даўно... Цяпер я ў Ака магу толькі марыць, калі ўжо скончацца вуліцы, мячэты і пляжы, і мы нарэшце паедзем дадому.

«Крыжакі, мамлюкі». Сандалі муляюць мне, а на вялікім пальцы балючы мазоль, такі пухір з вадою ў сярэдзіне. І спёка. Піць я хачу, піць. Яна трошкі спагадае мне, кажа, «можа быць, знойдзем па дарозе які кран з вадою, пап’еш тады». Але наўкола няма ніякага крана. Паветра белае-белае, перад вачыма — зоркі, а я спрабую скаўтнуць трохі сліны з рота, але язык сухі.

«Гэта крыжакі, а там мамлюкі. Тут вось Напалеон крыкнуў, а вунь дзе

Напалеон пердыкнуў» (гэтага ён не кажа, гэта я проста сачыняю ціхенька ў думках, каб рассмяшыць самую сябе). Заходзім на базар. Ён жа ўвогуле не стаміўся: з таго, як мы прыехалі ў Ізраіль, у яго процьма энергіі. Відаць, ад вялікага шчасцейка. Працягвае вучыць нас: восточный базар — «усходні базар» па-расійску. І, вядома ж, не забывае на паўторак: «Крыжакі, мамлюкі». Святло — гарачае, і пахі наўкола, пахі і колеры, і гэтыя размовы па-арабску, што я нічога-чагенькі не разумею. Цяпер ён тлумачыць пра арабаў ды іхнія звычаі. Арабскія звычаі — жудасныя звычаі, садысцкія. Напрыклад, не есці цэлы месяц з-за іхняга Бога[1].

Навошта ж у іх ёсць Бог: каб дапамагаць, або каб ладзіць жыццё, як у працоўным лагеры, як у сібірскім ГУЛАГу, дзе Салжаніцын (гэта такі культурна-педагагічны суб'ект, які ненавідзіць Савецкі Саюз і піша кнігі, якія Яна і ён увесь час чытаюць)? Потым Якаву яго гістарычныя расповеды надакучваюць і ён прымаецца за батанічныя, — расказвае ёй усялякія розныя гісторыі-тлумачэнні пра арабскую гародніну. «Глядзі якія персікі!» — кажа ён Ёй, — І які вінаград!». Такія самыя, выхваляецца ён, былі ў горадзе Самарканд, куды ён уцёк са сваёй матуляй, калі была другая сусветная вайна. Я, калі б была на той вайне, нізавошта не ўцякала б, а ваявала б разам з партызанамі, у лясах. Дачкой палка была б. Гэта былі такія ўсім вядомыя выпадкі з дзецьмі, якіх партызаны страх як любілі, распавядалі ім жарты, усынаўлялі і ўдачкаўлялі іх, і рабілі ўсіхнімі дзецьмі, і вучылі іх заганяць фашыстам шэсць куляў праміж вачэй, з пісталета «маўзер». А ён?! Прабавіўся ўсю вайну ў Самаркандзе са сваёй матуляй і персікамі. Яна мне калісь тлумачыла, што тады ад фашыстаў уцякалі ўсе, нават Яна з сям'ёю, з дзедам, бабцяй і ўсімі іншымі. Проста яны былі габрэямі, а фашысты рабілі з габрэяў мыла, а ён таксама габрэй, і яго мама таксама. Яны не жадалі, каб з іх пачалі рабіць шампунь, і таму яны мусілі даць драла, бо высветлілася, што і расійскія партызаны любілі габрэяў не вельмі. Ясная рэч, так і развіўся ўвесь гэты сіянізм.

Я габрэйка напалову. На Яе палову. Мой тата наогул быў расеец, але на гэты конт мне сказалі языка не вытыркаць, бо тут у Ізраілі трэба, каб усе былі габрэі. Савецкіх габрэяў ізраільцяне не надта любяць, з-за акцэнту і стылю вопраткі. І ў дадатак усялякія пытанні пераходу ў іншыя рэлігіі, якія я не вельмі разумею. Таму я ўлічваю гэта, і свой язык не вытыркаю — маўчу пра сваю паўрасійскасць, дарма што гэтае маўчанне нешта кшталту хлусні (калі як след падумаць).

Высветлілася, што Ака — вялікі горад. Прынамсі, такі самы вялікі, як які Самарканд або Нью-Ёрк. Не заканчваецца. Ідзем-ідзем, і колькі б ні ішлі — усё няма яму канца. Я заплюшчваю вочы, працягваючы ісці за імі, і думаю, як жа гэтыя арабы могуць цэлы месяц не есці?! Вось я: не ела са снедання і мне ўжо духі падвяло. Раптам адчуваю млосць, як у самалёце, і ў нос залятае пах, гідкі такі, пах мёртвай рыбы. Гэта адмысловая крама для рыбы, арабская крама. Мёртвыя рыбіны ляжаць у трох зялёных пластмасавых скрынях, поўных цёплай смярдзючай вады і трохі лёду. І я чую яго: «Ну, Маша, глянь ты якія сардзіны!.. А крабы!». І я таксама спрабую ўбачыць, дзе там ёсць крабы, але тут жа стала цёмна, і зрабілася ціха-ціхенька ўвушшу — толькі яе голас здалёк: «*Ой, Настенька, доченька,*

[1] Тут Насця кажа пра месяц паста Рамадан, калі ўдзень праверныя мусульмане ўстрымліваюцца ад ежы *(заўвага перакладчыка)*.

*что случілось?*». І потым доўгі такі гук — думаю, што гэта быў до-дыез, і потым я не чула ўжо нічога.

Няма таго, што раньш было. Жыццё такое сабе дзіўнае. Калі б нехта папрасіў мяне растлумачыць, дык я заблыталася б з адказам. Але ніхто ж не просіць.

Як добра, што Ёй нічога не трэба тлумачыць, бо Яна сама знаходзіцца тут, бачыць усё на ўласныя вочы — прынамсі сяды-тады. У час, калі Яна не на працы. Бо, напрыклад, ён наогул не бывае на працы, бо пакуль што не знайшоў. У Савецкім Саюзе ён быў настаўнікам гісторыі, а цяпер не ведае як след іўрыту, каб тую гісторыю выкладаць, і таму ён шукае якуюнебудзь іншую працу.

У Савецкім Саюзе Яна казала, што ён ведае іўрыт. Дасканала. Проста геній іўрыта быў (казала Яна), а цяпер — ні бэ, ні мэ. Калі ён прыехаў сюды, дык яго іўрыт збегся, як швэдар пасля прання. Яна кажа: гэтак сталася, бо ён — чалавек сціплы і што ён ведае шмат болей, чым кажа. У Савецкім Саюзе, калі ён наведваў нас, дык прыносіў такую таўшчэзную кнігу, сінюю. Іўрыцка-расійскі ды расійска-іўрыцкі слоўнік, які напісаў адзін там такі Шапіра. І таму ў нас клікалі слоўнік «шапірам». («Насця, дзе шапіра?», «Насця, пакладзі шапіру, каб дзверы не ляскалі», «Насця, не трушчы шапірам арэхі, гэта ж кніга, напрамілы Бог!»). Аніколі ён не прыходзіў да нас без гэтага шапіры: гэта ж страшэнна патрэбная рэч! На бяду, калі раптам намуляе трохі падвучыць іўрыт у нашым доме. Але ж, прыйшоўшы, ён ніякагусенькага іўрыту не вучыў, а сядзеў з Ёю на балконе, або запрашаў Яе на шпацыр, і бабуля вяртала мяне на кухню піць чай, уздыхала і казала, што чалавек ён неблагі, але *зануда*, то бок па-расійску гэта азначае «абрыдна-нудотны суб'ект».

Але ж як Ёй з ім добра, то няхай ужо. І каб я не распярэзвала свой язык — не наважылася б даносіць пра гэтыя яе думкі. Бабця таксама дадала па-расійску: «На бязрыб'і і пятая кропка (тут я ведала, што яна мае на ўвазе «сраку») салавей». Ды ўздыхала ізноў.

А Яна? Што і казаць, Яна дужа цешылася ім. Насамрэч, дужа. Не зважала нават, што ён зануда, а калі чула, як ён званіў у дзверы, дык бегла з усімі сваімі рукамі, грудзьмі і тоўстым жыватком, нібыта на пажар, толькі каб яму адчыніць. Напэўна, Яна была вельмі самотная з часу, калі памёр тата, і таму нават Якаў-Зануда здаваўся ёй нармальным — тое адбывалася з-за Яе душэўнага стану. Казала пра яго, нібыта ён быў, прынамсі, які Ален Дэлон, ці Іў Мантан, ці Салжаніцын. Што казаць, Яна ўтрэскалася ў яго па самыя вушы.

Напрыклад, аднойчы Яна сказала пра яго, што ён — сіяніст. Кшталту такога чалавека, які хоча паехаць у Ізраіль, і лічыць, што ўсе габрэі таксама павінны паехаць у Ізраіль (каб яму самому, трэба меркаваць, там, у Ізраілі, не было нудотна). У свой час я таксама хацела паехаць у Ізраіль, але гэта было яшчэ да таго, як я ўбачыла, што з гэтага ўсяго выйшла. Я спытала Яе, ці вынікае з гэтага, што я таксама сіяністка. А Яна адказала, каб я не выстаўлялася.

То бок значыць тым сіяніст толькі ён. Нават імя ў яго сіяніцкае — Якаў. Яна сказала, што гэта старагабрэйскае імя. У мяне няма старагабрэйскага імені, толькі старарасійскае — Анастасія. Гэта імя, якое прыдумаў мой тата. Яшчэ да таго, як я нарадзілася. А калі б нарадзіўся хлопчык, то мяне звалі

б Інакенцій. Вось што магло здарыцца са мною, калі б я не нарадзілася дзяўчынкаю. Так што мне тут крыху пашанцавала.

Адзінае, што мне падабаецца з таго, што ён мяне вучыць, дык гэта пра зоркі. Гэтая навука называецца «астраномія». Час ад часу вечарам ён бярэ мяне на шпацыр. Найчасцей летам. Тады можна бачыць зоркі як след. Мы выходзім на галоўную дарогу, якая вядзе ў Ака, сядаем на лаўку аўтобуснага прыпынку, падымаем галовы, і ён пачынае тлумачыць.

У чым цымус зорак? У тым, што нягледзячы на іх далёкасць, і што ў іх няма дачынення да людзей, яны людзей дужа нагадваюць. Зоркі хіба значна прыгажэйшыя. У іх нават такія сабе імёны людзей-грэкаў, а не расейцаў або сіяністаў — не Якаў, Хаім, Анастасія, Толік, Марына, Зіна, Саша, а імёны багоў і герояў з міфалогіі: Сірыус, Канопус, Арктур, Вега.

Самая нудотная зорка — Зямля. Процьма бедстваў, і яе не вельмі можна пабачыць, бо яна захрасла ў нас пад нагамі, а мы — на ёй. У думках я ўяўляю, што Яна — гэта Сонца, а я — Месяц, дзед і бабця — Міцар і Алькаід у Вялікім возе, мае дзядзькі-блізняты — Лель і Палель, мой дзядзька Ілюша — Альдэбаран у сузор'і Цяльца, а цётка Ксеня — зіхоткая Бетэльгейзэ ў сузор'і Арыёна.

Зямля — гэта Якаў. Вось так. Я ведаю, што касманаўты, якія бачылі Зямлю з космасу, сказалі, што яна блакітная, прыгожая і зіхоткая, але я не касманаўт, я — Анастасія Дзямідава, і як на мае вочы, дык Зямля брудная, рудая і наогул не належыць да сям'і зорак.

Зорка, якая мне падабаецца найбольш — Палярная зорка. Адно трэба ведаць, як яе знайсці. Бо ёсць лінія. Уяўная лінія, якую трэба правесці праз Вялікі Воз, прыляпіцца да яго вачыма, і тады патрапляем у яе, малюсенькую і зіхоткую, але з ёй ніколі не згубішся. Пра гэта ведаюць усе вандроўнікі і першапраходцы.

Палярную зорку я пакуль не аддала нікому. Я карыстаюся ёю сама. У мяне ёсць нешта накшталт свайго метаду. Я станаўлюся ля вакна, калі ўжо ноч, не запальваю святла (дзеля таго, каб ён не заспеў мяне, бо пачнуцца сцэны), знаходжу блакітную зорку, пачынаю глядзець на яе, канцэнтравацца на ёй, моцна-моцна, усім сэрцам, усім нутром, але без напругі (гэта такі адметны спосаб), і ні пра што ніякае зусім не думаю. І ўсё паціху-патроху пачынае знікаць: маё цела, пакой, увесь свет, пакуль не застаецца анічога, акрамя маёй думкі і мяне самой. І тады мяне няма, і я ёсць. Вельмі цяжка патлумачыць.

Так, ёсць шмат чаго, што мне цяжка патлумачыць і зразумець. Калі я пачынаю думаць пра гэта, дык мне робіцца цяжка ў грудзях і жываце. Усе ягоныя звычкі, напрыклад. З прыбіральняй, напрыклад. Або з шыбамі.

Ён ненавідзіць бруд. Але не ўвесь бруд, а збольшага мой бруд і бруд з туалета. Калі ён выходзіць з туалета, дык зачыняе дзверы локцем, дзверы ваннага пакою — локцем і іх, і кран (гэта самае цяжкае) — таксама локцем. Дробнымі штуршкамі. І тады ён доўга-доўга мые рукі з мылам.

І Яна, і я мусім рабіць гэтаксама. «Ён чуйны да чысціні», — кажа Яна, і таксама тлумачыць, што гэта добра. Такая сабе станоўчая рыса, якая дазваляе трымаць хату ў парадку, нібыта без гэтай ягонай рысы, наўкола будзе толькі бруд. Нават калі мы спускаем ваду, дык націскаем на рычажок таксама локцем, каб не было мікробаў. А таксама калі заходзім у дом з вуліцы, нельга ні да чаго дакранацца, покуль не памыеш рукі з мылам. Намыльваем двойчы, потым змываем, потым выціраем адмысловым ручніком для рук (Барані вас Божа скарыстацца ручніком для твару —

цьху-цьху-цьху тры разы!) І толькі пасля гэтага можна пачынаць нешта рабіць. Піць ваду, дакранацца да ўсяго, жыць.

Аднойчы я вярталася з імі з паліклінікі. Была сасмяглая-сасмяглая. Тут, у Ізраілі такая спёка, што толькі выйшаў на вуліцу, і адразу піць хочацца. Я зайшла дадому і пабегла да душа, памыла рукі і гайда да лядоўні — піць халодную ваду. Раптам заходзіць ён, злосці поўныя косці. Кажа: «Гэй, яна не памыла рук!» Называе мяне «яна», усё роўна быццам я наогул не тут. А я кажу: «Памыла я, клянуся». А Яна заходзіць і добранькім (але спалоханым) голасам, каб замірыць нас, кажа: «Памыла яна, Янкеле, памыла». Але ён веры не дае, глядзіць дужа злосна, «Няпраўда», кажа, «Хлуселька», кажа.

А я, — і гэта было вядома ў нашай сям'і яшчэ ў Савецкім Саюзе, — не хлушу ніколі. У мяне гэта накшталт прынцыпу такога, і нават калі я спрабавала некалькі разоў, як тады, калі я сапсавала ёй тую польскую памаду, у мяне дык і не вельмі атрымалася. Бо мой твар робіцца гарачы-гарачы, а ў голасе запінанні-заіканні, і таму я хлусіць нават не спрабую. Але ён, ён не ведае пра мяне анічога! Дзе яму што ведаць?! Ён жа нават не сваяк нам. Чужаніца. Пра мяне ён думае дрэнна, дрэнна! І толькі паўтарае: «Хлуселька». А мне хочацца працягнуць яму свае рукі, каб даць панюхаць пах мыла, «Нэка 7»[1], але ён падаецца назад, яго твар крывіцца ад агіды, і ён выходзіць з кухні.

Застаемся толькі Яна і я. Яна не глядзіць мне ў вочы, і я бачу, што Яна баіцца. Баіцца, што зараз ён, як заўжды, пачне здзекавацца з яе. Не будзе з ёю размаўляць, захоча кінуць яе, выгнаць яе, і ўсё праз мяне. Бо я дрэнная, не кантралюю сябе, не раблю намаганняў, брудная, хлуслівая. Я падношу Ёй да твару рукі, каб Яна пачула пах мыла, каб убачыла, што я раблю намаганні! Яна таксама не хоча правяраць, дае мне веры. Але што з таго! Цяпер Яна такая тужлівая, і Яе вусны наліваюцца цяжарам, цягнуць свае краёчкі долу, і страх у маіх грудзях моцны-моцны. Зараз ён пакіне Яе, пакрыўдзіць Яе, праз мяне. Ды Яна ціха кажа мне: «Так, так, Насценька, не цяпер... Усё добра, ідзі ў свой пакой». І я ў сваім пакоі, сяджу на ложку, і ў сярэдзіне ўсё дрэнна, толькі звонку бела-шэрае святло, і спёчна, і так шмат гадзінаў пакуль прыйдзе ноч.

Гэтым летам мне асабліва няма чаго рабіць — не тое што мінулым. Тады была процьма справункаў. У летніку мяне адправілі ў школу «Кадыма». Раніцой аўтобус забіраў мяне і іншых дяцей у лагер. Большасць дзяцей — новыя рэпатрыянты. Частка — з Савецкага Саюза, як я, частка — з Грузіі. Таксама ёсць мараканцы, але толькі крышку. Яны ходзяць у іншы летнік, пры школе, якая называецца «дзяржаўная Гімназія». Не разумею я гэтага – пры чым тут Азія і яе гімны да нашай дзяржавы. На карцінках я ведаю ўсіх, нават тых, хто памёр, і тых, хто жывы: Голда Меір, Мошэ Даян з адным вокам і павязкай, Шымон Перэс, які размаўляе са смешным акцэнтам, і Бен-Гурыён з валасамі, як пасля ўдара токам, Менахем Бегін, які забіваў ангельскіх салдат бомбамі, і Арыель Шарон, які калісь быў красунчыкам, але ўсе яны прыехалі з Еўропы. Не разумею.

Калі мы прыходзім у школу «Кадыма», то атрымліваем шакаладнае малако ў пакецiку, булачку і грушу, а часам сліву. Потым мы гуляем на двары, потым трошкі спяваем песні на іўрыце, ідзем у басейн, карацей, месца небяды.

У мяне была там сяброўка — тоўстая Жэня з другога паверху. У маім доме

[1] Тандэтнае мыла ізраільскай вытворчасці

жыла. Жэня старэйшая за мяне на два гады, і сёлета пойдзе ў шосты клас. У яе нават ёсць трохі грудзей, і пару валасінак на шмоньцы, бо яна развітая. Час ад часу яна дазваляе зайсці з сабою ў прыбіральню і паказвае іх мне. У яе ёсць зусім трошкі, можа, дзесяць, але ўсё лепей за мае, бо ў мяне іх няма наогул.

Тоўстая Жэня таксама з Саюза, з горада Вільні. Жэня вучыцца граць на піяніна. Дома ў яе ёсць піяніна. Бліскучае такое, з рудога дрэва, пакрытае лакам. У іх уся мэбля прыгожая і пакрытая тым лакам. На сценах ёсць карціны, адна з іх — карціна яе маці, Фаіны Філіпаўны, калі яна была маладой і лічылася прыгожай, другая — з двума Жэнінымі бацькамі, Фаінай Філіпаўнай і Алікам у дзень іх вяселля, і трэцяя, самая вялікая, прашытая ўсялякімі каляровымі ніткамі, і на ёй — пастушка і пастух, і ўсялякія авечкі, а таксама казлы пад дрэвамі. Гэтая карціна называецца «габелен». Пастух і пастушка апранутыя ў святочную вопратку: яна — у тоўстую такую сукню, як на маскарадзе, ён — у штанах з балета. Не разумею, як яны ў такім выглядзе пайшлі пасвіць авечак і казлоў! Я са свайго досведу з казлом ведаю, што казлы наробяць такі вэрхал, — гаўняшкі ды іншыя прыкрасці, — дык навошта так апранацца, абсалютна няясна. Можа быць, іх вышывалі на «Габелен» для святочнасці.

Але самая прыгожая карціна ў Жэнінам доме — гэта твар жанчыны на кавалку жалеза. Там можна пабачыць толькі яе профіль, а на галаве ў яе капялюш, як перакуленае вядро, а на тым вядры — упрыгожванні і ўзоры. Гэтая жанчына, як высвятляцца, егіпецкая багіня, Неферціці. Жэня кажа, што і дагэтуль тая багіня лічыцца самай прыгожай жанчынай на свеце (нават цяпер, калі яна памерла ўжо, халера яго ведае калі, можа быць, тысячу гадоў таму назад). Пра Егіпет Жэня мне распавяла, што яны хочуць узарваць увесь Ізраіль і скінуць ізраільцян у мора, запхаць усім ізраільскім дзяўчынам паміж ног гэтае-самае і таксама ўвагнаць ім нож у спіну. А Якаў патлумачыў, што ў пару Неферціці Егіпет і наогул усе арабы былі цывізаваныя і вынайшлі алгебру і астраномію. Выдае на тое, што з таго часу яны моцна сапсаваліся. Жэня сказала, што ўсё гэта здарылася праз тутэйшую спёку, бо з таго часу, як іх сям'я ў Ізраілі, яе тата Алік таксама зрабіўся вельмі нервовы, шмат п'е брэндзі-каньяка «Сток-84», і лупцуе Фаіну Філіпаўну. Жэня кажа, што гэта ўсё ад ізраільскай спёкі.

Пасля таго, як мы вярталіся з летніка, я ішла да Жэні, садзілася на канапе, а Жэня трэніравалася на піяніна. Большасць расійскіх дзетак трэніруюцца на піяніна, апроч мяне, бо ўжо ў вельмі малым веку мяне праверылі і высветлілі, што я не маю музычнага слыху, і што я не маю схільнасцяў у гэтым кірунку, а больш да літаратуры, малявання і да шахмат. А вось у Жэні ёсць самы лепшы музычны слых — абсалютны, але ёй гэта дарага каштуе, бо Жэня мусіць практыкавацца штодня па дзве гадзіны, у час, калі я вольная рабіць усё, што захачу. Жэня пераважна ненавідзіць граць, і часам хлусіць, што папрактыкавалася. Тады яе мама сказала мне, каб я садзілася побач, каб Жэні не было нудотна, і каб я правярала па гадзінніку, колькі яна дакладна грае, і калі яна будзе замала граць, мне трэба даносіць.

Аднойчы Якаў сказаў, што Жэня не мае здольнасцяў. Нібыта ён вялікі музычны спец. У нас наогул ніколі не слухаюць музыкі. Бо гэта, бач ты, узнімае шум, і перашкаджае іншым. Толькі калі ў мой пакой прыходзіць Яна, каб паразмаўляць са мною, мы ставім на прайгравальнік класічныя запісы, такія якія нават Жэня не можа сыграць, бо яна грае толькі два гады, а на піяніна трэба вучыцца ўсё жыццё, або дзесяць гадоў як найменей, каб палічылі, што ты чагосьці варты.

Калі Жэня грае, яе бацькі не дома, яны працуюць. Мама — на малочным заводзе ў Хайфе, тата — на заводзе ізраільскага войска. Але часам Жэня кажа мне: «Скажаш маёй маме, што я сёння пайграла, а ўжо мы пакуль падурэем. Пазабаўляемся. Часам я кажу: «Добра, згода». Тады, мы ідзем у яе пакой, і Жэня дастае з шафы, з шуфлядкі для абутку, цыгарэты «Тайм». Жэня курыць не ў зацяжку, і я таксама спрабую, але два разы што я спрабавала, уваччу рабілася цемра, і поруч з'яўляліся зоркі. І мне давялося легчы на канапу, я ўся ўзмакрэла, і тады Жэня сказала, што больш не дасць мне курыць, бо я глытаю ў лёгкія — а гэта небяспечна, бо я яшчэ малая. Пасле курэння яна духмяніць паветра пахам ружаў пшыкалкай з прыбіральні, і мы гуляем у карты. Ёсць расійская гульня, якая называецца «*Подкідной дурак*». Гульня для дарослых. У нас дома няма карт, бо гэта «толькі для прымітыўных людзей і п'яніц». У нас толькі шахматы, але дзякуючы Жэні я зусім няблага гуляю ў карты. Падчас гульні мы лаемся, як навучыла мяне Жэня. *Ёптвоюмать, курвымать*, так як лаецца яе бацька з яе дзядзькамі на выходных. Калі нам надакучвае гуляць мы мажамся касметыкай Жэнінай мамы: памада, бірузовыя цені, і вызіраем з вакна, можа, пройдзе хлопец, якога Жэня кахае — Віктар-Кот. Яна проста ўтрэскалася ў яго, нягледзячы нават на тое, што ён з каўказскіх гор, а гэта лічыцца не вельмі добрым. Жэніна мама сказала, што людзі з Каўказа — прымітыўныя і смярдзючыя. Не разумею, калі яна паспела панюхаць іх. Гэты Віктар-Кот насамрэч вялікі, гадоў чатырнаццаць, мо нават больш. І ён зусім не смярдзючы. Я ведаю, бо аднойчы я стаяла за ім у краме і ветрыла носам, дык наадварот — ад яго прыемна патыхала мылам і цыгарэтамі. Ён не ведае, што Жэня закаханая, і не ведае, што яе завуць Жэня, наогул, што яна існуе. Але ёй на гэта начхаць, і мы віжуем за ім, і ёй гэтага хапае. Часам мы закрываем у пакої жалюзі, робім ноч пасярод дня, запальваем свечку і глядзім будучыню. Навязваем Біблію да нажніц і пытаем пытанні. Калі нажніцы зрушацца ў права, адказ «так», калі ўлева, дык «не». Згодна з гэтымі гаданнямі, Жэня ажэніцца з Віктарам-Катом ды ў іх будзе трое дзетак два хлопчыкі і адна дзяўчынка, машына «Форд-Эскорт» і стэрэа-сістэма. Я ж не пытаюся гэтых будучыняў, бо я пакуль што не закаханая, дык што тут пытацца?..

Ёсць у нас яшчэ колькі справункаў, напрыклад, мы як след шукаем у бацькоўскім пакоі, і часам знаходзім газету па-расійску, якая называецца «Клуб». Гэта газета — нудная, як усе газеты, але пасярэдзіне газеты друкуюць апавяданне з працягам, для дарослых, і там апісваюцца та-акія рэчы! Здурнець можна: адныя закохванні і раздзяванні — усё падрабязна апісана. Галоўны герой там — хлопец з імем Цімур, — выдае на тое, што насамрэч ён страшэнны красунчык ды пхае свой гэты-самы ва ўсіх дзяўчат у апавяданні. Там ёсць Клаўдзія, бландзінка, ёсць Наташа з прамымі валасамі, усялякія розныя дзяўчаты. Часам Жэня грае проста так, а я слухаю яе, нават заплюшчваю вочы.

Калі скончыўся летнік, дык засталося яшчэ процьма часу да пачатку вучобы. Цэлы месяц. Жэніны бацькі завезлі яе да сваіх дзядзькоў у Кфар-Сабе, каб яна не швэндалася па вуліцы цэлы дзень. У мяне ў Ізраілі дзядзькоў няма, толькі матчына сяброўка ў горадзе Бат-Ям, таму я шмат швэндалася па вуліцы, аж Яна пачала пра мяне непакоіцца, ды сказала, што зраблюся дзіцём вуліцы. Яна не разумее, што ў Ізраілі не так, як у Савецкім Саюзе. Яна баіцца, што буду як хлопчык Гаўрош з «Адрынутых» або як беспрытульнікі з «Педагагічнай паэмы».

Але я заўсёды на вуліцы, як мага больш, нават калі спёчна і няма чаго рабіць. Я зраблю ўсё, каб не заставацца дома з ім. Калі раніцой Яна ідзе працаваць, я ўжо зусім неспакойная. Усё ў жываце напінаецца, дрыгаціць. Ляжу на ложку, спрабую нешта пачытаць, але ўвесь час настаўляю вушы: што ён робіць, куды накіроўваецца, якія дзверы адчыняе, якія зачыняе. Увесь час унутры ёсць адчуванне, што здарыцца штосьці кепскае, што вось-вось высветліцца, што я зрабіла штосьці кепскае, і тады ён нават мне не скажа пра гэта, толькі будзе чакаць, пакуль вернецца Яна: нягучна паразмаўляе з ёю на кухні, або ў іх пакоі, і потым у доме будзе вялікая жахлівая ціша, і я не буду ведаць, што здарылался, якое злачынства я ўчыніла, і што ён зробіць Ёй праз мяне. Можа, развядзецца з ёю і застанецца ў Ізраілі адзін, без анікога, без дзеда з бабуляй, без цёткі Ксені, без нічога. А Яна, Яна баіцца застацца адна. Гэта з таго часу, калі мой тата памёр, Яна гэтага баіцца, нешта кшталту рэакцыі Яе душы.

Калі памёр мой тата, мне было пяць і яшчэ трошкі. Быў месяц красавік, і ўвесь горад быў у квецені бэзу. Фіялетавы бэз, белы бэз, хіба з моцным водарам, як у парфумы, адно значна мацнейшы. Людзі нават робяцца млявымі, калі нюхаюць яго занадта шмат. Можна нават страціць прытомнасць. Квецень была на кожным кусце, але на бэзе асабліва шмат. Гэта такая адметнасць нашага горада вясною, і гэта павінна быць страшна прыгожа, але як на мяне, дык пах гэтага бэзу — пах хваробы майго таты, пах яго смерці. Калі ён памёр, дакладна я не ведаю, бо ён ужо быў шмат часу ў больніцы. Я не бачыла яго, можа, месяц, можа — два. Нічога мне не распавядалі, а я таксама не пыталася. Калі не кажуць — дык няма чаго пытаць, іхнія сакрэты не выведаеш, толькі здагадацца можна. На пахаванне мяне таксама не ўзялі, бо я была замалая. Толькі ўвечары, калі вярнуліся, бабуля сказала, што ён памёр, і што я магу плакаць, калі я хачу, але я таксама мушу цешыцца за яго, бо яму вельмі балела, а цяпер боль суцешыўся. Але я не плакала. Проста сядзела ў кутку, дзе цацкі, на маленькім услончыку, ды не ведала, што рабіць, і ўвесь час думала толькі пра Яе. Пра Ейны боль. І спадзявалася, што Яна пакліча мяне.

Толькі значна пазней я ўбачыла фатакарткі з пахавання. Частка здымкаў, дзе ўсе ідуць з кветкамі і частка здымкі яго аднаго, у дамавіне.

Здымкі я знайшла ў Яе шуфлядцы, у спецыяльным чорным канверце. Ён ляжаў у дамавіне, але не так нібыта спіць, а так, што выродлівы такі, твар як бы яго і не ягоны, шэры такі. Апрануты ён у гарнітур. І кветкі вакол. Не разумею, калі ён памёр, нашто яму гарнітур? Але я не спытала, бо здымкі былі сакрэтныя і я баялася, што Яна ўзлуецца, або, што яшчэ горш — пачне плакаць і не здолее спыніцца, а потым ляжа на ложак, зшэрхлая, з расплюшчанымі, як у плюшавага мядзведзя, як бы зробленымі са шкла, вачыма, і не будзе больш ні з кім размаўляць дні, або нават месяцы, або ніколі.

Усё роўна, як адбылося тады, калі ўсе вярнуліся з пахавання, ды Яна зайшла ў свой і яго пакой, а мне не далі ўвайсці, толькі заставілі дом кветкамі. Гэты самы бэз апынуўся ў кожным гаршчку, у кожнай вазе, і мая галава круцілася толькі праз гэты водар, і я хацела, каб мне далі зайсці да яе, але бабуля не дала, і толькі сказала: «Ідзі сабе, *Настенька*, — пачытай кніжку, бо мама сёння сумная». Толькі калі прыйшлі Яе сяброўкі з працы і простыя сяброўкі, ім далі зайсці. Я спрабавала асцярожна зазірнуць, каб не заўважылі, пабачыць, што Яна робіць там у пакоі, пра што яны гамоняць, і чаму мне нічога не кажуць, але ў мяне не атрымалася, бо яны прычынілі за сабою дзверы.

Пасля таго, як прайшло колькі дзён, або тыдняў, не ведаю, людзі прыходзіць перасталі. Аднак Яна працягвала ляжаць там, у пакоі са сваімі нерухомымі вачыма, нібыта Яна сама памерла, а не ён. Бабця ўвесь час спрабавала завесці мяне ў пакой і пераканаць Яе паразмаўляць са мною, заўважыць мяне. Казала Ёй: «Глянь, *Машенька*, тут Насця. Скажы ёй якое слова, нельга ж так катаваць дзіця!» Але Яна нават не мела намеру сказаць хоць слова, толькі час ад часу круціла галавой, глядзела на мяне нібыта не ведае мяне наогул. І маўчала.

Бабця клапацілася пра мяне. Я бачыла. Купляла мне вішні, сабаку з пластмасы, які мог гаўкаць, кніжкі з кардону, з якіх можна будаваць дамы, але зусім не трэба было так клапаціцца. Я ведала, што цяпер, калі Яна ляжыць там як мёртвая, мне трэба ўзяць за Яе адказнасць на сябе. Бо калі я не буду ахоўваць Яе, можа адбыцца якаясьці жуда. Нават ноччу, калі я ляжала на сваім ложку, які пакуль што перанеслі ў пакой дзеда і бабулі, я не засынала. Я заплюшчвала вочы і ўдавала, што сплю, але ў душы я чуйнавала і ахоўвала Яе на адлегласці. Думала: «Можа, Яна раптам мяне пакліча, трэба быць гатовай», ды чакала.

Яна не клікала мяне шмат часу, нават не ведаю колькі, датуль, калі пачалося сапраўднае лета, Яна выйшла на балкон. І сказала бабці, што ёй хочацца супу. Курынага супу, удакладніла Яна. І бабуля пляснула рукамі і паляцела купляць курку. А Яна села ў такі спецыяльны фатэль на балконе, які называецца «шэзлонг» і ўбачыла, што там стаю я, і паглядзела на мяне, і нават зрабіла нешта кшталту руху такога ротам, нібыта ўсмешку, скура вісела на Ёй трохі ,як ануча, і я падышла да Яе, пагладзіла мяне па галаве, паклала руку на плячо і сказала: «Ну, *Настенька*, засталіся мы адныя». Я не магла нічога вымавіць, бо ў мяне ў горле з'явіліся смаркі, я прыхінулася да Яе, галаву ўплішчыла паміж грудзей, адчула Яе пах, не парфумы, як раней, пах Яе адчаю, як пах пылу, і схавала сваю галаву ў Ёй, і сказала сабе, што згэтуль я буду абараняць Яе ўсё жыццё, моцна-моцна, каб у яе ніколі не было адчаю, і што я цяпер адказная за гэта. Вось якое рашэнне я тады прыняла.

Калі вярнулася бабця, я пайшла ў кухню, узяла трохі малака і напісала гэтую клятву сакрэтным атрамантам, шпількаю, згарнула аркуш і схавала яго глыбока ў гаршчку дзікага вінаграду, і тады стала зразумела, што дарогі назад няма. Во як было.

Вось такія цяпер справы. Вось чаму я стараюся быць такой добрай, намагаюся не злоснічаць, не капрызіцца, не брудзіцца. На мне адказнасць зрабіць усё, каб ён абыходзіўся з Ёю добра, каб не караў Яе маўчаннем, каб не пачынаў ненавідзець, і найперш, каб не кінуў Яе.

І мне вельмі цяжка. Па адчуваннях, атрымліваецца ў мяне гэта не вельмі добра. Можа таму, што я прывыкла быць дрэннай яшчэ з СССР, можа, бабуля занадта песціла мяне і такой дрэннай я зрабілася. Цяпер ён выхоўвае мяне нанова. Наганяе на мяне страх. Вось каб ён знайшоў працу, і не сядзеў дома цэлы дзень. Прынюхваецца, прыглядаецца, каб нічога не краналі, каб нічога не разбівалі.

З часу, як скончыўся летнік, і Жэня з'ехала, я сяджу дома, бо Яна наказала, каб я не гойсала па вуліцы, як лунацічка. Я баюся выйсці з пакою, толькі чую яго босыя ногі па падлозе, як ён шмыгае носам, і мне робіцца цяжка ў грудзях. Колькі дзён таму я выйшла на кухню памыць персік, — Яна мне сказала, каб я ела іх, бо яны карысныя для здароўя. Раптам заходзіць ён, а

я не пачула. Я так перапалохалася, што развярнулася і бах! Упусціла кубак, што стаяў на сталешніцы. А ён, у яго ж страх перад аскепкамі і іголкамі яшчэ нават большы за страх перад мікробамі. Авой мне, калі разаб'ецца шклянка: увесь дзень да ночы ён будзе поўзаць па падлозе, збіраючы аскепкі, а ў пакой, дзе гэта здарылася, забаронена ўваходзіць, а ён поўзае і поўзае, шукае і збірае аскепкі. Так ужо баіцца ўсяго вострага. Усе нажніцы ў нас прымацаваныя да высокай шафы, бо ён баіцца. Скрынку з іголкамі і ніткамі — строга забаронена браць, бо ў ёй ёсць шпількі-голкі, і калі Яна хоча нешта зацыраваць або прышыць гузік — дык найперш трэба сказаць яму, а ён пракантралюе, і потым паўночы пераправярае, ці не ўпала якая іголка, хаця кожны дурань бачыць, што нічога не згубілася.

Як толькі я ўпусціла той кубак, ён спалатнеў, вочы — Божа злітуйся! — жудасныя, твар зрабіўся шалёным, а я амаль самлела, як заўсёды, бо не ведаю, што цяпер можа адбыцца. Каб ён прынамсі біў, я ведала б, чаго чакаць, і не было б гэтага халоднага страху, але ён ні разу не біў, і я ведаю, што пакаранне мяне чакае гідкае, толькі не ведаю якое. Я імгненна спрабую апусціцца на калені, каб сабраць аскепкі, але ён ужо побач, рукой хапае мяне за плячо з такой нянавісцю, як скарпіён які ці рак. А балюча ж! Мяне яшчэ ніхто так не ненавідзеў. Мае зубкі — тук-тук-тук, б'юцца адзін аб адзін, і пах смуроду з-пад пахаў, смурод страху, я адчуваю, што калачуся ўсім целам, а ён кажа мне: «Ідзі ў свой пакой, я прыбяру», і адкрывае кран, і мые вадой руку, якой трымаў мяне. Я лячу ў пакой, зачыняю дзверы і саджуся на ложак і чакаю, пакуль трасучка мінецца. Думаю, што сказаць, калі вернецца з працы Яна, і як я апраўдаюся, што я такая брудная гнюсота, як мне ўсё гэта патлумачыць?..

Яна вяртаецца праз вечнасць — я чую Яе ключ у замку. Ведаю — Яе твар змораны, бліскучы, і я прыціскаюся да дзвярэй, намагаючыся пачуць, што ён кажа Ёй там, у цішы здушаным голасам, і тады Яна заходзіць да мяне, Яе вочы — пустэльня, сухавей, і кажа мне: «Табе трэба быць акуратнай, і я бягу да Яе: «Матуля, *мамочка, дорогая*, любая, прабач, прабач мяне, *ізвіні меня, я больше не буду*, ніколі больш не буду раняць шклянку! — І Яна трошкі абдымае мяне, але Яе вочы — пустэльня, сухавей, і я ведаю, што зараз праз мяне ён Яе пакіне. Усё скончана, вось ён, жудасны фінал, вось яно адбываецца, усё ўсмоктваецца ў чорную дзірку, Сонца і Месяц, Андрамеда і Касіяпея, Цэнтаўра і Паўднёвы Крыж, закруціліся ў гіганцкім віры, і пойдзе дождж з вялізных астэроідаў, усё захлынецца, знікне, спляжыцца, нібыта не было ніколі Сусвету.

«...Анастасія!<br>
Вечаровае сонца,<br>
Празрыстая расіца.<br>
Кроўка ты мая,<br>
Слёзка ты мая...»

Гэта верш, які яна напісала пра мяне. Колісь. Яшчэ ў Савецкім Саюзе. І яшчэ:

«...Вочы маёй Мадонны —<br>
святло маёй душы...»

Таксама пра мяне.

І там ёсць яшчэ працяг, ды іншыя вершы, але іх я ўжо не памятаю.

Я перастала вучыцца ў класе новых рэпатрыянтаў, і перайшла ў чацвёрты клас да ўсіх ізраільцян-сіяністаў, збольшага мараканцаў, і яшчэ

адна расійская дзяўчынка, Ірачка, што цяпер мая найлепшая сяброўка. Паставілі новую настаўніцу-выхаваццеля, Цыпору, з валасамі як у старой, хаця яна ў прынцыпе маладая. Мне сказалі, што гэта такі адмысловы колер, які робяць у цырульні, і нават за гэта трэба плаціць, і ён называецца «плацінавае меліраванне».

Спярша было не вельмі. Усе ў класе ненавідзелі Ірачку і мяне, і казалі пра нас усялякае крыўднае. Пра мяне казалі, што я я...уся з Проспeрам Бэн-Хамо ля рыбных ставоў, і ён плаціць мне за гэта адну ліру. І яшчэ падобныя рэчы, што я ніколечкі раней не чула. Пасля заняткаў мы павінны былі шпарка бегчы дадому, бо некалькі хуліганаў з нашага класа ганяліся за намі і крычалі ўслед усялякія словы, «*блять*», а яшчэ арабскую лаянку і «*мать твою*».

Мы ляцелі дадому ўсё роўна як індзейцы, як Чынгачгук Вялікі Змей, як апошні магіканін, як атручаныя стрэлы, як тамагаўкі апачаў, хаваліся дома ў Ірачкі і чыталі ўкраінскія апавяданні Гогаля. Такія апавяданні як «Вій» і «Вечары на хутары ля Дзіканькі». Сяк-так жыць было можна.

Якаў пайшоў вучыцца на сацыяльнага работніка. Любіць ён дапамагаць усялякім бабкам, якія прыехалі ў Ізраіль адныя. Цягае ім кошыкі з рынку, размаўляе з імі на ідыш: «*Вус махсту? Зай гізунд!*»[1]

Дапамагаць бабкам — яго хобі. Толькі мне і Ёй ён не дапамагае. Але цяпер ён прынамсі дома не штодня, і мне таксама ёсць куды схадзіць. Найбольшая нявыкрутка — з туалетнай паперай. Ён наракае, што апошнімі днямі я і Яна выдаткуем зашмат туалетнай паперы. Хутка заканчваецца. Дык я стараюся пакакаць у школе, і не піць зашмат, калі я вяртаюся, каб мне не хацелася сікаць, толькі ў выпадках, калі ўпраўду няма выбару.

Але аднойчы ўсё перамянілася. Такіх пераменаў я нават не чакала, што праз яго яшчэ шмат чаго абрынулася, як снежны камяк. Аднойчы Яна вярнулася з працы і сказала: «Насця, падрыхтуйся, для рэпатрыянтаў ёсць спецыяльны базар». Па дарозе яна растлумачыла, што габрэі з Амерыкі даслалі ўсялякую вопратку, якая ім ужо не патрэбная — каб дапамагчы рэпатрыянтам у Ізраілі. Такі вось сіяніcцкі клопат. Гэты базар з вопраткай, у доме спадарыні Берты, дырэктаркі клуба пенсіянераў.

Калі мы ўвайшлі на базар, я зрабілася вельмі вясёлай. З таго часу, як мы прыехалі ў Ізраіль, мне не куплялі ніякай новай вопраткі, а ўся вопратка з Савецкага Саюза пачала мне ціснуць, і тут я бачу ўсялякую-розную вопратку, і страшна модную! Штаны з шырокімі знізу калашынамі, — па-расійску яны называюцца *клёшы*, а яшчэ джуты, блузкі ў кветачкі з шырокім каўняром, і адна кофтачка з футра як у тыгра, але вялікага памеру.

Яна шукала як след, і знайшла мне блакітны касцюм, з матэрыялу, які называцца габардын. Толькі я касцюм памерала, дык ужо ведала, што ён якраз на мяне, і ўсе сказалі, усе бабулькі і Ірачка, і яе мама, якія таксама былі там, сказалі, што я прыгожая.

Назаўтра я апранула той касцюм у школу, і нават Цыпора, настаўніца-выхавацель, павіншавала: «Анастасія, з абноўкай!», і паставіла мяне і Ірачку адказнымі за афармленне класа. Нам сказалі зрабіць куток першабытнага чалавека. Намаляваць фігуркі ўсялякіх неандэртальскіх людзей на кавалках кардону і ўваткнуць тыя фігуркі ў скрыню з пяском.

Адгэтуль жыццё пачало крыху мяняцца. Нас перасталі праследваць пасля заняткаў і лаяць, я пачала рыхтаваць дамашнія заданні, на кантрольнай па Біблії я атрымала «амаль вельмі добра», а па арыфметыцы «вельмі добра».

[1] Вус махсту? Зай гізунд *(ідыш)*: Як маешся?, Бывайце здаровая!

Усе прасілі нас намаляваць усялякія розныя рэчы: дзяўчынак, жывёл, пальму з малпай. Усё што прасілі ў нас — мы рабілі. Не трымалі зла.

Расійскія хлопцы з раёна, а таксама грузіны, пачалі мне свістаць, калі я мінала, і нават Віктар-Кот — той, у якога была закаханая Жэня, — спытаў у мяне, ці не хачу я пакурыць цыгарэту «Мальбара», але я не ўзяла. Ірачка ўвогуле зрабілася прасунутая ў каханні — яна ўтрэскалася ў свайго суседа Аркадзія з пятага класа, і нават я перастала закохвацца ва ўсялякіх несапраўдных людзей, як то Шэрлак Холмс ці граф Монтэ-Крыста, і пачала сур'ёзна цікавіцца Амнонам Блайхам з паралельнага класа. Часам Ірачка і я сядалі ў маім пакоі і размаўлялі пра ўсіх гэтых хлопцаў, хто што сказаў, хто як паглядзеў. Мы малявалі плакаты для класа, мы сакрэтнічалі, дзяліліся ўражаннямі, раіліся, калі аднойчы рыхтавалі патрыятычны стэнд пра габрэйскую абарону Тэль-Хая.

Якаў чуў усю нашую размову. Не ведаю, як я магла гэтак разняволіцца. Шмат тыдняў пасля спрабавала прыгадаць перад сном што дакладна сказала, якія словы прамовіла, пра каго. Але гэта ўжо зусім нічога не змяняла.

Тым вечарам Яна зайшла ў мой пакой, увесь цёмны, без святла, і сказала цяжкім голасам, што Якаў ёй усё апавёў. Што гутару я адно пра хлопцаў, што я распусная, брыдкая, сапсаваная. Што яна саромеецца мяне, і што каб наступным разам я, прынамсі, размаўляла шэптам. І выйшла. Маё сэрца зрабілася, як халадзец. І твар зрабіўся гарачы, нібыта я сядзела ля печкі. Я кінулася на ложак, і ляжала ў вопратцы ўцемры да світанку, і страх нібыта млосць, як ваніты, напоўніў мяне, кропелька за кропелькай, каліўца за каліўцам. І я пачула ціўканне птушак, і адчула халаднаватае сонца, што ўзыходзіла, але не магла зрушыцца, толькі сказала сабе: «Божа, Божа, Божа, Божа, толькі не дай яму пакінуць Яе зараз, зрабі, каб ён прабачыў яе, толькі б, каб прабачыў»...

Не пакінуў ён Яе. Ні тым разам, ні наступнымі разамі. Аднойчы я бачыла, як Яна стаіць ля ягонага пісьмовага стала, за якім ніхто ніколі нічога не напісаў. Яна плакала. «З якой прычыны?» — спыталася Яе я, і яна адказала, што ён хоча пакінуць Яе, і я спытала: «Праз мяне?», і тады яна паглядзела на мяне і сказала: «Таксама». Я абняла Яе вакол жывата і прамовіла: «Не турбуйся, я з табою!», гэтаксама як яна казала мне, калі плакала я, але яна адно адказала: «Ідзі сабе, Насця, ідзі, паразмаўляем потым».

І нават пасля гэтага ён не пакінуў яе. Але я анічому з гэтага не навучылася, мне ж усяго толькі дзевяць з паловаю было.

Успаміны, успаміны вандруюць па мне, як мурашы па дрэве. Той дзень, калі я згубіла на рыбных ставах кашалёк з дваццаццю лірамі і вярнулася дадому пасля заходу сонца, у пыле і драпінах ад пошукаў, а Яна, знясіленая, перапалоханая не менш за мяне, не змагла заступіцца, выявілася слабой. Я зразумела.

І той раз, калі перад сном я ўпотай ела семкі, і заснула, не паспеўшы схаваць лушпайкі. Ранкам ён уварваўся ў мой пакой, і я прачнулася толькі, калі была ўжо на падлозе. Ён выцягнуў прасціну, разам са мною, на падлогу, са скажоным тварам, паўстрымаўся мяне біць, сказаў: «ах ты брыдота, дробны гаўнярскі мікроб». Не пакінуў ён Яе і тады, калі я забыла брудны нож у шакаладным шмаравідле ў рукамыйніку, калі я зжэрла ўсе салёныя агуркі, калі ён заспеў, як я чытаю «Лаліту», якая была схаваная ў спальні ў шафе, але я выдатна ведала, крыштальна чыста ведала, што блізіцца катастрофа, што я павінна знайсці шлях сапраўды выратаваць яе.

Калі прыйшоў месяц красавік, — так, зноў красавік, — Яна ўзяла мяне

фатаграфавацца. У фатографа мяне апранулі ў касцюм з Амерыкі, валасы мне сказала памыць шампунем, каб яны былі пухкія, а не тлустыя і прыліплыя да ілба як заўсёды. Мы паехалі ў гандлёвы цэнтр непадалёк, дзе ёсць багатыя крамы з парфумай і вопраткай. Кінатэатр з фільмамі, а новых рэпатрыянтаў там няма зусім — толькі сіяністы-ізраільцяне з Нямеччыны ці Польшчы.

У нашым горадзе Львове таксама былі палякі, бо там увогуле калісь была Польшча — да таго, як у вайну прыйшоў Гітлер. У мяне была польская нянька, якую звалі Муся. Мусю дзядуля прывёў з псіхлякарні побач са сваім калгасам. Мне распавялі, што калісь яна была вар'яткай, але цяпер павінна ўліцца ў асяродак звычайных людзей. І што каструлі яна ўмее глянцаваць як след, а таксама хадзіць на закупы і мыць бялізну. Пасля таго, як заканчвала прыбіранне, яна выходзіла са мною на шпацыр, паказвала ўсялякае-рознае. А аднойчы паказала, як рэжуць малога парсюка ля гароднінага рынка — рынка імя Леніна. Парсюк той, парсючок, вішчэў моцным голасам, як чалавек. Я хацела, каб мы яго купілі і забралі дамоў, каб выратаваць яго і трохі з ім пагуляцца. Аднак Муся сказала, што мы *жіды*, і што нам забаронена гуляцца са свіннямі, то бок мне, маёй бабці і дзядулі. Забаронена. Муся патлумачыла, што *жіды* ўкрыжавалі Езуса, што гэта такі польскі бог, і паказала мне карцінку голага мужчыны, павешанага на крыжы, з рук і ног якога цякла кроў, на галаве ў яго балючы вянок з калючак, а замест трусоў — спецыяльная такаяануча, каб нічога не было відаць. Гэты Езус, сказала яна, хацеў каб усім у свеце было добра: палякам, французам, амерыканцам, бо ён увогуле сын галоўнага бога, але *жіды* ўзлаваліся, што ён хоча дапамагчы, і павесілі яго на крыжы. Але ён не памёр, а паляцеў у нябёсы, каб быць у Бога-бацькі, і ўсе, хто яго любяць, робяцца хрысціянамі, але толькі не *жіды*, якія ўсяляк упінаюцца і ўчыняюць супраць яго ўсялякія ўчынкі, такія, як пакласці дзіцячую кроў у сваю мацу.

Я спытала ў Мусі, ці магу я перастаць быць *жідовкой*, бо мне не вельмі прыйшліся да сэрца ўсе гэтыя справункі з мацой і дзецьмі, а яна адказала, што пакуль я малая, дык — не, але яна можа навучыць мяне казаць польскую малітву, і што пакуль што зможа дапамагчы, бо інакш можна трапіць у пекла. У пекле мяне схопяць чэрці з рагамі і будуць смажыць разам з іншымі *жідамі* ў скіпелым алеі, як бульбу, і пакуты будуць цягнуцца бясконца, бо ў пекле ты нават не зможаш памерці, бо ўжо і так памерлая. Я павінная была казаць малітву штодня перад сном. Укленчыць у начнушцы, глянуць на нябёсы, дзе гэты Езус жыве, і сама важна — пастарацца маліцца ад шчырага сэрца. Можна таксама папрасіць усялякія просьбы, сказала яна.

Я вырашыла, папрасіць у Езуса, каб мы перасталі быць *жідамі*, для пачатку мне падалося гэтага дастаткова. Я не хацела занадта натамляць, аднак ужо ў першы ж раз бабця ўбачыла мяне, і пачала дапытвацца: «Што здарылася, Насця? Што ты робіш?» Я не хацела казаць, але яна чагосьці збаялася і паклікала ўсіх, і тады я прызналася. Я хацела патлумачыць пра Езуса, і ўсе злыбеды, якія прылучыліся з ім, але яна хацела пачуць пра *жідов*, а яшчэ больш — усю гісторыю з мацой і дзіцячай крывёю, але ўрэшце я распавяла ўсё, як якаясьці паганая шпіёнка.

Пасля гэтага Муся больш ніколі не шпацыравала са мною, а толькі дапамагала бабці на кухні, пакуль аднойчы пасярод ночы яна не пачала лямантаваць, што ўдома хаваюцца ўсялякія людзі, фашысты і *жіды*, і хочуць з ёй зрабіць усялякае кепскае, і тады прыехала медычная машына — *скорая помошчь*, і Муся з'ехала назаўжды.

У Кір'ят-Моцкін мы з Ёй ходзім у студыю фатографа, якая па-расійску называецца *то-ателье*. Фатограф саджае мяне так і гэтак, кажа мне ўсміхацца, але ў мяне не атрымліваецца. Яна кажа мне: «Ну, Насця, што сёння здарылася, *что с тобой*, давай усміхніся», але я знянацку не магу знайсці ніякай усмешкі, увесь твар нібыта зроблены з гумы, нібыта ён не мой зусім, а рот не варушыцца. Фатограф і Яна спрабуюць рассмяшыць мяне: падскокваюць, курчаць рожы, усялякія гукі, — нічога мне не дапамагае, пакуль урэшце Яна вынаходзіць такі спосаб, робіць такі гук сваім ротам, як гук пярдыкі, і тады я пачынаю смяяцца, і фатограф фатаграфуе мяне.

Пасля таго, як мінуў тыдзень, чую, як Ірачка кліча мяне знізу. Я высоўваю галаву з вакна, і яна крычыць, што толькі што вярнулася са сваёй мамай з Кір'ят-Моцкіна і бачыла там мой здымак вялікага памеру, павешаны ў фатографа на вітрыне. Спярша я ёй веры не дала, але потым узяла крыху грошай і паехала ў *ателье* разам з ёй, і ўбачыла сябе на сцэнцы ў вялікімі памеры, у маім касцюме і ва ўсім іншым.

Чутка пра мой партрэт разляцелася ва ўсе бакі. У школе да мяне падыходзілі нават з шостага класа, і вялі са мной цалкам сур'ёзныя гутаркі, казалі прыемнасці і задавалі пытанні. Я распавяла пра ўсё, адно не сказала пра тое, што смех у мяне вырваўся дзякуючы гуку пярдыкі, бо гэта наш асабісты з Ёю сакрэт, як некаторыя іншыя рэчы, якія застаюцца ў нашым доме і нікому іх расказваць нельга.

Калі мы забралі гатовыя фатаграфіі дадому, я была такая радая, ажно прыняла рашэнне, што пры першым выпадку я нават пакажу іх Якаву, каб той зразумеў, які я добры і паважаны чалавек, і таксама будзе нагода паказаць яму, што ў мяне добрыя намеры, і што я гатовая пасябраваць з ім, як таго хоча Яна. Я чакала зручнай нагоды, і вось яна надарылася.

Адным ранкам я прачнулася са страшэнным балючым болем у жываце. Падумалі, што гэта разлад страўніка і тройчы адпраўлялі мяне ў прыбіральню, але ў мяне нічога не выйшла. І тады яна сказала, што гэта запоры, і што мне трэба праглынуць паслабляльны сродак і застацца дома. Я ціхенька ляжала і чакала, каб ён вярнуўся са сваёй вучобы сацыяльнага работніка. Калі я пачула, што ён прыйшоў у кватэру, раптам перапалохалася, і вырашыла, што я пакажу яму фотаздымкі, калі скончыцца вэрхал у маім жываце. Я пайшла ў туалет і села. Але то быў сур'ёзны запор, і каб там мне не было нудна, я пачала гуляцца ў гульню: я спускаю рулон туалетнай паперы да ўнітаза, паміж маіх ног. Так я прабавіла час, пакуль урэшце ў мяне выйшла гаўняшка. І тут адбылася катастрофа. Я паспрабавала спусціць ваду, але нічога не спусцілася. Унітаз забіўся. Пачакала, пакуль зліўня зноў не набярэцца, паспрабавала яшчэ раз. Нічога ніякага. Усе гаўняшкі і папера засталіся ва ўнітазе. Я пачула, як ён грукае ў дзверы туалета: «Што там такое?», а я не адказваю, толькі адчуваю, што я пачынаю пацець, а страх пачынае ціснуць на сэрца, і яшчэ раз тузаю клямку зліўні — усё роўна ўсё застаецца. Я тузанула клямку некалькі разоў, пакуль ён не закрычаў: «Анастасія, ты там заснула, ці што?!», і тады ў мяне выбару больш не было. Я выйшла, і мой язык быў сухі, і я з цяжкасцю варушыла ім: «Затор ва ўнітазе, і там шмат маіх мікробаў».

Ён не адказаў. Адно пачакаў пакуль я скончу мыць рукі і зайду ў свой пакой. Пасля некаторага часу, можа пасля некалькіх хвілінаў, можа, праз год, ён паклікаў мяне. Я ўбачыла, як ён нахіліўся над унітазам, а ў ягоных руках вялікі камяк мокрай і бруднай паперы. Я падышла моўчкі да яго, ішла як асуджаная да смерці. Адчула, як правы бок майго твару трохі

торгаецца, без маёй волі. Ён павярнуўся да мяне, падняў руку з камяком і з сілай пхнуў яго мне ў твар.

Не памятаю, што адбылося потым, не памятаю, як я мыла твар, і калі я трапіла ў свой пакой, толькі памятаю, сядзела на ложку, нерухомая, пакуль не настала цемра. Яна вярнулася па зней чым звычайна, я пачула яе крокі ў вітальні, і Яна смяялася і сцішана размаўляла з ім, і тады яна зайшла да мяне, і была такая дзіўная і ўрачыстая і сказала: «Што такое, Насценька? Ты чаго сядзіш у цемры?». Запаліла святло і закрыла сетку на вакне, каб не заляцелі камары. Потым села побач, абняла мяне і сказала: «Я хачу распавесці табе сакрэт, які нельга нікому распавядаць, каб ведала толькі наша сям'я». Яна пагладзіла мяне па галаве, трохі спарадкавала мае валасы пальцамі, уздыхнула глыбока і сказала: «У цябе будзе маленькі брацік або сястрычка, але яшчэ вельмі не хутка, недзе праз восем месяцаў... Ну, што ты маўчыш, як рыба? Ці ты радая?» І ўвесь гэты час не спынялася ўсміхацца і лашчыць мае валасы, пакуль я не абняла яе і ўтуліла галаву, як я люблю, у шыю, і сказала адтуль смешным голасам: «Я радая, матуля, *я очень, очень рада*, вельмі-вельмі ўсцешаная». Яна адсунула мяне ад сябе і сказала: «Ну, нашто плакаць, якое глупства!», але яна таксама плакала, увесь час смяялася, і потым пайшла зладзіць вячэру, і я стала думаць, якую зорку я магу аддаць, якая будзе прадстаўляць новае дзіця, і быў толькі адзін выбар, які падыходзіў.

Пасля таго, як я прыняла рашэнне, я падышла да вакна і стала шукаць яе, я накрэсліла выдуманую лінію праз Вялікі Воз, пакуль не трапіла на яго і не спускала з яго позірку, пакуль усё наўкола мяне не знікла, і засталася толькі я і Яна, і я сказала: «Я чакаю цябе, малеча, хлапеча, хлапчанё, нам будзе разам вельмі файна».

З таго часу, як Яна зацяжарыла, шмат чаго ў доме змянілася да лепшага. Усе намагаюцца быць зычлівымі. Нават Якаў. Калі пачаліся летнія канікулы, мяне адправілі ў летнік для рэлігійных дзяцей, бо забыліся запісаць мяне ў звычайны летнік пры звычайнай школе, а калі прыгадалі, дык не засталося месца. Рэлігійны летнік — прыемнае месца, адно што там не водзяць у басейн. Кожную раніцу мы збіраемся ў рэлігійным класе рэлігійнай школы і спяваем песні. Нішто сабе такія песні, я хіба не разумею ніводнага слова, таму спяваю на слых. Мова рэлігійных — гэта вам не просты, звычайны, іўрыт. Напрыклад: «Алё, Луя! Алё, Луя!» Не маю паняцця, хто такая гэтая Луя, і чаму ёй трэба тэлефанаваць, а я саромеюся спытаць, бо я спявала гэта процьму разоў, і выходзіць, што я нібыта спяваю без усялякага разумення, дык лепей я ўжо прыкушу язычок. Спяваем таксама песні, што я ведаю ўжо здаўна, «Хава нагіла», яшчэ з заняткаў па іўрыце, але калі я пачынаю думаць пра гэта, дык тады думаю, хто такая і адкуль гэтая Хава, і чаму яна нагіла, і што гэтае дзеянне, «нагіць», увогуле азначае, — я таксама не ў курсе, — можа быць, нешта кшталту «хадзіць нагамі». Потым мы трохі малюем, той двайны скрутак Торы з Дзесяццю Запаветамі, або голуба, або барадатага дзеда з ерыхонскай трубою. Мне найбольш падабаецца маляваць дзяўчатак, і пірацкі карабель з ветразем, нават няглядзячы на тое, што гэта не пасуе рэлігійнай школе, і наш важаты-выхавацель сказаў, што гэта вельмі прыгожа і што ў мяне здольнасці да малявання — і быццам я гэтага не ведала раней!

З гэтага летніка я вяртаюся рана. Якаў зноў праседжвае цэлы дзень дома. Ён пакінуў гэтыя сацыяльныя працы, бо занадта рупіўся пра некалькі ад-

ных бабулек, і ў яго не ставала часу на іншых бабулек, дык яго звольнілі, і Яна сказала, што гэта праз тое, ён дбайны і руплівы, і не працуе абы збыць з галавы, як іншыя.

Можа быць, праз тое, што яму няма каго даглядаць, ён вырашыў змяніць стаўленне да мяне. Напрыклад, купіў мне пластмасавы бінокль, на выпадак калі я хачу сачыць за вандроўнымі птушкамі, ён хіба што не ведаў, што як на мяне, дык птушка самае брыдкае, што ёсць на свеце, я вельмі моцна гіджуся іх, асабліва калі трэба трымаць птушак на руках, а іх вочы такія круглыя і злыя. Купіў мне таксама кнігу па-расійску Герберта Уэлса «Чалавек-невідзімка», якая ў мяне ёсць яшчэ з Саюза. Дастаў мне працяг кнігі «Тры мушкецёры» — «Пасля дваццаці гадоў», і дазволіў чытаць яе да поўначы, бо яму трэба было вярнуць яе назаўтра (я, пасля таго, як пастанавілі, што я пакінутая і сапсаваная, павінна выключаць святло ў сваім пакоі роўна а палове на дзясятую).

Я ненавіджу яго падарункі настолькі, наколькі я ненавіджу яго самога, але нягледзячы на гэта, я паводжу сябе вельмі добра. Дзякую, раблю намаганні, увесь час мыю рукі. Цяпер усё снадзіва ў кухні з пластмасы, так што значна менш трывогі, што разаб'ецца. У дадатак ён увесь час спрабуе мне ўсё растлумачыць, навучыць мяне або распавядае нудотныя гісторыі, пра тое, як яму жылося з яго мамай падчас вайны ў горадзе Самаркандзе ў Азіі, якія персікі былі там, і які вінаград. Вось дзе ж нудоцце! Я ахвотна падыгрываю яму, бо Яна ад гэтага робіцца шчаслівая.

Адзіная рэч, што вельмі жудасна — цяпер ён вырашыў вучыць мяне рабіць гімнастыку паводле кнігі, якая ёсць у яго, што прызначаная для афіцэраў Савецкай Арміі. Увогуле, я ненавіджу гімнастыку, акрамя балету, але нават тут я не пярэчу, нават калі гэты занятак злуе, я раблю ўсялякія розныя практыкаванні — «Удых-выдых», «Ластаўка», «Бег на месцы».

Самая паганая — гэта «ластаўка». Трэба стаць на адну нагу, раскінуць рукі ўшыркі, а другую нагу выпрастаную падняць назад. Апошнім часам ён любіць прытуліцца да мяне ззаду, каб мне нібыта было лягчэй, і часам проста так, калі я стаю ля вакна ў пакоі, прыціскаецца да мяне ўсім целам, аж занадта, моцна так, і я стараюся далікатна вылузнуцца з яго абдоймаў, каб ён не абразіўся і не пакрыўдзіўся, і каб ізноў у сям'і не было паганых адносінаў.

Вось як усё цяпер ідзе. Усё паціху-патроху. Яна шчаслівая, а значыць, я таксама. Яшчэ ні разу, з таго часу, як мы зрабіліся сям'ёй, не было такога прыемнага лета. Сёння ён завітаў да мяне ў пакой і сказаў: «Анастасія, гэтай ноччу роўна ў адзіннаццаць трыццаць восем будзе зацьменне Месяца, і табе можна ісці спаць пазней, не ў дзевяць трыццаць». І потым дурыў мне галаву яшчэ каторы час пра астраномію. Але я была такая радая, што мне зрабілася ўсё роўна.

Я пачала планаваць у галаве, як мы ўтрох выйдзем з дому. Ён нам будзе трындоліць пра зоркі, а я буду ісці зусім побач з Ёю, і Яна будзе шчаслівай, што ўсё настолькі цудоўна, і што ёсць лагода паміж намі, і я буду ўслухоўвацца да Яе шчасця ціха, ціха, і адчую, што гэта менавіта я, чароўная фея, зрабіла ўсё гэта, улагодзіла ўсе справункі, бо паводзіла сябе вельмі добра. І будзе пах траваў з палеткаў, і водар мора, і мы будзем маўклівыя і бліскучыя, як сузор'е, якое толькі што адкрылі.



пераклады

# “Скразная свядомасць”

***Вершы пяці расійскіх паэтаў***

*По вялікім рахунку сучасная расейская літаратура стала жыць цалкам адасоблена ад Беларусі разам з развалам Савецкага Саюза... Мусіла прайсці не менш за дзесяцігоддзе з тых часоў, каб творчыя сувязі пачалі патрошку аднаўляцца. Сталі ладзіцца сумесныя выступы на фестывалях “Парадак слоў” (Мінск), “Дні беларускага слова” (Масква), “Міжнародны літаратурны фестываль імя Максіміляна Валошына” (Кактэбель). У Расіі нарэшце з’явіліся пераклады актуальных літаратараў з Беларусі ў часопісах: “Новая юность”, “Сибирские огни”, “Дружба народов”, “Дети Ра”, “Новый мир”. Літаратурны працэс патрабуе кантактаў паміж мастацкімі прасторамі. Сучасная расійкая літаратура, як і беларуская, вельмі багатая і разнастайная, і прадставіць яе некалькімі імёнамі немагчыма. Пяць паэтаў – Сухбат Афлатуні, Святлана Буніна, Андрэй Каровін, Анна Гарэнка, Даніла Давыдаў – адлюстроўваюць толькі некаторыя тэндэнцыі ў творчым працэсе суседняй краіны, але гэтыя пяць імёнаў вельмі ярка ззяюць на расійскім небасхіле паэзіі.*

*Зміцер ВІШНЁЎ.*

# Сухбат Афлатуні

* * *

і вось ты сказала што кантракт скасаваны
а я адказаў што я скатаваны
скончаны студзень
пакрыўся скарынкай
дай рады

а ты сказала што табе зацесна
ў гэтым швэдары паліто горадзе свеце
а я ляплю аблокі з цеста
і ўжо зляпіў чатыры недзе

а ты дык лічыла што мне гаротна
што ў сэрцы не боль а цэлая бальніца
і я ў ёй старэю нібы пенелопа
мужчынскага роду

а я хоць і быў надарваным
як капэрта дзе хавалі чабор літары з перцам
але ўсё ж такі застаўся добрым
усеверцам

таму дзякую табе за хвілі
што ты выдаткавала на маё сэрца
я абяцаю назваць тваім імем
пятае воблака вылепленае з цеста

* * *

бацькоўскіх пачуццяў паветраны цмок
па-над кухняй і берагам ледзь
і дзеці глядзяць – позірк іх змоўк
слоўнік – стракоз маўзалей

эгаісты блытаюцца ў вецці паўсюль
вывезеныя ў вырай з норак
у небе хапае таропкіх матуль
лёгкіх квадратных сяброўак

дрэва здаецца мыццём кашуль
у распырсканнях вады-галля
цмок ў небе я і не я і вунь
з кімсьці знаёмым – яна

* * *

калі доўга любіш адно і тое ж
пачынаеш казаць адно і тое ж
мялёную каву змешваеш са снегам
камунікуеш з ёгам

не заўважаеш

што круцішся па другім трэцім коле
твой гуказдымальнік сышоў на волю
шукаеш паміж рамамі
учорашні ёгурт

а ў галаве дзе мусіць быць пад твае
трыццаць – мудрасць
цяпер пустэча як пасля Батыя і Лао-Цзы
і калі пачуеш: му-рзік! му-рзік!
не адразу скеміш
што Мурзік – гэта нехта іншы (але не ты)

*Пераклад Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

## Святлана Буніна

* * *

Застаўшыся скразной свядомасцю, пачынаеш быць,
Кожнаму крыгаходу плывеш насустрэчу.
Сутыкненні ўпэўняць: амаль слупы
Ногі твае, балюстрада – плечы.
Зноў здзіўленне: і гэта прайшоў,
Гэта ператрываў, ажывіў іначай,
Быццам пераспрачаўся даўжынёй валасоў
З нейкім Самсонам... Вага нічога не значыць!
Свядомасць – толькі воблака марудлівай таўшчыні,
Пачатковаму абрысу дні дадаюць рэха.
– Велічна плыве сярод будзённай вайны
І ўсё чым яно сілкуецца, голасць паветра.

* * *

Брава ж, сон. Нікуды не падзецца
Данасці – паспяшае шукаць
Блізкае сэрца ў раёне сэрца
(І памыляецца! Каб пачаць
Выпусціць). Хіба бывалі побач?
У вафельнай кухні ўдыхалі газ...

Усім гукарадам, як туш – у раялі,
Жоўтафіёлі мелі патрэбу ў нас,
Заспаных. Вось па якому праву
Цягліца, запалая за рубеж,
Не прагаворваецца адразу.
А выгаворваецца. Без.

## ВАРЫЯЦЫІ НА ТЭМЫ ЭН СЭКСТАН[1]

*Dearest Foxxy...*
*("Love Letter Written in a Burning Building")*

***I***

Васпане Фоксі!
Ці варта лезці ў пляшку
з той кадкі што палае? –
будынак падламіўся
і колы з гаражу не выкаціць.
Паміж намі:
колькі я вам (засталася)
за смак салаты
з кедравым алеем,
пяшчотныя прынашэнні,
права быць патрэбнай –
прасаваць вашы кашулі?
Досвед мінулай зімы:
беласнежнае астуджае.

Ці здаецца вам,
што мае прызнанні –
да вас –
напісаны на борце сумбуру
(на грудзях хваробы:
ляжы, пасунься,
белы сабака з мядзведжай шкурай)?
Вось прыклад:
пасля апошняй сваркі
у сяброў, дзе прасекі
акурат да дому
падбягаюць,
хто б яшчэ адважыўся
сцвярджаць, што вы –

---

[1] Эн Сэкстан (Anne Sexton, 1928-1974) – амерыканская паэтка, лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі (1967). Пакутавала на хранічную дэпрэсію, скончыла жыццё самагубствам у гаражы, задыхнуўшыся выхлапнымі газамі.

*лісяня залатое.*
*Лісінае здзіўленне,*
*лісіная спрытнасць,*
*ці вам здзіўляцца*
*лясным пажарам?*
*У святыя ўзыходзіць,*
*калі поспех –*
*ўсяго*
*чатыры хуткія лапы,*
*вецер насустрач,*
*ручай у дадатак?*

Гэта таму што –
васпане Фоксі! –
толькі агонь разумее сілу
старых адданасцяў,
сіратлівых гукаў
(проста бурацца сцены).
І пакуль я шалею, вы ўсё бліжэй
усё сапраўдней
(у святле, вясне, Парыжы) –
вы згараеце, мы згараем, нешта
выгарае:
вечнае адно пра адно
Вершаваць, як зіма пра цяпло
зіма пра цяпло...
Ныраю ў ложак,
але не мяняю тэмы...

***II***
Пасля я падумала пра цябе ў ложку.
Гэты снежаньскі дзень быў, пэўна,
лепшым
за шмат якіх.
Як спярэшчаная слядамі дарога,
ён прабіваўся да сонца на гарызонце.
Ад яго захаваліся лік і водар.
Я думала, што здольнасць слова
аддавацца хлусні – як апошняй стаўцы
на карыдзе (грошы, каханне, расплата) –
шануецца ў вытворчасці ісцін.
Таму ўсё болей спадручных сродкаў
знаходзіцца сёння, каб слову быць
больш упэўненым, акругліцца, выбраць:
правады, рэзістары – што потым?
Міжпланетныя мега- і інфра- (шыны)...
Як хлопчык падрослы, што прыхлусіў маме,
свет усё часцей, часцей з’язджае ў дзяцінства.

Мы жадалі быць у згодзе з сажалкамі
выбіраць зялёнае, зняцца ў белым –
сніцца з тымі, каго нараджаем.
Чым аднак далей наш каляндар цягнуўся
да гарызонту выразнасці – тым мацней
бунтаваў у табе збіральнік ісцін,
кожны дзень выточваў па балванцы.
Гэтак думала пра цябе ў ложку –
працягла, пяшчотна, неразменна –
дваццаць дзявятага дня, у суботу,
у снежні, пад новым няцотным годам
(няцотныя, як вядома, лепей).

***III***
І калі яна ўсё ж
зрабіла, зрабіла гэта
на той жа простай,
дзівачлівай
сваёй мове (дыялект кахання,
якое бясспрэчна ідзе на спад), –
ні кута яна, ні вы-
клічніка не выбірала.
*Падламіўся – сама лісяня ты! –*
*твой дом, і колы*
*з гаража не бягуць.*
Калі ж яна зрабіла гэта,
чатырнаццаць разоў
празвінела ў будніку:
хай кажуць блазны,
абражаныя хлопчыкі,
вашы чатырнаццаць гадоў
(I am the only actor).
Каралева жадае маўчаць.
І яе забаўляюць ад гэтага часу
пейзажы, пейзажы...

* * *

Уявім бачнасць жыцця па Джону Кейджу:
“Нават калі не зрабіў нічога – пачуецца гук”.
Матыль-бура. Спявае салата-латук.
Ледзь зазірнуўшы ў пакой, цень без бэйджу
Шорхае. А шоргат з часам гучней за грук.
Каханне, бач, не рэальнасць. Збоч у ванну
(Ты ніколі не плачаш, таму і спіш).
Толькі ў анклаве нашага хвалявання
Дзіцё лапоча. І з дахаў сцякае ў ноч ціш.

*Пераклад Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

# Андрэй Каровін

### ПІТЭР БРЭЙГЕЛЬ. ПАЛЯЎНІЧЫЯ НА СНЕЗЕ

Паводле Брэйгеля ў гарах ужо зіма.
І ў паляўнічых быццам сораму няма.
Набраклыя сочацца небам рэкі.
І на распнутым у аблоках палатне,
Малюе Хтось з жалейкаю ў руцэ
Апошні свой спадзеў пра чалавека.

Шарпак танклявы некранутага кахання
Працiснуць проста днём, яго дыханнем!
Цяжар запоўніў так паветра,
Што быццам бы – прыцісне лёд ураз.
І ўсё тады адбудзецца ў нас.
І ўжо ніякага не будзе сэнсу.

### СПб-ЗААПАРК

У Піцерскім заапарку жывуць сланы-летакі.
Але іх ніхто не бачыць, таму што яны заўсёды злятаюць.
Дзяўчо на паветраным шарыку з імі амаль на “ты”,
А вартаўнік, не ведаючы чаму, увесь час ўгору страляе...

Жырафы, бы страусы, хаваюць галовы,
таму што сланы-летакі,
Пралятаючы, чапляюцца за іх – то хобатам,
то – вой! – нагамі...
Сланы (у сваёй большасці) – добрыя,
бо закаханы як юнакі
ў тоўстых сланіх – што не лётаюць,
а скачуць як мядзведзікі-гаммі.

У Піцерскім заапарку дырэктар з мянушкай Маўглі
Сядзіць у сваім кабінеце ў абдымку са старым мядзведзем.
Балу, кажуць, з’ехаў з глузду: хапае малпаў
і саджае іх на вуголлі...
З Багіры зрабілі чучала, а Каа, як удаў – бясшкодны.

Рэдкія наведвальнікі,
тыя, якіх дырэктар называе бандэрлогі,
Запаўзаюць пацікавіцца лётным заапаркам
І кормяць бананамі ручных тыграў,
называючы іх Гіві і Гогі,
З дырэктарам п’юць гарэлку,
жанчын патрабуюць і... шчаслівыя цалкам

Нават я ўчора ў адной старэчы
пытаўся адрэсу і вуліцу,
І яна сказала, што звяры разбрыліся
на тысячы акраў
І толькі старая жырафа па звычцы горбіцца
І што дзесьці ёсць яшчэ СПб.
Але няма заапарку

*Пераклад Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

### ДАРОЖНЫЯ ЗНАКІ

– што шукаеш?
– баратынку
фіялентавы гекзаметар

я памру і ты ў магілку
котка з карым позіркам

а па стылю каляндар
розніцца не пільна

– адлівайце гаспадар
– доўга ехаць?
– хутка Вільня

дзверы з мытні
адмыкаюцца знадворку

веры даць яму ці не
пададуць цябе ў вячорку

для чаго – “не гаварыш”
а за вокнамі світае

засынае бы Парыж
ў Капенгаген адлятае

### МОРА: ЦЫТРЫНАВЫМІ ЛУСКАМІ

накрыйце мне мора ў лускі цытрыны
без крачак адчаю
мора – а ўнізе
каб было там абвечка ад золку па краю
і хуткі дэльфін бы пасланец з раю

і я пад язык пакладу тую луску
каб выжыць узімку

палыновую ёлку
каб плаваць узімку бы рыба ў вадзе
пуцяводнаю зоркай марскою на дне

### ***СНЫ: ПЕРАДЗІМОЎЕ***

а потым выходзіш з дому й сніш сны
абляцелае лета ровар зламаны
уяўляеш колькі гадоў яшчэ да вясны
разумееш што верагодна нямала

што адступіць мора і птушкай сканае зіма
на нікчэмны горад знячэўку зраднелы
станеш песні пяяць быццам глузду даўно няма
бы ў пячорнай сцюжы караім ацалелы

і чым даўжэй глядзіш на ўзбеленае святло
тым больш важкія сляды анёлаў
у бухматым снезе
ўсё таму што да лета вяртання няма ужо
ўсё таму што лета – човен на хвалярэзе

### ***МОВА: ПАД ЯЗЫКОМ***

кім ты быў пячкурок пад языком
калі рот яшчэ называўся іртом
і словы праплывалі туды
я дык памятаю шчэлепны твой перапуд
калі чэрап дня зважаў на гук
і рыдаў ты ўва сне савы

плаўнікі твае ў грудзёх расцвілі
далёка па крылы ты не хадзі
быў пячкурком стаў сініцай
а што мова з гаркотай ды ганарысты сум
дык жа ж лепей ты дагэтуль быў маўчун
цяжка быць гаваркою птушыцай

### ***RRRY: J ŹLITAVAŃNIA NIAMA***

rrr *pramaŭlaju na vuška*
budu ciabie kusać

*ty pramaŭlaješ* Андрюшка
hod tabie try ccać cać
a ty jašče jak dziciaci

rrr *pramaŭlaju ŭ adkaz*
ja tvoj siabruk tygraniaci

rrry
j źlitavańnia niama

*Пераклад Жэні ҐОРДАНА.*

## ***НЯБЁСНЫЯ ПЕРСІКІ***

каханая
магчыма калі-небудзь у нас з’явяцца грошы
мы пойдзем з табой на рынак
і набудзем нябёсных персікаў

з іх будзе цячы нектар амброзія
яны будуць муркатаць у нашых руках
лашчыцца да нашых пальцаў
казытаць нас шурпатай скуркай
паддавацца лёгкім націскам пальцаў
усім целам ахінаць яго сабой
упускаючы ў сваё жыццё цалкам без падману
распускаючы яго ў сабе і распускаючыся ў ім
робячыся адным целам і духам
згусткам пяшчоты
душы ўваходзяць адна ў другую
быццам у іх ёсць
гэткія ж прылады як і ў целаў

персікі гэта і ёсць
вечныя непадзельныя каханкі
усе рамэа-джульеты
усе петраркі-лауры
і астатнія кавалеры-дэ-грые
пасля смерці сталі персікамі
гэта такі вось пасмяротны рай

варта надкусіць персік
і ты пабачыш якогась рамэа
у забароненай форме застылага над джульетай
гэй якога табе тут трэба дзядзя
хутчэй за ўсё скажа ён
адрываючыся ад вечных спраў
і ты адкажаш
я проста люблю персікі мілы рамэа
працягвайце прашу вас не звяртайце ўвагі
сёння цудоўны дзень

бачыш каханая
жыццё перамагае смерць

*Пераклад Зміцера ВІШНЁВА.*

## Анна Гарэнка

* * *

я выходжу з правінцый маёй душы
адразу бачу збоку: цела можа быць норка птушкі
але не лятучай а на шпацыры і трохі скакаць
не стракатай дакладна

і такіх карысных рэчаў нямала я напаткаю –
дамкі, паслухмяныя зёлкі й іншыя карчагі
на шляху да сталіцаў

### *ПЕРШЫ ВЕРЛІБР*

узяўшы манікюрныя нажнічкі адкрыю сабе рукі й
ногі не сумнявайся пра астатнюю руку
колцы маленькіх нажнічак ў роце нядужа гнуткай
гэтакай гутаперчавай уседлівас-
ці адолею й гэтую – хіба рэшту калі назваць
кукса станецца неаднолькава доўгая.
Але выпіхваючы словы як экстапельца ваду
пад рукой ратоўцы
ты адмаўляеш – ізноў! –
што, бач,
ганулечка ў цябе не хопіць цярплівасці
такімі жамярынымі нажнічкамі столькі мяса,
не кажучы ўжо пра ўтоенае – пра касцявы мозг...
пацешныя мне твае пярэчанні – я швачка
захоўваю супакой як бачу шпількі й голкі
калі ж сапраўды і стамлюся
ты натуральна пазычыш
хлебны нож у суседняй кавярні
і
я сядаю на лаву й паціху пачынаю
кроіць з першай нагі па чарзе
Але ты – а табе ўласцівыя на жаль літасць
і ласка да падлых
зямля й бружмель
неўразумела схілены засцерагчы
што я без рук і ног адрэзаных
бяздумна й свавольна

не атрымаю ані мыліц ані крэсла
ані грошай ані жыцця
што я на вуліцы адна сярод надвор'я
й няма чым нават рублік той падняць
Ах ты мне выказаў павагу, ну, павесяліў –
як не заўважыў ты:
я кожны дзень на вуліцы бываю
й трошкі паабвыкла.
Пакуль спрачаліся гатова справа!
як лісце вушы валасы й зоры
упалі рукі-ногі пад услон пазногці
не раўнуюць іх нарэшце.
Крыві ж ажно дзятва караблікі
пускаць набегла – шумяць.
Знянацку ты засаромеўся і стаў пытаць –
а што, табе нікольві не баліць?
Ура! Трыумфу момант!
Дзе мой адказ? Мае адказы, на, які?
Не! Але пытаннем на пытанне –
даўно спытаць карцела,
да месца, а?
Што?! Не баліць – табе?

*Пераклад Жэні ҐОРДАНА.*

* * *

У раі ў ботах вазьму і засну
у ботах і цёплых шкарпэтках
пад правую скулу кайстру сваю
левую
падклаўшы з кнігай бы сведкай
і не будзе холад мяне будзіць
пад зоркамі калі не відаць
і не давядзецца болей прасіць
Бога мне дом свой даць

*Пераклад Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

## Даніла Давыдаў

* * *

Пах падпаленай гумы
стук малатка за сцяной
скрынкі за вакном так і пнуцца
ўпасці загрукатаць пакаціцца
самалёты выбіраюць
самы адказны момант

парашут прызямляецца
насупраць царкоўнае крамкі
бачым там на двары
ўздымаюцца на ўвесь рост
жах і жудасць – і ў іх ні вачэй, ні ратоў
яны ніколі нічога не скажуць
ніколі не падпішуць неабходную паперу
дый наогул яны нікому нічога не зрабілі

* * *

такая вось музыка, да сябе падобная
суцэльная музыка падобна як цярноўнік
як туды братка трусік паляціць
музыка музыка дасі паказанні

музыка музыка дасі паказанні
адчуеш на сэрцы шчасце завісання
застукаюць па даху нядобрыя ногі
сонейка прынясуць нядобрыя госці

* * *

мой сябра пераходзь
на новую мову на мову жэстаў
але нікому не кажы
што развучыўся размаўляць
а ціха-ціха мармычы
што сілы так жэстыкулюй
ды ў жэстах сэнсу бы няма
ды ў словах сэнс нібыта ёсць
глядзі сціскае пісталет
рукой мінак – і значыць ён
наш новы сябра новы наш
і мову хоча ён вучыць
новую мову мову вулічнай перастрэлкі

*Пераклад Веры БУРЛАК.*

**Пра аўтараў:**

**Сухбат Афлатуні** (Сухбат Афлатуни, 1971). Нарадзіўся і жыве ў Ташкенце. Аўтар кніг «Псалмы и наброски» (Масква, 2003), «Ташкентский роман» (Санкт-Пецярбург, 2006), «Пейзаж с отрезанным ухом» (Масква, 2008), публікацый у часопісах «Арион», «Новая Юность», «Октябрь» і інш. Адзін з заснавальнікаў (разам з С. Янышавым і У. Муратханавым) творчага аб'яднання «Ташкенцкая паэтычная школа» і сурэдактар альманаха «Малый шелковый путь» (2001-2006). Лаўрэат прэмій часопіса «Октябрь» (2004, 2006), «Русской премии» (2005), ма-

ладзёвай прэміі «Триумф» (2006), фіналіст прэміі Казакова за лепшае апавяданне года (2008). Уваходзіць у рэдакцыйную раду часопіса «Дружба народов».

**Святлана Буніна** (Светлана Бунина, 1974). Нарадзілася ў Харкаве, з 2002 г. жыве ў Маскве. Аўтарка кнігі вершаў «Удел цветка» (Масква, 2009) і шэрагу літаратуразнаўчых даследаванняў у галіне славістыкі. Сфера навуковых інтарэсаў – маргінальнасць у літаратуры, станаўленне маргінальнага пісьменства ў рускай культуры Сярэбранага веку. Доктар філалагічных навук, лаўрэат прэміі імя Барыса Чычыбабіна за першы каментаваны збор вершаў паэта. Вершы і пераклады (з украінскай, беларускай, англійскай, узбекскай моваў) друкаваліся ў часопісах «Новый мир», «Дружба народов», «Интерпоэзия», «Новая юность» і інш. Арганізатарка фестывалю “Дні беларускага слова» (Масква, красавік 2010).

**Андрэй Каровін** (Андрей Коровин, 1971). Нарадзіўся ў Тульскай вобласці, жыве ў Маскве. Скончыў Юрыдычны інстытут МУС РФ, Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя А.М.Горкага. Аўтар кніг вершаў «Поющее дерево» (Масква, 2007), «Пролитое солнце» (Масква, 2010) і вялікай колькасці публікацый у літаратурных часопісах і анталогіях. Лаўрэат прэміі часопіса «Дети Ра» (2006), часопіса «Футурум АРТ» (2008), часопіса «Литературная учёба» (2009). Удзельнік аб’яднання ДООС («Добровольное общество Охраны Стрекоз»), заснаванага К. Кедравым (з 2008). Арганізатар Міжнароднага літаратурнага Валошынскага конкурсу і Міжнароднага літаратурнага фестывалю імя М.А. Валошына (Кактэбель, Крым, Украіна). Куратар літаратурнага салона «Булгакаўскі Дом» (Масква) і іншых літпраектаў.

**Анна Гарэнка** (Анна Горенко, сапр. імя Анна Григорьевна Карпа́; 1972—1999). Нарадзілася ў Малдове, вырасла ў Ленінградзе, з 1990 г. жыла ў Ізраілі, збольшага ў маладзёвых камунах. Вершы і проза друкаваліся ў ізраільскіх часопісах «Сонечнае спляценне», «Двукроп’е», «Населеная выспа» і інш. Памерла ад перадазіроўкі. Пасмяротна выдадзены зборы твораў: «Малое собрание» (Іерусалім, 2000), «Стихи» (Іерусалім, 2000), «Праздник неспелого хлеба» (Масква, 2003), «Сочинения» (Масква, 2010). Творчасць А. Гарэнка – адна з самых выразных з’яваў у рускай паэзіі канца XX ст. Згодна з Д. Давыдавым, Гарэнка «выступае апраўданнем і рускамоўнай маладой літаратуры ў дыяспары, і – у нейкім сэнсе – і нас усіх».

**Даніла Давыдаў** (Данила Давыдов, 1977). Нарадзіўся ў Маскве, скончыў Літаратурны Інстытут імя А.М. Горкага і аспірантуру Самарскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта (дысертацыя «Руская наіўная і прымітывісцкая паэзія: генезіс, эвалюцыя, паэтыка»). Аўтар чатырох кніг вершаў «Сферы дополнительного наблюдения», Масква, 1996), «Кузнечик» (Масква, 1997), «Добро» (Масква, 2002), «Сегодня, нет, вчера» (Масква, 2006), кнігі прозы «Опыты бессердечия» (Масква, 1999; прэмія «Дебют» за 2000 г.) і шматлікіх крытычных артыкулаў, частка з якіх увайшла ў зборнік «Контексты и мифы» (Масква, 2010). Заслугі Данілы Давыдава ў галіне крытыкі адзначаны прэміяй «ЛитературРентген» (Екацярынбург, 2009) і спецыяльным дыпломам часопіса «Новый мир» (2009).

Сяргей Шапран



...хачу, каб быў такі фільм, таму што ён верне беларускай студыі гледачоў...

# “Кіно – мастацтва калектыўнае...”

## *Драматычны кінадраматургічны лёс Васіля БЫКАВА*

### «Альпийская баллада»

*Працяг. Пачатак у №2 (51)*

Прапанову напісаць кінасцэнарый па матывах аповесці «Альпійская балада» Васіль Быкаў атрымаў напрыканцы 1963 г. — у снежні ён паведамляў Ларысе Геніюш: «Нядаўна прыехаў з Мінска, дзе прабыў тыдзень у Каралішчавічах на семінары кінадраматургаў. Мінская студыя збіраецца зрабіць карціну па новай аповесці ну і просіць мяне напісаць сцэнарый. Відаць, так і зраблю [...]»[1]. І ўжо вясной наступнага года пісаў: «Я ездзіў на кінастудыю, выклікалі на рэдакцыйную калегію. Хочуць ставіць фільм па баладзе, ужо ёсць рэжысёр, напісаў я і сцэнарый, хоць яшчэ не ўсё добра ў ім. Я думаю, няхай робяць, характар Івана мне таксама да спадобы, хоць я і не меў на ўвазе ствараць вобраз святога, без страху і дакору рыцара. Гэта просты хлопец, які пражыў нялюдскае жыццё (25 год), але які захаваў у сабе ўсё самае высакароднае, хоць яно ў яго і не ляжыць на плячах і не блішчыць»[2].

Пазней пісьменнік наступным чынам прыгадваў тыя даўнія падзеі: «...вядома, напомніла пра сябе Беларуская кінастудыя

— сказалі, што можна зьняць вельмі прыгожы, рамантычна-патрыятычны фільм міжнароднага гучаньня. Я не знайшоў аргументаў супроць. Мабыць, ранейшыя пакуты з “Трэцяй ракетай” пачалі забывацца, думалася, тут будзе інакш. [...]

Як пісаць сцэнары, я ўжо ведаў, нешта даволі хутка накрэмзаў. Здымаць фільм узяўся вопытны рэжысёр Барыс Сцяпанаў[3].

Некалі Алесь Адамовіч казаў, што ўсе савецкія рэжысёры аднолькавыя і адрозьніваюцца адзін ад аднаго хіба тым, як адносяцца да сцэнару. Адны бясконца перарабляюць яго самі, змушаюць на тое аўтара, а то і наймаюць памагатых. Другія, атрымаўшы сцэнар, кідаюць яго на сметнік і здымаюць самі, як хочуць. Хто з іх лепшы, невядома, але вынік заўсёды аднолькавы.

Мой папярэдні рэжысёр Рычард Віктараў, відаць, адносіўся да першай рэжысэрскай групы, ён выціскаў з мяне ды іншых, хто да таго меў дачыненне, усе сокі, дамагаючыся дасканаласці. Другі ж, Сцяпанаў, як толькі атрымаў зацверджаны сцэнар, адразу ж кудысьці знік. І толькі калі група выехала на натурныя здымкі, запрасіў аўтара прыехаць, найперш каб адпачыць на прыродзе»[4].

Дамова з Быкавым на напісанне сцэнарыя была заключаная 28 лютага 1964 г. Прыняццю гэтага рашэння папярэднічала абмеркаванне літаратурнага сцэнарыя «Альпийской баллады»:

«КУЧАР. Я горячо поддерживаю сценарий. Сюжет острый, кинематографический. Мне, как читателю, все очень понравилось в смысле больших чувств, верности, готовности жертвовать собой ради другого. И это бьет по разобщенности, по вражде людей, по темным силам мира, по фашизму.

Это жизнеутверждающая вещь о Ромео и Джульетте.

Раздражает смесь трех языков. Джулия не очень естественно восхваляет наши тезисы. Это несколько нарочито.

Я не против темы культа, но у меня было впечатление, что для нее это слишком далекая тема.

Главное, чтобы элементы сентиментальные и капризности делают это иногда больше похожим на вымысел. Капризная взвинченность ее может быть похожа на колики, которые выкидывает взбалмошная девчонка. Здесь должен быть накал больших, суровых чувств.

Нужна итальянка, которая сыграла бы эту роль.

Присутствие сумасшедшего снимает сантимент. Это хорошо.

ЛУЖАНИН[5]. В симпатиях к сценарию мы сходимся все. Невольная дружба и любовь знаменует собой больше, чем прямо сказано в сценарии.

Мои опасения. Само начало мне не представляется совершенно оригинальным. Это где-то уже было. [...]

Отношение к явлениям нашей действительности надо точно выверить. Вряд ли надо лезть на Альпы, чтобы говорить о колхозах. Возможно, не найдено место.

Эпизод с немцем и хлебом грубоват. И во всей линии немца некоторая нарочитость. Я с самого начала знал, что немец укажет их следы.

О финале. В отрывке в «Литературной газете» правильно поставлено многоточие. Не надо уточнять, как она спаслась.

ГУБАРЕВИЧ. Я хочу добавить, что нравится мне сценарий еще и потому, что он очень кинематографичен. Сюжет строится мастерски. Это большое преимущество. Я не хочу повторяться о положительных качествах. Сегодня надо поговорить о сомнениях. Нужна проработка тех мест, которые вызывают сомнения.

По поводу бомбы сомнений не было. Это очень динамично. [...]

Меня смущает другое. Этого сюжета, мне кажется, недостаточно на полнометражный фильм. Тут чего-то недостает. В Альпах среди лугов у меня пропало ощущение тревоги, опасности, драматизма. И это до того времени, пока не появился немец.

Я не понял немца. То ли он сумасшедший, то ли провокатор. И почему сумасшедшего преследуют эсэсовцы.

Абсолютно согласен о разговоре Джулии. И в первую очередь по форме. Зрителю будет трудно воспринимать. По существу, я тоже сомневаюсь, могли ли быть такие разговоры у них о колхозах и о вещах, сопутствовавших культу. Это можно было после XX съезда[6]. Не могло у него быть во время войны сомнений насчет колхозов. Мне кажется, было бы интереснее, если бы они вообще не понимали друг друга и говорили внутренними монологами.

ФИГУРОВСКИЙ. Люди, обезвреживавшие бомбу, были одеты в определенную одежду и они лишь вывинчивали взрыватели. И немцы никогда близко к этому месту не подходили.

ФАДЕЕВА. Мне очень нравится и повесть, и сценарий. И будет смотреться с интересом и напряженно. Когда уходит внешний драматизм погони, приходит внутренний драматизм человеческих отношений.

Кое-что неточно. Реакция его на разговор о 37 г. не совсем точна. Он должен говорить правду, но то, что ему кажется нормой, она не принимает. В повести это было точнее. Я считаю, что поведение немца сделано очень точно. [...]

СКВОРЦОВ. Вещь эту нужно делать и как можно скорее. Правомерно ли, чтобы итальянка говорила так, как говорит в повести? [...]

КУЛЕШОВ. Это интересная вещь. Сценарий интересный и нужный.

Мне кажется, что автор и режиссер должны очень точно выверить все, начиная от диалога и до политического спора между героями. Если спор вообще выбросить, сценария не будет. Будет обыкновенная, банальная история. Прелесть вещи в любви итальянки к Советскому Союзу. Это поднимает вещь до высокого интернационализма. Ее возвышенное отношение к Ивану понятно. Русские — единственная надежда.

Путанный язык — в кино это не нужно. Она долго сидела в лагере с русскими и может объясняться по-русски.

Привлекательность Джулии в ее чистоте и в ее любви к Советскому Союзу.

Я согласен, что сумасшедший немец не продуман до конца. [...]

СТЕПАНОВ. Много существенных замечаний. Мы предвидели их и Быков уже много переделал. [...]

БЫКОВ. Я почти со всеми претензиями согласен. Мне только кажется, что в языке актриса сможет так произносить русские слова, что они будут звучать, как итальянские.

По части бомбы я тоже консультировался. В разных лагерях были различия и в одежде, и в правилах.

Кулешов прав, что если убрать политические мотивы — сценария не будет. Сцены эти я переделал, там, мне кажется, найдена иная мера.

Сцену с немцем и хлебом я переделал.

Я написал внутренний монолог героя, он требует еще уточнения.

Может быть, действительно надо оборвать раньше, тем более что дальше следует письмо.

Когда они ушли в горы, ушли в труднодоступный горный район, вырвались из ада, и в их души пришли ощущения, от которых они отвыкли. И когда у них возникло нечто большее, чем просто человеческие отношения, за их спинами встало что-то жестокое. И культ. Иван понимает, что все это безнадежно»[7].

У выніку сцэнарый быў прыняты ў якасці першага варыянта. Аўтару прапаноўвалася прадставіць папраўлены варыянт 15 сакавіка, для чаго яму было накіравана наступнае заключэнне:

В основу сценария положена идея антифашистской солидарности всех стран, персонифицированная в образах Ивана и Джулии.

В борьбе с немецкими оккупантами ведущее место занимали народы Советского Союза и к ним тянулись сердца всех, кто сопротивлялся фашизму. Любовь Джулии к Ивану с этой точки зрения — не просто влечение молодости, а преклонение перед непобедимым духом советских людей, которые и в жесточайших условиях лагерной жизни возглавляли освободительную борьбу.

Для раскрытия этого замысла автор нашел форму остросюжетного развития действия, что, несомненно, придаст картине хороший зрелищный интерес.

Вместе с тем в сценарии еще не все до конца проработано. Коллегия рекомендует автору произвести в сценарии следующие доработки:

1. Необходимо более четко подчеркнуть мысль, что любовь Джулии к Ивану имеет в своей основе глубочайшее уважение к советскому человеку-борцу. В сценарии же пока преобладают элементы иного свойства, что значительно мельчит большую и благородную тему.

2. Очень важным звеном сценария следует считать содержание разговора Ивана и Джулии на протяжении всего побега. Но разговоры на темы культа личности и состояния колхозов в то время и в той ситуации неправомерны и во многом надуманны.

В этой части сценария особенно важно поработать над содержанием разговоров.

3. Форма разговоров также вызывает сомнение. Конгломерат итальянских, немецких и искаженных русских слов не донесет до зрителя мыслей, заложенных в них. Здесь также важно найти органический прием, который не обеднил бы содержание фильма.

4. Не прояснена ситуация с сумасшедшим немцем, убежавшим из концлагеря. Если он действительно сумасшедший, то как он мог обмануть охрану лагеря и почему он становится сознательным провокатором, когда наводит гестаповцев на след Ивана и Джулии? Все поступки его — результат логики нормального человека. Кроме того, вызывает возражение сцена, когда Иван заставляет сумасшедшего человека за кусок хлеба поносить Гитлера.

5. Искусственной представляется сцена спасения Джулии. Если Иван был уверен, что он спасет ее, бросив в пропасть на снег — почему он сам не воспользовался этой возможностью? Не лучше ли поставить сюжетную точку несколько раньше, поскольку эта ситуация досказывается в письме.

6. Само письмо очень длинно, особенно в финале.

7. Следует обратить внимание и на то обстоятельство, что с момента прекращения погони в начале сценария и до появления ее в конце пропадает ощущение опасности, драматизма положения героев. Эта часть фильма может оказаться не наполненной действием и содержанием, если не считать разговора, содержание которого тоже следует переосмыслить.

8. Очень важно было бы наполнить сценарий материалом прошлой жизни Ивана и Джулии в лагере, чтобы эти образы стали несколько объемнее по своему жизненному и человеческому содержанию»[8].

Трэці варыянт сцэнарыя быў дасланы Быкавым па пошце 9 сакавіка 1964 г.[9] Праз дзесяць дзён адбылося яго абмеркаванне:

«КУЧАР. Мне сцэнарый, як і раней, падабаецца. Дзесьці падабаецца, дзесьці раздражняе, што так не бывае, але з другога боку хочацца, каб людзі былі такімі.

Хачу, каб быў такі фільм, таму што ён верне беларускай студыі гледачоў.

Мова яе мяне раздражняла. Можна абысціся нейкімі пяццю рускімі словамі і выказаць тыя ж самыя думкі. Яна ніяк не зможа вымавіць слова «пощёчина».

Сны мне не вельмі спадабаліся. Цяпер гэта можна («Земляничная поляна»[10], «8 с половиной»[11]). Але там яны складаныя, а тут прымітыўныя. Хацелася б, каб яны былі больш складаныя. З другога боку, ці трэба парушаць бясконцую дарогу.

Наконт культу і тых часоў. Гаворка стала лепшая. Гэта Рамэа і Джульета XX стагоддзя.

У фінале я не зразумеў, як яна засталася жывая. Думаю, што лепш было б зрабіць па-шэкспіраўскі, каб ён усё ж такі кідаў яе з абрыву.

Дыктарскі тэкст не ўсюды падабаецца, у некаторых месцах трэба над ім яшчэ папрацаваць.

МАКАЕНОК. Мне сценарий очень понравился. Согласен с Кучаром насчет концовки, хотелось бы более определенной концовки.

Разговоры о культе хотелось бы или сократить, или, возможно, перевести в другой план — пусть арестован будет не учитель, а отец. [...]

Все остальное зависит от режиссера. А возможности для режиссера и для актера колоссальные.

ГУБАРЕВИЧ. Приятно отметить, что проделана большая работа, творчески переосмыслены многие вещи. [...]

По-прежнему смущает диалог. Это наиболее несделанное место. Это еще не совсем то и по содержанию. И литературный принцип диалога не найден. То, что они будут говорить догадками, непонятными словами, в кино делать нельзя. Слишком большое напряжение для зрителя. И я не уверен, что надо вообще поднимать вопросы культа.

В финале что-то провисает. [...]

ФАДЕЕВА. Сценарий сделан сейчас на едином дыхании. Политический спор героев повернут под правильным углом. Что касается диалога, то есть возможность найти итальянку.

Условен дикторский текст и фон эпилога. [...]

ФРАЙМАН. Быков сделал все, что надо для литературного сценария. Дикторский текст мне резко не понравился. Я бы вообще не вводил дикторского текста. [...]

О финале. Он показался несколько неожиданным. Есть потеря. Теряем смысл — герой погибает, спасая Джулию. Сейчас эта мысль ушла.

А в общем сценарий очень интересный. И сны мне понравились, хорошо, что появилась Белоруссия. [...]

СКВОРЦОВ. Картина должна быть почти немая, а не разговорная. Единственным переводчиком для зрителя должен быть Иван.

Если она будет говорить на чистом итальянском языке, она знает несколько русских слов и «Катюшу»[12], это даст возможности для напряжения в фильме. [...]

Разговор о культе должен возникнуть от каких-то бытовых вещей. [...]

Для того, чтобы картина имела напряжение в конце, она не должна быть спущена на тормозах. Он спаситель и ее, и всех женщин мира.

Она имеет хрестоматийное представление о России. А если его рассказ будет о конкретных, своих делах, это будет хорошо и убедительно. [...]

ЛУЖАНИН. История получается величественная, возвышающая душу. Надо показать, насколько выше этот умирающий заключенный всего окружающего.

Хочу поддержать две мысли: с родственников может начинаться разговор о культе. И деревня во сне будет толчком для разговора о колхозах.

Я дал бы еще один сон — место, где жила итальянка. Это конкретизировало бы их устремления. И чтобы он приобщался к ее родине. [...]

СТЕПАНОВ. О финале. Я пытался зрительно представить, как будет происходить сбрасывание ее в пропасть. Это будет липа. Тут надо подумать. Только бросать ее в кадре нельзя. Будем искать.

О дикторском тексте. Был период, когда мне казалось, что дикторский текст необходим, поскольку из сценария исчезли психологические мотивировки.

Текст стоит очень условно. Если нужный результат будет достигнут без него, он исчезнет.

Диалог пока тоже условен, он окончательно установится в работе с актрисой. Мысль о преобладании итальянского языка — интересна.

Сны органично вросли в сценарий. Их только надо тщательнее разработать.

БЫКОВ. Я согласен с тем, что говорилось. Дикторский текст я писал очень условно, с тем, чтобы окончательно установить его в работе.

Диалог Джулии надо действительно сократить максимально. Но сейчас я затрудняюсь это сделать. В тех местах, где с актрисой можно найти нужный эквивалент, диалог уйдет.

Что касается финала, я не знаю. Его надо найти. Возможно, надо вернуться назад к варианту повести»[13].

У выніку з'явілася другое заключэнне:

«Сценарий В. Быкова «Альпийская баллада» — произведение в высшей степени поэтичное, полное драматизма и глубокого содержания. Его идейный смысл и значение выходят за рамки просто рассказа о высоких и светлых чувствах героев, их благородстве и мужестве, хотя и это само по себе уже немало.

Однако гораздо важнее, что через историю побега из гитлеровского лагеря белоруса Ивана и итальянки Джулии, через их характеры, их отношения автор сумел показать и солидарность разных народов в борьбе с фашизмом, и ненависть людей к фашизму, и их великую любовь к советской стране, веру в нее, преклонение перед силой духа и мужеством советского человека.

Эта сила духа и ее природа ярко и полно раскрыта в образе Ивана, образе обобщенном. Ибо душевная стойкость и несгибаемость Ивана, его человечность и доброта, чистота и благородство, его любовь к Родине, к социалистической Родине, выдержавшая самые тяжкие испытания, — качества, отличающие именно советских людей, советский народ. И Джулия вверяет Ивану себя, свою жизнь, дарит ему свою любовь, потому что Иван для нее воплощение его прекрасной, необыкновенной родины, которой Джулия восхищалась всегда. [...]

Сценарно-редакционная коллегия принимает сценарий «Альпийская баллада». Но считает, что при режиссерской разработке автору и режиссеру необходимо учесть следующее:

1. В этом варианте сценария найден более верный ключ к психологическому решению политического спора героев, однако следует найти точный посыл для возникновения такого разговора.

2. Финал сценария не следует обрывать, как это сделано сейчас, из финала должно быть ясно, что Иван спас Джулию, а сам погиб.

3. Надо проверить обязательность дикторского текста в фильме и попытаться обойтись без него. В случае если такая необходимость возникнет, найти для дикторского текста точное место и интонацию.

4. Найти зрительное решение эпилога. Текст письма нуждается в сокращении.

5. Обратить самое серьезное внимание на диалог, особенно на речь Джулии.

Еще раз подумать над тем, как герои объясняются друг с другом, и как поймет Джулию зритель. Во всяком случае, надо максимально сократить употребление Джулией русских слов, оставив самые необходимые. В ряде мест Иван может служить как бы переводчиком, объясняя вслух для себя то, что говорит Джулия»[14].

Ужо ў жніўні з прапановамі Б. Сцяпанаву пры распрацоўцы рэжысёрскага сцэнарыя выступіў галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі «Беларусьфільма» А. Куляшоў:

«1. Беседы Ивана и Джулии о Советской стране нужно разработать тоньше

и точнее. Они меньше всего должны походить на урок, а являться духовным завещанием Ивана, средством привлечь симпатии к своей стране и ее великому делу, укрепить любовь к ней путем раскрытия большой правды о нашей жизни, радостях и бедах.

2. Сумасшедший входит в повествование неорганично и потому выглядит не живым героем, а приемом, движущим действие.

3. Диалог Ивана и Джулии, особенно ее письмо, остаются все же многословными»[15].

Прэтэнзіі былі і ў Дзяржкамітэта Савета міністраў БССР па кінематаграфіі, які, прымаючы сцэнарый Быкава, тым не менш рэкамендаваў аўтару і рэжысёру ўлічыць наступнае:

«1. Снять с Ивана все еще имеющийся налет мученической судьбы в прошлом.

В беседах Ивана с Джулией должен раскрываться облик советского человека, беспредельно любящего свою Родину, мужественного и умного.

2. Смягчить, облагородить отношение Ивана к сумасшедшему немцу.

3. Обратить серьезное внимание на диалог, особенно на речь Джулии, добиваясь лаконизма и образности общения.

4. В прологе не следует сообщать зрителю, что Иван погиб.

5. Найти более обогащенное зрительное решение эпилога. Текст письма Джулии нуждается в сокращении»[16].

Але было яшчэ адно заключэнне на сцэнарый «Альпийской баллады», на гэты раз ужо з Масквы:

«24 ноября 1964 г.

При ответе ссылаться на № 1/1588

Директору киностудии «Беларусьфильм» тов. Дорскому И. Л.

Председателю комитета СМ БССР по кинематографии тов. Павленку Б. В.

Сценарно-редакционная коллегия рассмотрела литературный сценарий «Альпийская баллада» (автор В. Быков, режиссер Б. Степанов) и сообщает, что сценарий утверждается.

При работе над режиссерским сценарием следует учесть замечания, высказанные при обсуждении.

1. Необходимо освободиться от эпизодов, в которых ведутся разговоры, связанные с культом личности, как не относящиеся непосредственно ни к сюжету данной вещи, ни к характеристикам главных героев. Особенно нарочито звучат эти рассуждения, если учесть, что герои говорят на разных языках.

2. Вызывает возражения сон Ивана, где он видит пышное убранство стола немцев. Эти ассоциации неорганичны для характера Ивана, и для той жизненной ситуации, в которой он находится.

3. Очистить язык героев и пользоваться только той лексикой, которая возможна и правдоподобна в этой ситуации. Следует подумать о сокращении диалогов.

4. В начале сценария несколько чрезмерно и неправильно используется мотив похоронных, когда ходят по селу люди и смотрят, сколько народу там погибло.

5. Неточно решена сцена с чисткой сапог. Как будто только уничтожающий взгляд Джулии пробудил в нем гнев. Этот эпизод необходимо сделать с точным и определенным прочтением.

С учетом высказанных замечаний, сценарий может быть запущен в режиссерскую разработку, с представлением для рассмотрения режиссерского варианта в Главное управление художественной кинематографии.

К данному заключению прилагается стенограмма обсуждения, где высказаны соображения по поводу общей направленности вещи, ее стилистики и эмоциональной тональности[17].

Желательно, чтобы и более мелкие замечания, высказанные на обсуждения (по стенограмме), были учтены авторами в их дальнейшей работе.

А. Дымшиц[18],Т. Юренева[19]»[20].

Тым часам абмеркаванне «Альпийской баллады» працягвалася — ужо ў ліпені 1965 г. была наладжаная сустрэча з італьянскім рэжысёрам Джузэпе дэ Санцісам[21], чые развагі адносна рэжысёрскага сцэнарыя стэнаграфіраваліся. Дэ Санціс казаў, у прыватнасці:

«Все, что я скажу, это личное мнение. Не думаю, что надо в искусстве давать советы, ибо искусство — это нечто личное, индивидуальное. [...]

Надо понимать, что это мнение итальянского режиссера, творчество которого развивалось в искусстве неореализма. [...]

Я прочел сценарий 4-5 раз. И вот мои впечатления. [...]

Сценарий профессионален, хорошо построен, читается на одном дыхании, нарастает драматургия.

Что же не нравится? [...]

Идея хороша, построение хорошо. Но есть нечто традиционное. Построение напоминает построение многих других советских фильмов. [...]

Все мы знаем, что такое социалистический реализм. У вас очень много говорят о реализме, но когда дело доходит до конца, то выходит романтизм.

Видение мира и отношение между людьми идут не по линии реалистической, а по романтической.

Меня не интересуют никакие «измы».

Искусство имеет одно имя — искусство.

«Измов» же столько, сколько в мире художников. [...]

Основной недостаток — отсутствие конфликта.

Двое бегут вместе. Одна цель. Оба коммунисты. Любят друг друга. И нет ни тени сомнений между ними.

Конфликт с явлениями внешними, с природой. Конфликт внешний, а не внутренний. Даже немцы, враги, рассматриваются, как элемент внешний. [...]

Может быть фильм и бесконфликтный, лирический. Это и есть традиционность. Если бы традиционная линия была сломана, сюжет предложил бы много возможностей в смысле диалектики. Мы — коммунисты. И мы стремимся быть в союзе с другими силами. Отношения между двумя людьми можно строить на конфликте взглядов. Женщина могла быть не коммунистка, а просто антифашистка. Если бы она была на других позициях, был бы конфликт человеческий, идеологический, было бы интересно. Она могла бы быть католичка.

Сейчас в Италии идет интересный диалог с католиками, это большая сила. Герой мог бы ей многое объяснять. Политически они могли бы жестоко спорить. Но в отношении основной проблемы — спасти жизнь, любить — они были бы согласны.

Когда у людей разных направлений есть одна цель, они могут договориться.

Не знаю, сочли бы вы возможным сейчас изменить это. Для переделки надо бы немного. Но хотя бы одна вещь должна быть учтена.

Надо убрать целую часть, когда женщина много и хорошо говорит об СССР. Здесь фильм становится националистичным. Когда она целует раны — неприятно. И получается слишком пропагандистски. Надо бы развивать в личном, лирическом плане. Немного подрезать — и фильм будет правдивее.

Итальянская женщина не смогла бы это сделать — целовать раны. Это невозможно психологически.

Я люблю парадоксы и гиперболы, но тогда надо создавать общую структуру, где они были бы здесь в центре. А здесь они возникают неожиданно. [...]

Нравится начало. Взрыв бомбы.

Не нравится:

1. Немец, который чистит сапоги. Много подобного мы видели. [...]

2. Сцена с собакой. Тоже часто видели. Я подумал о вариантах. Вместо двух собак хотя бы одна. Ее он может ранить. И потом ему жалко ее и он старается ей помочь. У собаки и у него одна ситуация, одно положение. Если бы он уделил внимание собаке, это внесло бы новизну и придало бы ему гуманные черты.

Не нравится еще и когда он душит собаку. Сцена приобретает реальную силу. Более уместно он проявляет силу в более значительных моментах, а здесь это излишне.

3. Хорошо — встреча с девушкой. Хороша сцена, когда он дает ей пощечину. Хорошо бы, чтобы после паузы она вернула бы ему пощечину. От этого ему стало смешно, он смеется.

4. Есть ситуация, недостаточно развитая. Когда она вынимает занозу. Сцена написана очень поверхностно. Обнаженная нога мужчины в руках женщины всегда производит впечатление. Это вызвало бы у него прилив нежности. Ноги интеллигента, рабочего и крестьянина — разные. [...] Эту сцену следовало бы развить. И о том, что он колхозник, он может сказать здесь. Эта сцена очень важная. [...]

6. Есть еще интересная сцена, недостаточно развитая. Когда под дождем он говорит ей укрыться под скалой. Тут начинается недоразумение. Эта сцена недостаточно углублена. Она могла бы сказать соответствующие слова, решив, что он хочет заняться любовью. А ему смешно — любовь в таком положении. Они могут поссориться. И будет правдиво.

7. В фильме есть сны. Я не против всяких сновидений. Финал довольно хороший. Другие неоправданы.

1-й сон — видит в грезах побег. К чему, если это нового не дает. [...] Это сцена формалистического вкуса. Если первые сцены надо оставить ради финала, чтобы композиционно иметь возможность дать последний сон, лучше нам узнать из них новое о герое. [...]

8. Не нравится разговор о колхозе. Сладковато. Если уже говорить об этом, то покрепче.

9. Диалог: «Ты — фашистка». — «Нет, коммунистка». Это плохо. Это не тема фильма. Если бы это была тема, то с ней лицом к лицу надо было стать с самого начала и разрабатывать ее покрепче[22].

10. Снегопад. «Я ухожу». Он уходит, она остается. И идет повторение первой сцены, когда Джулия уже сказала «прощай». Здесь рвется стиль.

11. Сцена, когда он ее несет. Это самая лучшая сцена. Режиссеру надо посоветовать: надо давать крупными планами одни головы и ручной камерой. Ни фон, ни место здесь неважно. Это первая любовная сцена, надо войти в души. Огромное усилие мужчины и беспомощная женщина. Пусть даже с техническими недостатками. Как будто скрытой камерой. [...]

13. Грезы, где он, девушка и мать, и потом просыпается среди великолепного пейзажа с маками. Получается сон во сне. Сила маков — само по себе волшебство. Последующая сцена с маками убивается. Надо или убрать грезы, или сцену с маками сделать более реальной и грустной. Необходим контраст.

14. В маках все хорошо до купанья. Затем фильм останавливается, замедляется и садится. [...]

15. После земляники уже надо заняться любовью. Этого уже ждет публика.

Все остальное очень нравится. Несколько длинновато, но нравится. И финал хорош. Сделан с хорошей романтикой. [...]

КУЛЕШОВ. Когда Джулия от Ивана узнает, что не все благополучно в СССР, как это воспринимается?

ДЕ САНТИС. Не нравится. Ее почти фанатичное видение СССР не соответствует фильму и персонажу. Это должно бы пройти через призму конфликтного разговора. [...]

Я не против этой линии. Но тогда эта линия должна быть центральной. А настоящий фильм — это любовная история. Это и есть гуманизм в искусстве: два человека могут понять друг друга.

Если бы политическая линия была прослежена от начала до конца, было бы хорошо. Но когда она возникает внезапно, это пропаганда. [...]

Не хватает внутреннего конфликта. Это значительный идеологический просчет сценария. Здесь можно было бы найти конфликт в нюансах. Разные взгляды на жизнь, но перед лицом опасности они стираются»[23].

У сувязі з выступленнем дэ Санціса Лужанін звярнуўся з лістом да рэжысёра «Альпийской баллады», у якім пісаў у прыватнасці: «Сейчас трудно поставить героев в противоположеные лагеря, но, видимо, сделать диалог несколько конфиктнее (даже при переозвучании) возможно. Если же это не будет удаваться, стоит учитывать другой совет — шире и полнокровнее развертывать лирическую линию фильма.

Хотелось бы, чтобы внимательно прочли Вы и частные замечания. Это не посягательство на самостоятельность Вашего видения, просто дружеские, очень доброжелательные замечания. Всем нам нравится поворот эпизода с собакой и занозой, ответная пощечина, резонны возражения против первого «сновидения», целования ран, да и многое другое»[24].

У снежні адбылося абмеркаванне зманціраванага матэрыялу «Альпийской баллады», на якім прысутнічаў і Васіль Быкаў:

«КУЛЕШОВ. В общем, впечатление хорошее, картина получилась. Кажется, что картина затянута. [...] Не нравятся его последние истеричные крики. Он до конца должен быть сдержан.

Вызывают сомнение слова Джулии о дружбе и интернационализме. [...]

ГУБАРЕВИЧ. Фильм получился. [...] Нельзя делать фильмы на 2-х актерах. Середина фильма — прогулка. Нет опасности побега и погони. Отсюда и затянутость. Есть неподготовленные вещи — обморок Джулии и пронос ее по горам. Холеное личико и бессилие от голодовки несовместимы. Надо предельно сократить их разговоры. Она говорит так, будто прекрасно знает русский язык.

Экспозиция с бомбой непонятна.

КУЧАР. Картина понравилась. Хороши герой и героиня. Мне не показалась затянутой картина. [...]

Я изменил бы слова Джулии о будущей жизни в Терешках. Смущает вопрос Джулии о девушках Ивана. [...]

КОРШ-САБЛИН. [...] Картина затянута. [...] Смущает середина. И актеры, и зрители забыли о дамокловом мече. [...]

ОКУЛИЧ. Я убрал бы остатки натурализма: вздохи, ахи. Убрать режиссерскую истерику в финале у актера.

Нет атмосферы погони. Не подготовлено — как он захромал. Неприятна неряшливость. Показана деревня страшная, дореволюционная. [...]

БУЛИНСКИЙ[25]. [...] Последний кадр несет большую философскую мысль. И вся картина несет колоссальную социальную, антивоенную нагрузку.

Поэтизированная женская красота под водопадом меня не шокирует. Сделано со вкусом.

Работа Заболоцкого[26] очень нравится. Все изображение слегка грустное. И это проникновение в атмосферу произведения делает оператора одним из первых факторов картины.

Джулия всегда слишком громко разговаривает. Надо бы найти полутона. [...]

ФРАЙМАН. [...] Картина нравится красотой человеческих отношений, раскрытых интересно и полно. Ритм не везде выдержан. [...]

ПАВЛЕНОК[27]. Мне абсолютно ясно, что картина есть. Но сюжетно надо все точно выверить. Идея бомбы в картине не ясна.

Согласен с Кучаром, что мечта Джулии слишком приземлена. Не надо так много вспоминать о Белоруссии.

В финале у Ивана много истерики. [...]

БЫКОВ. Согласен с тем, что говорится.

ЛУЖАНИН. Я нахожусь в зрительском состоянии, когда хочется употреблять превосходные степени оценок. Работа очень хорошая и режиссера, и оператора, и, особенно, актрисы. Ощущение правды все время есть.

Нам открыли и красивые снега, и цветы, и горы, и воду, и самое основное — красивые человеческие души, возвышающиеся до альпийских высот.

Сокращения фильму не повредят. [...]

Дело не в погоне, а в том, что люди в этих ужасных условиях нашли друг друга. [...]

Диалог в основном идет верно. Колхоз — это слишком. А Белоруссия и Терешки — это не смущает.

СТЕПАНОВ. Я сам чувствую, что метров 100 надо сократить. Эпизод на лугу мы делали как абсолютное отстранение от войны, фашизма, ужасов. Мы делали абсолютное слияние с природой и счастье.

О колхозе. Думаю, что эта наивная мечта будет трогательной. [...]

Мне не кажется, что в словах об интернационализме есть фальшь.

О последних словах Ивана. Должен быть какой-то выход этому состоянию. И не знаю, как можно вложить сюда другие слова.

СКВОРЦОВ. [...] Степанов пошел не по пути погони. Сюжет и прелесть повести и картины не в этом. [...]

Провисает картина лишь на перевале. [...]

Линия Джулии привлекает меня именно тем, что она именно такая. Я боялся, что она будет играть горе. То, что она случайно убежала, и случайная встреча с Иваном — в этом ее прелесть. В этой картине зритель будет любить актрису.

Некоторые сокращения возможны. Но в определенных пределах. Сокращать пейзажи нельзя, иначе потеряем географию и драматургию.

Пролог удался. Это настоящая деревня и природа Белоруссии. И люди жизнеспособны и правдоподобны.

Письмо в финале сливается с замыслом картины.

Согласен с Кулешовым, что возможен был бы в финале молчащий Иван. Но снято это так и в такой интонации. [...]

ПОРИЦКИЙ. Хочу поздравить коллектив с созданием хорошего фильма. Думаю, группа учтет пожелания Худсовета и осуществит их на завершающем этапе работы над фильмом»[28].

У выніку «Альпийская баллада» мастацкім саветам была прынята і прадстаўлена на зацвярджэнне ў Маскву[29], дзе таксама парэкамендавалі зрабіць пэўныя скарачэнні:

«19 января 1966 г.

При ответе ссылаться на № 19/73

Председателю Комитета по кинематографии
при Совете Министров Белорусской ССР тов. Павленку Б. В.
И. О. Директора киностудии «Беларусьфильм» тов. Порицкому А. М.

Главное управление художественной кинематографии просмотрело художественный фильм «Альпийская баллада» и принимает его к выпуску на союзный экран с монтажными поправками.

В период сдачи исходных материалов Главное управление рекомендует произвести монтажные сокращения в эпизодах перевала, явно затянутых, отредактировать размышления Джулии о жизни в колхозе, сократить эпизод купания, особенно кадры с обнаженной героиней.

Последующий за этим эпизод необходимо переосмыслить, т. к. он затянут и просто неудачно сыгран актерами. Отсюда вместо сочувствия к любви героев рождается чувство раздражения и недоумения от нарочитости этого сюжетного поворота.

Начальник Главного управления Ю. Егоров»[30].

Сам В. Быкаў наступным чынам характарызаваў «Альпийскую балладу»: «Фильм, на мой взгляд, получился довольно слабый во всех отношениях: без режиссуры, неудачным подбором актеров, выхолощенной идеей и бесконфликтностью. Остался только пейзаж, который в общем интересен и который во всю мощь современной кинооптики эксплуатирует оператор»[31]. І пазней больш падрабязна спыніўся на прычынах няўдачы фільма: «На ролю Івана запрасілі ўжо знаёмага кіраўніцтву "Беларусьфільму" Станіслава Любшына, Джуліі — Любу Румянцаву. Абодва акторы — кожны сам па сабе, можа, і былі беззаганныя, а гарманічны дуэт не склалі. Тым болей, што на здымках адразу ўступілі ва ўзаемны канфлікт, з якога так і не здолелі выйсці да канца здымак. Натуральна, што тое рабіла свой негатыўны ўплыў на ўсю атмасферу ў калектыве. Зноў жа неўзабаве пачаліся творчыя (перарослыя ў асабістыя) паядынкі характараў рэжысёра і апаратара Толі Забалоцкага. Апаратар, казалі, цягнуў творчую коўдру на свой бок, а рэжысёр спрабаваў не паддацца. Урэшце, здаецца, рэжысёр паддаўся, і фільм атрымаўся ні то, ні сё. А шкада. На маю думку, у тым сюжэце былі закладзеныя пэўныя кінематаграфічныя магчымасці, і пры належных умовах можна было б зрабіць прыгожую, паэтычную трагедыю кахання. На жаль, таго не адбылося»[32].

Фільм выйшаў на экран 26 сакавіка 1966 г.

* * *

12 ноября 1964 г.

ЗАМЕСТИТЕЛЮ ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ГОСУДАРСТВЕННОГО КОМИТЕТА СОВЕТА МИНИСТРОВ СССР ПО КИНЕМАТОГРАФИИ тов. БАСКАКОВУ В. Е.

Направляем либретто сценария «Альпийская баллада», написанного В. БЫКОВЫМ, для решения вопроса о приглашении итальянской актрисы для участия в съемках фильма.

ДИРЕКТОР КИНОСТУДИИ
«БЕЛАРУСЬФИЛЬМ» /И. ДОРСКИЙ/[33].

А Л Ь П И Й С К А Я Б А Л Л А Д А
*либретто*

Это фильм — о любви и ненависти, о низости и высоком духовном взлете, о гордости и благородстве в труднейшие годы борьбы с немецким фашизмом.

1944 год. Австрийские Альпы. Концлагерь. Группа заключенных растаскивает развалины на заводе после его бомбежки союзной авиацией. Невдалеке пятеро узников обезвреживают невзорвавшуюся бомбу. Это — флюгпункты, штрафники, люди, лишенные всякой надежды выжить. Они решаются на сверхрискованный шаг — взорвать бомбу и в последний раз попытаться добыть свободу.

Впрочем, один должен погибнуть. Кто — решает жребий. Но жребий достается самому слабому и больному, который уже не в состоянии разбить взрыватель. В яме, где они работают, наступает гнетущее замешательство. И тогда атлетического сложения заключенный, русский военнопленный по имени Иван берется взорвать бомбу.

Он оглядывается на цех и встречается взглядом с командофюрером — эсэсов-

цем Зандлером. Ничего не подозревая, тот подзывает Ивана к себе и приказывает почистить сапоги. Происходит столкновение, Иван, не сдержавшись, наносит эсэсовцу удар в лицо. Фашист падает, выхватывает пистолет, но выстрелить не успевает — в яме взрывается бомба. Здание рушится, облако пыли накрывает команду узников. Иван обломком бетона добивает контуженного Зандлера и, отняв у него пистолет, бежит.

Короткое замешательство охраны. Иван преодолевает внешнюю ограду завода и прорывается на окраину города. Дальше — лес и горы. Разбегаются и другие, слышны выстрелы, крики, лай собак. На опушке леса его настигают овчарки, одну он убивает выстрелом, второй удается его ухватить. Непродолжительная, но ожесточенная схватка насмерть. Побеждает человек. Подобрав пистолет, Иван бежит в чащу.

Он ждет погони, выстрелов, собак. Но вдруг слышит приглушенный окрик, который никак не может быть вражеским. Значит, это — бежавший узник. Иван устремляется еще быстрее — одному уйти легче. Вблизи слышится треск мотоциклов, Иван вынужден укрыться, и его догоняет девушка. Она тоже из лагеря и бежит следом за русским. Иван в замешательстве: их так легко заметить с дороги. Он хватает девушку за руку и тащит в укрытие, но с ее ноги спадает колодка, и узница бросается назад за колодкой. И это в самый напряженный момент, когда рядом мотоциклы. В порыве раздражения Иван бьет ее по щеке, впрочем, тут же пожалев об этом.

К счастью, мотоциклисты проскакивают, не заметив их, и двое беглецов имеют возможность рассмотреть друг друга. Иван, однако, все сердится, не скрывая того: спутница явно ему ни к чему. Куда с ней, такой? А девушка хороша — мила и изящна. Она итальянка и намерена пробраться туда же, куда и он — на фронт, чтобы бить немцев.

Эта наивность злит Ивана, который непрочь уйти от нее, но пока не решается этого сделать. Молча они лезут все выше в горы, а выбившись из сил, ночуют в глухом ущелье.

Все последующее — это их путь на перевал — ряд приключений.

Беглецы знакомятся: он — сын белорусского крестьянина, она — дочь коммерсанта из Рима. Зовут ее Джулия. Объясняются оба на смеси русско-немецко-итальянских слов, отлично понимая друг друга. У австрийца-лесничего Иван отнимает хлеб и кожаную куртку. Это все: буханка хлеба, куртка, деревянные колодки на двоих. Маловато для того, чтобы преодолеть Альпы, но выбора нет. Вчерашняя неприязнь к Джулии постепенно угасает. Она ему даже чем-то начинает нравиться. И суровый неразговорчивый парень, человек безрадостного детства и более чем жестокой военной судьбы, впервые в жизни чувствует душевное расположение к женщине. Но путь чрезвычайно труден и вскоре она выбивается из сил. Ночью во время снегопада при восхождении на перевал Джулия, обессилев, отказывается идти дальше.

Короткая ссора. Рассерженный Иван оставляет Джулию на тропе и уходит. Но он не может идти один и возвращается. Взваливает девушку на спину, несколько часов изнемогая, несет ее в снежном буране. В нем созревает хорошее и очень человеческое чувство.

С трудом преодолевает Иван перевал и под утро без сил падает на траву в зоне лугов.

Просыпается он погожим солнечным утром. Сказочная красота альпийских маков. Джулии нет. В тревоге он мечется по лугу и находит ее в укромном уголке у водопада: обнаженная, она моется. Они встречаются как после долгой и трудной разлуки. Иван не может понять всей сложности своих переживаний, упрямо сопротивляется непонятному чувству.

Они делят хлеб, питаются ягодами и не спешат из пустынного уголка вниз,

где немцы, засады, овчарки. Этот день безраздельно принадлежит им. Правда, тут они переживают трудные минуты первой размолвки, но свежесть и чистота чувства торжествуют. Большая любовь приходит к обоим.

Третья совместная в их пути ночь приносит нежность, сон и под утро очень нелегкие размышления о будущем. Что дальше? Как уберечь счастье, если так трудно отстоять жизнь? Пока в мире фашизм, этот мир против них.

Утром начинается погоня.

Эсэсовцы долго преследуют беглецов. Отстреливаясь, те уходят вверх. Короткое счастье рушится. Но они уже полюбили друг друга и это придает силы. Иван спокоен и тверд, он мужественно встречает опасность. Джулия самоотверженна в их единоборстве за жизнь. Но немцы загоняют беглецов в западню. На краю недоступного ущелья им остается или сдаться, или умереть.

Иван продолжает отстреливаться, тогда эсэсовцы спускают собак. Иван и Джулия решают покончить с собой, но в последний момент Иван бросает девушку в пропасть на нерастаявший сумет снега.

Ивана разрывают собаки.

Это — финал.

Через много лет в далекую белорусскую деревеньку приходит полная душевной теплоты весть от неизвестной итальянки — Джулии Новелли из Рима. Джулия сообщает о себе и своем невероятном спасении. И о сыне, выращенном без отца. И шлет сердечные слова благодарности людям за Ивана, которого не может забыть... Это очень печально. И светло. Это наша борьба и наша жизнь. И наша судьба...[34]

*Працяг будзе.*

---

[1] З ліста ад 14 снеж. 1963 г. Аўтограф. Арыгінал. ЦНБ НАНБ. Ф. 31, воп. 1, адз. зах. 299, арк. 3.

[2] З ліста да Л. Геніюш ад 2 сак. 1964 г. Аўтограф. Арыгінал. ЦНБ НАНБ. Ф. 31, воп. 1, адз. зах. 299, арк. 12.

[3] Сцяпанаў Барыс Міхайлавіч (1927-1992) — беларускі рэжысёр; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). «Альпийская баллада» была другой вялікай кінематаграфічнай працай Сцяпанава (скончыў ВГІК у 1956 г.), які да гэтага часу зняў толькі караткаметражны фільм «Секретарь укома» (1961) і мастацкі фільм «Последний хлеб» (1963).

[4] Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 189.

[5] Згодна з загадам № 330 ад 3 снеж. 1964 г. рэдактарам фільма «Альпийская баллада» быў прызначаны М. Лужанін. Паводле «Справки сценарной редакционной коллегии». БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 9.

[6] ХХ з'езд КПСС (1956) выкрыў культ асобы І. Сталіна.

[7] Паводле «Протокола заседания сценарно-редакционной коллегии» ад 28 лют. 1964 г. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 73, 74-76.

[8] «Заключение сценарно-редакционной коллегии по сценарию “Альпийская баллада” В. Быкова» ад 4 лют. 1964 г. Машынапіс за подпісам М. Лужаніна. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 66—68.

[9] Згодна са штэмпелем на канверце. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. за. 402, арк. 63.

[10] Фільм шведскага рэжысёра І. Бергмана (1957).

[11] Фільм італьянскага рэжысёра Ф. Феліні (1963).

[12] Песня на музыку М. Блантара, словы М. Ісакоўскага.

[13] Паводле «Протокола заседания сценарно-редакционной коллегии» ад 19 сак. 1964 г. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 57-58, 59, 60.

[14] «Заключение сценарно-редакционной коллегии на литературный сценарий В. Быкова “Альпийская баллада”». Машынапіс за подпісам К. Губарэвіча (?). БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 54, 55.

[15] «Заключение на сценарий В. Быкова» ад 26 жн. 1964 г. Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 52.

[16] «Заключение на сценарий В. Быкова “Альпийская баллада”». Машынапіс за подпісам галоўнага рэдактара Дзяржкамітэта Савета міністраў БССР па кінематаграфіі Г. Тарана. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 50.

[17] Стэнаграма ў справе матэрыялаў па фільму «Альпийская баллада» адсутнічае.

[18] Дымшыц А. — галоўны рэдактар сцэнарнай рэдкалегіі Галоўнага ўпраўлення мастацкай кінематаграфіі Дзяржкамітэта Савета міністраў СССР па кінематаграфіі.

[19] Юрэнева Тамара Восіпаўна — член сцэнарнай рэдкалегіі Галоўнага ўпраўлення мастацкай кінематаграфіі Дзяржкамітэта Савета міністраў СССР па кінематаграфіі.

[20] Машынапіс на афіцыйным бланку з гербам СССР. Злева ўверсе службовая памета ад рукі: «Тов. Кулешову, тов. Фрайману, тов. Лужанину. А. Порицкий» і ўнізе: «режиссеру, автору, редактору». БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 34-35.

[21] Джузэпе дэ Санціс (1917-1997) — італьянскі рэжысёр, сцэнарыст; адзін з заснавальнікаў неарэалізма. Па сведчанні актрысы Л. Румянцавай, якая выканала ў «Альпийской балладе» роль Джуліі, дэ Санціс, жадаючы экранізаваць аповесць В. Быкава, звяртаўся да кіраўніцтва Дзяржкіно СССР з просьбай прадаць кінасцэнарый «Альпийская баллада», але безвынікова (паводле: Шапран С., Кривец Н. Василь Быков всю жизнь скрывал, что выдумал «Альпийскую балладу» // «Комсомольская правда» в Белоруссии, 2008, 19-25 июня).

[22] У рэжысёрскім сцэнарыі дыялог пра калгас выглядае наступным чынам:

«Она остановилась, и лицо ее помрачнело. Подозрительно смотрит она на медленно бредущего Ивана.

— И Сибирь билль? Плёхой кольхоз билль? — с каким-то вызовом в неожиданно похолодевших глазах заговорила девушка.

Почти в испуге он остановился и внимательно посмотрел на нее.

— Ты что? Кто тебе наговорил?

Лицо ее стало злым, глаза остро блестели, все ее недавнее расположение к нему исчезло...

Они, настороженные, стоят друг против друга.

— Кто? — резче повторил Иван.

Джулия с горечью закусила губы.

— Отэц! И ты сказаль! Ты — плохой руссо!

— Ах, отец! — зло рассмеялся Иван. — Фашист! Сволочь! А теперь слушай, что я скажу! Да, было это, было! Траву мы жрали, лепешки из бересты! Кору, поняла? С голодухи пухли... А сытые фашисты драпают от нас с разбитыми мордами, к чертовой матери! Сталинград! Вот где правда! Поняла? Что смотришь? Не понимаешь... Мой отец с голоду помер, а ты... Хотя ты же буржуйка!» (БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 150-151).

[23] БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 19-23, 24.

[24] Ліст ад 30 ліп. 1965 г. Машынапіс. Копія на афіцыйным бланку. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 18.

[25] Булінскі Андрэй Аляксандравіч (1910-1984) — аператар к/с «Беларусьфільм»; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1964).

[26] Забалоцкі Анатоль Дзмітрыевіч (н. 1935) — у 1960-1969 гг. аператар к/с «Беларусьфільм»; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1967) і РСФСР (1976). Дыплом Саюза кінематаграфістаў СССР на VI кінафестывалі рэспублік Прыбалтыкі, Беларусі і Малдавіі (Вільнюс, 1966) за выдатную аператарскую працу («Альпийская баллада»).

[27] Паўлёнак Барыс Уладзіміравіч (н. 1923) — празаік, сцэнарыст. У 1963-1970 гг. старшыня Камітэта па кінематаграфіі пры Савеце міністраў БССР; у 1970-1972 гг. начальнік Галоўнага ўпраўлення мастацкай кінематаграфіі Камітэта па кінематаграфіі пры Савеце міністраў СССР; у 1972-1985 гг. намеснік старшыні Дзяржкіно СССР.

[28] Паводле «Протокола заседания Художественного Совета киностудии и Правления СРК БССР» ад 15 снеж. 1965 г. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 13, 14, 15, 16, 17.

[29] Паводле «Заключения Художественного Совета киностудии “Беларусьфильм” по фильму “Альпийская баллада”» ад 5 студз. 1966 г. Машынапіс за подпісам М. Лужаніна. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 12.

[30] Машынапіс на афіцыйным бланку з гербам СССР. Злева ўверсе службовая памета ад рукі: «т. Куляшову А. А., т. Степанову Б. Н. к исполнению. А. Порицкий». БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 10.

[31] З ліста да Г. Бакланава без даты. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава.

[32] Быкаў В. Поўны зб. тв.: у 14 т. Т. 8. С. 190.

[33] Машынапіс. Копія на афіцыйным бланку. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 37.

[34] Машынапіс. Копія. БДАМЛМ. Ф. 112, воп. 1, адз. зах. 402, арк. 38-41.

Ніл Гілевіч



…Настрой ва ўсіх адзін:
выстаім! Пераможам!
Незалежная Беларусь будзе жыць,
а здраднікам – праклён і ганьба!..

# Трагічны дзевяноста шосты

## *Выбраныя старонкі дзённіка*

*2-га студзеня*. Больш за два гады нічога не запісваў у гэты сшытак. І дарэмна. І вельмі шкадую. Памяць – як рэшата, а столькі падзей адбылося тым часам! Галоўная – подлы рэферэндум і круты паварот ад палітыкі незалежнасці да палітыкі эканамічнага і дзяржаўнага аб'яднання з Расіяй. Гэта – у 1995. А ў папярэднім, 1994, – галоўная падзея – выбары прэзідэнта. Але ж і выбралі! У першыя дні – многія не маглі доўга апомніцца ад шоку. Адны – дзіка рагаталі і пляваліся, другія – хадзілі з перакошанымі фізіяноміямі. Але вось прайшло паўтары года – рагатаць перасталі, бо – не да смеху ўжо, не на жарт страшна робіцца, калі паглядзіш, куды, да чаго яно ўсё ідзецца. Праўда, пляваць пачалі ў сто разоў болей. Але што з гэтага? "Усенародна абраны" ўвайшоў у сілу і разам з прыхлябаямі гне і гне сваё. Зрэшты, хай бы паспрабаваў не гнуць – не выконваць волю сваіх гаспадароў! Адразу б апынуўся на сметніку гісторыі.

Напісаў тэлеграму Анатолю Кудраўцу – да 60-годдзя. Слаўны чалавек! Беларус і Вапшчэткі – кожнай жылачкай, кожнай фібрай душы.

*5-га студзеня.* Апошні мой дзень працы ў Пастаяннай Камісіі Вярхоўнай Рады РБ. З 10 гадзін да 12 гутарыў з французскім палітолагам Аляксандрай Гужон – яшчэ ў якасці старшыні Камісіі. Гужон – па маці беларуска. Распытвала пра БНФ, пра мае погляды на сучасную сітуацыю ў Беларусі. У 12 гадзін быў развітальны чай з супрацоўнікамі Камісіі – І.У. Супей, Л.У. Сарокай, М.Е. Хобатавым, В.В. Гамезам. Развіталіся – як блізкія сябры. Бывай, рабочы кабінет, бывай, Камісія, бывай, Рада! Цяпер ужо хіба выпадкова загляну сюды калі-небудзь. Пачынаецца новы этап жыцця – свабодны, без службы, аб чым заўсёды горача марыў. “Ах, каб пазбыцца службы! Каб цалкам аддацца літаратурнай працы!” Дачакаўся на 65-м годзе жыцця... Калі ўжо сіл засталося няшмат. Праўда, вершы пішу. Усе першыя дні новага года пішу вершы...

Другую палову дня правёў у доме літаратара – спярша за круглым, затым за квадратным юбілейным сталом А.Кудраўца. Яго ўсе калегі шануюць і любяць.

*6-га студзеня.* Напісаў два лісты намесніку прэм’ера Русакевічу У.В. Першы – наконт артыста Котава М.К., каб надалі яму годнасць Заслужанага, другі – наконт прысваення Сваткаўскай школе на Мядзельшчыне імя Максіма Танка. Апошнія службовыя лісты, якія падпісаў (ужо на кватэры) як старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады РБ.

*9-га студзеня.* А 10-й глядзеў па тэлевізары адкрыццё Першай сесіі ВР новага склікання. Трохі нязвыкла пачувацца толькі гледачом – пасля амаль адзінаццаці гадоў абавязковай службовай прысутнасці ў той авальнай зале. А ў зале – нічога новага: па-ранейшаму беларускай мовы не чуваць, хіба што адно-два словы...

*10-га студзеня.* Званіў з Сафіі наш пасол Герасіменка А.М. – наконт Дзён беларускай культуры ў Балгарыі. Ён упэўнены, што дэлегацыю ўзначаліць Ніл Гілевіч, а таго не ведае, што (цытую) “знакаміты балгарыст, якога ў Балгарыі ўсе помняць і любяць”, не паедзе за Дунай зусім. Ні заўтра, ні паслязаўтра... Годзе! Ад’ездзіў! Пачну ўспамінаць, як неразумна распарадзіўся сваім жыццём, – хоць у пятлю лезь ад крыўды. Ну што з таго, што на пяць вялікіх тамоў адно паэзіі перавярнуў на беларускую? Хто ацэніць у Беларусі гэтую рабскую самаахвярнасць? Хто будзе чытаць гэтыя тамы, хто іх выдасць? А тым часам сотні сваіх “творчых задум” застаюцца няздзейсненымі. Колькі не зрабіў таго, што зрабіць быў павінен!..

*16-га студзеня.* Вечарам удзельнічаў у апошняй урачыстай акцыі ў гонар 75-годдзя Слуцкага Збройнага Чыну. Паколькі З.Пазьняк затрымаўся на нейкім важным сходзе, першаму слова для прывітання далі мне. Упершыню публічна даў высокую ацэнку патрыятычнай дзейнасці случакоў у 1920 годзе – дагэтуль неяк не выпадала. А гаварыць пра іх трэба – пра гэтых родных дзяцей і абаронцаў БНР, змагароў за нашу дзяржаўную незалежнасць. Выступілі А.Грыцкевіч і З.Пазьняк. Вечарына адбывалася ў тэатры Вольная Сцэна. Там жа была наладжана цікавая выстава ў гонар герояў Слуцкага Збройнага Чыну.

*17-га студзеня.* Быў на пасяджэнні сакратарыята ТБМ. “Навічкі” ўзяліся за працу. 30-га сакавіка правядзем нацыянальную навуковую канферэнцыю на тэму: “Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты”. Гэта павінен быць стрэл гучны. Далей цярпець няможна. Па ўсёй Беларусі ідзе адкатка ад пазіцый, заваяваных у 1991-1994 гадах для нашае Роднае Мовы. Праўда, як яго гучным зрабіць, калі ўсе СМІ ўжо ў руках “заграбаліных”?

*24-га студзеня.* Саюз пісьменнікаў наладзіў невялікае застолле Янку Сіпакову ў гонар яго юбілею. Тост – разгорнуты, бо рыхтаваўся выступаць на ўрачыстым пасяджэнні ў зале, – сказаў і я. Усё было добра, але... У кабінеце, дзе сядзелі, паявіўся паэт-скандаліст Сыс і пачаў хаміць. Кончылася тым, што празаік Ягоўдзік, не стрываўшы, расквасіў да крыві паэту Сысу нюхаўку. Такім стаў наш сяброўскі юбілейны вечар. Саюза пісьменнікаў – не пазнаць.

Сядзеў каля нібыта сяброў, а думаў пра сваю адзіноту. Я ўжо даўно чуюся адзінокім... Добра, што прыходзяць ад беларусаў лісты – з выказам падтрымкі, павагі і любові.

Дадому ішлі пешкі з Брылём, як і шмат разоў дагэтуль. Гутарылі шчыра, даверліва. З ім можна! Пра што? А ўсё пра тое ж: куды мы, беларусы, коцімся, і што нам рабіць.

*25-га студзеня.* А 14-й – у Доме Літаратара, на сустрэчы з выдаўцамі Беласточчыны (выдаюць канфесійную літаратуру). Пасля Бутэвіча і Брыля далі слова і мне. Гаварыў пра неабходнасць духоўнага адраджэння як часткі агульнага нацыянальнага адраджэння Беларусі.

У канцы дня быў на вечарыне Г. Юрчанкі як парадыста. Пайшоў знарок для таго, каб сказаць добрае слова пра Юрчанку-лексікографа, пра яго слоўнікі жывой беларускай мовы. Пахваліў і яго пародыі, але – толькі празаічныя, якія трымаюцца на выкарыстанні дыялектнай і жаргоннай лексікі.

*29-га студзеня.* А 15-й гадзіне – сустрэча чытачоў з паэтам Н. Гілевічам у Музеі Янкі Купалы. Аўдыторыя – гімназісты. Вялі сустрэчу супрацоўніца Музея Людміла Сцяпанаўна і Вячаслаў Рагойша. Гаварылі добра, асабліва Вячаслаў Пятровіч. Гучалі песні на вершы Н.Г. Хораша глядзіцца і выстава, прысвечаная Н.Г. І аднак жа, і ўсё ж!.. Сёння я настроены на іншую публіку, на іншы ўзровень размовы, – не на вучнёўска-школьны, які мяне проста стамляе. Хоць і разумею, што гэты ўзровень у нашых літаратурных музеях – тыповы.

*30-га студзеня.* Да абеду – на выставе рэдкай кнігі ў Беларускім універсітэце культуры. На ўрачыстасці была рэктар Я.Д. Грыгаровіч – ці не самы беларускі сёння рэктар у ВНУ Беларусі? Былі прамовы, сёе-тое сказаў і я – пра мудры курс, якім ідзе Універсітэт Культуры. Бібліятэцы ўніверсітэта я перадаў на той урачыстасці некаторыя даўнія і рэдкія выданні.

*31-га студзеня.* Цэлы дзень – у санаторнай школе-інтэрнаце для чарнобыльскіх дзяцей у Уздзе (па просьбе дырэктара школы Людмілы Іванаўны, колішняй маёй студэнткі). Сустрэча – незабыўная. Як слухалі, як успрымалі казанае мною дзеці! Як гэта ім патрэбна! Утоеная да сёння ад мяне другая мэта сустрэчы – каб я “выбіў” для школы ў Кеніка 200 мільёнаў на басейн і іншае водалячэнне. Буду выбіваць. Заўтра ж арганізую ліст Кеніку ад дзвюх Камісій Вярхоўнага Савета – за подпісам старшынь. Гэта – галоўнае. Ад сябе напішу Кеніку асобна.

*2-га лютага.* На вечары 75-годдзя выдавецтва “Беларусь” (дзе на маё здзіўленне, я быў названы першым у ліку ганаровых гасцей) генеральны дырэктар паліграфкамбіната Германаў В.І. паабяцаў запусціць на “машыну” маю кнігу “Любоў прасветлая”. Няўжо пашанцуе? Гэтая кніга – калі выйдзе – напэўна прадоўжыць мне жыццё.

*5-га лютага.* Быў на рэдкалегіі “Нашага слова”. Неймаверна горка і цяжка! Газету рабіць няма каму – тры чалавекі б’юцца, як рыба аб лёд. Хвала і гонар

ім! – але колькі яшчэ ў такіх умовах яны будуць цягнуць? Пакутую ад уласнай бездапаможнасці, іду як старшыня ТБМ на ўсе разумныя прапановы. І робіцца страшна, што выданне можа спыніцца. А яно так патрэбна! Яно магло б стаць масавай трыбунай у справе нацыянальнага адраджэння Беларусі. Ёсць што чытаць у газеце, і досыць прафесіянальна робіцца, а наклад – па́дае і па́дае.

*6-га лютага.* Сёння развіталіся са Звонакам. Праз тыдзень яму споўнілася б 89. Старэйшы сярод старэйшын. У яго да мяне былі вельмі паважлівыя адносіны, асабліва пасля таго, як мне ўдалося "выбіць" яму годнасць Заслужанага дзеяча культуры, а ўслед – і Лаўрэата дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Ва ўзросце пасля васьмідзесяці былому "ворагу народа" гэта было вялікай маральнай падтрымкай. І ён не хаваў гэтага. І шчыра радаваўся, калі я да яго заходзіў дадому (на жаль, вельмі рэдка). Ён умеў быць удзячным. З усіх "дзядоў" трымаўся найбольш годна – без мітусні.

*8-га лютага.* Закончыў артыкул для "Звязды" – "Усё будзе залежыць ад таго, ці загаворыць у нас пачуццё годнасці і сораму". Праграмны. З тэзамі, якія не спадабаюцца імпершавіністам, – гэта само сабою, але і з тэзамі, ад якіх злосна чмыхнуць "дэмакраты". Ды мне ўжо не прывыкаць. Хай чмыхаюць!..

*9-га лютага.* Да абеду доўга гутарыў з французскім палітолагам Жан-П'ерам Жанто. Рэзаў праўду-матку, не азіраючыся. І наконт рэферэндума, і наконт сённешняй палітыкі начальніка дзяржавы. Пасля абеду – у ННАЦ, на юбілейнай сходцы да 75-годдзя Тэрміналагічнай Камісіі Інбелкульта. Пасяджэнне прайшло досыць фармальна – у традыцыях "дзеля птушачкі". Два- тры прамоўцы. Задаў пытанне: "Як выкарыстоўваецца тэрміналогія Статута ВКЛ"? Належнага адказу не атрымаў.

*13-га лютага.* "Звязда" надрукавала артыкул. Можа, і апошні ў гэтай газеце (і так – шчыры дзякуй Наркевічу!). Пайшлі першыя водгукі (па тэлефоне). Звышстаноўчыя. Дзякую, сябры. Але і я быў бы рады падзякаваць вам – за вашы артыкулы. Можа, напішаце? Усё думаю і думаю: і чаму ж гэта мне баліць так, што лезу на барыкады, кідаюся на дот, а іншыя тым часам твораць вечнае, несмяротнае.

*14-га лютага.* Перад абедам ездзіў з групай навукоўцаў на Чыжоўскія могілкі – пакланіцца праху Вялікага Беларуса Мікалая Мікалаевіча Улашчыка. Як шкадую, што, бываючы ў Маскве, рэдка заходзіў да яго. Баяўся турбаваць, адбіраць скупы час у нястомнага працаўніка...

Вечарам у Доме Літаратара вёў юбілейную вечарыну ў гонар 90-годдзя Мікалая Мікалаевіча. Сказаў і сам невялікае слова.

*15-га лютага.* Зранку – на гістфаку, на канферэнцыі ў памяць М.М. Улашчыка. Выступіў са словам прывітання ад ТБМ, – каб маральна падтрымаць гісторыкаў, якія пайшлі шляхам Улашчыка, каб не апускалі рук, не забаяліся таго наступу, які павёў на беларускае Адраджэнне Гэны са сваёй гнюснай камарыляй...

У 12 гадзін быў на адкрыцці памятнай дошкі Пімену Панчанку. Выступалі Р. Б., Г. Б., А. В. Мне не прапанавалі сказаць слова. Не падпускаюць. Манапалізавалі Пімена.

Другую палавіну дня і амаль усю ноч чытаў "Любоў прасветлую", якую ўчора на вечары ў Доме Літаратара ўручыла мне – сігнальны паасобнік – Л.І. Пятрова. Радасці маёй, што кніга выйшла, няма меж. Як гэта кажуць: цяпер не страшна і туды.

*22-га лютага.* Трымаў вялікі экзамен у Доме Літаратара. Здаецца вытрымаў. Народу было – не прабіцца. Усе праходы – шчыльна-шчыльна забітыя людзьмі. І дзве з паловай гадзіны слухалі. Ды як слухалі! Ды як успрымалі! І тыя, што стаялі на праходах. Ні адзін чалавек не пакінуў залу. Чытанне маё нярэдка перабівалі воплескамі.

Між іншым, на вечарыне былі: міністр Сянько У.Л., дэпутаты Карпенка Г.Д., Грыб М.І., Шаўцоў М. Асаблівым поспехам карысталіся вершы з апошніх кніжак і найноўшыя, апублікаваныя ў самы апошні час у газетах.

На "чарцы для сяброў" былі: Я. Брыль, А. Вярцінскі, В. Зуёнак, Г. Бураўкін, А. Пісьмянкоў... Тосты... нібыта ў гонар, але-але! Асабліва ад тых, ад каго чакаў – хоць нейкага добрага слова. Сёй-той сказаў яго Ніне Іванаўне. Справядліва, вядома. А галоўнае – выгадна, выйгрышна. Сёй-той паўспамінаў студэнцкія гады. А пра паэта Ніла Гілевіча – па вялікім рахунку? Трохі Алесь, трохі Бураўкін...

*27 лютага.* Сустрэча з моладдзю ў 195-й гімназіі ва Ўруччы. Гімназія – рускамоўная, аднак жа... Чыталі вершы госця, задавалі – па-беларуску – пытанні... Пасля гутарыў – за чаем – з настаўніцамі. Рэжуць па-беларуску – як рэпу грызуць. А гімназія – руская!..

Пабыў і на Радзе СП у Музеі гісторыі літаратуры. Абмяркоўваўся стан літаратурных музеяў у Беларусі. Уражанне, што мерапрыемства правялі дзеля выканання Плана Работы. З членаў Рады СП было 3-4 чалавекі. А музей – дабрэнны!

*13-га сакавіка.* Перадрукаваў некалькі новых вершаў. Чатыры адабраў для "Звязды", – самыя "вострыя". Яшчэ раз б'ю пад дых манкуртам, адшчапенцам, асімілятарам. І свайму дурному братку-беларусу, – з горыччу і болем. Ударыў і па нашай Акадэміі навук, якая перастала быць беларускай.

*14-га сакавіка.* Занёс у "Звязду" вершы, а там для мяне "сюрпрыз": Наркевіч папрасіў пазнаёміцца з рукапісам, у якім даказваецца, што аўтар "Сказа пра лысую гару" – Ніл Гілевіч. На думку Наркевіча – доказ вельмі пераканаўчы. "Сам я цяпер ужо амаль не сумняваюся!" – "А як жа быць, – пытаю, – з інтэрв'ю ў "Крыніцы"? – "Самазванец нейкі!.." Рэдактар просіць маёй згоды на публікацыю – інакш аўтар Янусь Малец надрукуе дзесьці, і гэта будзе горш, бо – "без нашага каментара", мы дык яшчэ можам падтрымаць ауру таямнічасці." Рабіце, кажу, як хочаце, усё роўна ад мяне прызнання не пачуеце... Падобна, што будуць друкаваць.

*18-га сакавіка.* На камісіі па спадчыне М.Танка выказаўся рэзка крытычна наконт бязглуздай пастановы Урада аб наданні імя Танка педагагічнаму ўніверсітэту і педвучылішчу – і адно, і другое недарэчы, да педагогікі М. Танк меў найменшае дачыненне. Куды больш падышоў бы Універсітэт культуры.

*19-га сакавіка.* "Звязда" апублікавала "навуковае даследаванне" Я. Мальца пад грознай назвай: "Вядзьмак! Рукі ўгору!" Змешчаны і меркаванні паэтаў наконт аўтарства "Лысай гары". Р.Б. са скуры лезе – што гэта фальклор і шукаць аўтара не трэба. І ўжо больш умерана ацэньвае паэму. У свой час выдаў па вышэйшаму разраду. Цяпер, відаць, пачалі адкрывацца вочы на сапраўднага аўтара, а гэта для яго крайне непажадана; вось і хапаецца – то за Звонака, то за фальклор, – абы адвесці ўбок ад ісціны. Ах, дарагі-шаноўны калега, давядзецца ўсё-такі прызнаць аднойчы! Ты ж не такі наіўны і бездапаможны "чытач" паэзіі, каб услед за некаторымі аддаць аўтарства "Сказа" беднаму Колю Якаўлевічу. К. Якаўлевічу хопіць і таго гонару, што быў першым слухачом і першым "рагатуном" (калі я чытаў

яму чарговы кавалак), і што па маёй просьбе перадрукаваў і разаслаў паэму па назначаных мною адрасах. Дзякаваць яму і за “пастаўку” некаторых фактаў з жыцця-быцця лысагорцаў (асабліва наконт будаўніцтва і дабывання гною), але ў гэтым яго заслугі перабольшваць не трэба, бо ў той час усё “лысагорскае” было ў пісьменніцкім асяроддзі на слыху.

Вечарам быў на прыёме ў пасла ЗША, пазнаёміўся з ім асабіста і некалькі хвілін пакарыстаўся – tet-a-tet – яго ўвагай, каб выказаць свае думкі наконт 1) грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, 2) нашага супрацоўніцтва ў галіне адукацыі і культуры.

*21-га сакавіка.* Заходзіў, па маёй просьбе, У.М. Конан. Выказаў яму свае заўвагі па прадмове да Збору твораў Ніла Гілевіча. Іх зусім не шмат, галоўнае – дадаць у канцы пра апошнія мае кнігі паэзіі і публіцыстыкі. Прадмова выдатная. Упершыню – бачу тую глыбіню і маштабнасць, з прывязкай да вялікага свету паэзіі і культуры, чаго мне так неставала ў артыкулах і рэцэнзіях пра кнігі Н.Г.

Падарыў Конану “Звязду” з вершамі пра “новаабраных акадэмікаў” – ён не выпісвае і не чытаў. Успрыняў спакойна, хоць я ведаю, як ён абураецца тым фактам, што беларуская Акадэмія Навук – не беларуская.

*22-га сакавіка.* Зранку – на ўстаноўчым з’ездзе ТБШ. Падрыхтаваны з’езд вельмі слаба. І ў праекце Статута нямала недарэчнасцяў. Давялося ўзяць удзел у спрэчках і зрабіць сякія-такія прапановы (не захапляцца ганаровымі тытуламі, помніць пра галоўнае – бараніць беларускую школу). Вечарам – на выставе М.М. Купавы да яго 50-годдзя. Таксама прыйшлося выступіць – пахваліць гэтага апантанага руплііўца на ніве беларускага Адраджэння.

*24-га сакавіка.* Вялікі дзень у сучаснай гісторыі Беларусі. Такога беларускага свята, як сёння каля Опернага, ніколі яшчэ я не бачыў: такога шматлюднага, такога ўрачыстага, такога прыгожага. Дзясяткі тысяч усхваляваных людзей, сотні бел-чырвона-белых палотнішчаў над галовамі – на вясновым сонцы, на веснім ветры! Перажыў хвіліны сапраўднага шчасця. І ганаруся, што і мне было дадзена слова, і што так удзячна людзі слухалі верш “Не падайце духам, хлопцы!” Многія шчыра віншавалі і пацiскалі горача руку.

Усё ганебнае гадства, якое адбылося на вуліцах Мінска пасля мітынгу, – нішто ў параўнанні з веліччу Свята Дня Волі ў гонар 78-й гадавіны БНР.

*25-га сакавіка.* Быў на выставе суполкі “Пагоня”. Шмат выдатных твораў. Гідам быў у мяне А. Марачкін. Асабліва шмат народу таўпілася каля чучала Гэнага. На ўрачыстым адкрыцці выставы нікога з афіцыйных асоб не было. Маё прывітальнае слова было працягам учарашняга, сказанага на свяце. Выступіў і Васіль Быкаў. Між іншым, учора, каля Опернага, яго не было.

*26-га сакавіка.* У Акадэміі мастацтваў, у Шаранговіча на спектаклі студэнцкага тэатра – выпускнікоў гэтага года. “Мальер” М. Булгакава. Выдатная п’еса і таленавіта пастаўлена. Але – чаму на расейскай мове? Хіба не знайшоўся б перакладчык? Нават з ліку саміх студэнтаў? Аказваецца, і другі спектакль (іх усяго два) таксама на расейскай. І гэта – у Васіля Шаранговіча! І ён не можа даць рады! “Так захацелі выкладчыкі-рэжысёры”. Дык і што ж гэта такое? І дакуль гэта будзе цягнуцца? На жаль, сябра В.П. нічога пэўнага на маё здзіўленне не адказаў.

*27-га сакавіка.* Дзіўнае дзіва! Звоніць В.А. Вільтоўскі і кажа: купіў Вашых

“Родных дзяцей”, другое выданне, хацеў бы ўзяць аўтограф... А я – нічога не ведаю. Дзён пяць назад бачыў Шупеньку, хацеў спытаць – пасароме́ўся... Чаму ён не сказаў мне, што кніга выйшла? Не разумею! Я ж столькі яе чакаў!.. Ну, але Бог з ім і з імі! “Родныя” прыйшлі да чытача – да беларускага, спадзяюся. Да беларускага!

*28-га сакавіка.* Вечар берасцейцаў у Доме Літаратара. Вядома ж, узяў слова і я. Наўмысна – дзеля Ніны Мацяш і яе сяброў з Белаазёрска (як Г. Скарына). На самай справе, берасцейскі гурт сёння ў нашай літаратуры – калі гаварыць аб “правінцыі” – бадай ці не самы магутны.

*30-га сакавіка.* З самага ранку – у Доме Літаратара. Было досыць трывожна, як пройдзе наша Канферэнцыя. На шчасце, людзей сабралася багата, зала была амаль поўная. Маё ўступнае слова ўспрынялі з належным разуменнем. За тое, што ў ім – ад пачатку да канца – праўда аб сучасным становішчы беларускай мовы ў Беларусі. Пафас досыць высокі, агулам кажучы, – той, што і павінен быць на рэспубліканскім форуме ў абарону Бацькаўшчыны, яе мовы і культуры. Разумныя, змястоўныя былі і выступленні аб “дыскрымінацыі”, а дакладней – аб задушэнні беларускай мовы ў Беларусі, і аб тым, што ж нам трэба рабіць, каб уратавацца. Прынялі некалькі пастаноў, змест і сэнс якіх – процістаянне напору імпершавіністаў на нашы пазіцыі – на свабоду і незалежнасць Беларусі, яе мовы і культуры.

*1-га красавіка.* Нягледзячы на “дзень падманаў”, – у Доме Літаратара адбыўся відэазапіс урока “Творчасць Н.Г.” з удзелам аўтара. Урок бліскуча – на мой погляд – вяла Л.А. Ламека. Як шчыра і пранікнёна яна гаварыла вучням тое, што ёй хацелася сказаць! А сказаць ёй хацелася штосьці вельмі і вельмі істотнае, значнае.

*2-га красавіка.* Самы ганебны ў сучаснай гісторыі Беларусі дзень. Хэўра запраданцаў на чале з Гэным пайшла насустрач запаветным марам імпершавіністаў – вярнуць Беларусь у склад Расеі. Першы крок у справе інкарпарацыі зроблены, саюз утвораны. “Кумір” шалее ад радасці, хоць і не зусім па-ягонаму атрымалася: ён хацеў ужо сёння пачаць жыць адною агульнай дзяржавай пад назвай СССР.

Ну, але радасць каланізатараў і запраданцаў заўчасная: гэта пацвердзіў народ, які выйшаў на праспект, а затым сабраўся каля Палаца Спорту. Тысяч 30, а можа і больш. Калі народ, а пераважна моладзь, гэтак рэагуе на прадажніцкую дзейнасць улад, то – не загінем! Будзем жыць!

*3-га красавіка* Па тэле – інтэрв'ю з Кавалёнкам, з Філарэтам. За першага – проста сорамна! Слынны сын Беларусі! Уносіў дзяржаўны, бел-чырвона-белы Сцяг у залу ВС РБ. За другога... Як прыкра, што я верыў яму як духоўнаму абаронцу нацыянальных інтарэсаў Беларусі; нават быў за абедзенным сталом аднойчы. Відаць, разлічваў, што прыбярэ мяне да рук, адчуўшы маю гістарычную злосць на гібельныя для Беларусі Уніі. Пралічылася Барада! Мяне далучыць да запраданцаў? Як той Броніс казаў: смяяцца хачу! Дарэчы, апошнія гады два нашы вітанні пры сустрэчы – афіцыйна стрыманыя. І ніякіх размоў.

*8-га красавіка.* Учора і сёння – два вечары на “Харошках”. Запрошаны быў з “прыцэлам”: Гаявая вылучана на Дзяржаўную прэмію Беларусі. Былі і некаторыя іншыя члены Камітэта па прэміях. Бясспрэчна – прэміі яна заслугоўвае! Таленавітая інтэрпрэтацыя нашых народных танцаў – і бліскучае іх выкананне!

Пазнаёміўся з Гаявой асабіста. Па-мойму, паўторна. Даўным-даўно калісьці "мімалётна" знаёміліся. Трымаецца звышсціпла. Сёлета ёй будзе 60. Прыезджая, а вось жа паслужыла беларускаму мастацтву хараша.

*18-га красавіка.* Сустрэча на філфаку. У вялікай зале. Днём. Апрача філолагаў былі гісторыкі, юрысты, хімікі. "Грымеў" звыш дзвюх гадзін. Слухалі – з вялікай душэўнай аддачай. У нашы дні гэта вельмі пэўны паказчык. Як і безліч пытанняў, якімі засыпалі. Моладзь абуджаецца да актыўнага палітычнага жыцця. Яна ўжо не тая, як – помню – гадоў дзесяць назад. І гэта – выдатна! Адкрыў сустрэчу У.Н. – словам досыць фармальным і непрадуманым. На шчасце, кароткім. Прысутнічалі два дэканы: Шупляк П.А. і Плотнікаў Б.А.

*19-га красавіка.* На пасяджэнні Камісіі па спадчыне Танка высветлілася, што Яўген Іванавіч увесь час вёў дзённік – з 1941 па жнівень 1994. Буду прасіць пачытаць (у друк пойдзе са скарачэннямі). Б. пахваліўся, што ўжо прачытаў – "запоем" за суткі. Р. зазначыў, што – "Лісткі календара" цікавейшыя – у іх больш літаратуры і гісторыі.

*20-га красавіка.* Напісаў па просьбе Казловіча артыкул для "Круга" – "Воз сцялежыўся". Спачатку Казловіч меркаваў, што гэта будзе "перадавіца" ў № 2, але атрымаўся артыкул завельмі для перадавіцы, ды і тэматычна... не зусім агульны. Але ж і дастанецца мне ад Філарэта!

Дэталь: замаўляючы артыкул, Казловіч прасіў не чапаць... праблему беларускай мовы. "Каб не адштурхнуць пэўнага чытача". Ну і ну! Усё з аглядкай на "пэўнага"! Усё – каб "пэўны" не пакрыўдзіўся! А як гэта я не зачаплю пытанне аб мове?..

*23-га красавіка.* Да паўдня – на чытаннях М. Гарэцкага. Выступіў з даволі працяглым словам (хоць і значыцца ў праграме як прывітанне). Трэба будзе аформіць свае думкі пра Гарэцкага ў артыкул. Быў і Брыль. І Быкаў – да першага перапынку. Ні з кім не развітаўшыся, паехаў. У прэзідыуме сядзелі побач. Чуж – чужаніца. Дасягнулі свайго "апрацоўшчыкі"! Заўважыў, як было яму непрыемна, калі адзін з дакладчыкаў рэзка крытыкаваў Адамовіча А. за тое, што ў кнізе "Беларускі раман" (яго доктарская) нават не ўспамінае імя Гарэцкага (а гэта ж быў 1962 год, ужо ў кнізе Перкіна пра "Дзве душы" аж некалькі старонак было). Сапраўды, загадка нейкая: Адамовіч, які пасля напісаў бліскучую "Браму...", не згадаў у доктарскай імя Гарэцкага!

*24-га красавіка.* Урок беларускай літаратуры па тэлебачанні. "Творчасць Ніла Гілевіча". Вяла – Л.А. Ламека. Бліскуча! Нарэшце і мне пашанцавала – пасля тых дзвюх няўдач (тэленарыс Шлега і тэленарыс Гайдука).

*26-га красавіка.* "Звязда" апублікавала маю чарнобыльскую паэму"Не хварэй!". Наркевіч – гаспадар слова. Учора на адкрыцці чарнобыльскай фотавыставы Кляшчука прачытаў урывак з яе – апошнія строфы. Успрынялі добра. А сёння ўжо пачуў і тэлефонныя водгукі – вельмі хвалебныя.

У 17 гадзін пайшлі з Нінай на чарнобыльскі мітынг да Палаца спорту. А там – ні душы. Каля гадзіны стаялі, споўдалі, пакуль не сталі няўсцерп балець – у мяне паясніца, у Ніны – ногі. Вымушаны былі пайсці адтуль. А позна вечарам пачуў, што шэсце "Чарнобыльскі шлях" разганялі амапаўцы, многіх арыштавалі (нібыта – сотні), не абыйшлося без крыві. Ну, што ж, Слуга Д'ябла і Расейскага КДБ адкрыта ідзе супроць Незалежнай Беларусі і свабоды беларускага народа. А паколькі яго зграя шматлікая – наперадзе нас чакае самае невясёлае.

*27-га красавіка.* Стала вядома: арыштаваны Ю. Хадыка, Л. Баршчэўскі і многія-многія іншыя. Пахапалі на вуліцы. Збіраюцца судзіць. Па тэле і радыё гучаць страшныя асуджэнні і пагрозы ў адрас арганізатараў “Чарнобыльскага шляху” і БНФ. Ганаруся, што быў членам аргкамітэта “ЧШ”.

*29-га красавіка.* Быў на вечары песень Лучанка. Выконвалі Іван і Алесь Краснадубскія (бацька і сын, які не ўступае бацьку, – праспяваў маё “Прыйдзі, як снег...” вельмі прачула). Не пайсці на вечар не мог – Ігар Міхайлавіч надта прасіў, не хачу ўскладняць з ім адносіны. А пайшоўшы – пашкадаваў: публіку сабраў І.М. “адменную”. Апрача трох сааўтараў (Бураўкін, Някляеў, Гілевіч) – ні душы з нашай творчай інтэлігенцыі! А яшчэ, на няшчасце, вялікі дождж загнаў у машыну і прымусіў пабыць на фуршэце. Праўда, трымаліся з Нінай асабняком, ні з кім ні слова (апрача Сняжковай). І хутка пайшлі дадому. Сумна і горка.

*30-га красавіка.* Днём – сустрэча ў БУК. Нават цяплей і шчырэй, чым на філфаку БДУ. Усе настроены вельмі патрыятычна. Але – дзяўчаткі з аркестра, які вітаў мяне маршам, гавораць (між сабой) не па-беларуску. Некалькі запісак – як я стаўлюся да падзей 26-га красавіка, і гарачыя воплескі пасля майго адказу. Была і рэктар Я.Д. Грыгаровіч. Пасля сустрэчы гутарылі з ёю з паўгадзіны ў яе кабінеце. Быў і А. Трусаў. Сказала: чатырох рэктараў збіраюцца “з’есці”, мяне – першую. Прызналася, як думае ўратаваць ад выключэння студэнтаў, якія актыўна ўдзельнічалі 26-га ў “Чарнобыльскім шляху”. Галоўнае, кажа, не дапусціць, каб учынілі пагром універсітэта.

Вечарам – на юбілейнай урачыстасці ў Доме Літаратара: 75 – М.І. Ермаловічу. Вяла – Іпатава. Дала і мне слова. Зацягнулася вечарына бязбожна. На фуршэт – не застаўся, пайшлі з Брылём дадому.

*3-га траўня.* У 14 гадзін – сустрэча з гімназістамі ў СШ №54; арганізаваў – стары настаўнік Чарняўскі М.І. І гімназісты, як і студэнты, слухалі душой і сэрцам і рэагавалі на мае адказы і на публіцыстычныя вершы гэтак жа, як студэнты. Што мяне вельмі і вельмі цешыць. Моладзь не прымае здрадніцкага курсу самазванцаў, што выдаюць сябе за выбраных народам. Веру – што і не прыме!

*6-га траўня.* Юбілейны вечар В. Коўтун. Нешта сказаў і я – юбілейнае. Бясспрэчна, асоба не ардынарная – і ў літаратуры, і ў сферы грамадскай чыннасці. Шкада, што ўрачыстасць праходзіла ў малюпасенькай зале Музея Купалы. Тое, што можа мець шырокі грамадскі рэзананс, павінна праводзіцца ў зале вялікай, шматлюднай. Былі паслы Балгарыі і Эстоніі. Бураўкін на фуршэце, вельмі рэзка выказаўся пра хамства Гэнага, што дазваляе сабе ў храме перад вернікамі гаварыць палітычныя прамовы, ды яшчэ спекулятыўныя. Ён таксама шкадуе, што 29-га папаўся на лучанкоў “кручок”.

*7-га траўня.* Зранку пісаў ліст (ад імя Рады СПБ) у абарону Ю.В. Хадыкі, які ўсё яшчэ ў астрозе і галадае.

Перад абедам заходзіў Далідовіч – забіраў мае два радкі пра яго ў Стаўбцоўскую газету. Сур’ёзны мужык.

У 14 гадзін – у ТБМ. Адобрыў ліст у абарону арыштаваных бэнээфаўцаў. Падалі на подпіс ліст з падзякай украінскім “баявікам” – таксама ад Сакратарыята ТБМ. Адхіліў і сказаў: гэта не трэба рабіць, іх удзел у нашым “Чарнобыльскім шляху” толькі нашкодзіў нам. Стала ясна, як новыя сакратары ТБМ не думаюць, а адно глядзяць у рот З.П. Што ні скажа, што ні зробіць – усё на “ура”. Нават сур’ёзныя палітычныя пралікі.

У ТБМ – бяда: вылезла тое, чаго я баяўся. Цумараў усе гады прапіваў прыбыткі ад кіёскаў, няма ў касе 14 млн – і кіяскёрша маўчыць, кажа, браў Цумараў пад распіску; дзе распіскі? – маўчыць, няма. Да таго ж не вяртае ліцэнзію на права камерцыйнай дзейнасці. Як мая душа чула!

У 15 гадзін – Рада СПБ, аб кнігавыданні. Нічога новага. Той жа плач і бездапаможнасць. І тая ж бессаромная хлусня Л-шы.

Зачытаў ліст у абарону Ю. Хадыкі і папрасіў прыняць, каб пайшоў па трох адрасах ад імя Рады СПБ. Тут і пачалося! Адны – на чале з Н-кам – адразу ж рушылі з залы. Белазоры чэкіст разявіўся штосілы на Н. Гілевіча, што абараняю “бандэраўцаў”, пасля чаго пайшоў таксама. Ліст быў прыняты адзінагалосна. Праўда, скарацілі тэкст на адзін абзац (і дарэмна!)

Вечарам быў на аўтарскім канцэрце спевака А. Атаманава. Па завершанні – сказаў пра яго слова, вельмі пахвальнае, вядома. Ён варты гэтага. Таленавіты і – мае густ. А галоўнае – у яго рэпертуары нямала песень, якія сёння надзвычай патрэбны маладой аўдыторыі, – песень у абарону і славу незалежнай Беларусі.

*8-га траўня.* Паслухаў і паглядзеў святочны сход і канцэрт. Нашмат горш, чым чакаў. Гэны колькі разоў падкрэсліў: “отечество восстановим!” Набрыдзь-генерал заклікаў граміць і знішчаць беларускі нацыяналізм. У канцэрце – ніводнага верша і песні на беларускай, апроч абрыдзелай “Гуляць дык гуляць”. Самы раз гуляць! Агульнае ўражанне – гнюснае. У зале – маладыя сытыя морды, сям-там ветэран, але... але... з бліскучых, не з акопнікаў.

*9-га траўня.* Званіла маці арыштаванага Сіўчыка – Галіна Васілеўна (калісь заходзіла да мяне ў ВС). Прасіла – можа б падаў свой голас у абарону яе сына). Паабяцаў напісаць ліст Генеральнаму пракурору – ад сябе асабіста.

*10-га траўня.* Напісаў і аддрукаваў ліст Генеральнаму пракурору РБ Капітану з патрабаваннем – неадкладна выпусціць з астрогу арыштаваных Ю.В. Хадыку і В.В. Сіўчыка.

*16-га траўня.* Сёння суседу Васілю Вітку – 85! Раніцой зайшлі з Нінай павіншавалі, з ружамі. А дзед – малайчына! Што значыць усё жыццё сачыць за рэжымам працы, адпачынку і харчавання: з вечара – штодзень – доўгія пешыя прагулянкі, ніколі – ні грама спіртнога, яда – тваражок, грэчневая кашка на алеі, ні адной зацяжкі дыму... “А вы – могли бы?!” – пытаў некалі Маякоўскі. Не магу. І дзякаваць Богу, што не магу. Гэта – рашуча не для мяне. У мяне – усё наадварот. За выняткам курэння. Дыму не цярплю ўсё жыццё і я. Калі б у дадатак да маіх “заган” я ды яшчэ курыў – даўно б загнуўся!..

*17-га траўня.* На юбілейным вечары Б. Сачанкі. Было б 60. Гаварылі як у гадавіну смерці: аддавалі належнае. Асабліва як змагару за мову і як рэдактару энцыклапедыі. Што зусім справядліва. Артысты чыталі апавяданні і гумарэскі. Уражанне: талент няроўны. Аж крыўдна! Асабліва нецікавы ў гумарэсках. Ну, але кіраўнік энцыклапедыі быў выдатны – і вельмі шкада, што страцілі яго.

На вечары амаль не было яго равеснікаў. Знаёмая Беларусь!..

*21-га траўня.* Ездзіў у выдавецтва, глядзеў афармленне 6-томніка (які або не выйдзе наогул, або я не дачакаюся). Засмучаны тытулам, буду прасіць перамаляваць – пакласці на вокладцы мой роспіс, і толькі.

Глядзеў вечарам кандыдата ў прэзідэнты РФ генерала Лебедзя. Уразіў. Думаю,

што і вельмі многіх у Расіі. Падобна, што не выпадкова вылучыў сябе на пасаду цара-бацюшкі.

*23-га траўня.* Юбілейны вечар “Роднага слова” (соты нумар). Упрасілі выступіць (не лепшая мая прамова ў зале Дома літаратара). Праграма скампанаваная няўдала, зацягнулі бязбожна (каля трох гадзін). Пасля – банкет. Шкадую, што застаўся. Трэба ставіць кропку. Грамада – не мая і не для мяне.

*24-га траўня.* Зноў слухаў генерала Лебедзя. Па-мойму, паблытае раскінуты палітолагамі пасьянс. Наколькі ведаю Расію і яе народ – ён мае будучыню. Стане царом! Гэты раз – не, але наступны – абавязкова! Цяпер жа зойме не ніжэй трэцяй зверху прыступкі. У ім ёсць галоўнае, чаго хочуць, па чым засумавалі расейскія мужыкі і бабы: ён навядзе парадак. Пакончыць з мафіёзамі, з карумпіраваным чыноўніцтвам, з бандытызмам. Чалавек справы. Калі, вядома, ацалее сам.

*31-га траўня.* Ну, Расея! Ну, Расея! Проста цуд дый годзе! У прэзідэнты – глядзеў па тэле – лезе нехта Брынцалаў. Уласнік фармацэўтычных заводаў, мульцімільярдэр. Пашляк несусветны. Мала клоуна Жырыноўскага – наце, палюбуйцеся яшчэ і на такога! Ну, Расея! Ну весяліш ты Еўропу і цэлы свет здорава! Толькі нам, беларусам, ад гэтага зусім-зусім не весела. Страшна!

*2-га чэрвеня.* Адзначылі Дзень Нараджэння маёй Сонечнай, маёй Мудрай, суджанай мне Богам Ніны свет-Іванаўны. Маёй самаахвярнай заступніцы і абаронцы. Маёй выратавальніцы. Маёй незаменнай, непараўнальнай, нястомнай памочніцы – ва ўсім, у тым ліку і непасрэдна ў творчасці, не кажучы пра грамадскую чыннасць. Несумненна, яна заслугоўвала лепшага жыцця, чым тое, што ёй выпала. Як жонка, гаспадыня і памочніца яна ўзяла на сябе жыццёвы груз, якога хапіла б на дзесяцярых.

Божа моцны, ці ведаеш ты гэта? Калі ведаеш – зрабі, каб яе дні-гады на гэтым свеце былі доўгімі-доўгімі і супакойна-непакутлівымі. І даруй мне, грэшнаму!

*3-га чэрвеня.* Зноў думаў пра Ніну, пра яе долю. Вось з каго трэба пісаць абразы святых і яшчэ пры жыцці далучаць да Ефрасінні. Ні аднаго нявернага, нядобрага, не годнага Жанчыны кроку і паўкроку за жыццё не зрабіла! Учора запісаў словы ўдзячнасці (як жонцы і памочніцы) ад сябе асабіста – а колькі падзякі выказалі б ёй усе яе былыя студэнты! Яна – выдатны педагог, Настаўніца з вялікай літары, незаўважаная і неацэненая толькі таму, што мае маё прозвішча, што“з адной хаты” са мною. У нас такое немагчыма, каб аддаць належнае яшчэ і ёй. Па-беларуску гэта ўжо будзе занадта. Думаю: а колькі б яна зрабіла як педагог і навуковец, калі б ёй лёс не падкінуў такі падаруначак, як паэт з роду апантаных?

Перадаў Сярэдзічу пяць палітычных вершаў. Прачытаў іх яму ў ягоным аўто. Ухваліў і паабяцаў паставіць у нумар за 13-га. “Раней ужо немагчыма”. Гэта значыць, праз 10 дзён. Такі верш – аж праз 10 дзён?

*6-га чэрвеня.* Выйшаў нарэшце “Круг” з маім эсэ “Воз сцялежыўся”. На месяц пазней, чым планаваўся. Прачытаў. Усё добра, ні слова, ні коскі не паправілі. І аднак жа больш справы з ім, гэтым “Кругам”, мець не буду. Коскі не паправілі, затое ў падзагаловак вынеслі, дакладней, упісалі ад сябе тое, што ў маім артыкуле ідзе толькі як прыватны момант – пра “славянскі фундаменталізм”. У мяне нават такога словазлучэння няма. У мяне галоўная ідэя – воз сцялежыўся: воз-дзяржава і воз-культура. Але выдаўцоў гэта цікавіць менш, чым ударыць па яднанню славян. Я – супроць шавіністычнага славянскага (расейскага!) фундаменталізму,

бо гэта ёсць расізм і глупства, але ж мой артыкул не пра гэта, а пра тое, што воз сцялежыўся. Палітыка "Круга" – палітыка ПЭН-цэнтра, які, аказваецца, ёсць заснавальнікам і фундатарам газеты і да якога я, з ласкі сяброў, не маю дачынення. І ўжо не буду мець.

*12-га чэрвеня.* Сюрпрыз. Пазваніў Сярэдзічу, каб прапанаваць яму мой адкрыты ліст В. Распуціну, а ён і кажа: "На жаль, вашы вершы перанёс у наступны нумар, у гэты не хапіла месца." Маленькі шок. "Але ж вы абяцалі, ды і лыжка к абеду..." – "Паглядзіце газету і скажыце, што я павінен быў зняць, каб паставіць вашы вершы..." Ну, такога я яшчэ ніколі ад рэдактароў газет не чуў. Кажу: "Там усяго 80 радкоў..." – "Там больш чым 80..." Кажу: добра, вершы я здымаю, давайце ўзамен апублікуем мой ліст Распуціну. Пачаў мяне пераконваць, што я павінен гэты ліст апублікаваць у "Рэспубліцы", дзе было інтэрв'ю з Распуціным. Пайшлі спрэчкі, якія мяне ўсё больш прыніжалі, і я паклаў трубку.

*13-га чэрвеня.* Забраныя ў Сярэдзіча вершы аддаў Наркевічу. Пачытаў і сказаў: стаўлю ў наступны нумар, на суботу. "Не баіцеся?" – "Не. Гэта – паэзія, а не палітычны артыкул. Вы маеце права на свой погляд, на сваю думку". Дадаў два вершы новыя, напісаныя ў апошнія дні.

*15-га чэрвеня.* Выйшла "Звязда" з вершамі, на трэцяй старонцы, на самым відным месцы, уверсе. Віншую вас, таварыш Сярэдзіч!

Днём – у Маладэчні, на фестывалі. Спецыяльная паэтычная сустрэча з Н.Г. У гарадскім парку. Усё, што чытаў, было ўспрынята найлепшым чынам, пад вельмі гарачыя воплескі і воклічы. Пачуў надзвычай высокія словы пахвалы. Бралі аўтографы на дарагіх кніжках ("Жаўраначка" – 35 тысяч!). Падарылі мне каштоўны вялікі кілім. Можна сказаць: жыві і радуйся, чалавеча! Але радасці няма. І пакуль што – не прадбачыцца.

*17-га чэрвеня.* Сітуацыя ў Расеі ўскладнілася. Ніхто не перамог. Двое амаль на роўных. Наконт Лебедзя я не памыліўся: заняў 3-е месца, з вялікім адрывам. Што будзе далей – адзін Бог-бацька ведае. Куды пахіснецца электарат Лебедзя, Яўлінскага, Клоуна?

Учора да 2-ой ночы глядзеў закрыццё Фестывалю ў Маладэчні – песенны канцэрт У. Някляева. Хай мне Бог даруе (і паэт таксама), але ва ўсім праспяваным я мала ўбачыў паэзіі, а яшчэ менш – адухоўленасці, высокасці, вернасці нашым, беларускім традыцыям. "Раз ды разочак", "Гуляць дык гуляць" – дзе і калі вы жывеце, дарагі Уладзімір Пракопавіч? Гэта – па-першае. Па-другое: палавіна песень – на рускай мове. Г. зн., не належаць да беларускай паэзіі. Парушаны прынцып Фестывалю.

*18-га чэрвеня.* Хмары згушчаюцца. Гэны выказаў радасць, што Ельцын не перамог. А ён яшчэ можа перамагчы. Прыхінуў да сябе Лебедзя – даў яму высокую пасаду. Думаю, кончыцца гэта тым, што праз год-два генерал яго адправіць на заслужаны адпачынак.

*19-га чэрвеня.* Шаленства набрыдзі і манкуртаў нарастае. У газетах – ветэраны-генералы заклікаюць да неадкладнай расправы з беларускімі нацыяналістамі. Гэта зразумела. А вось як зразумець паўсотні вучоных і дзеячаў мастацтва, якія заклікаюць ратаваць ад беларускіх "нацыянал-экстрэмістаў" гісторыю Беларусі, Энцыклапедыю гісторыі Беларусі, новае выданне агульнай энцыклапедыі і інш. Сярод падпісантаў гэтага ганебнага дакумента – ніводнага гісторыка! Адны фізікі,

біёлагі, артысты. І – народны пісьменнік Беларусі – І. Шамякін. Якая ганьба! Якая несусветная ганьба! Міжволі ўспомніўся бліскучы памфлет І. Мележа “Парсюк”, апублікаваны пасля смерці аўтара, але рысы героя памфлета, помню, Іван Паўлавіч падкрэсліваў у размовах са мной неаднойчы.

*20-га чэрвеня.* Генрыху Далідовічу – 50. Ужо! А паглядзець – і 40 не дасі. Быў на ўрачыстасці і на вячэры ў Музеі Коласа. Быў там і Ш. На шчасце, размінуліся, бо рукі яму не падаў бы – пасля ўчарашняга. Зуёнак даў слова і мне. Апрача іншага, пахваліў Далідовіча за яго патрыятычную публіцыстыку.

*22-га чэрвеня.* Хадзіў – у беларускай калоне – да помніка Перамогі, усклаў ружы. Усё прайшло спакойна, без эксцэсаў. Так прайшло б і 26 красавіка, і 9 траўня, калі б не дурнота адных і подласць другіх, калі б не нянавісць да ідэі незалежнай Белпрусі іх усіх разам.

Бачыўся і гутарыў з Г. Карпенкам – падтрымаў яго жаданне выступіць на мітынгу. Пагутарыў і з М. Крукоўскім (шкадую, што рэдка бачымся).

У калоне бачыў некалькіх мастакоў, але – ніводнага пісьменніка, апрача Артура Вольскага, які прадстаўляў ветэранаў Вялікай Айчыннай, а не Саюз пісьменнікаў. Вось такая наша рэальнасць. Такая наша творчая інтэлігенцыя. Мне, старому і нездаровячаму, ёсць патрэба ісці ў калоне Адраджэння, у іх, маладых і здаровых, такой патрэбы няма.

*26-га чэрвеня.* У 11 гадзін у Доме Радыё, удзельнічаў у радые-мосце, прысвечанаму сучаснай школе. Ад Расіі – У. Крупін, ад Грузіі – Г. Аміраджыбі, ад Малдовы – Н. Савосцінаў, ад Беларусі – я. Спроба зблiжэння да супрацоўніцтва. Размова – несабраная, хаатычная. Інфармацыя з усплёскамі эмоцый. Агульны тон – трэба разам змагацца за школу, бо – загіне. Ішоў з Дома Радыё і думаў: а за якую школу змагацца? Рэч у тым, што ў кожнага свае праблемы. Мае беларускія праблемы тром астатнім – невядомы, там – усё іначай, нават у Малдове.

У 12 быў у Акадэміі навук, на Камітэце славістаў. Запісаўся дакладчыкам на чарговы з’езд (1998, Кракаў). Пасля трохі пасядзелі ў Каваленкі (Цыхун, Фядосік, Мальдзіс). Усыпалі (завочы, гэта мы ўмеем) Шамякіну за яго подпіс гнюснага пісьма супраць праўдзівай гісторыі Беларусі.

*3-га ліпеня.* “ЛГ” надрукавала (у нумары за 26.06) мой ліст В. Распуціну. Той, што не захацеў друкаваць Сярэдзіч. Газета ў Менск прыйшла толькі сёння. Пазванілі: Бураўкін. Пасля – Быкаў: вельмі задаволены, шчыра дзякаваў за абарону яго імя, яго пазіцыі. Пагаварылі – як у добрыя старыя часы. І ёсць жа пра што! Як і заўсёды – мне з ім – было пра што. Ах, Быкаў, Быкаў, Васіль, Васіль! І на што ж было табе!..

*5-га ліпеня.* Памёр Васіль Вітка, ад інсульту, у гадзін шэсць вечара. А раніцой, яшчэ да дзевяці, Я.П. Навуменка паклікала мяне, каб я памог урачу хуткай дапамогі падняць Цімоха Васільевіча з падлогі і пакласці на тахту. Быў без памяці. Памёр, так і не апрытомнеўшы. Яшчэ заўчора спытаў, пры сустрэчы, дачку, як, здароўе бацькі, маўляў, хачу зайсці пагутарыць. “Нічога, заходзьце, ён будзе рады”. На жаль, не зайшоў. Нешта перашкодзіла.

*9-га ліпеня.* На пахаванні Віткі. Пісьменнікаў было шмат. Ад Урада – ніхто не выступіў. А прысутнічалі невысокага рангу клеркі. Вось вам і старэйшына нацыянальнай дзіцячай літаратуры! Усе сённяшнія чыны вучылі ў школе яго

вершы і казкі. А тав. З-ін – не вучыў. Затое прачытаў летась у “Звяздзе”, што напісаў Васіль Вітка пра рэферэндум (“У мяне гэта быў чорны дзень...”).

*10-га ліпеня.* У Сяргея нарадзіўся сын. Ніна падала мне тэлеграму – і заплакала. Сперажывалася. Вось і ўсё! Плакаць цяпер ужо – чаго? Будзем радавацца.

*25-га ліпеня.* Званіў Ю. В. Хадыка, прасіў выступіць 27-га на мітынгу каля Опернага. Сказаў, што павінен быць вельмі мнагалюдны мітынг. А я і сам збіраўся ўзяць слова. Тым лепш! Не забываюць, дзякаваць Богу. Патрэбен, яшчэ патрэбен стары паэт народу!.. Пайду і скажу. Галоўнае – каб не падалі духам.

Раніцай даў юбілейную тэлеграму Л. Левіну, а ў 15 гадзін быў на адкрыцці яго выставы ў Музеі гісторыі культуры. Але ж і напрацаваў чалавек! Пра гэта я і сказаў там, перад мікрафонам. І пра тое, што ведаю Левіна з 1952 года, мабыць, больш, чым любы з прысутных. І што яшчэ тады прадказаў яму вялікую славу. Тым летам мы працавалі з ім у піянерлагеры, яму было 16, мне – 21. Ён і дасюль цытуе мае тагачасныя, трохі хуліганскія куплеты.

*27-га ліпеня.* Быў на мітынгу. Ішоў да Опернага ў першым радзе бясконцай калоны – побач з Карпенкам, Багданкевічам, Захаранкам, Таразевічам, Хадыкам і іншымі. І сказаў слова. І многія сказалі. І настрой ва ўсіх адзін: выстаім! Пераможам! Незалежная Беларусь будзе жыць, а здраднікам – праклён і ганьба!

*31-га ліпеня.* Хадзіў у Дом Радыё – запісаўся для радыёперадачы пра Быкава. Невялікае, на тры старонкі, слова і два, яму прысвечаныя, вершы. І што ж гэта за ініцыятыва з боку Радыё? Каб сказаць грамадскасці: вось, маўляў, не думайце кепска, – вядомых дзеячаў беларускай культуры мы шануем. Ах ці мой Божа! Каб вам у грудзі тое, як вы нас шануеце! Здзівіў В. Макарэвіч, сказаў: “Н. С., вось гэты пасаж, напэўна, не пройдзе”. Ён ужо загадзя ведае, што не пройдзе! “А вы, кажу, пастарайцеся, дабіцеся, каб прайшоў. Можа, дзеля гэтага пасажа я і даў згоду ўдзельнічаць у перадачы.” Хоць, вядома, не толькі дзеля гэтага. Хацелася – і я рад выпадку – сказаць пра Васіля добрае слова. На ўсю Беларусь. Каб ведалі. І не паддаваліся на спекуляцыі зламыснікаў.

*9-га жніўня.* Раніцой зноў заходзілі дзяўчаты з Музея гісторыі літаратуры – забралі шмат чаго нарыхтаванага для маёй выставы. Удакладнілі назву апошняй: “І ўсё ж такі я веру!..” Прапанова Лідзіі Макарэвіч. Пагадзіўся. Узяліся за справу музейніцы вельмі сур’ёзна. Можа, штосьці і атрымаецца. Добрыя сябры мне хочуць дапамагчы ў сённяшняй маёй сітуацыі. Назло ўсім нядобразычліўцам і галоўнаму з іх. Толькі разумеючы гэта, я, удзячны сябрам, і даў у прынцыпе згоду на стварэнне выставы.

*13-га жніўня.* Хадзіў на магілу Коласа. У ліку іншых і я сказаў слова. Сказаў аб тым, якая дарагая нам сёння мара Коласа пра свабодную, незалежную Беларусь і які зразумелы нам яго боль, яго гнеў у вершы 21-га года: “Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы!..” Жалобная сходка ўпершыню прайшла без Данілы Канстанцінавіча – адышоў нястомны руплівец пра гонар і славу Бацькі. Пасля сходкі Ала Цімафееўна запрасіла на кватэру. Пасядзелі, памянулі, пагутарылі. З пісьменнікаў чамусьці нікога не было (адзін крытык У.Г.) Сядзеў я побач з сынам Коласа Міхасём. Шмат расказаў цікавага – з успамінаў пра бацьку, але і трохі стаміў мяне сваімі гумарыстычнымі вершамі (на дзвюх мовах, між іншым).

*14-га жніўня.* Званіў Лучанок, але мяне не застаў, дык выказаў усё, што

меў, Ніне Іванаўне. Па-першае, падзякаваў за верш аб Славянскім базары, які фактычна прысвечаны яму. Па-другое, зноў бясконцая крыўда: чаму я зрабіў міністрам Вайтовіча, а не Лучанка; а Лучанок нават звання прафесара не мае. Колькі тлумачыў яму, што міністрам Вайтовіча зрабіў ЦК КПБ – не ўспрымае! Ну, а наконт звання прафесара я і сам дзіўлюся, бо ў першыню чую, што чалавек доўгі час быў рэктарам Кансерваторыі і не быў прафесарам. Нейчы вельмі прыкры недагляд!..

*21-га жніўня.* Заходзіў пасланец з Маладзечна, вядомы там беларус-патрыёт і дэмакрат Алесь Капуцкі. Інжынер па адукацыі. Заходзіў з просьбай, каб я даў згоду вылучыцца кандыдатам у Вярхоўны Савет – на асенніх давыбарах. Па той акрузе вылучаўся ён, і не прайшоў. І шанцаў, што пройдзе, мала. А шкада! Вельмі сімпатычны і разумны, сур'ёзны, прынцыповы таварыш. Шкада! Прыйшлося расчараваць яго: ні ў якія дэпутаты ўжо мяне і вяроўкамі не зацягнеш! Хоць бы даў Бог трохі патрымацца ды напісаць сёе-тое! Горача параіў яму выпрабаваць лёс яшчэ раз – вылучыцца нанова.

*28-га жніўня.* Вечар правялі з Нінай у Бураўкіна. Віншавалі з юбілеем. Былі Карпенка, Матукоўскі. Быў і Быкаў (пагаварыць не давялося). Генадзь хутка пачаў мітынгаваць, як заўсёды, стала нецікава. Быў і яго зямляк Я. – перакананы ідэйны праціўнік незалежнасці, рэформ і БНФ. Такая "кумпанія", такое спалучэнне. Так і жывём, і сябруем. А што зробіш? Тыповы беларускі менталітэт!..

Дадому – Быкава, Карпенку і мяне з Нінай – адвёз на сваёй "інамарцы" вядомы палітолаг А. Майсеня. Па просьбе Карпенкі прыехаў. Сказаў: хутка будзе ў друку яго вялікі артыкул – "антыпрэ", вядома.

*29-га жніўня.* Быў у Н. Вылчава – ён прыехаў на сталую працу ў балгарскае пасольства. Павіншаваў яго з днём нараджэння (69), агледзеў апартаменты. Пасядзець не давялося, яму стала кепска (страўнік), ужо ўсе дні, сказаў, нешта не тое ў страўніку. Начаваць ён пайшоў да калегі Караджова.

*1-га верасня.* А паўвосьмай пазваніла Макалёва жонка – ноччу памёр Пятрусь. На кватэры ў сябра мастака. Седзячы – сплючы – у крэсле. Днём пілі ў Макаля. Вечарам пайшлі працягваць да мастака. Апоўначы гаспадар пазваніў Галі: "Пятрусь спіць у крэсле, хай спіць; прыйдзе як праспіцца..." Яна супакоілася, да такога прывыкла. Не праспаўся і не прыйшоў.

Няшчасце Беларусі і беларускай літаратуры. Можа, ужо сотая смерць ад гарэлкі. Але ж і паказчык! Баюся, што ў Еўропе мы на першым месцы. Значыць, на апошнім па культуры.

Паўдня шукаў кіраўнікоў СП – каб сказаць пра Макаля. Ні аднаго ў Мінску.

*2-га верасня.* З раніцы – у ПТВ №38, паліграфістаў, у сувязі з Днём пісьменства і культуры. Слухалі, але... У большасці – без жывінкі ў вачах. Хоць будуць рабіць кніжкі.

У 12 гадзін быў на юбілеі (25 гадоў працы ў музвучылішчы) А. Мурзіча. Пераканаўся, як яго шануюць і любяць. Педагог па прызванню.

*4-га верасня.* Быў на развітанні з Макалём. Хворы. На могілкі не паехаў. Усё думаю пра тое ж: пра наша праклятце.

*15-га верасня.* Сёння многія паехалі на радзіму Драздовіча. А я не магу. Хварэю.

А так хацелася пабыць там! Пакланіцца яго зямлі і яго магіле. На такіх непахісных і апантаных, як ён, мы трымаліся і трымаемся дагэтуль. І вытрымаем!

*23-га верасня.* Сустрэча ў Смалявічах, у школе. Арганізавала былая наша студэнтка Лук'янава (Белановіч) А.В. Быў В. Баркун – мой аднакурснік па педвучылішчы. Па друку за мною сочыць. Але – ні слова такога, каб... Больш, нават настойліва, пытаўся пра маю кватэру, дачу, пенсію... Была і К. Юша – як і ў студэнцтве, душа светлая і ўзнёслая. І беларуская. Сустрэча, на жаль, прайшла па "плану ўрока", які вяла настаўніца. Ініцыятыва была не ў мяне. На жаль.

У Смалявічах беларускіх школ няма і беларусізацыя згортваецца. Як і амаль усюды.

*24-га верасня.* Вечарына Бураўкіна ў Музеі Купалы. Усё яшчэ грыміць юбілей. Цэлы месяц. Некалькі перадач па тэле, па радыё. Вечары і сустрэчы. Паглядзець – дык беларускую паэзію і цэняць, і шануюць. Куды ўжо лепш!.. У Музеі сказаў некалькі слоў і я. Перш за ўсё – аб яго песенным наробку.

*26-га верасня.* І ўчора, і сёння – у Музеі гісторыі літаратуры. Заўтра – адкрыццё выставы. Здаецца, дзяўчаты, як я іх заву, разам з мастаком Г. Чыстым, зрабілі ўсё магчымае і нават больш. І аднак жа – хвалююся. Яшчэ больш хвалюецца Л. В. Макарэвіч – галоўная аўтарка канцэпцыі выставы і наогул – галоўная ў ажыццяўленні гэтай "Тэрэзінай задумы". А задума – так, намесніцы дырэктара Музея Тэрэзы Голуб.

*27-га верасня.* Адкрылася выстава. Людзей было багата. Паэтаў – зусім мала. Законнікаў, Пісьмянкоў, Дранько-Майсюк... Дудараў. Кампазітар Ханок. Пасол Балгарыі М. Ганчаў. Найдан – з бальніцы ўцёкшы. Дарадчык пасольства Украіны. І ні адной душы – з маіх равеснікаў, са старэйшых. На юбілейнай выставе народнага паэта Беларусі – тры паэты! Вось і ўся павага, і ўся ацэнка, і ўся любоў!.. Ад "ЛіМа" была Каржанеўская. Ад Міністэрства культуры – намеснік міністра Гедройц, – адзіная афіцыйная асоба. Быў Шушкевіч, выступіў. Быў акадэмік Гарэцкі. Было колькі старых каляліаратурных п'яніц (прыйшлі дзеля фуршэту). Упрыгожыла ўрачыстую частку дэлегацыя з Докшыцкага раёна – з хлебам-соллю, з журавінамі, з гусіным яйкам. Гэта сапраўды глядзелася і ўсіх узрушыла. Лепш за ўсіх з гасцей сказаў А. Пісьмянкоў (уражанне, што некаторыя проста не ведаюць, што пра Н. Гілевіча сказаць). Добра гаварылі "дзяўчаты" – Л. В. Макарэвіч і Т. С. Голуб. Таксама і Гедройц.

Фуршэт... пітва і закускі было ўдосталь. Уклад Ніны Іванаўны істотна падтрымаў Музей, дакладней – Л. Т. Хадкевіч.

*30-га верасня.* Прыйшлі павіншаваць: Матукоўскія, Бураўкіны (аднекуль заходам), Дударавы, Някляеў. Астатнія – свае, родзічы і сваякі. Пілі-елі, шмат рагаталі (інспірыравала смех, вядома ж, Ніна Іванаўна). Як і заўсёды: з палёгкай уздыхнуў, калі кончылася.

*4-га кастрычніка.* Вечарам быў на інаўгурацыі Універсітэта Культуры – па запрашэнню рэктара Я.Д. Грыгаровіч. Усё, што магу сказаць – прыгожая і здольная моладзь!..

*8-га кастрычніка.* Быў у выдавецтве, у Брылёўны (Н.І. Брыль-Семашкевіч). Знялі пытанні па карэктуры Першага тома Збору. Трачу апошнія надзеі, што

патрымаю ў руках хоць Першы. Бо ўсё хіліцца да таго, што нацыяналістам ходу не дадуць. Пачнуць душыць. Бліжэйшы час пакажа.

*12-га кастрычніка.* У 12-30 – сустрэча ў Гуманітарным Ліцэі, па просьбе Л. Баршчэўскага. Вярнуўся з вельмі добрымі думкамі, у настроі. Моладзь не толькі прыгожая і здольная, але і Беларуская. Гонар і хвала выкладчыкам. Будзем жыць!

Паглядзеў выдадзеныя Ліцэем беларускія падручнікі. Яшчэ раз – гонар і хвала! Як прафесійна, як хораша, засведчылі, можна ўсё рабіць! Калі б не душылі невукі і манкурты.

*16-га кастрычніка.* 13 гадзін. Сустрэча ў Мінскім педвучылішчы, па запрашэнні Ж.Н. Прыйман (у БДУ – у студэнцтве – Ляпешка). Пытанняў было мала. Увогуле чакаў большага. Большай аддачы, ці што? Ці яны чакалі не такой паэзіі? А якой? Бардаўскай? Прымітыўнай?

Паспеў у СП на канец агульнага сходу, які заявіў НЕ лукашызму. Сарваў – чуць не прынялі – прапанову В.Бл. "паслаць рэзалюцыю і Усенароднаму сходу". Яшчэ чаго не хапала!

*18-га кастрычніка.* Нацыянальны Кангрэс у абарону дэмакратыі – супроць дыктатуры. Выступіў у першай палавіне дня. Па напісанаму тэксту, які буду друкаваць (у "ЛіМе"? У "Народнай Волі"?). Лічу адным з лепшых сваіх публічных udараў па лукашызму і ўсіх іншых ворагах незалежнай Беларусі. Дзясяткі людзей падыходзілі павіншаваць і падзякаваць – "за ўсё, што вы робіце для выратавання Беларусі, за тое, што вы ёсць". Нават з цалаваннем рукі, чаго я ўвогуле не цярплю.

Кангрэс прайшоў на ўзроўні.

*19-га кастрычніка.* Быў на мітынгу, каля Опернага. Не да самага канца. Відовішча – вельмі ўражлівае. А рыхтаваць мітынгі трэба лепш (каму даць слова, у якім парадку і г.д.).

*22-га кастрычніка.* Быў экскурсаводам на сваёй выставе – для тэлеперадачы "Беларускі дом". Пасля – размова з наведнікамі і чытанне вершаў. Слухалі з сардэчнай увагай.

Вечарам з Вярцінскім былі ў Найдана ў гонар прыезду яго Мінкі. Размова цякла разнабойная і разнамоўная, таму былі нядоўга. Адвёз дадому Найдан, дзякаваць Богу, ён добра аздаравеў пасля аперацыі язвы.

*31-га кастрычніка.* Юбілей БДУ, у сценах якога – студэнтам і выкладчыкам – прадыхаў 35 гадоў (з 65 пражытых). На вечар не пайшоў. Глядзеў па тэлевізары. І добра, што не пайшоў. Не вытрымаў бы там ад сораму і ганьбы. Усякія былі дзівосы, але такога!.. У прэзідыуме – Гэны і Філарэт (а ўсяго – пяцёра). Філарэт – гонар беларускага нацыянальнага ўніверсітэта! Да чаго дакаціліся!

Між іншым, в.а. прэзідэнта АНБ А. Ганчарэнка ў сваім прывітальным слове сярод тых выпускнікоў (і не толькі), што стварылі свае школы, свае кірункі, назваў і Гілевіча. У прысутнасці асэсара, які дзесяць дзён таму ў дакладзе на Усебеларускім сходзе маё імя падаў у множным ліку – "гилевичи". Дзякуй, Андрэй Маркавіч, за падтрымку!

*19-га лістапада.* На юбілейным вечары Э. Ханка (25-годдзе творчай дзейнасці) – пачалося! Тое, што я так рэзка асудзіў у нататках пра фестываль "Іграй,

гармонік". Там была адна прыпеўка ў гонар асэсара і ў выкананні местачковай маладзіцы, а тут – цэлая песня-гімн пра яго, і аўтар і першы выканаўца – народны, вядомы, маэстра Э. Ханок! Ах, Эдуард Сямёнавіч! Такою цаной здабываць рэгаліі? (Між іншым, калі сам Ханок заспяваў сваю песню ў гонар Гэнага, Бураўкін шапнуў да мяне: "Цяпер ты разумееш, чаму ён атрымаў званне Народнага? Хоць быў варты і без гэтага.").

Тут жа ў зале я адчуў, як прыцьмела ўсё маё супрацоўніцтва з таленавітым меладыстам.

І так, пачалося. Дакладней, вяртаецца. "Мы Сталіну роднаму ў песні..." Агідна. Талент – і грамадзянін. Як гэта не часта супадае!

*20-га лістапада.* "Настаўніцкая" апублікавала маю размову ў Музеі. Ёсць у ёй і моманты прынцыпова важныя – аб будучыні нашай літаратуры, аб калабарантах... І ўсё ж у жанрах інтэрв'ю, размовы трэба быць больш асцярожным.

*21-га лістапада.* Сёння ў "Народнай Волі" змешчана – нарэшце! – маё выступленне на Кангрэсе – з невялікімі дапаўненнямі. Прачытаў – і зноў запаліўся. Ад свайго ж! І адчуў – што не сёння – заўтра напішу яшчэ нешта. Маўчаць не змагу. У Беларусі – чорт ведае што творыцца! Дакладней – што вытварае Гэны! Прыляцелі міратворцы з Масквы. Якая ганьба! Уяўляю, як плююцца і рагочуць з беларускіх ахламонаў у Літве, у маленькай Эстоніі і ў цэлым вялікім свеце.

У такім настроі адкрываў і вёў вечар, прысвечаны 90-годдзю першай публікацыі Якуба Коласа.

*22-га лістапада.* "ЛіМ" апублікаваў мае злосныя іранічныя вершы. "Ода", па-мойму, атрымалася. А увогуле – стаміўся я ўжо і ад сваіх іроній (ад лірыкі – даўно). Стаміўся! У грудзях так ціснe, што не дае дыхаць. Задыхаюся.

*23-га лістапада.* Палітычныя падзеі развіваюцца шалёным тэмпам. Зноў усё адкруцілася назад – як было да ночы з 21-га на 22-ое. Толькі яшчэ ў большую лютасць увайшоў Гэны. Пагражае знесці і змесці з дарогі да гітлераўскай пасады – усіх і ўсё. Заўтра, відаць, будзе адносна ціха, будуць галасаваць. Ну а 25-га, к вечару, ён сябе пакажа. Пачнецца!..

*24-га лістапада.* Схадзілі на выбарчы ўчастак. Дзеля Хадыкі. Аддалі яму галасы. А рэферэндумныя бюлетэні не бралі зусім. Вечарам пачулі, што Карпенка дэманстратыўна свой бюлетэнь парваў і кінуў у кош – на вачах у членаў камісіі. А тыя вынялі і склеілі...

25-га лістапада. У асэсара поўны трыумф. Нават больш, чым чакаўся. Хоць у "перамозе" сумненняў не было. Вось, што значыць бесхрыбетнасць і халуйства "таксамабеларусаў"! Не могуць іначай. Не могуць! Прыехаў з Масквы Дзяржымордзін "со товарищи" – і ўсё! Шарэцкія скапыціліся. Ну, цяпер трымайцеся!..

28-га лістапада. "Канстытуцыя" асэсара ўступіла ў сілу. Вярхоўны Савет распушчаны. Утворана Палата прадстаўнікоў. На чале – былы генсек Малафееў. Усплыў-такі! Але ж і грымеў блокамі суслаўскай палітграматы! Аж не верыцца.

У непрымірымых з разгонам ВС – пэўная разгубленасць. Іх ужо нават у будынак Дома Урада не пускаюць. А як загагакалі прадажнікі!.. Страх бачыць і слухаць! Апошнія дні, канешне ж, дажывае і Канстытуцыйны суд. Ах, шаноўны прафесар Ціхіня! У гісторыі спазняцца няможна. Імпічмент трэба было аб'яўляць у

пятніцу. На аснове Канстытуцыі, якая мела сілу. Не хапіла духу? Ну, так, без духу не змагчы псяюху. Куды ж без духу? Толькі кветачкі падстрыгаць на дачы...

*3-га снежня.* У Лісабоне вялікі асэсар не аднойчы атрымаў поўху і апынуўся ў ізаляцыі. Але – як з гусі вада! Ані шманае! Відаць, да яго проста не даходзіць, што адбываецца. Не здольны зразумець.

Глядзеў у ДЛ фільм Жданоўскага "За Кушлянамі – снег" (па просьбе Жамойціна). Фільм зроблены прафесійна, глядзіцца (і слухаецца! Песні Жамойціна гучаць), але і прэтэнзій да яго нямала. Іх найлепш выказаў праф. Савіцкі М.І. Мне давялося крыху здыпламатнічаць – каб не засмучаць Алеся, ён, бачна, проста шчаслівы ад гэтай кінастужкі. Тым болей, што фільм не пераробіш. Алесь фактычна – герой фільма, – жывы, дзейны, а Багушэвіч – толькі як легенда, пра якую і клапоціцца ў Кушлянах шчыры і разумны нашчадак Францішка.

*4-га снежня.* Быў на сходзе дэмакратычнай апазіцыі ў ДЛ. Слова не браў, хоць узяць быў гатовы. Адрынутыя дэпутаты XIII склікання апомніліся і пачынаюць дзейнічаць. Пакуль – прамовамі, жорсткай крытыкай, адозвамі-зваротамі да народа, да міжнароднай грамадскасці. Рашучасці і пафасу на сходзе было аж зашмат, нават з правакацыйнымі воклічамі.

У прэзідыуме сядзелі: Шарэцкі (вёў сход), Карпенка, Хадыка, Статкевіч, Р. Гарэцкі і Я. Брыль. Усе выступілі выдатна: Грыб, Шлындзікаў, Нікітчанка, Анцулевіч і іншыя. А лепш за ўсіх – сястра А. Майсені Л. І. Шлома. Напомніла пра галоўнае – пра тое, што фактычна пачаўся аншлюс Беларусі, і запатрабавала ўнесці гэта ў выніковы дакумент.

*6-га снежня.* У аўторак перадаў выдавецтву рукапіс 2-га тома, а сёння завёз і фотаздымкі для яго. Надзей, што дачакаюся, малавата. Званіў на паліграфкамбінат. Германаў у адпачынку, гаварыў з яго намеснікам Жардзецкай. Друкары чакаюць грошай ад выдавецтва. Атрымаюць грошы (доўг – 700 млн) – адразу ж будуць рабіць тыраж. А ці атрымаюць – ніхто не ведае.

Вечарам заходзіў У. М. Конан, забраў мае адказы на пытанні яго Лолы Утміраўны – для "ЛГ". Сядзеў над гэтымі адказамі ў такім настроі, што, відаць, не надта ўзрадую "литературку", і будзе шкада страчанага часу і сіл.

Ну а асэсар тым часам дзейнічае. КС ліквідаваны, часова яго ўзначаліў рэнегат В. (хто б падумаў! Як я сімпатызаваў яму ў ВС!..).

Прэса асэнсоўвае памылкі і пралікі дэмакратычнай апазіцыі. Ну так, усё называецца правільна. Але – без самага галоўнага. Пра што крычу і крычу, не змаўкаючы: станьма спачатку на грунт беларускай ідэі, панове, станьма беларусамі, зробім беларусамі бальшыню народа – і тады асэсар са сваёй хунтай будзе пераможаны! Гэта – прычына прычын паразы! Зразумейце ж, нарэшце!

*7-га снежня.* Учора хадзіў – праз не магу – у к/т "Масква", каб паглядзець "На чорных лядах" (па настойлівай просьбе аўтара Панамарова, сам запрашэнне прынёс дадому). Схадзіў – і ні з чым вярнуўся: у дзвярах усмешлівая мадама сказала: "Фільм адмянілі. Не знайшлі кінастужку, паглядзіце Турава, раз ужо прыйшлі!.." А сёння ў "СН" вычытаў: адзіная копія "На чорных лядах" знікла. Знікла – і ўсё! Чаму і як – думай што хочаш.

*8-га снежня.* Званіў С. Запрудскі з "Нёмана", угаварыў напісаць прадмову да публікацыі І. І. Насовіча "Воспоминания моей жизни". Даў згоду, а цяпер шкадую: ці тое гэта, што я павінен рабіць? Колькі часу забярэ! Адно суцяшае, што

матэрыял дае магчымасць пагаварыць аб русіфікацыі Беларусі ў 19-м стагоддзі, аб трагедыі беларускай інтэлігенцыі і ўсяго нашага народа.

*9-га снежня.* Быў на вечары М. Багдановіча ў Доме Літаратара. Сказаў слова. Не забыўшы і пра яго магілу ў Ялце. Акцэнт жа зрабіў на адукаванасці і культуры Багдановіча – на тым, чаго так нестае ўсім нам. Добра сказалі пра Паэта Разанаў і Дранько-Майсюк, асабліва першы. Настрой сапсаваў С. Панізнік. Паказаў аб’ёмісты том вершаў і артыкулаў, прысвечаных Багдановічу, – толькі-толькі выйшаў з друку. І ў томе няма “Апошняй сустрэчы з Веранікай”, – верша, якім я па справядлівасці ганаруся. Вось так можна абыходзіцца з народным паэтам Беларусі. Не вытрымаў канкурэнцыі з дзясяткамі вершатворцаў, якія ў зборнік трапілі, – нават з пачаткоўцамі. Ну, што ж, праглыну і гэту жабу. Вось так – праз усё жыццё. Стаміўся...

*10-га снежня.* Засядаў прэзідыум Рады СПБ, на які па зразумелых прычынах не пайшоў. Вызвалілі ад пасады галоўнага рэдактара “ЛіМа” Міколу Гіля, рэкамендавалі Някляева. Зуёнак сказаў: інакай Камітэт не дасць грошай і “ЛіМ” перастане выходзіць. І ўсе пагадзіліся: а што зробіш! І прагаласавалі. Адзін падвыпіты В. Супрунчук – супраць. Сказаў: “Аслы!” і пайшоў з залы.

Так падымаем лапкі ўгору. Уявіў, як бы было ў Літве, у Арменіі, нават на Украіне... Во дзе няшчасце-пракляцце наша! Ну няхай бы Камітэт гвалтоўна мяняў рэдактара, няхай бы закрываў “ЛіМ” (хоць на гэта ён не пайшоў бы). А вы пастойце за сябе! За выдатную газету – адзіную сярод непрыватных мужную абаронцу Беларушчыны!

Беларускія га...нюкі і за...ранцы! – усё, што застаецца сказаць, сплюнуўшы.

*11-га снежня.* Быў на сустрэчы з выкладчыкамі і студэнтамі БДЭУ. Арганізаваў праф. М. І. Савіцкі. Больш дзвюх гадзін чытаў вершы і адказваў на запіскі. Многія рэчы прымалі вельмі горача, перабівалі воплескамі. Пасля амаль гадзіну ставіў аўтографы на кнігах “Любоў-прасветлая”, “На высокім алтары” і “Талісман”. Вельмі хораша рэагавалі на вострыя публіцыстычныя вершы самыя маладыя ў зале – школьнікі з бліжэйшай СШ.

*17-га снежня.* Вечар Цёткі ў Доме Літаратара. Падрыхтаваны слабавата. Спалучылі з юбілеем В. Коўтун (яна ж была і гаспадыняй вечарыны), – і дарэмна: не дадалося ні той ні другой. Вечар В. К. трэба было зрабіць раней і асобна.

Калі нашы артысты пачнуць чытаць вершы на памяць – як у Маскве? Якая нелюбоў да паэзіі!..

А днём у мяне была сустрэча ў Педагагічным універсітэце, арганізаваная А. Рагулем і Я. Лецкам (апошні – каб прадаваць выдадзены ім “Талісман”). Тры гадзіны публіка не адпускала са сцэны. А тады яшчэ больш гадзіны падпісваў свае кнігі. Настрой у зале – вельмі і вельмі патрыятычны. Проста радасна было бачыць, як успрымалі вершы ў абарону Беларусі, беларускай мовы і – крытыку ў адрас адшчапенцаў.

*18-га снежня.* Сустрэча ў СШ № 213. Зусім не тое, што ў БДЭУ і Педагагічным універсітэце. Уражанне, што дзеля “птушачкі”. Прытым – ашукалі. Сказалі: будуць настаўнікі ўсяго раёна і трохі вучняў-старшакласнікаў. А былі ў асноўным дзеці, а настаўнікаў чалавек дзесяць – не болей. Падрыхтаваўся гаварыць з настаўнікамі і вершы чытаць для іх; давялося з ходу перакантаваць праграму; напачатку нават разгубіўся. Агульнае ўражанне аб школе невясёлае. А яшчэ статыстыка: летась было пяць першых беларускіх класаў, сёлета – 1. Усе другія

– трэція – чацвёртыя вярнуліся на рускую мову. Іначай сказаць – вярнуліся на шлях нацыянальнай пагібелі.

*21-га снежня.* Пасяджэнне рады ТБМ. У памяшканні БНФ (упершыню быў там). Прыйшло чалавек 15 (адна чацвёртая ад усіх). Прынялі пастанову наконт “Нашага слова” – пашырыць круг заснавальнікаў, каб ацалець, бо датацыі ўжо не будзе. Рашылі ў канцы студзеня сабрацца зноў, каб абвясціць падрыхтоўку да з’езду.

На душы вельмі цяжка. Фактычна ТБМ як масавай арганізацыі няма. Адно фармальна значыцца. Яно было растворана ў БНФ – як я ні супраціўляўся гэтаму. Адносіны грамадства да БНФ перанесліся на ТБМ і паралізавалі яго дзейнасць. Да таго ж не пашанцавала з кадрамі ў штабах ТБМ, перш за ўсё – у Рэспубліканскім.

*27-га снежня.* Выйшаў апошні нумар “ЛіМа”, падпісаны Гілём. У нумары – яго развітальнае слова. Горкае – да слёз. Напісана бліскуча. Завяршылася гераічная эпоха ў гісторыі пісьменніцкай газеты. Пачнуцца шэранькія будні пад апекай хітраванцаў.

На развітанне М. Г. стукнуў дзвярыма: апублікаваў вострa сатырычную паэму “Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі”. Няўжо праглынуць моўчкі – зробяць выгляд, што казачка іх не датычыць? Наўрад! Не тыя гіцалі, каб не сталі помсціць.

*30-га снежня.* Трэба ж! Такі падарунак мне да Новага года – першы даўгачаканы том Збору твораў! Цэлы дзень гартаю і радуюся як дзіця. Афармленнем і ў цэлым паліграфіяй – як на сённяшні дзень – магу быць задаволены.

Яшчэ раз перачытаў прадмову У. М. Конана – і яшчэ раз пераканаўся, што ніхто і ніколі так глыбока не прачытаў Н. Гілевіча, як ён. А як густа і лапідарна напісана! Усё – толькі па самым вялікім рахунку.

Рыгор Сітніца



…чым большы Паэт, тым большую асабістую адказнасць і віну ён адчувае за ссечанае дрэва, пакрыўджанае дзіця, атручаную рэчку, згвалтаваную мову, прыніжаную нацыю, зняверанае людства, абражанага Бога…

# Неюбілейнае

## *Да 65-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра НЯКЛЯЕВА*

*...Душа, выходзячы з бяды,*
*...нанова хоча нарадзіцца*
*у Крэве...*
Леанід Дранько-Майсюк

Не многім даецца права
    быць братам траве і дрэву,
Не кожны мае падставы
    назвацца раднёй ракі;
І толькі абраным суджана
    крэўнымі стаць для Крэва,
І вельмі не многім пакінуць
    гэтае званне вякі.
Бо толькі сапраўдным дадзена
    Крэва жыццёвым крэдам,
Калі праз агонь і ваду
    і трубаў салодкі жах
Прайшоўшы з душою падрапанай,
    шлях не забыў да Крэва, –

Між іншых звабных кірункаў,
адзіна праўдзівы шлях.
Бо лёс не зрабіў памылкі,
юдоль пазначыўшы Крэвам;
Бо час настае раскіданыя
зноўку збіраць камяні....
І Крэва падцвердзіць права
быць братам траве і дрэвам,
І Крэва табе дапаможа,
як самай крэўнай радні.

*2006*

Дзень добры, дарагі мой сябра.

Безумоўна, я хацеў бы сказаць гэта, гледзячы табе ў вочы, ці хаця б па тэлефоне, хай сабе й падслуханы пільнымі спец-вушамі.

Зрэшты, як там ні было б, але калі можаш пажадаць сябру добрага дня, дык ужо таму ён і добры.

Аднак жа цяпер ты, хоць і не далёка, але ж недасяжны. Нават лістом альбо тэлеграмай да цябе не дагукацца. Таму й пішу ў “Дзеяслоў”, бо напісанае, – як той казаў, – застаецца.

Добры дзень, Валодзя.

Я не здарма пачаў гэты ліст вершам, прысвечаным табе 5 гадоў таму, які ўзяў выток свой з эпіграфа, пазычанага ў нашага агульнага сябра Лёні Дранько-Масюка. Дарэчы будзе сказаць, што эпіграф гэты я ўзяў у кнізе “Паэтаграфічны раман”, якую адзін беларускі Паэт прысвяціў другому беларускаму Паэту акурат тады, калі для першага гэта было даволі небяспечным, а для другога – жыццёванеабходным. І ўсё гэта без аніякага эпатажу і піяру, ціха, спакойна, шляхетна, таленавіта, – гэтак, як і мусіць быць між паэтамі.

Баючыся памыліцца, выбачаюся, але ж іншы гэткі прыклад ведаю толькі адзін, – ліставанне геніяльнага Барадуліна з геніяльным Быкавым: мудра, таленавіта, высакародна, – гэтак, як і належыць Геніям.

Лічу, – ужо гэтымі двума прыкладамі наша літаратура мае права быць ушанаванаю ў сусветнай літаратурнай сябрыне.

Сёння, у пярэдадзень твайго новага юбілею, мне да драбніцаў прыгадваюцца дні пяцігадовай даўніны, калі ты раптам, нечакана для ўсіх нас, стаў юбілярам.

Табе?.. – шэсцьдзясят?.. Дзіўна. Неадпаведна. Але хай сабе й так. Што гэта мяняе? Хіба што ёсць нагода для прыгожага і вясёлага.

Ах, як яно было! Першыя дні ліпеня 2006 года. Ты тут, ты вярнуўся, ты побач, мы разам... І гэта непараўнальна істотней за ўсе круглыя даты.

Ты не жадаў ніякіх гучных падзеяў; маўляў, сядзем утрох у цяньку на траўцы, – вось і юбілей. Але ж мы хацелі бачыць гэта інакш. Самае малое, што зрабілі мы з Лёнем, – публікацыя ў “Народнай волі” з тваім фотаздымкам, маім вершам “Някляеў” і цудоўным артыкулам Дранько-Майсюка “Гаспадар літаратуры”.

Але гэтага было недаравальна мала. Выпадкова цябе сустрэўшы і, пасля доўгіх уговораў за тваім сталом, атрымаўшы нарэшце згоду на тое, пра што ты нават і не здагадваўся, я абрынуўся ў шалёнае і вясёлае натхненне. Тваёй задачай было толькі ў належны час прыехаць у Крэва і прывезці з сабою колькі дзясяткаў сваіх сяброў. Пагадзіліся.



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.

Раным рана 9 ліпеня 2006 года мы з Уладзем Вішнеўскім выехалі ў Крэва, прыхапіўшы ў Ракаве Язэпа Янушкевіча. Па дарозе, прыпыніўшыся, нарвалі цэлы сноп валошак ды каласоў, з якіх пасля сплялі, як умелі, вянок, а мелася на ўвазе, – карону для ўганаравання Караля беларускай паэзіі. На дзядзінцы Крэўскага замка быў разасланы кілім, на якім мы паставілі “трон”, загадзя пазычаны ў Купалаўскім тэатры. Над “тронам” усталявалі вялізную харугву з выяваю герба Крэва, а паводдаль падрыхтавалі, складзеныя ў горку, 60 камянёў...

А 12-ы Кароль быў пасаджаны на “трон” пад гербавай харугвай, вялікая грамада “падданых беларускай паэзіі” выстраілася ў доўгі жывы ланцуг... І пачалося дзейства: перадаючы адзін другому, мы паклалі табе пад ногі шэсцьдзясят крэўскіх камянёў-знакаў, якія паядналі твае пражытыя гады з вечнасцю нашай Гісторыі, бо былі ўмураваныя ў сцяну замка, зноў вярнуўшыся на сваё законнае месца.

І пад час гэтага дзейства, – урачысты перазвон! – дабраслаўленне ад Крэўскай Свята-Аляксандра-Неўскай царквы. Я й сёння не ведаю, ці было гэта звычайным супадзеннем, ці гэта крэўскае святарства гэткім дзівосным чынам спрычынілася да ўшанавання свайго славутага земляка.

А пасля былі адведзіны крэўскіх кладоў, дзе валошкава-каласовая “карона” з галавы Караля ўквеціла сціплае надмагілле Матулі Паэта. Светла, годна, высока!.. Па-людску.

А потым – панадворак дзедаўскай сядзібы: твая родная цётка Гэля, браты, радня, сябры, віно, песні, вершы... Свята!

Ах, яно было!

Ах, як гэта будзе!

Сёння нам, на жаль, не да святаў, і невядома, якім будзе тое заўтра.

Але, калі яно будзе, дык будуць у цябе і сябры, для якіх ты – па-над усімі варункамі, умовамі, акалічнасцямі. Бо калі людзям пасчасціла абняцца душамі, дык гэта не падлягае ніякай каньюктуры, бо яно ад Бога і справаздачнае толькі Яму.

На жаль, гэткім крытэрам адпаведныя далёка не ўсе, хто некалі зваўся тваім сябрам. Яны, канечне, адшукаюць нейкія апраўдальныя словы пра “няпросты час ды складаныя абставіны”, але ж менавіта абставінамі ды часам выпрабоўваецца вартасць сапраўднага, пазначанага Божай наканаванасцю. А тыя прагматычныя ды абачлівыя хай сабе таемна ганарацца сваім “жыццёвым розумам” ды слушным выбарам, ціха пасопваючы ў прэзідыумах, чыноўных кабінетах і рэдактарскіх фатэлях. Што ж, маюць права, як той казаў. Але права гэтае не мае ніякай будучыні, а таму вартае жалю. Бо паняволеныя, бо звычайныя, бо не паэты, бо не абраныя. І нават не палітыкі, хоць тагосяго й прызначылі.

Трохі пра палітыку. Дзякуй Богу, нам заўсёды хапала тэмаў, па-за яе межамі. Хоць, дзе тыя межы? Не маючы мажлівасці запытацца ў цябе наўпрост, спрабую зразумець самастойна: што гэта было? І адказ, як для каго ні дзіўна, вынікае з тваёй гіперпаэтычнай сутнасці: бо пачуццёвы, бо не прагматык, бо імпульсіўны, бо Паэт, бо прагнеш Праўды... Бо пішаш, як жывеш, а жывеш, як пішаш:

“...Калі пісаць, дык толькі так пісаць,
Як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай,
Як з вены ў вену кроў пераліваць...
Пісаць, як спавядацца і маліцца.”

Вось такая палітыка ў Паэта, і гэтым тлумачыцца ўсё што ён піша, робіць, здзяйсняе...

І з гэтага вынікае мая амаль абураная нязгода, калі той-сёй з газетчыкаў называе цябе палітыкам. А можа яны й напрўду гэтак думаюць? Бедныя...

Ты не палітык, Валодзя. Для гэтага трэба, як мінімум, нарадзіцца не паэтам. Дзякуй Богу, – сталася інакш, і Ён абраў цябе са шматлікіх мільёнаў, каб спраўдзіць сваю Звышнюю Задуму: праз цябе насыціць тутэйшыя будзённыя словы Нябеснай энергіяй, тым самым узняўшы іх да ўзроўню прасветленай мудрасці і найвышэйшай гармоніі: таго, што людзі зазвычай называюць геніяльнасцю.

І не варта крывіцца, панове. Прывыкайма. І не трэба сумнявацца ды паблажліва казаць, што гэта, маўляў, зразумелы і дапушчальны рэверанс, – нацяжка з прычынаў зусім невясёлага юбілею. Не, панове, прычына тут іншая: мы маем Вялікага Паэта, і гэтаму трэба радавацца, спрычыняючы да гэтай радасці шматлікіх іншых, яшчэ не прычашчоных.

А тым, хто да гэткай радасці яшчэ не дарос, раю напружыць глузды, ды, пераступіўшы праз сваю правінцыйную закамплексаванасць і мястэчковы снабізм, прачытаць паэмы ”Прошча”, “Паланез”, “Ложак для пчалы”, тым далучыўшыся да радасці і Святла! Бо гэткае напісаць можна, толькі пачуўшы Звышняга. А Ён абы-каму такія падарункі не раздае.

Але Бог, надзяляючы Паэта вялікім Дарам таленту, дае яму, каб не распесціўся ў аблудах, і вялікае сумленне, – трывожнае, надзвычайна актыўнае, часам невыносна балючае. Менавіта яно й штурхае Паэта ў апраметную палітыкі. Бо Паэт, бо баліць, бо невыносна болей трываць.

І тады ў ахвяру без развагаў аддаецца асабісты спакой, дабрабыт, творчасць, здароўе, а нават і жыццё. І Паэт ідзе на гэтыя ахвяры, не баючыся быць паняволеным, абалганым, зняважаным, апляваным нават тымі, хто надоечы лічыўся найбліжэйшым сябрам.

Колькі разоў Гісторыя паўтарала гэты сюжэт?! Колькі разоў яна пасля апраўдвала Паэта, даючы мажлівасць для апраўдальнага пакаяння нават тым, хто ад яго здрдліва адвярнуўся?!

А ўсе гэтыя васі, пашы, лёшы і гены з толікамі, якія адскочылі так далёка, нібыта ніколі цябе й не ведалі, вядома ж, знойдуць, чым пасля перад табою апраўдвацца, як ужо не раз гэта рабілі. То й хай сабе. Але ж ім з нябёсаў нічога не прадыктуецца, балазе, цяпер ім дыктуюць зусім з адваротнага боку; як і яшчэ аднаму персанажу, пра якога ў прыстойных размовах варта было б не згадваць, каб самому не ўступіць. Але ж... куды ні ступай, а яно, здаецца, паўсюль...

Вось жа й цяпер зноўку азваўся вантробнымі гукамі прыкравядомы Дамавік беларускага літаратурнага падпечча, які мае мянушку "Глёбус". Як і ўсялякі нячысцік, ён не прамінуў скарыстацца шанцам, каб паласавацца свежай крывёю, ды яшчэ гэткай: даўно ўжо аблізваўся... Пагатоў для ўсялякай нікчэмнасці ёсць найвялікшай насалодай назіраць прыніжэнне Велічнага, а пасля з кайфам апаражніцца ў сеціве. Дык і пакайфаваў, і апаражніўся, ведаючы, што твая даланя да ягонае пысы цяпер не дацягнецца. І калі цябе, акрываўленага і беспрытомнага, тапталі боты Цемры, Дамавік дабіваў цябе атрутнымі словамі; бо на тое ён і цемра, каб ненавідзець светлае. Бо не паэт, бо іншае прыроды, – цёмнае, нячыстае.

Але досыць пра яго, а то хоць нос затыкай.

Дый наогул, не варта залішне вінаваціць тых, хто сам падпісаўся пад уласным прысудам. Ды й мы, трэба прызнаць, далёка не святыя, а судзіць усіх нас ёсць Каму.

"...Мы не суддзі з табой, мы – віна..." – прыгадаліся раптам даўно прачытаныя паэтычныя радкі. Таму й прыгадаліся, бо пранізліва праўдзівыя. Бо паэт заўжды вінаваты. І чым большы Паэт, тым большую асабістую адказнасць і віну ён адчувае за ссечанае дрэва, пакрыўджанае дзіця, атручаную рэчку, згвалтаваную мову, прыніжаную нацыю, зняверанае людства, абражанага Бога... І выкупленне хоць часткі віны магчымае толькі праз асабісты творчы ды грамадзянскі Чын, спраўджаны праз спакутаванае сумленне, ці нават бязвінна пралітую геніяльную кроў: Дантэ, Міцкевіч, Пушкін, Купала, Шаўчэнка, Гумілёў, Геніюш, Жылка, Маякоўскі, Лорка, Дубоўка, Мандэльштам, Неруда, Бродскі... Можна доўжыць а доўжыць вялікія імёны геніяльных ахвяраў, апраўданых і ўзвялічаных гісторыяй.

Дзіўная выходзіць узаемазалежнасць: каго ні згадай з Вялікіх Паэтаў, а не знойдзецца такі, хто б не меў праблемных дачыненняў з уладай. Надта ж розная ў іх прырода, часта аж да поўнай несумяшчальнасці. Таму й не злічыць ахвяраў, пачынаючы ад самага Вялікага Паэта, якога, амаль 2000 гадоў таму, улада аддала на згубу толькі таму, што самастойна думаў, інакш жыў, іншае казаў, усіх любіў, ды й наогул быў "занадта разумны" і ўвасабляў альтэрнатыву. І ўкрыжаваны быў той Паэт, як і заўжды: "па просьбе працоўных", якім разбойнік аказаўся сацыяльна бліжэйшы, чым Паэт.

Колькі пасля малых і Вялікіх паэтаў паўтарыла той крыжовы шлях, жыццём заплаціўшы за сваю Праўду.

"Дабрашчасныя тыя, хто жадае і прагне праўды, бо яны спатоляцца..."

Падрабіць такое немагчыма, якімі пагонамі ды эпалетамі сябе ні абвеш-

вай. Бо Вялікаму Паэту – Вялікі Суддзя, імя якому – Бог і ягоная служка – Гісторыя.

Дарагі дружа. Уяўляючы ўсю дзікасць і абсурднасць сітуацыі, я скрушна думаю пра тых, невядомых мне суддзяў, якім выпадзе незайздросная доля судзіць цябе, як злачынцу, і гэтым актам нечакана патрапіць у нашу гісторыю. Кім яны там будуць? – хутка даведаемся. Кім у Гісторыі будзеш ты, – ведаюць усе, бо тваімі адвакатамі на гэтым судзе – праўда і сумленне. Месца тваё ў Гісторыі вызначана даўно. І невядома, як тваім суддзям, а табе ёсць чым апраўдацца перад Звышнім Суддзёй, бо зробленае табой, – ужо сёння ёсць важкі набытак нацыі і гісторыі. Хацелася б, каб і служывыя людзі пра гэта памяталі таксама, бо, як вучыць гісторыя, давядзецца ж калі-небудзь нешта казаць пра “няпросты час ды складаныя абставіны” і запознена ганарыцца асабістым знаёмствам з Паэтам.

Лепш, каб не запознена. А таму, да тваёй “справы” павінны быць прыкладзеныя, як самыя важныя доказы, кнігі: “Адкрыццё”, “Вынаходцы ветроў”, ... “Знак аховы”, “Наскрозь”, “Прошча”, “Так”, “Цэнтр Еўропы”, “Кон”... Бо ўсё гэта і ёсць “Гавары праўду”.

“Дабрашчасныя гнаныя за праўду, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае...”

Але ж хочацца, каб зямная Гаспода таксама належала ім.

І ўжо цяпер мне ўяўляецца той час, калі мы зноў прыйдзем на дзядзінец амаль адноўленага Крэўскага замка, і зноў нашая сябрына стане ў жывы ланцуг, і, як калісьці, зноў да тваіх ног паплывуць крэўскія камяні: першы... васямнаццаты... трыццаць трэці... пяцідзясяты... шэсцьдзясят пяты... – далей, далей, і нарэшце васьмідзясяты (а можа й дзевяносты), які пакладзе табе пад ногі, свой між сваімі, чалавек, каторы ў тым часе будзе не толькі шчыра любіць беларускую паэзію, але й прымаць парады беларускага незалежнага войска. І тыя восемдзясят, а лепей – дзевяноста камянёў, пазначаныя тваімі гадамі, зноў зоймуць сваё законнае месца ў мурах нашай Гісторыі пад вітальныя звоны Крэўскай царквы.

Паздароў цябе, Божа!

*1-4. 05. 2011*



Андрэй Масквін



…шкада, што марнуецца без толку
і ўласнае жыццё мільёнаў людзей,
і дарагі час маладой дзяржавы, якая павінна
будавацца, сталець, умацоўвацца
перш за ўсё ў нацыянальным плане…

# «Не ўратуе і тое, што лечыць заўсёды?..»

***Гутарка Андрэя МАСКВІНА з Сяргеем ЗАКОННІКАВЫМ***

**АДЫХОДЗІЦЬ ЭПОХА**

Адыходзіць эпоха...
Дзвярыма не бразне...
Уцякае ад ганьбы,
Ды, маючы нюх,
Зноў на сцэну вылазяць тыраны і блазны,
Ставяць той жа спектакль.
Паўтараецца круг.

Зноў гульня,
А жыццё адпіхнута на потым,
Зноў салюты грымяць і растуць міражы.
Як тады,
Несуцешна рыдаюць сіроты,
Як тады,
Праўда б'ецца на змрочным крыжы...

О, эпоха!
А з грэцкае мовы — прыпынак.
Вось і я супыняюся ў скрусе нямой,
Углядаюся ў люд,
У сагнутыя спіны...
Гэты свет, быццам звыклы,
Але ўжо не мой.

Нехта пальцам слінявым
Паспешліва лісціць
Каляндар,
І лісткі безнадзейна трымцяць.
Я, відаць, сапраўды старамодны і лішні,
Ды куды мне падзець
Свой акрайчык жыцця?

Не ўратуе і тое, што лечыць заўсёды:
Бор грыбны,
Луг
І хваляў азёрных прыбой...
Адыходзіць эпоха...
Нахабна, без згоды
Нас — жывых — валачэ,
Забірае з сабой.

*"Дзеяслоў", 2006, №23.*

***–Што Вы маеце на ўвазе, калі гаворыце "эпоха" – усё дваццатае стагоддзе ці толькі перыяд трыццаць-сорак гадоў, калі чалавек мае шанец рэалізавацца, актыўна выкарыстаць свой досвед?***

– Ужываючы слова "эпоха", я меў на ўвазе вельмі многае, не адну нейкую канкрэтыку, закладзеную ў гэты верш. Калі гаварыць пра асабісты лёс, то ў час разлому савецкай імперыі, крутога павароту да даўно жаданай беларускай незалежнасці мне было 45 гадоў. Выдатны ўзрост для новых творчых планаў, праектаў! Так што мая асабістая эпоха не заканчвалася, была ў росквіце. Але гаворка ідзе пра накладанне грамадскіх катаклізмаў на людскія душы, на агульную і асабістую культуру, на мараль. Мне падаецца, што ў канцы XX стагоддзя закончыўся глабальны перыяд не толькі ў палітычным сэнсе. З завяршэннем нашага няўдалага паходу да вяршыняў сацыялізму ці камунізму, які адбываўся на працягу многіх дзесяцігоддзяў, закончылася эпоха людзей, якія існуюць біялагічна, бяздумна галасуюць "за", абсалютна не думаюць ні аб чым. Хоць аўтарытарная ўлада цяпер спрабуе закансерваваць рэаліі савецкага мінулага, хоча затрымаць народ пад начальніцкім дыктатам у таталітарным запаведніку, але насельніцтва ў незалежнай дзяржаве ўсё ж пакрысе пачало задумвацца менавіта над сваім жыццём. Разумею, што ў бытавым плане людзі заўсёды думалі аб тым, як пражыць, як пракарміць сям'ю, даць дзецям адукацыю. Аднак я падкрэсліваю тое, што вельмі марудна, але пачынае выспяваць востра патрэбны працэс адначасовага асабістага і грамадзянскага разважання кожнага індывідыума.

Дарэчы, я даўно заклапочаны гэтым важным аспектам у развіцці беларускай грамадзянскай супольнасці, вывучаю, асэнсоўваю яго ў публіцыстыцы. Добра, калі ёсць унутраная разняволенасць, душэўная свабода, калі чалавек здольны без дапамогі збоку абдумваць любыя падзеі, якія адбываюцца ў далёкім свеце ці побач – у яго краіне, у блізкім асяроддзі. Безумоўна, зусім выдатна, калі ён

прымае самастойныя рашэнні дзякуючы працы свайго розуму, душы, сэрца, а не – "правадырам" або ідэалагічным "павадырам", якія падпіхваюць, падштурхоўваюць яго да таго, у чым надзвычай зацікаўленыя самі. Заўважце, што ў вершы да слова "эпоха" дапасоўваецца дзеяслоў цяперашняга часу "адыходзіць". Працэс не скончыўся. Я кажу пра тое, што сыходзіць эпоха прызвычаенасці да гвалту, да рабства і прыходзіць эпоха імкнення да разняволенасці. Нягледзячы на аўтарытарызм, які яшчэ сціскае грамадства страхам, кайданамі бяспраўя, магчымасць уключыцца ў працэс думання, знайсці глыток свабоды, індывідуальна павесці пошук сэнсу жыцця перад кожным чалавекам адкрылася і, спадзяюся, ніколі ўжо наглуха не закрыецца.

Што тычыцца мяне асабіста і ўсяго пакалення, якое нарадзілася адразу пасля Другой сусветнай вайны, то тут, як я казаў, сітуацыя складаней. Адна эпоха забрала маладыя гады (нарадзіліся мы пры дыктатуры Сталіна), часта патрачаныя на розную савецкую бязглуздзіцу, а другая, народжаная нібыта дэмакратычным шляхам (у чым я не надта ўпэўнены), абрынулася на сталы перыяд нашай існасці жахлівым цемрашальствам, татальнай прымітыўнасцю, цынічнай несправядлівасцю. Цяпер, затрымаўшыся, гэтая эпоха даядае акрайчык жыцця, які ў нас застаўся. Мне шкада, што марнуецца без толку і ўласнае жыццё мільёнаў людзей, і дарагі час маладой дзяржавы, якая павінна будавацца, сталець, умацоўвацца перш за ўсё ў нацыянальным плане...

***– Калі Вы зразумелі, што эпоха для Вас скончылася? Гэта было нейкае канкрэтнае здарэнне ці назіранне жыцця на працягу некалькіх гадоў?***

– У пачатку 2002 года ў рэдакцыю часопіса "Полымя", якую я ўзначальваў, прыйшлі чыноўнікі і сказалі, што настаў час здымаць мяне з пасады, бо не праводжу дзяржаўную палітыку. У дэлегацыі былі адказныя асобы – прадстаўнік адміністрацыі прэзідэнта ў чыне генерала КДБ, міністр інфармацыі і яго намеснік, дэпутат Нацыянальнага сходу. Калі яны такое сказалі, гэта падалося дзіўным. У літаратурна-мастацкі часопіс прыйшлі людзі, якія маюць вышэйшую адукацыю, але гавораць, што спецыяльнае, спецыфічнае выданне павінна праводзіць нейкую палітыку. Палітыка – гэта клопат зусім іншых часопісаў, а мы абавязаны займацца эстэтычным выхаваннем чытачоў. На сходзе, у прысутнасці супрацоўнікаў рэдакцыі, я выказаў адкрытым тэкстам негатыўную ацэнку палітычнай зачысткі і выдаў дакладную характарыстыку самім сучасным "шарыкавым" і "швондзерам".

Я пераканаўся, што з прыходам аўтакратаў – малаадукаваных, бескультурных начальнікаў – у жыццё вяртаюцца не проста савецкія догмы або прыёмы. Адбываецца больш разбуральны працэс: новыя кіраўнікі ахвотна выкарыстоўваюць старыя метады, бо іншых не ведаюць, але ўсё гэта ўжо не служыць, пачынае варагаваць з жывым сучасным жыццём. А нешта сваё чыноўнікі ў сілу бяздарнасці прыдумаць не могуць. Фізічна савецкай эпохі ўжо няма, але падыход, скажам, да культуры, літаратуры, літаратурна-мастацкіх часопісаў, да пісьменнікаў у незалежнай дзяржаве, дзе ўсё павінна быць адпаведным новаму статусу, бярэцца з архіваў былой саюзнай рэспублікі, бо засталіся пастановы ЦК КПСС і СМ СССР, інструкцыі "старэйшага брата", якія можна "творча" выкарыстаць. Мала таго, стала яшчэ горш, таму што большасць начальнікаў не разбіраецца ў элементарных прафесіянальных рэчах, што значна радзей заўважалася ў савецкі час. Бачыцца, як вырастае бар'ер паміж чыноўнікамі і жыццём. Змрочнае мінулае, як бы хто ні хацеў, не вернецца, і гэта выдатна, але затое цяпер прыйшла эра агрэсіўных прафанаў – як палітычных, так і ў прыкладных галінах. Сёння мы маем сітуацыю, калі, напрыклад, спецыяліст па камунальнай гаспадарцы кіруе акадэмічнай навукай, будаўніка робяць буйнейшым фінансістам, сілавіку даручаюць камандаваць СМІ і г.д. Можна толькі жахнуцца, колькі невуцтва, фантасмагорыі і абсурду нарадзілі ў беларускім грамадстве сучасныя начальнікі – так званыя "народныя сыны". Скажам,

мне ўжо зразумела, што першае постсавецкае пакаленне беларусаў для разумнага развіцця нацыянальнай дзяржавы страчана.



Сяргей ЗАКОННІКАЎ.

Чым далей жыву, тым больш пераконваюся, што новая эпоха сапраўды зусім непрыдатная для ініцыятыўных і творчых людзей, якія любяць свабоду, не прымаюць халуйства, лакейства. Унікальнае беларускае трымценне перад начальствам заўважана даўно, але зараз, пры аўтарытарызме, яно дайшло да выключнага маразму. Напрыклад, нейкі брыгадзір, тыповы боўдзіла можа піць, валяцца пад плотам, але дзясяткі людзей спакойна гэта трываюць, падхалімнічаюць, нават бягуць навыперадкі выконваць яго дурныя загады. Гэты ланцужок цягнецца на чыноўніцкі верх. Калі адзін суперхалуй, каб выслужыцца, заявіў свайму начальніку: "Вы выше Бога!", то гэта ўжо медыцынскі дыягназ нашага грамадства.

Мяне абураюць дылетанцкія, касмапалітычныя адносіны дзяржаўнага апарата да роднай мовы, культуры, літаратуры і мастацтва, увогуле да беларускай нацыянальнай спадчыны. Гледзячы на начальнікаў, а таксама дзякуючы своеасаблівай мясцовай ментальнасці, і ў самім грамадстве нарастаюць глухая абыякавасць, грэблівыя адносіны да народнага духоўнага багацця. Сутнасць не ў тым, што канкрэтна некага з сучасных творцаў выкрэсліваюць са школьных падручнікаў, вядуць з ім вайну. Гэта палітыка, прытым вельмі генебная, якая некалі скончыцца. Сёння я, як і многія пісьменнікі, зарабляю грошы, за свой кошт выдаю кнігі, рэалізую іх. Мае творы перакладзены і выдадзены ў Польшчы, Балгарыі. Ніякіх апекуноў мне не трэба.

Але гаворка ідзе пра незалежную дзяржаву, якая без нацыянальнай культуры не мае непаўторнага аблічча і не можа нармальна функцыянаваць, годна жыць. Неразуменне гэтага чыноўнікамі мяне шакіруе, вось чаму думаецца, што ранейшая эпоха скончылася.

***– Вы пішаце, што эпоха "нас — жывых — валачэ, забірае з сабой". Складваецца ўражанне, што Вы жывяце толькі мінулым і сённяшняе жыццё Вас мала цікавіць. Аднак практыка зусім іншая. Вы займаеце актыўную жыццёвую пазіцыю, дастаткова часта друкуецеся ў незалежнай прэсе, удзельнічаеце ў літаратурных вечарынах, вельмі часта сустракаецеся з чытачамі. Ці няма ў гэтым супярэчнасці? Ці можа чалавек правесці мяжу ў сваім жыцці, раз і назаўсёды сказаць: гэта не мая эпоха, цяпер чарга іншых?***

– Рэчаіснасць больш складаная. У вершы я меў на ўвазе тое, што эпоха забірае нас, жывых, з усімі нашымі марамі, памкненнямі, са свядомасцю, якія выпрацоўваліся яшчэ ў маладосці. Маё пакаленне, хоць і жыло ў таталітарнай савецкай сістэме, але заўсёды аглядалася на пасляcталінскую "адлігу", на папярэдні вопыт "шасцідзясятнікаў", у творчым плане мела свой патэнцыял унутранай свабоды, дастаткова значныя, арыгінальныя набыткі. У ім найбольш поўна выявіліся Яўгенія Янішчыц, Валянціна Коўтун (на вялікі жаль, іх ужо

няма з намі), Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Вольга Іпатава, Раіса Баравікова, Юрка Голуб, Алесь Жук, Генрых Далідовіч. У пэўным сэнсе мы ішлі разам, хацелі нешта добрае зрабіць у літаратуры, наогул у жыцці. Але сталася так, што зробленае намі і цяперашні творчы патэнцыял правальваюцца ў новай эпосе ў пустату. Частка літаратараў прыстасоўваецца да аўтарытарнага рэжыму і лічыць (або толькі робіць выгляд), што правалу няма, што ўсё развіваецца эвалюцыйна. А мне бачны скразны прагал у літаратурным жыцці па той прычыне, што многія нацыянальна свядомыя, таленавітыя людзі штучна, па палітычных матывах абмежаваны ў сваёй рэалізацыі.

Але я хачу сказаць, што вінавата ў гэтым не толькі ўлада. Напрыклад, стварэнне яшчэ аднаго Саюза пісьменнікаў, які зараз змагаецца з незалежнымі літаратарамі, – гэта не проста ідэалагічныя, палітычныя выверты чыноўнікаў. Тут яшчэ спрацавала зацятая крыўдлівасць, агрэсіўная амбітнасць творча абмежаваных людзей, якія лічылі, што пры старой уладзе ім нечага не дадалі: пасад, прэмій, ордэнаў, выданняў. Яны і падумалі, што поспех залежыць не ад таленту, а болей ад прыслужніцтва: калі добра паліжуць новую ўладу, то будуць абсыпаныя знакамі ўвагі. Але жорстка памыліліся. Чыноўніцкія шчадроты адхопліваюць іхнія літаратурныя начальнікі, а пісьменнікі-шарагоўцы як былі, так і засталіся пры сваіх інтарэсах. Падаецца, што гэтыя праблемы мне ўдалося выразна паказаць у роздуме “Гора ад халуйства”, які быў апублікаваны ў газеце “СНплюс”.

Зайздрасць суправаджае чалавецтва здаўна, а ў творчым асяроддзі яна выяўляецца найбольш выразна. Да гэтага часу недасведчаныя людзі і нават некаторыя літаратары папракаюць мяне, што амаль дзевяць гадоў я працаваў на, як ім здаецца, “хлебнай” пасадзе – загадчыкам сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Яны абсалютна не ведаюць, чым канкрэтна займаўся, але выступаюць у ролі суддзяў. Пра тое, якой была мая праца, калі лютавала маскоўская і мясцовая драконаўская цэнзура, калі ніводная таленавітая кніга не выходзіла без цяжкага змагання з самымі рознымі цемрашаламі, ведалі Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Алесь Разанаў, якія пакінулі аўтографы, словы шчырай удзячнасці мне на сваіх уратаваных творах. Усцешаны, што ўдалося за той час спрычыніцца і яшчэ да многіх добрых спраў.

На канкрэтным прыкладзе пакажу, якім быў “партакратам”. Яшчэ да прыходу на працу ў ЦК КПБ здаў у выдавецтва “Мастацкая літаратура” зборнік вершаў “Пакуль жыве мая бяроза”. Дык вось некаму з зайздроснікаў (а як жа, ён стаў “начальнікам”) захацелася папсаваць мне нервы дробным паскудствам. Рукапіс раптам прападае, яго ніяк не могуць знайсці. Другі экземпляр нельга выкарыстаць, бо многія праўкі былі ўнесеныя толькі ў першы. Вы ўяўляеце, што было б з супрацоўнікамі выдавецтва ў сённяшнім аўтарытарызме, ва ўмовах асаблівага трымцення перад начальствам? А я зразумеў, што рукапіс выкрадзены, што зламыснік праз нейкі час яго верне. Спакойна працаваў і чакаў. Так і сталася, праз тры гады зніклы рукапіс гэтак жа раптоўна ўваскрос, яго выдалі, кнігу адзначылі літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова (1982)...

Яшчэ ў савецкую эпоху я стаў галоўным рэдактарам часопіса “Полымя”, на сапраўды творчай пасадзе працаваў амаль 16 гадоў (1986-2002). Стараўся змяніць выданне ў лепшы бок, друкаваць выдатныя творы прозы, паэзіі, драматургіі, публіцыстыкі, што было ацэнена крытыкамі, літаратуразнаўцамі ў СССР і замежжы, засведчана ў многіх публікацыях. Мне ўдалося сабраць добры калектыў. Гэты час – адна з самых светлых палосаў у жыцці – супаў з перабудовай, з часам вялікіх надзей, нават рамантычнай эйфарыі. Разам з іншымі энтузіястамі хадзіў да бацькоў, да настаўнікаў і дырэктараў школ, да загадчыкаў РАНА, агітаваў, каб як мага больш адчынялася беларускіх дзіцячых садкоў, класаў, увогуле школ, каб Беларусь мела нацыянальны ўніверсітэт. Тады папраўдзе быў прыгожы парыў да

лепшага жыцця. Маё пакаленне ўвайшло ў самы росквіт, мы думалі, што рэалізуем планы ўдзелу ў нацыянальным будаўніцтве – не толькі напішам новыя творы, але сваім розумам, талентам канкрэтна дапаможам нашаму народу стаць у сваім развіцці на прыступку вышэй...

Калі аглядаюся на перыяд, які прайшоў пасля 1991 года, то мяне апаноўваюць невясёлыя думкі. Час марнаваўся на непатрэбшчыну, на змаганне з артадаксальнай партыйнай наменклатурай, з новымі палітычнымі махлярамі, з невядома кім. Я стаў закладнікам нялёгкага вырашэння элементарных рэчаў. Яшчэ да таго, як з'явілася аўтарытарная сістэма, уступаў у палеміку з кіраўніцтвам краіны па пытаннях нацыянальнай культуры і літаратуры. Мне прыйшлося дыскутаваць з С. Шушкевічам, які на сустрэчы з пісьменнікамі сказаў: "Вы хацелі рынак, дык цяпер маеце яго і плывіце ў ім". А я лічыў, што, па-першае, у Беларусі няма рынку, а ёсць толькі дурны "базар", а па-другое, трэба разумець: сур'ёзная культура, літаратура, хоць і ў абмежаваных дозах, але патрабуюць дзяржаўнай падпоркі, што практыкуецца ў Францыі, Германіі, Швейцарыі, дзе даводзілася быць, вывучаць гэты вопыт. Дзяржава можа прыняць адпаведнае заканадаўства пра льготы, дапамагчы стварыць інстытут спонсараў. Існуе яшчэ шмат механізмаў, спосабаў, каб вырашыць эканамічныя праблемы самай тонкай, далікатнай галіны чалавечага жыцця. Свае крытычныя думкі пасля сустрэчы са спікерам я адкрыта выказаў на старонках газеты "Культура". Але гэта не перашкодзіла мне затым стаць даверанай асобай Станіслава Станіслававіча на першых прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе, а цяпер сябраваць з гэтым цудоўным чалавекам.

Аўтарытарную ўладу я не прыняў яшчэ тады, калі яе ў наяўнасці не было. Як галоўны рэдактар часопіса меў магчымасць наведваць пасяджэнні парламента, бачыць, як верх бяруць не дэмакраты, не разумныя людзі, а цемрашалы. А таму актыўна выступаў у прэсе супраць малаадукаваных асоб, якія нахабна рвуцца да прэзідэнцкай улады.

Праз усё жыццё не магу крывіць душою, падтрымліваць агрэсіўных невукаў, хлусаў, хоць бачу, як многія журналісты, палітолагі гэта спакойна робяць: заплюшчваюць вочы і пачынаюць несці меркантыльную, услаўляльную лухту. Мне здаецца, што перш-наперш трэба быць праўдзівым, шчырым чалавекам. Шчырасць – гэта маё любімае слова. Такія ж паводзіны і ў творчасці. Хоць царыца паэзіі – метафара, але да гэтага яшчэ трэба абавязкова дадаць душу, сэрца, шчырасць.

Вось чаму я ні на грам не супрацоўнічаў з аўтакратамі раней, не прыстасоўваюся, не прыціраюся да іхняй эпохі зараз. Але гэта не азначае, што замкнуўся і сяджу ў вежы са слановай косці. Галоўнае, што шмат часу аддаю ўнукам. А яшчэ пішу вершы, вяду аўтарскую рубрыку ў газеце "Свободные новости плюс", супрацоўнічаю з "Дзеясловам", "Абажурам" і іншымі незалежнымі выданнямі, рэдагую рукапісы.

***– Вы закранулі вельмі цікавую тэму. Калі паглядзець на гісторыю, то можна знайсці шмат прыкладаў у свеце, калі цэлыя пакаленні аказваліся непатрэбнымі, страчанымі. Можа ў гэтым ёсць нейкі закон развіцця грамадства, а не выключна беларуская спецыфіка?***

– Калі мяне звольнілі і затым не дазволілі ўладкавацца нават на пасаду вахцёра, чатыры гады да прызначэння пенсіі заставаўся без сродкаў для існавання. А трэба ж было неяк жыць, карміцца. Я ўжо не кажу пра нешта большае. Зарабляў грошы самай рознай працай, выжыў з найлепшай памочніцай – жонкай Ліляй. Але найбольш мне хацелася зрабіць нешта карыснае для грамадства, напрыклад, адкрыць яшчэ адзін літаратурны часопіс, бо ў суседніх краінах іх налічваецца па некалькі дзясяткаў, арганізаваць пры ім выдавецтва па выпуску мастацкай літаратуры не толькі для дарослых, але і для дзетак. Здалеў знайсці для матэрыяльнага развіцця грошы, зняць памяшканне пад рэдакцыю, адрамантаваць яго, набыць патрэбную

тэхніку, набраць і звярстаць два нумары выдання. Нават здолеў дамовіцца з Міністэрствам інфармацыі, каб яно спрыяла рэгістрацыі часопіса. Але на самым версе адмовілі, у гарвыканкам паступіў загад не даваць дазвол на размяшчэнне часопіса. Такім чынам мяне кінулі ў эканамічную прорву – грошы трэба было аддаваць. Зноў давялося ўкалваць, гасіць пазыку. Вось канкрэтыка, пасля якой мне можна гаварыць, што адна эпоха адыходзіць, а ў новую я не ўпісваюся сваім прозвішчам, пазіцыяй, усім жыццём.

***– Што ці хто падштурхнуў Вас да таго, каб стаць чалавекам з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, выпрацаваць крытычны погляд на наваколле?***

– Акрамя маці і бацькі, у мяне было шмат настаўнікаў – школьных, універсітэцкіх, проста па жыцці. Я ўдзячны ўсім ім за веды, мудрыя парады, душэўную шчодрасць. Але ёсць яшчэ адзін незвычайны настаўнік. Ім стаў чалавек, якога ніколі не бачыў і не чуў. Маю толькі яго фатаграфіі, у якія часта засяроджана ўглядаюся, думаю. Гэта мой родны дзядзька, беларускі паэт Сяргей Ракіта (Сяргей Васільевіч Законнікаў), які быў арыштаваны ў 1936 годзе і загінуў у сталінскім ГУЛАГу. Я названы ў памяць пра яго.

Дзядзькава настаўніцтва вырастала, скдадвалася пакрысе. У маленстве я не ведаў, што ў нас быў такі родзіч. Бацька баяўся расказваць пра свайго старэйшага брата, бо ў сталінскім часе нават дзіцячыя размовы пра “ворага народа” маглі наклікаць бяду.

Калі надышла “хрушчоўская адліга”, пасля рэабілітацыі дзядзькі ў 1956 годзе, бацька разняволіўся і стаў успамінаць. Затым мне ўдалося прачытаць публікацыі Сяргея Ракіты ў перыёдыцы, азнаёміцца з калектыўным зборнікам “Разгон” і асобнай кніжкай “Я агітую за пяцігодку”, якія знаходзіліся ў спецсховах. А яшчэ адным адметным штрыхом у спасціжэнні асобы дзядзькі стала судовая справа, дзе высвеціліся характар, памкненні і перакананні маладога паэта.

Адкінуўшы энкавэдысцкую хлусню, фальсіфікацыі наконт контррэвалюцыйных арганізацый і шпіёнства, я задумваюся: дык за што дзядзька, як і мільёны іншых людзей, быў асуджаны на дзесяць гадоў зняволення і згінуў бясследна ў канцлагерах? Судовая справа дае адказ на гэтае пытанне. За тое, што меў свой погляд на жыццё, перакананні, выказваў думкі смела, адкрыта, не аглядваючыся на стукачоў, даносчыкаў. У судовай справе зафіксавана, што Сяргей Ракіта абараняў Янку Купалу, якога тады крытыкавалі за нацдэмаўскія творы, казаў, што “калгасы – гэта калонія дзяржавы”, што новы беларускі правапіс (“наркамаўка”) абцяжарвае карыстанне беларускай мовай, што ідзе русіфікацыя Беларусі. Вядома, людзі і не за такое надоўга траплялі за краты. Але што ў гэтых выказваннях было няпраўдзівым? Трэба толькі дзівіцца мужнасці, смеласці і прадбачлівасці маладога паэта. Прайшло столькі часу, а сітуацыя ў Беларусі не мяняецца, тыя ж праблемы засталіся і нават абвастрыліся.

Прыклад дзядзькі са школьных гадоў стаў для мяне арыенцірам, а сам ён – настаўнікам, таму што паказаў, як трэба змагацца за праўду.

***– Вы падкрэсліваеце, што ў сённяшняй сітуацыі “не ўратуе і тое, што лечыць заўсёды: // бор грыбны, луг і хваляў азёрных прыбой”. Чаму не сваякі ці сябры, як гэта звычайна бывае, а менавіта прырода Вас лечыць?***

– Я часта думаў пра гэта. Здаецца, што імпульсам для таго, каб мне пачаць нешта пісаць, рабіць вучнёўскія рыфмаванні-практыванні, стала прырода. Усё пачалося з яе і, як падаецца, цікава. Нашая сям’я пасля вайны доўга не мела свайго жытла. Бацькоў-настаўнікаў часта перакідалі з месца на месца. Толькі ў 1959 годзе мы пабудавалі хату. Пакой, дзе я спаў, быў абклеены светлымі шпалерамі. А сцяною мой закутак выходзіў на агарод, на зарослае лазнякамі і бярэзнікам вузкае балотца, праз якое цёк ручай. Гэта было сапраўднае салаўінае царства. Як толькі пачыналася вясна, яны не давалі спаць. Недзе ў пятым класе я пачаў

псаваць шпалеры. Ноччу, каб не паліць святло, не будзіць бацькоў, брацікаў і сястрычак, пісаў навобмацак алоўкам (трымаў яго пад падушкай) проста на сцяне радкі, якія прыходзілі ў галаву. Раніцай перапісваў у сшытак. А напісаныя на шпалерах словы прыбіраў сціркай. Так прырода прычынілася да таго, што пачаў пісаць вершы.

Вельмі люблю лес, рэкі і азёры. Мне падабаецца слухаць іхнія мелодыі – пошум вяршалін, плёскат хваляў. Я фізічна адчуваю, як усё гэтае хараство пераліваецца ў душу. Пішу вершы толькі ручкай. Хоць раней на стале заўсёды была пішучая машынка, а цяпер – кампутар. Мне трэба, каб кончыкі пальцаў праз ручку дакраналіся да паперы, каб энергія, тое, што нараджаецца дзесьці ў галаве, сэрцы і душы, перацякала па руцэ і вылівалася на аркуш. Я люблю гэты працэс, нават здаравею, калі пішу. Але паэзія ў маім жыцці доўга была нечым накшталт хобі. Трэба было зарабляць на хлеб. Можа, камусьці гэта падасца дзіўным і смешным, ды звычайна пісаў я ноччу, калі хварэў і ў час адпачынку. Мне нават падабалася захварэць, атрымаць бюлетэнь на два-тры дні і пісаць вершы. Але гэтае хобі вырасла ў асноўную працу, бо творчасць не толькі ў тым, што ты нешта напісаў, выклаў на паперу. Важна, што ў тваёй душы пастаянна ідзе працэс асэнсавання рэчаіснасці. Шмат чаго пераварыцца ў душы, перабаліць у сэрцы, пакуль народзяцца радкі, і гэта карысна. Усцешаны, што бясонныя ночы, пастаяннае думанне, пошук сэнсу жыцця дапамаглі знайсці, адкрыць важныя рэчы, нават у нечым сябе падтрымаць.

Безумоўна, жыць у гэтым белым свеце дапамагае сям'я. Калі паэзію расцэньваць як фронт, то ў мяне добры тыл. Удзячны за мілосць, ласку і любоў жонцы, дзецям і ўнукам. Яны ўскосна або нават наўпрост прысутнічаюць у вершах, як бы становяцца іх суаўтарамі. Але паэзія – справа выключна індывідуальная. Для яе нараджэння важна ў адзіноце знайсці той грунт, які дае творчае апірышча і адначасова прыўзнімае, падштурхоўвае, каб ты вельмі захацеў знайсці нешта выключнае. Не магу сказаць, што такое часта з'яўляецца. Лепшым з напісанага лічу тры паэмы: "Чорная быль" (1988), "Цівалі" (1995), "Зязюля" (1996), дваццаць пяць вершаў пра маму, якія ўвайшлі ў цыкл "Беспрытульныя вершы", напісаныя за шэсць начэй, і з тузін лірычных твораў. Можа, і яны не на 100% дасканалыя, але, як мне падаецца, шчодра насычаны думкамі, праўдай, шчырасцю, непаўторнымі эмоцыямі.

***– Мне здаецца, што прырода займае амаль што галоўнае месца ў творчасці айчынных пісьменнікаў. Чаму так адбываецца? Можа беларуская прырода мае нейкую таямніцу? Калі гэта так, то ў чым яна?***

– Можа, я скажу нешта банальнае або наадварот дзіўнае, ды мне здаецца, што беларуская прырода надзвычай унікальная. Нехта запярэчыць, скажа, што расійскія або польскія краявіды, асабліва на межах, такія ж самыя. Але я ўпэўнены, што выразнае адрозненне ёсць. У адной краіне пераважае стэп, у другой – горы, а ў трэцяй на бязмежнай прасторы шмат чаго знойдзецца. У нас жа на невялікай тэрыторыі сышліся ўсе дзівосы зямной прыгажосці. На мой погляд, родныя абсягі ніколі не прыядаюцца воку. Вось толькі што шумеў бярозавы гаёк, затым пайшоў глухаваты змешаны лес, далей гудзе мядзянастволы сасновы бор, тут паўстаюць гарбы ўзгоркаў, унізе рачулка віецца, блішчыць срэбрам, азерца вабіць сінечаю, балацявінка шапоча чаратамі, асакою. Дарога апускаецца, зноў высока падымаецца, глядзіш, а прад табой цуд – на шмат кіламетраў адкрываецца неабдымны лугавы, палявы, лясны, азёрны далягляд. Ушаччына, Браслаўшчына, Лагойшчына, Мсціслаўшчына – гэта ж такая прыгажосць, што душа надоўга замірае. У тых мясцінах, дзе я рос, у лясах або на адкрытай прасторы паўсюль высяцца старажытныя валатоўкі, курганы. Стоячы на іх, адначасова адчуваеш нагамі цвёрды грунт і вольна плывеш, сэрца наліваецца, набухае гісторыяй роднай зямлі, хочацца

зліцца з неўміручай прыродай, навечна згубіцца ў ёй. Беларуская прырода не прыядаецца, бо яна сапраўды шматфарбная і ўвесь час – у дынаміцы.

Нельга абмінуць і тое, што беларусы ў вялікай ступені дагэтуль язычнікі. Паганцкае мінулае вельмі глыбока сядзіць у душах людзей. У прыродзе чалавек здаўна знайшоў жыццёвую прагматыку і наталенне душэўных патрэбаў. Адсюль такая павага да сонца, палёў, лугоў, лясоў, рэк, азёр, да ўсяго таго, што не толькі корміць чалавека, але эстэтычна радуе яго, дорыць адчуванне волі, лашчыць вока і душу сваім хараством.

***– Сучасную сітуацыю Вы параўноўваеце з карнавалам, цыркам. Адбываецца спектакль, у якім удзельнічаюць “блазны”. Чаму, на Вашу думку, на Беларусі ўвесь час “паўтараецца круг”, як Вы самі пішаце?***

– Беларусь пастаянна знаходзіцца ў сферы інтарэсаў суседніх, больш магутных дзяржаваў. Не буду заглыбляцца далёка ў гісторыю, але яе геапалітычнае становішча наклала адмоўны адбітак на менталітэт нашага народа. Акрамя сацыяльнага гвалту, беларусы трывалі яшчэ і нацыянальны прыгнёт, не менш разбуральны, бо ён вынішчае не цела, а душу чалавека, што нашмат страшней, што цяжка выправіць. Адсюль нігілістычныя адносіны да роднай мовы, культуры, народных традыцый, таму ва ўсе часы на нашай зямлі хапала здраднікаў, прадажнікаў, канфармістаў, аматараў раскошна пажыць за кошт іншых. Што ні кажы, а чалавек слабы. Побач з кагортай сумленных, мужных герояў заўсёды знаходзіцца людское балота палахліўцаў і прыстасаванцаў. Што, дарэчы, паказалі і апошнія падзеі, звязаныя з 19 снежня 2010 года.

***– Шчыра кажучы, я перачытаў Ваш верш некалькі разоў. Бо кожны раз мне здавалася, што за канкрэтнымі словамі хаваецца нешта большае. Дарэчы, нашая гутарка гэтае меркаванне пацвярджае.***

– Для мяне, як для кожнага паэта, важна, каб паміж словамі і радкамі (асабліва ў кароткіх вершах) абавязкова быў, урываўся ў шчыліны самога сэнсу твора няўлоўны, лёгкі, трансцэндэнтны, але адчувальны асвяжальным халадком ветрык. Нехта заўважыць яго, спыніцца, вернецца назад і будзе думаць: “А тут, на стыку словаў, радкоў, што вырастае, што ён хоча сказаць?” Я люблю менавіта такія вершы, ды яны не заўсёды атрымліваюцца. Наогул, удзячны лёсу, што столькі гадоў займаюся нечым патрэбным і добрым. Літаратура, у прыватнасці паэзія, – мною любімая, добрая чалавечая прафесія, або, як часта называю яе, дзіўнае, чароўнае рамяство. Я паважаю людзей, якія выдатна выконваюць сваю працу. Мне падабаецца высокі прафесіяналізм. Сам я, можа, гэтага яшчэ не дасягнуў, але вельмі цаню ў іншых.

Уладзімір Содаль



…Эх, скручу я дудку!
І такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!…

# Дудка грае – ён жывы

## *Да 120-годдзя з часу выхаду "Dudki Białaruskaj"*

Кожная літаратура, кожны народ мае кнігі, паасобныя творы, якія складаюць яго гонар і славу. Нямала такіх кніг і ў нашага народа. Згадаем толькі некаторыя, што пабачылі свет на пачатку XX стагоддзя. Гэта "Вязанка" Янкі Лучыны, "Жалейка" Янкі Купалы, "Вянок" Максіма Багдановіча, "Матчын дар" Алеся Гаруна... Літаратуразнаўцы свету такім кнігам прысвячаюць цэлыя даследаванні, прасочваюць іх гістарычны лёс ад першых дзён выхаду... Мы такіх даследаванняў маем надзвычай мала, хоць нашая літаратура ці не адна з самых багатых на кнігі незвычайнага, часам драматычнага, лёсу. Адна з такіх кніг, вядома ж, славутая "Dudka Białaruskaja" Францішка Багушэвіча. Яе эпахальнасць адным з першых вызначыў яшчэ Яфім Карскі. У трэцім томе "Беларусаў" ён пісаў: "...штуршок беларускаму руху дала выдадзеная ў Кракаве ў 1891 годзе на беларускай мове кніжка Мацея Бурачка (псеўданім Францішка Багушэвіча) "Дудка Беларуская"... Кніжка Бурачка к пачатку нашага стагоддзя стала вядомая ўсім, хто цікавіўся развіццём беларускай самасвядо-

масці". Вельмі трапнае азначэнне "Дудцы Беларускай" даў італьянскі даследчык беларускай літаратуры Дж. Месіна: "Калі ў новай беларускай літаратуры і можа быць метрычны выпіс яе нараджэння – дык гэта час апублікавання ў Кракаве твораў Мацея Бурачка...".

Паколькі "Дудка Беларуская" – метрыка новай беларускай літаратуры, то прасочым яе шлях ад нараджэння да нашых дзён, тым больш, што яна ўжо адлічыла першую з часу выхаду сваю сотню гадоў.

## Зачацце

Калі ж зачалася "Dudka"? Калі скажу – тады, як Францішак пачуў спеў пастуховай дудкі, то гэта будзе праўда. I адтуль яе выток. Мусіць, яна выспявала пад акорды "Mużyckaj Praŭdy" і ў паўстанцкім змаганні. Мабыць, з думкай пра "Dudku" Францішак хадзіў па Украіне. Ён там слухаў украінскую кобзу, а чуўся яму напеў беларускай жалейкі, і ён усё прыкідваў, як бы гэтак зрабіць, каб гэтак файна і гучна заспявала на ўвесь свет і беларуская дудка. Адным словам, "Dudka" выношвалася доўга. Пра гэта Францішак і сам прызнаваўся ў сваім праграмным вершы "Мая дудка":

Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не патраплю,
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.

Сорак гадоў Францішку было ў 1880 годзе. Значыцца, ужо тады ў яго прабіваўся голас "Dudki". Між іншым, біёграфы зазначаюць, што Багушэвіч ужо ў канцы сямідзясятых гадоў пісаў шмат. Вось, прыкладам, якое паведамленне з гэтай нагоды мы маем ад паэтавага прыяцеля Напалеона Роўбы: "У гады бадзяння на чужыне Францішак Багушэвіч у вольныя ад працы хвіліны пісаў па-беларуску лірычныя вершы..." Мабыць, ужо тады Багушэвічам усё было абдумана: і якой графікай будзе карыстацца, і якіх граматычных нормаў будзе трымацца. Маючы неблагую філалагічную падрыхтоўку (Францішак Багушэвіч, апрача польскай, расійскай, украінскай моваў, ведаў яшчэ нямецкую, французскую, чэшскую, славацкую) ён убачыў самабытнасць беларускай мовы, яе панскасць і "зацяжарыў" на роднае слова. I ўжо нішто не магло яго збіць з панталыку. Праклятае піліканне дудкі, паводле словаў самога песняра, не давала яму спакою ні ўдзень, ні ўначы. З-за яе ён нічога не мог рабіць. Спакваля збіраўся твор да твора. Нарэшце вырвалася і самае запаветнае:

Эх, скручу я дудку!
I такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

## Нараджэнне

Пра тое, як нараджалася "Dudka Białaruskaja", даюць нам пэўнае ўяўленне некаторыя лісты самога Францішка Багушэвіча да Яна Карловіча, а таксама Элаізы Ажэшкі да таго ж самага Карловіча. Гэтымі крыніцамі найперш і будзем карыстацца.

З Багушэвічавага ліставання відаць, што Ян Карловіч яшчэ да вяртання Францішка з Украіны ў Вільню ведаў пра Багушэвічавы літаратурны здольнас-

ці, і ён неўзабаве пасля яго звароту на Беларусь прапануе яму супрацоўніцтва з часопісамі "Kraj" ці "Prawda". Гэтую прапанову Багушэвіч прымае як і належыць чалавеку, які ведае цану свае годнасці, дваіста: можна было б і паспрабаваць, але будзе вялікім расчараваннем, калі ён раптам атрымае з рэдакцыі і цяпер усім вядомы адказ: "Вашыя нататкі не падыходзяць для нашага выдання". Вось як гэтая думка гучыць у самога Багушэвіча: "Што да ласкавай, а вельмі прыхільнай і прывабнай згадкі пра тое, што я мог бы быць карэспандэнтам "Kraju" або "Prawdy", ды неяк, пане, не давяраю сабе і няраз рабіў спробы ды рваў іх, бо маю хваробу або неадчэпную думку: пачну "птушкамі", а скончваю "мядзведзямі". Прыкра было б мне прачытаць у адказах: "Ні змест, ні стыль не прыдатныя", ці нешта падобнае". Відаць, Багушэвіч ужо меў такія адказы, і яны моцна ранілі яго аўтарскае самалюбства. Ва ўсякім разе, літаратурнае кухарства ён ведаў няблага. І ўсё ж цікавіцца літаратурай не пераставаў: зрэдку пісаў па-польску, перакладаў з чэшскай мовы, не пакідае пісання і па-беларуску, хоць яшчэ не зусім выразна разумеў, куды ён падасца са сваімі беларускімі творамі, дзе ён іх надрукуе, хто іх будзе чытаць. Але стыхія творчасці была мацнейшая за рэчаіснасць, і ён пісаў, не зважаючы ні на што. Да ліста да Яна Карловіча за 10 (22) чэрвеня 1886 года ён прыклаў аўтограф байкі з назвай "Воўк, ягня і авечка". У "Dudcy Białaruskaj" гэтая байка атрымала назву "Воўк і авечка". Згаданы твор пакуль што самы першы, зусім канкрэтны званочак для нас пра беларускамоўную творчасць Францішка Багушэвіча. Затым у Ажэшчыным лісце за 2.II.1887 года да Яна Карловіча згадваецца, што Багушэвіч быў у Гародні і чытаў Ажэшцы беларускія вершы. Сярод іх адзін прысвечаны пісьменніцы. З Багушэвічавага ліста за 22 мая 1887 года даведваемся, што прыкладна ў гэтую пару ён накрэмзаў, як сам піша, яшчэ адзін верш па-беларуску "Надто мне маркотна..." Самога верша Францішак у гэтым лісце не падаў, але толькі пераказваў яго змест. Аўтограф згаданага верша Багушэвіч дашле Карловічу літаральна праз дзень, але ўжо зусім з іншай назвай – "Якось яно будзе!" (у "Dudcy..." змешчаны з назвай "Думка").

У лісце да Карловіча за 16 (28) лістапада 1887 года Францішак паведамляў, што з "Bajarża" А. Глінскага апрацаваў казку пра папараць-кветку. У "Dudcy Białaruskaj" гэтая казка атрымала назву "Хцівец і скарб на святога Яна". У лютым 1888 года гэтую байку, доўгую, поўную фантазіі, Багушэвіч чытаў Ажэшцы на яе гродзенскай кватэры. Пісьменніца вельмі прыхільна сустрэла Францішкавы беларускамоўныя творы, назвала іх выдатнымі, заахвоціла яго да творчасці ў гэтым напрамку. Падахвочаны Ажэшкай і Карловічам, Багушэвіч працягваў настойліва працаваць. Пра гэта даведваемся і з Францішкавага ліста за 15 (27) лістапада 1888 года да Яна Карловіча. Да ліста за 30 снежня 1889 года Багушэвіч прыклаў аўтограф верша "У судзе" – апавяданне селяніна. І нарэшце, 4 лютага 1890 года Францішак паслаў Яну Карловічу аўтограф свайго праграмнага верша "Мая дудка" з крыптонімам A. D. і прыпіскай: "З прычыны пілікання гэтай праклятай дудкі больш пісаць не магу". Пасля гэтай даты ў ацалелых Багушэвічавых лістах згадак пра творы, што ўвойдуць у "Dudku Białaruskuju", не сустракаецца. Такім парадкам мы атрымалі ўяўленне калі, у якую прыкладна пару былі напісаны некаторыя Багушэвічавы вершы, якія складуць "Dudku Białaruskuju". Гэта дае нам магчымасць разважыць, як укладаўся зборнік, зразумець, чаму той ці іншы твор заняў тое ці іншае месца ў кніжцы.

## Укладанне

У "Dudcy Białaruskaj" разам з прадмовай дваццаць твораў. Але дакладны час напісання пераважнай большасці іх нам невядомы. Датаваны, і то прыблізна, толькі чатыры творы: "Воўк і авечка" (1886), "Думка" (1887), "У судзе" (1889),

і “Мая Дудка” (1890). І ўсё ж паспрабуем прасачыць, разважыць, як кампанаваў свой першы, эпахальны для нашай літаратуры зборнік Францішак Багушэвіч, якога прынцыпу ён трымаўся – тэматычнага, жанравага ці размясціў творы па часе напісання.

Пачынаецца “Dudka Biełaruskaja” з палымянай, маніфестычна ўзнёслай Прадмовы, у якой з публіцыстычнай эмацыйнасцю гранічна сцісла выкладзена гісторыя Беларусі, яе слаўнае мінулае ад часоў Полацка ды Вітэнэса, калі наша Беларусь была ў Вялікім Княстве Літоўскім, як тое зярно ў гарэху, калі нашай мовай карысталіся ўсе паны вялікія ды пісалі законы важныя ды ўсё па-нашаму, па-беларуску, а мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Кінуў пагляд на нашу будучыню, вызначыў межы Беларусі – “ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчак і вёсак...” Абвясціў, што мова наша такая ж людская і панская, як французская або нямецкая, яна для нас святая, Богам нам дадзена, каб мы яе шанавалі, іначай, без мовы, мы – нямыя калекі...

Пасля такой эмацыйнай Прадмовы ідзе не менш эмацыйны, праграмны верш “Мая Дудка” – гэта паэтаў нерв. Уражанне такое, што ў гэтым вершы пачуцці, адчуванні паўвекавых турбот, разваг, назіранняў. Дата яго напісання, першая згадка пра яго, якая дайшла да нас, люты 1890 года. За вершам “Мая Дудка” Францішак Багушэвіч паставіў яшчэ адзін свой, можна сказаць, праграмны твор – “Дурны мужык, як варона”, абвясціўшы ім суб’ект яго творчасці: не лірычныя для многіх песняроў зоры, жытнёвыя васількі, а найперш чалавек працы, яго слёзы і пот, ашуканы, прыніжаны дый яшчэ і абсмяяны маёмаснікамі.

Дык крычыце, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!

І гэта здарылася, на песнярову думку, таму, што знікла са свету Праўда. Зусім натуральна, наступны твор мусіў быць такі, які б расказаў таму селяніну, дзе ж гэтая праўда дзелася, куды яна знікла. Якраз такі твор і маем у “Dudcy”. Ён у зборніку трэці і называецца адпаведна “Як праўды шукаюць”. Дата яго напісання, як і папярэдняга твора, невядомая. Следам за ім ідзе апавяданне вершам “У судзе”. Аўтограф яго прыкладзены да Багушэвічавага пісьма за 1889 год. Эпічнае апавяданне змяняе байка “Воўк і авечка”. Копія гэтага твора таксама ацалела пры Багушэвічавым лісце да Яна Карловіча за 1886 год. Ужо дастаткова гэтых назіранняў, каб сказаць, што Францішак Багушэвіч не трымаўся пры складанні зборніка ні тэматычнага, ні часавага, ні жанравага прынцыпу. Але ж, зразумела, і так сабе, па волі лёсу, не накідаў ён у зборнік творы. Было ж у яго нейкае меркаванне, была якась логіка, калі ён пасля высокапаэтычных твораў “Мая хата”, “Праўда” паставіў верш з эпізадычным зместам, пра што кажа і яго назва – “Здарэнне”. Яму б лепей, на нашу думку, стаць побач з фальклорным матывамі, такімі, як “Хцівец і скарб на святога Яна”. Але не!.. А Багушэвічаваму вершу “Бог не роўна дзеле” самае месца, здавалася б, за вершам “Дурны мужык, як варона” – яны б узмацнілі б адзін аднаго, дапоўнілі. Між іншым, у нашых школьных хрэстаматыях іх гэтак і размяшчаюць, іх так і разумеюць. Але Багушэвіч – яго ставіць услед за “Хрэсьбінамі Мацюка”. І ў гэтым, пэўна ж, ёсць таксама свой сэнс. Не зусім зразумела таксама, чаму Францішак Багушэвіч пасля такога глыбокага верша, як “Думка”, паставіў, хоць і прыгожы, але не вельмі характэрны для ўсяго зборніка верш “З кірмашу” – якісь настраёвы абразок з прыватнага жыцця. І гэтакіх пытанняў шмат! Ці яшчэ: лепш, мабыць, было паставіць побач вершы “У судзе” і “У астрозе”. Але Багушэвіч ставіць іх у розным суседстве, у розных месцах...

...4 лютага 1890 года Францішак Багушэвіч, як згадана вышэй, паслаў Яну Карловічу аўтограф свайго праграмнага верша “Мая дудка”. Пасля гэтай даты

ніякіх іншых аўтографаў твораў, якія ўвойдуць у “Dudku Białaruskuju”, Францішак Карловічу не пасылаў. Усё гэта дае падставу выказаць меркаванне, што ўжо ў канцы 1889 года асноўныя творы, якія складуць “Dudku Białaruskuju”, былі напісаны, і Багушэвіч ужо тады быў гатовы выдаць задуманую кнігу. Ёсць пра гэта і ўскоснае сведчанне, водгулле. Жадаючы Яну Карловічу ў 1890 годзе закончыць слоўнік слоў іншамоўнага паходжання, якія ўжываюцца ў польскай мове, Францішак Багушэвіч 30 снежня 1889 года (11 студзеня 1890) пісаў: “Увогуле, няхай і ў мяне ў новым годзе споўніцца тое, чаго панству зычу!” Значыць, “Dudka” магла на год выйсці і раней. І ў гэтым была логіка. У 1890 годзе Францішку спаўнялася пяцьдзясят. Але чамусь з гэтага нічога не выйшла. Мабыць, невыпадковая згадка Люцыяна Узэмблы і некаторых іншых мемуарыстаў, што было выданне “Dudki Białaruskaj” да друку, пра ідэю яе надрукавання ў тым годзе. Толькі так можна гэты факт патрактаваць.

## Назва. Прадмова. Псеўданім.

У творчым працэсе ўсё важна і нішто не даецца проста. Усё мусіць быць вынашана, выпакутавана, перажыта, асэнсавана. Кожны, каму даводзілася рыхтаваць кнігу, ведае, як няпроста часам акрэсліць, вызначыць назву, каб яна была простая і ёмкая, каб адным-двума словамі перадаць усю сутнасць кніжкі, ахапіць увесь яе змест. Колькі часам перабіраецца варыянтаў! Колькі згарае душэўнага агню! Францішак такога вялікага клопату не меў. Назву зборніка яму падказаў яго праграмны верш “Мая дудка”. Дый задума зборніка была акрэслена. Дудка! Толькі дудка! Пад дудку кожнае раніцы абуджаецца ўся вясковая Беларусь. Яе тоны, журботна аднастайныя, як сялянская доля, гучалі ў яго душы з малых гадоў і штодня. То хай жа грае дудка! Была яму вядома і сусветная практыка. Шмат з тых песняроў, хто пачынаў у літаратуры, хто ішоў у літаратуру, у назву кніг найчасцей ставілі слоўка з музычнага лексісу. Назвы беларускіх інструментаў на тую пару былі яшчэ неразабраныя. Адзін хіба толькі Вінцук Дунін-Марцінкевіч сваю кніжку ахрысціў слоўкам з музычнага лексісу “Дудар беларускі” – (дудар ад слова “дуда”). Перад Багушэвічам быў вялікі выбар, але ён спыняецца на самым просценькім, затое ўсім даступным інструменце – дудцы. З першай часткай назвы было ўсё зразумела. А вось з азначэннем для яе рэч была больш складаная. Тут давялося трохі і падумаць, і разважыць, з тым-сім параіцца, паглядзець, што намножылі яго папярэднікі. Хоць Францішак, як і многія яго сучаснікі, часта яшчэ па старой традыцыі называў Беларусь Літвой, а ўсё ж разумеў, што назоў Літва больш вузкі, чым Беларусь, Белая Русь. Дый многія яго папярэднікі ўжо шырока карысталіся гэтым тэрмінам. Быў ужо “Kalendarz Białoruski na rok przestępny, 1792”. Словы Беларусь, беларускі ўжо стаялі трывала на вокладках такіх кніг, як “Гісторыя біблейная для дзяцей” (Вільня, 1838), “Шляхціц Завальня” Яна Баршчэўскага (Пецярбург, 1844-1846). Шырока карыстаўся паняццямі Беларусь, беларускі і Дунін-Марцінкевіч. То быў сэнс падтрымаць гэтую традыцыю, замацаваць яе. І ён называе сваю кніжку асэнсавана падкрэслена “Dudka Białaruskaja”. Затым у прадмове абгрунтуе і саму назву Беларусь: белая – чыстая, і яе сэнс – “нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася”. Што да самой прадмовы, то нельга не падзівіцца, колькі ў ёй, адносна невялікай, усяго сказана. Пісалася яна на адным дыханні, даверліва, з годнасцю да Беларусі, яе гісторыі, мовы.

Ну, але вось і Прадмова выплеснулася на паперу, застаецца толькі паставіць пад ёй імя, хто яе напісаў. Прозвішча Багушэвіч паводле задумы кніжкі і яе зместу аніяк не пасавала, і ён мусіў паставіць простае, як сялянскае жыццё, – Мацей Бурачок. Мацеяў у Кушлянах дый у суседніх Жупранах у паэтаву пару было

шмат. Былі сярод іх з прыроды вельмі дасціпныя, мудрыя, назіральныя людзі, цягавітыя. Вось ад імя гэтых Мацеяў і загаварыў Багушэвіч.

## Друкаванне

Нарэшце рукапіс падрыхтаваны, абдуманы, укладзены, назва акрэслена, псеўданім ёсць. Прадмова гатова. Паўстаў клопат: "Дзе надрукаваць?" Доўга радзіліся і сышліся на адным – толькі ў Кракаве. Хоць ён быў і за мяжою: у той час належаў Аўстра-Венгрыі, але гэта па-ранейшаму быў асяродак славянскай культуры. Там жылі даўнія добрыя асветныя і навуковыя традыцыі. Чаго толькі вартыя старыя Ягелонскі ўніверсітэт ды кракаўскія бібліятэкі! То дзе яшчэ было знайсці прытулак беларускай кніжцы?! Адам Міцкевіч называў Кракаў польскім Рымам, сталіцай нацыянальнай культуры. А сапраўдныя культурныя цэнтры заўсёды мусілі падтрымаць намаганні іншых народаў, тым больш сваіх суседзяў-славянаў.

Увесь клопат друкавання ўзяў на сябе Ян Карловіч. Ён быў добра знаёмы з маладым, дваццаціпяцігадовым выдаўцом Вацлавам Анчыцам (1866-1938), чалавекам еўрапейскай культуры і адукацыі, які друкарству вучыўся не толькі ў бацькоўскай фірме, але і два гады ў Нямеччыне. Карловіч растлумачыў яму важнасць заказу: "Друкуем не проста нейкую чарговую кнігу, а робім крок у гісторыю, у яе будучыню", і той згадзіўся, пусціў пад страху свае друкарні рукапіс беларускага аўтара, хоць і ведаў, што клопату з гэтай кніжкай у яго будзе нямала. Найперш яго турбавала, ці справяцца наборшчыкі. Многія з іх не тое што ніколі не набіралі беларускіх кніжак, а нават не чулі пра беларускую мову. Думалася і пра тое, што кніжка бесцэнзурная. Але заўсёды спаважны Карловіч суцешыў, супакоіў: "Нічога, неяк пацíху, памалу набяруць. Балазе, рукапіс акуратны, чытэльны, кожная літарка выпісана, выведзена". І неўзабаве спакваля ў Анчыцавай друкарні – мураваным прысадзістым аднапавярховым будынку пад чырвонай чарапіцай з вялікімі вокнамі, які мясціўся амаль у самым цэнтры старога Кракава, на рагавіку дзвюх вуліц, – пад грукат друкарскіх машын пачалося чарадзейства: наборшчыкі літару да літары, слова да слова набіралі "Dudku Białaruskuju". Францішак увесь час не спускаў вока з кніжкі. 1 (13) мая 1891 года ён пісаў Карловічу: "Я еду ў Кракаў..." Думаецца, гэтая яго паездка звязана з друкаваннем "Dudki Białaruskaj". Дзесьці ў канцы ліпеня "Dudka" ўжо была набрана. Францішак Багушэвіч якраз у гэтую пару быў у Кракаве, прыязджаў на з'езд прыродазнаўцаў. Заадно вычытаў і карэктуру. Набрана яна, як трэба было чакаць, няважна. Гэта моцна засмуціла Францішка, і ён мусіў нават паскардзіцца Карловічу. 23 жніўня (4 верасня) 1891 года ён пісаў: "Карэктура "жалейкі" вельмі няўдалая, процьма памылак". Яшчэ адзін дакумент, ліст кракаўскага вучонага Ісідара Капярніцкага да Яна Карловіча ад 3 жніўня, стасуюць з выданнем "Dudki Białaruskaj". У ім, прынамсі, гаворыцца: "У дадатак маю да Шаноўнага пана настойлівую просьбу: ці не мае пан з сабой і ці не мог бы мне як найхутчэй паведаміць адрас п. Месеnasa Багушэвіча (ці Багусевіча), а прынамсі яго імя. Мне трэба тэрмінова адпісаць яму па яго справе на ліст, які я нядаўна атрымаў тут з псеўданімным подпісам, без пададзенага адрасу".

Багушэвічу ішоў шосты дзясятак, калі рукапіс яго першай кніжкі патрапіў у друкарню да наборшчыкаў. Дзесьці ў верасні "Dudka" была надрукавана. Яна была зарэгістравана ўжо ў дзявятым нумары бібліяграфічнага даведніка "Przewodnik bibliograficzny" за 1891 год. Праўда, як польская кніжка. Ну, але хай сабе! Як даўней казалі: называй хоць гаршчком, толькі ў печ не стаў. Свет хутка разабраўся, што гэта за кніжка і пра што яна.

"Dudka Białaruskaja" выйшла накладам тры тысячы асобнікаў. Вызначаны быў і яе кошт – пяцьдзясят цэнтаў.

## Змест

Што ж такое "Dudka"? Пра што ў ёй? Чаму яна гэтак глыбока запала ў душу беларуса?

Адказ на гэтае пытанне адзін. У невялікай, на семдзясят дзве старонкі, гранічна сціслай кніжачцы ў паэтычнай форме было сказана пра ўсё, што хвалявала беларуса, трывожыла яго – пра зямлю і волю, адданасць краю, рэлігію, долю селяніна, яго нацыянальную свядомасць і пра нашу беларускую паняверку.

Сваё безвыходнае становішча, вядома ж, беларусы адчувалі і да выхаду "Dudki Białaruskaj". Але адчуванні гэтыя, мабыць, былі яшчэ не зусім выразныя, усвядомленыя. Кожны думаў пра сваё гора, пра сваю нястачу паасобку, у сваёй хаце. Звыкліся з безвыходнасцю. Думалі, так і мусіць быць: пану панава, мужыку мужыкова. А тут раптам такая кніжка! У ёй нехта гэтак смела заступаецца за мужыка, падказвае яму, хто яго абірае, аб'ядае, трымае ў невуцтве і цемры. Такой кніжкі Беларусь сялянская яшчэ не мела. Старэйшыя, праўда, згадвалі, што гадоў з трыццаць мільганула, як маланка, агністае слова "Mużyckaj praŭdy". Але тады гэта былі толькі ўлёткі на адным аркушы. А тут цэлая развažлівая кніжка пра долю тутэйшага люду. І беларус пацягнуўся да гэтай вонка просценькай шэрай кніжачкі з такім багатым зместам. Ён знайшоў у ёй сугучча сваёй душы, а таксама разуменне прычыны свайго такога безвыходнага становішча. А гэта было не так ужо і мала. Кніжка была на яго роднай мове ды яшчэ вершам. І гэта таксама быў цуд! Нехта прызнаваў і права беларуса на лепшую долю, гукаў да гэтай долі. І мову лічыў такой жа панскай, такой жа людскай, як іншыя. То як было абысці такую кніжку! Як было не працягнуць руку да яе! Не прытуліць яе да набалелых грудзей! Да ўсяго ж для ўсіх даўнейшых людзей друкаванае слова заўсёды мела дух магіі. Друкаванаму, напісанаму людзі верылі. Напісанае іх моцна ўражвала. Нездарма ж, калі селяніну ўдавалася набыць якую-небудзь кніжачку – ён трымаў яе за абразамі. "Dudka Białaruskaja", згадваюць, таксама звычайна знаходзіла сабе там прытулак у сялянскай хаце.

## Аздоба

Мастацкае афармленне "Dudki Białaruskaj" сціплае. Можа нават і занадта сціплае. І ўсё ж яно вартае ўвагі, нашага вока, нашага прачытання. На вокладцы і тытульным лісце скарыстаны прыгожы арнаментальны малюнак, які нагадвае вазу мудрасці. Ён надае вокладцы стройную кампазіцыю. Прываблівае чытацкае вока і першая літара Прадмовы, арнаментальны ініцыял – "В". Яна, натуральна, і памерам большая і, адчуваецца, спецыяльна падрыхтаваная, і таксама аздоблена геаметрычнымі завіткамі нейкай кветкі-паўзунка з грамафончыкамі. Літара "В" – літара-вобраз, літара-малюнак. З яе ж пачынаецца і паэтава прозвішча: Bahuszevicz". Літара "В", з якой пачынаецца "Прадмова", безумоўна, літара-акцэнт. З іншых аздоб згадаем і лінейкі-адбіўкі. Іх у зборніку няшмат. Адна ў канцы кніжкі і дзве ў змесце – у арыгінале "Spis". Чацвёртая лінейка-адбіўка ў сярэдзіне кнігі, на дваццаць шостай старонцы. Між вершамі "Здарэнне" і "Немец". Прызначэнне яе сэнсавае. Усе вершы ў "Dudcy Białaruskaj" размешчаныя ў падборы, гэта значыць – адзін за адным. А вось верш "Немец" пачаўся з новай старонкі. У яго новая тэма і наборшчык ці вярстальшчык адбіў гэтыя вершы лінейкай.

Цікавыя з гэтай нагоды назіранні вопытнага мастацкага рэдактара Лявона Прагіна: "Аздоба "Dudki Białaruskaj" першага выдання, вядома ж, не шэдэўр. Але калі ўлічыць тагачасныя паліграфічныя магчымасці, то яно не такое ўжо і благое. Якраз яно сведчыць пра павагу выдаўцоў да аўтара, да яго кнігі, да чытачоў, пра любасць да іх, сімпатыю. Пры сваіх сціплых магчымасцях яны зрабілі ўсё, каб

кніжка мела сваё аблічча, свой вобраз. І яны гэтага дасягнулі. Уражанне такое, што разумелі, якую кніжку яны выдаюць.”

## Кірыліцай? Не! Лацінкаю…

Францішак Багушэвіч, як вядома, пісаў свае творы па-беларуску, але лацінкаю. І свае беларускамоўныя кнігі таксама выдаваў лацінкаю. Прынамсі, лацінкаю была выдадзена і “Dudka Białaruskaja” і “Smyk Białaruski”. Ці задумваўся хто хоць калі, чаму Францішак Багушэвіч трымаўся менавіта лацінкі, а не кірыліцы? Хіба кірыліца ім зусім не была спазнана? Ой, не! Яшчэ як была спазнана! І праз вандроўнага настаўніка Клімашэўскага ў Кушлянах. І юрыдычную адукацыю ён атрымаў праз кірылічнае пісьмо.

І ўсё ж, калі ўзнікла патрэба Францішку Багушэвічу выдаваць кніжку, ён без аглядкі і канчаткова спыніўся на лацінцы. Чаму? У беларусаў ужо была практыка лацінскага кнігадрукавання, практыка пісьма лацінкаю. Калі была, то на чым яна грунтавалася? Лацінка больш дакладна, чым кірыліца, перадавала фанетыку беларускай мовы, была бліжэй да фанетыкі жывых беларускіх гаворак.

Усё гэта так. Да ўсяго ўвесь Багушэвічаў род быў з каталікоў. А ў каталікоў была большая цяга да лацінкі. Дый не так было проста перадаваць беларускую мову кірыліцай. Не была яшчэ распрацаваная сістэма перадачы нашай мовы кірыліцай. Я ў сваёй практыцы, каб нагадаць сённяшнім чытачам, што наш асветнік у сваёй моўнай практыцы карыстаўся адно лацінкаю, у свае беларускамоўныя даследніцкія тэксты з нейкага часу пастаянна ўводжу Багушэвічаў лацінскі крыптонім “F. B.” і гэтым нагадваю сённяшнім чытачам, што наш Празорца ў сваёй беларускамоўнай творчай практыцы карыстаўся менавіта гэтым алфавітам. Ім былі надрукаваныя ўсе яго прыжыццёвыя выданні.

Кацярына Безмацерных



…у агульным сэнсе мастацтва, па сутнасці,
з’яўляецца апраўданнем самой цывілізацыі…

# «Мастацтва – не пустазелле, а жыта»

***Гутарка Кацярыны БЕЗМАЦЕРНЫХ з мастакамі Таццянай РАДЗІВІЛКА і Канстанцінам СЕЛІХАНАВЫМ***

***Жанчыны і мужчыны жывуць у розных сусветах, сучасныя псіхолагі сцвярджаюць. Але ж, седзячы ў кавярні са скульптарам Канстанцінам Seліханавым і мастачкай Таццянай Радзівілка, я адчувала: у гэтым саюзе муж і жонка роўна сяброўства. Канстанцін – нібы арыстакрат, у элегантна завязаным шаліку. Таццяна – крохкая, акуратная і куды больш стрыманая. Канстанцін, пасля васемнаццаці гадоў шлюбу, усё яшчэ захапляецца жонкай і ўпэўнена перакананы, што сярод беларускіх жанчын-мастачак яна – у першым шэрагу...***

## 1987 год: студэнтаў Косцю і Таню з’яднала графіка Далі і няўтульны маскоўскі вакзал.

***Канстанцін:*** Вядома, Таццяна была самая прыгожая на курсе. Яна быццам свяцілася ўнутраным святлом. Па-

мятаю, што сядзеў на задняй парце, убачыў яе шыю – і захапіўся. На першым курсе мы пазнаёміліся, а на апошнім пабраліся. Яна вучылася на графіцы, я на скульптуры. Звычайна Таццяна спускалася да мяне з другога паверха, я чуў грук ейных абцасікаў, і мне было гэта вельмі прыемна.

*Ну, а ў Таццяны, вядома, усё было інакш...*

***Таццяна:*** Я запомніла больш яго майстэрства. Мы хадзілі да скульптараў – з цікаўнасцю глядзелі, хто што робіць. Тут я і ўбачыла Канстанціна. На ім быў швэдар, нагавіцы такія спартовыя...

***К.:*** Выгляд у мяне, вядома, быў не вельмі прывабны. Але я ўзяў яе словам, і яна разглядзела ўва мне будучага “мэтра”...

***Т.:*** Потым, пасля першага семестра, мы разам паехалі ў Маскву. Збіраліся некалькі студэнтаў, але паехалі толькі мы ўдвух.

***К.:*** Пачуццё жалю было ключавым. Нехта не змог, нехта зламаў руку. Таня засталася адна, расстроілася. І каб падтрымаць яе, я паехаў. Тады мы яшчэ шчыльна не кантактавалі. Быў 1987 год, але я памятаю пра той момант любыя дэталі. Хто і як быў апрануты, якое было святло, якое прыкладна надвор’е. А ў Маскве тады была выстава Сальвадора Далі: графіка. Усе падобныя выставы тады толькі-толькі “паехалі” ў Савецкі Саюз. Цяпер я, можа, ужо і не пайшоў бы на яе, але тады гэта было вельмі важна. Ад Масквы мы тады шмат што ўзялі. Бедныя студэнты, але маглі сабе дазволіць сесці ноччу ў цягнік, зранку сходзіць на выставу, а ўвечары паехаць назад. Нашая стыпендыя дазваляла гэта зрабіць. Тая вандроўка нас зблізіла. Мы тады вымушаныя былі застацца на ноч, не змаглі ў першы дзень трапіць на выставу, і сядзелі на вакзале. Было вельмі няўтульна. А чалавек, калі хоча спаць, забывае пра многія абумоўленнасці. Ён, напрыклад, кладзе галаву на плячо малазнаёмаму чалавеку і г. д. Таму з Масквы мы прыехалі ўжо іншымі. Паміж намі прабіла нейкую іскру.

*Ну, а з жыццём сямейным спярша няпроста было, у чым, відаць, таксама свая празаічная прыгажосць. Ды і з’ядналі іх цяжкасці.*

***К.:*** Я згадваю першыя гады нашага сямейнага жыцця. Пачыналі амаль з нуля. Гэта не тое, як маім бацькам, напрыклад, далі кватэру. А мы ўсяго дасягалі сумесна, гэта вельмі істотна для будучыні. Сапраўды, было няпроста. Часам не было грошай, а ў нашай прафесіі вельмі патрэбныя сродкі. Напрыклад, на матэрыял. Я займаюся скульптурай і бяру сродкі з сямейнага бюджэту. І няма гарантыі, што потым будзе нейкая аддача. Але тут у нас было поўнае ўзаемаразуменне. Цяпер усё больш-менш уладкавалася. І не толькі таму, што мы сталі больш вядомымі. Напрыклад, Таццяна тры дні на тыдзень ходзіць на працу.

*– Якую?*

***Т.:*** Я займаюся кампутарнай графікай у фірме, што распрацоўвае гульні. Прынамсі, цяпер няма галаўнога болю, што ты ўвесь час вымушаны залежыць ад продажу сваіх працаў.

***К:*** А мяне запрасілі ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на факультэт дызайну. Там я выкладаю акадэмічны малюнак. Хаця тут грошы былі не галоўным.

*– Карыстаюцца попытам на Беларусі Вашыя працы?*

***К.:*** Нашыя працы ёсць і ў Нацыянальным мастацкім музеі, і ў Музеі сучаснага мастацтва. Нешта набываюць прыватныя калекцыянеры. Усё гэта даволі выпадкова. Але мы ў гэтым сэнсе не скардзімся. У такой сітуацыі знаходзяцца, у прынцыпе, усе актыўныя мастакі. Увогуле, выбар кожнага: быць мастаком ці не. Напрыклад, я вучыўся ў школе-інтэрнаце Ахрэмчыка. Цяпер гэта Ліцэй. Можа, я і памыляюся, але з васемнаццаці чалавек нашага класа прафесійна мастацтвам займаюцца толькі двое.

## У мудрых кітайцаў мужчынскае – гэта янь, жаночае – інь, а разам гармонія, кола.

*Таццяна мае больш мужчынскую псіхалогію.*

***Т.:*** Косця можа нават і згубіцца ў горадзе, асабліва ў незнаёмым. У яго вельмі дрэннае пачуццё арыентацыі. А я заўсёды адчуваю, у які бок трэба пайсці.



*Таццяна РАДЗІВІЛКА і Канстанцін СЕЛІХАНАЎ.*

*Псіхолагі сцвярджаюць, што толькі дзесяць адсоткаў жанчын здольныя добра арыентавацца ў прасторы.*

***К.:*** Больш за тое, я скажу, што ў доме я толькі грубая фізічная сіла, Таня – інтэлект. Схемы па зборцы мэблі, што, дзе і як адрамантаваць — гэта яе. Я звычайна адразу пачынаю нервавацца, ламаю. Вось толькі і лагоды мне складана дачакацца ад яе.

***Т.:*** Так, у мяне няма звычайнай жаночай сентыментальнасці. Не ведаю, добра гэта ці дрэнна.

*А яшчэ Канстанцін кажа вось што пра жонку:*

***К.:*** Момант псіхалагічнай устойлівасці – у Тані гэта, вядома, на відавоку. Я, бывае, некаторым рэчам нават у гэтым сэнсе вучуся: што сказаць, як сябе паводзіць у нейкіх сітуацыях. Цвярозага розуму ў яе значна болей, чым у мяне.

***Т.:*** На самой справе, я цэментую нашую сям'ю, спрабую ўсе дробязі трымаць разам.

***К.:*** А я імкнуся ўнесці нейкую дысгармонію. Брудны посуд, кінутыя шкарпэткі... Я думаю стратэгічна, Таня рэальна.

*– Ну, а агульнае, што ў вас?*

***К.:*** У нас шмат агульнага. Напрыклад, пачуццё гумару. Гэта вельмі істотны момант. Вельмі добра, калі ў сямейных адносінах шмат розных такіх іранічных смешных сітуацый. Бо сур'ёзна немагчыма ўсё гэта ўспрымаць. Жыццё па сутнасці сваёй трагічнае.

## Таццяне – "Уліс" Джойса, а Косцю – "Хронікі Нарніі"

***К.:*** Праўда, у нейкіх рэчах мы палярныя. Я, напрыклад, люблю кінафільмы кшталту "Тупы і яшчэ тупейшы".

***Т.:*** А я больш люблю еўрапейскае кіно. У сэнсе – добрае еўрапейскае кіно. Але ж мне даводзіцца знаходзіць такія моманты, калі нікога няма дома, каб яго глядзець. Бо сын наш таксама такое кіно нядужа любіць.

***К.:*** Мне еўрапейскае кіно таксама падабаецца, але часта прыходзіш такі стомлены, што хочацца нейкіх простых рэчаў. А ўвогуле, у нас любімыя фільмы кшталту "Ва-банк", а Шварцнегер – дык проста наш герой.

***Т.:*** Ёсць класічнае кіно, якое па-за крытыкай, па-за часам.

***К.:*** Кшталту "Амаркорд"Феліні.

*– А чытаеце што?*

***К.:*** Кнігі ў нас – усюды па кватэры. Апошнім часам гэта ў тым ліку ўспаміны, публіцыстыка пра некаторых кінарэжысёраў. Так, мы вельмі любім кіно. У студэнцтве бралі відэамагнітафон, і ўсю ноч глядзелі. Выбару не было, глядзелі ўсё запар. Нават маглі і дзесяць фільмаў... Таксама мы любім чытаць адзін аднаму. Напрыклад, Таня зачытвае нешта смешнае. І, адпаведна, я. Але я крыху захапляюся і чытаю дрэнна. Увогуле, Таццяна вельмі хутка чытае, я нават ёй зайздрошчу. Не ведаю, запамінае яна ці не, але чытае, напэўна, утрая хутчэй за мяне. Яна нават імкнулася чытаць "Уліс" Джойса на працягу недзе года.

***Т.:*** Хацела быць сярод тых, каму ўдалося адолець гэтую кнігу. Але не здолела. Больш за тое, я стала забываць, што было напачатку.

***К.:*** Гэтая кніга нядрэнна аформленая і здорава ўпрыгожвае кніжную паліцу. Так што нездарма мы яе набылі. А я вось люблю што прасцей. "Хронікі Нарніі" – адна з тых кніг, якія чытаю нанач, няблага супакойвае.

*– Вы чытаеце некалькі кніжак адначасова?*

***К.:*** Так, тут няма ніякіх праблем. Звычайна я пачынаю чытаць, Таня ў мяне гэтую кнігу забірае, і мы недзе за сняданкам пачынаем спрачацца. Самы лепшы час, гэта за сняданкам, калі ты спяшаешся на працу. У мяне ж ёсць некалькі захапленняў. Напрыклад, я вельмі люблю ўсё, што звязана з Таркоўскім – успаміны, крытыка – і Бродскім. Гэта дзве персоны, якія мяне вельмі хвалююць.

## Валошкі ў жыце

*Улетку, за горадам, назіраеш неапісальную з'яву: валошкі і жыта. Мастак, паэт – усяго толькі валошка! Гэтак класік Багдановіч напісаў.*

***К.:*** Гэта праўда. Мастацтва – пустазелле.

*– Не крыўдна?*

***К.:*** На самой справе мы пра гэта ўвогуле не павінны думаць. Па вялікім рахунку, мы гэта робім выключна для сябе.

***Т.:*** Калі гэтым проста падабаецца займацца, то часу не шкада.

***К.:*** Творчасць – гэта прыродай закладзена! Вядома, першапачаткова фізічнае існаванне, а потым ужо жывапіс. Тым не менш для мяне мастацтва – гэта проста быццё. У нейкім агульным сэнсе мастацтва, па сутнасці, з'яўляецца апраўданнем самой цывілізацыі. У гэтым сэнсе мастак, паэт – жыта... Мастацтва немагчыма схаваць. Яно заўсёды выходзіць за межы прыватнай ініцыятывы.

## "Пражылі васемнаццаць гадоў – і нічога!"

***Т.:*** Косця зусім не змяніўся. Застаецца рухавым, зацікаўленым. Пражылі васемнаццаць гадоў – а ён той самы! Агульных інтарэсаў шмат, але агульных прац ніколі не рабілі і не плануем. Толькі заўсёды раім адзін аднаму, як лепей, калі трэба што. Бывае, некаторыя праекты неабходна на кампутары зрабіць — тады я дапамагаю Косцю.

***К.:*** Я вельмі давяраю Танінаму густу. Да яе меркавання вельмі ўважлівы. Яна адна з нешматлікіх мастачак-жанчын на гэты час, якія мяне здольныя пераконваць. І не таму, што яна мая жонка. Тут я вельмі крытычны. Калі б планка пачала апускацца і калі б Таня пачала сыходзіць у нейкія прычэпкі, мы б доўга не працягнулі разам. Тут вельмі важны момант супрацоўніцтва.

*У Тані і Косці ёсць сын. Шаснаццаць гадоў яму. У мастацтва юнак не плануе пайсці. Яго больш цікавяць біялогія, хімія. Канстанцін рады: будзе навуковым шляхам быццё спасцігаць...*

Аляксей Рагуля



…чалавецтва падышло да рубяжа
лёсавызначальнага рашэння ў сітуацыі выбару:
"жыць і пладаносіць
альбо наадварот, пуставаць"…

# Сярод лесу, сярод поля – у цэнтры Еўропы

## *Эстэтыка і сацыялогія прозы Генрыха ДАЛІДОВІЧА*

*Сярод раз'юшаных сатрапаў,*
*Паганы зладзіўшы хаўрус,*
*Свае таргуюць і чужыя*
*Табой, няшчасны беларус.*

*Дыхнуць свабоднымі грудзямі*
*Й зірнуць арліна не дадуць, –*
*На ўзлёты дум кладуць аковы,*
*Як на рабоў сляпых кладуць.*

*Здушылі, збэсцілі ўсё чыста*
*У чорнай яве, ў зводных снах,*
*Што ад прыроды шлях свой мела,*
*Што к сонцу мела вольны шлях.*

*На здзек прадажныя прарокі*
*І на гніццё ў царстве цьмы*
*Вядуць аплучаныя тоўпы*
*Пад стогны вечныя турмы.*

Янка Купала

Проза Г. Далідовіча з'яўляецца характэрнай з'явай беларускай духоўнай культуры апошняй трэці XX – пачатку XXI стст.

У гэты час літаратура заняла вядучае месца сярод іншых відаў культуры. Беларускамоўная форма нацыянальнага хранатопу ў XX-м ст. адкрыла шлях для развіцця нацыянальнай культурфіласофіі. Захаванне і галоўнае развіццё гуманістычных традыцый ва ўмовах крайняга рэлятывізму і нацыянальнага нігілізму з'яўляецца неабходнай умовай паўнацэннага духоўнага жыццядзеяння нацыі. Менавіта на гэтым напрамку плённа разгортваецца творчасць Г.Далідовіча.

**Эстэтыка пераадолення і ўзвышэння.** Пакаленне, да якога адносіцца пісьменнік, з'явілася на свет, калі былі ўжо ў мінулым буйнейшыя сацыяльныя катаклізмы XX ст.: першая сусветная вайна, руская рэвалюцыя 1917 года, другая сусветная вайна, якія спусташальнай віхурай прайшлі праз Беларусь. У 30-50 гг. прагалы ў гісторыі літаратуры пакінуў нацыянальна-культурны генацыд. З 1986 г. Беларусь перажывае чарнобыльскую катастрофу. З другой паловы 90-х гадоў у краіне смяротнасць большая за нараджальнасць.

Катастрафізм стаў адметнай светапоглядной рысай перадавой культуры XX ст. У беларускай культуры ён сфармаваўся як заканамерная з'ява пераходу ад смехавога да трагедыйнага канону, як паказчык грамадзянскага ўзмужнення нацыі. Творчасць Г. Далідовіча, як і іншых "пасляваеннікаў", узнікла на фоне вогненнай праўды веку, адлюстраванай у творах К.Чорнага, Я.Брыля, І.Мележа, В.Быкава. Была яшчэ адна праўда – пасляваеннае адраджэнне жыцця на руінах і папялішчах, праўда пераадолення ўлады смерці, прывычкі да бяспамятнага існавання. Эстэтыка прозы Г. Далідовіча прасякнута пафасам пераадолення паласы спустошання, духоўнага ўзвышэння чалавека – патрыёта Айчыны.

Г.Далідовіч нарадзіўся 1 чэрвеня 1946 г. на хутары Амшарок, недалёка ад вёскі Янковічы ў Стаўбцоўскім раёне. Адметнасць краю складае славутая Налібоцкая пушча, у нетрах якой здаўна захоўваецца і дзейнічае самабытная культура слынных мястэчак і вёсак: Рубяжэвічы, Налібакі, Кляцішча, Дзераўная, Хатава, Шчорсы. Пасля заканчэння Дзераўнянскай сярэдняй школы ў 1963 годзе. Г.Далідовіч вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, які закончыў у 1968 г. У 1968-73 гг. працаваў у Шабыньскай васьмігадовай школе Барысаўскага раёна – спачатку настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, а з 1971 г. – завучам. У 1968-70 гг. служыў у Савецкай Арміі. З 1973 г. працаваў у рэдакцыі часопіса "Полымя", з 1979 па 1991 быў намеснікам галоўнага рэдактара. У 1991-2002 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць". З 2003 года працуе намеснікам галоўнага рэдактара "Краязнаўчай газеты". З'яўляецца членам Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. Узнагароджаны медалямі. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І.Мележа (1988, за раман "Гаспадар-камень").

Творчы шлях Г. Далідовіча пачаўся ў 1966 г., калі ў стаўбцоўскай раённай газеце "Прамень" было апублікавана яго першае апавяданне. У 1968 годзе ў № 6 часопіса "Маладосць" змешчана апавяданне "Ліст да Олі". Першая кніга прозы "Дажджы над вёскай. Апавяданні" выйшла ў 1974 годзе. У гэтым жа годзе ў "Маладосці" (№№ 1-2) была надрукавана аповесць пра настаўнікаў "Усё яшчэ наперадзе". У 1979 г. выйшла кніга прозы "Маладыя гады". Працягам настаўніцкай тэмы сталі "Міланькі" (1977), "Завуч" (1980), "Дырэктар" (1983). Аповесць "На новы парог" (1980) прысвечана праблеме "неперспектыўных" вёсак. Кнігі прозы "Станаўленне" (1985) і "Міг маладосці" (1987) былі своеасаблівым падвядзеннем вынікаў псіхалагічнага аналізу духоўнага станаўлення і духоўнага крызісу сучасніка.

Пачынаючы з васьмідзясятых гадоў, аўтар засяроджваецца на праблеме рэальнага самасцвярджэння асобы. Ад лірыка-псіхалагічнага апавядання і аповесці Г.Далідовіч пераходзіць да жанру рамана.

Маленькія аповесці "Юля" (1974), "На новы парог" (1980), "Жывы покліч" (1984) вылучаюцца напружаным пошукам рашэння, якое павінна прынесці людзям

паразуменне і адкрыць дарогу да шчасця. У жанры гістарычнага рамана праблема шчасця індывіда вырашаецца на фоне вялікіх падзей у гісторыі беларускага народа. Раманы, як і апавяданні, цесна звязаны паміж сабою праблематычна. Своеасаблівы трыпціх утвараюць ”Гаспадар-камень” (1984), “Пабуджаныя” (1987), “Свой дом” (1989). Раман “Заходнікі” (1992) на фоне вялікіх людскіх плыняў адлюстроўвае спецыфічныя рысы і драму гаспадарскай ментальнасці прымусова калектывізаваных беларусаў.

Раман “Кліч роднага звону” (1998) апавядае пра дзяржаўную мудрасць продкаў, якія насуперак імперскім амбіцыям уладароў Лівонскага Ордэна, татара-мангольскай Арды і Галіцка-Валынскага княства, стварылі ў XIII стагоддзі беларускую цэнтралізаваную дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Так быў пераадолены высокі парог на гістарычным шляху ад дзяржаў-княстваў і дзяржаў-зямель да цэнтралізаванай баярскай (пазней – шляхецкай) дзяржавы-рэспублікі.

У 2007 г. пісьменнік выдаў эсэ (“апавяданне-імправізацыю”) “Сярод лесу, сярод поля”, у якім пацвердзіў і акрэсліў ключавыя моманты аўтарскай эстэтыкі слова.

На рабочым стале празаіка ў дадзены момант – два раманы, праблематычна звязаныя з яго ранейшымі эпічнымі творамі: “Заняволены Дом” і раман пра Рагнеду.

Генрых Далідовіч ніколі не прэтэндаваў на незвычайныя навацыі ў творчасці. Наадварот, ён заўсёды падкрэсліваў сваю далучанасць да традыцыі сацыяльна-псіхалагічнага аналізу ў беларускай прозе, бо змалку ў родным слове адчуў глыбінны сэнс такой каштоўнасці, як жыццё ў згодзе са стваральнай сілай прыроды. Сфармуляваныя адраджэнцамі ўніверсаліі беларускай культуры: “зямля – усяму аснова” (Я.Колас), “радасць існавання” (К.Чорны) – сталі аксіялагічнымі арыенцірамі ў яго творчай працы. Г.Далідовіч не пабаяўся прыдуманых папрокаў у шкалярскім перайманні, калі публічна абвясціў сваю праграмную формулу “ўсё яшчэ наперадзе”, якая пераклікаецца з гісторыка-філасофскай канцэпцыяй і структурным прынцыпам прозы І.Мележа “не ўсё яшчэ скончана”. І.Мележ быў арыентаваны на ўзгадаванне духоўнага рэсурсу нацыі пасля культаўскага спустошання культурнай нівы. У публіцыстычных артыкулах 1975-1982 гг. Г.Далідовіч падкрэсліваў першачарговае значэнне для беларускай нацыі айчыннай традыцыі. Менавіта яна гарантуе паўнацэнны ўдзел у дыялогу культураў свету (“З акна Цімкавіч на свет вялікі” – “Маладосць”, 1975, №7).

Не менш важнае значэнне надаецца адказнасці творцаў за развіццё нацыянальнай традыцыі. “Шанаваць і ўзбагачаць традыцыі”, – менавіта так сфармуляваў творчую задачу Г.Далідовіч – перш за ўсё для сябе – у аднайменным артыкуле ў 1982 г. (“Звязда”, 11 сакавіка).

Дыскусіі на тэмы традыцыяў і наватарства, майстэрства, стылю ў беларускай крытыцы вяліся ў другой палове XX ст. даволі часта з пераменным поспехам. Г.Далідовіч ніколі не ішоў за зменлівай модай і не сумняваўся ў жыццёвасці такіх здабыткаў мастацкай і тэарэтычнай думкі, як народнасць, сацыяльная дзейснасць, інтэлектуальная змястоўнасць мастацкага слова. У яго творах акцэнт пераносіцца на *ўзбагачэнне* ўстойлівых сэнсаў нацыянальнага хранатопу новымі значэннямі. У гэтым празаік ужо ў самым пачатку свайго творчага шляху бачыў чалавечы і грамадзянскі абавязак “пасляваеннікаў” – абавязак сцвярджання волі беларускага нацыянальнага Я да паўнацэннага жыцця. Творчай рэалізацыяй гэтай праграмы стаў яго арыгінальны мастацкі канцэпт *“покліч жыцця”*, які з’яўляецца заадно маральным імператывам і водгуллем суровай праўды з “вогненнай вёскі” і “ваўчынай ямы” – сімвалаў беларускага *спустошання*, карціны быцця-смерці ў XX стагоддзі, мужна ўзноўленай у творах М.Гарэцкага, М.Зарэцкага,

К.Чорнага, Я.Брыля, І.Мележа, В.Быкава, В.Адамчыка, І.Пташнікава, В.Казько, В.Якавенкі.

Публіцыстычныя артыкулы Г.Далідовіча адлюстроўваюць яго праграмныя ўстаноўкі толькі часткова. У адпаведнасці з нацыянальнай традыцыяй ён раскрывае сваю індывідуальную эстэтычную праграму больш поўна ў мастацкіх творах. Праблемы творчай “тэхналогіі” ў такім разе ставяцца і вырашаюцца пераважна на сацыяльна-бытавым матэрыяле. Аўтар свядома адыходзіць ад шырока ўжыванай у беларускай літаратуры ХХ ст. формы філасофска-алегарычнай алюзіі, падкрэсліваючы неабходнасць больш дзейснага зазямлення эстэтыкі, пошуку сэнсу ў бягучай і шэрай штодзёншчыне. Тут ён таксама абапіраецца на традыцыю беларускай мастацкай фенаменалогіі, нацыянальнае аблічча якой геніяльна і проста аформіў Якуб Колас у сваім паэтычным эпасе на крутым павароце агульначалавечага гісторыка-культурнага працэсу.

Г.Далідовіч пачынаў свой творчы шлях з пачуццём упэўненасці ў тым, што яго індывідуальны творчы патэнцыял можа і павінен быць рэалізаваным у рэчышчы нацыянальнай гуманістычнай традыцыі. У першым яго зборніку “Дажджы над вёскай” змешчаны апавяданні праграмнага характару “Ліст да Олі” і “Сустрэча”. Па сваіх эстэтыка-літаратурных функцыях да іх прымыкае апавяданне-дыскусія “Золкая раса” (1977), у якім паказана разбуральная пагроза дэнацыяналізацыі для творчай асобы. Г.Далідовіч разгортвае характэрны для І.Мележа і В.Быкава матыў *памылковага выбару* лёсавызначальнага рашэння. Паспяховы жывапісец Мішук, працуючы ў жанры “трактарнай оды”, афіцыйна лічыўся за ўзорнага мастака сучаснасці. У хуткім часе, аднак, грамадскасць, а крыху пазней і сам творца пачынаюць разумець, што залежнасць ад афіцыёзу вядзе Мішука ў тупік: у ягоных карцінах “душы няма”. Пераадольваючы пачуццё зайздрасці да калегі, Мішук вяртае сабе здольнасць выправіць жыццёвую памылку і зразумець, што вытокі свабоды і творчай сілы былога аднакурсніка – у яго іммаментнай вернасці самому сабе, таму светаўспрыманню, якое з маленства фарміравалася ў атмасферы роднасці ў зносінах з вяскоўцамі, з навакольным светам: “Вось Здзіслаў маўчыць, пазіраючы на гэтыя дрэвы, агонь, але ўсё запамінае. І гэтая ноч, гэтае відовішча ўсплыве ў яго памяці некалі пазней, можа і ў дні тугі, тугі па лесе, вогнішчы, печанай бульбе і смажаным на ражончыку сале – і тады ён намалюе вельмі добра. Ён такі – гэты Здзіслаў” [4, 190].

Мішук зразумеў, што ўзгадаванае змалку пачуццё адзінства з родным краем, сваім народам, культурай і мовай абуджае і павялічвае рэсурсы творчай энергіі асобы. Прыроджаная, арганічная нацыянальна-патрыятычная арыентацыя Г.Далідовіча своечасова абудзіла ў падсвядомасці будучага празаіка – “дзікуна” і “сына Яе Вялікасці Налібацкай Пушчы” – адмысловую, як і ў Сымона-музыкі, чуйнасць да поклічу касмічнай сілы тварэння: “Цяжка сказаць, калі Генік пачаў пазнаваць, усведамляць свой той, на думку і старэйшых, звычайны, адлучаны ад свету і сумнаваты, а пазней блаславёны ім жа хутар. Спачатку ён толькі бачыў і чуў, як усё ўспрымае кожная жывая істота, убіраў у сябе, як тая зямля ўбірае начную цёмнасць, расістасць, сусвітанак, сонечнае святло, вецер, дождж, снег, каб жыць і пладаносіць альбо, наадварот, пуставаць. Затым неяк нечакана, а на самай справе – непазбежна незвычайна свядомае адкрыццё: у адзін зімовавясенні час вільгатнее вецер, выпадаюць туманныя ночы, настае адліга – цёпла дзень- другі, сселы снег ідзе на звод – спачатку слёзіцца, на прыгрэўку знікае, сцякае пад старую снежную коўдру, вадзіца збіраецца і точыць сабе ручаінку. Чаму і як – гэта яе адзін сакрэт! І гэтага не спасцігнуць нікому і ніколі... І не толькі ў снежным свеце, але і ў іншым – па сваіх законах у лясных, пясчаных, спякотных мясцінах...” [15, 6-7].

Адчуванне законаў абуджэння і станаўлення не з’яўляецца прыроджаным

інстынктам – яно хутчэй плён супрацоўніцтва асобы з прыродай, з універсумам, які ў фальклоры, у творах Я.Купалы, М.Гарэцкага, М.Багдановіча, К.Чорнага існуе як імманентны сваёй уласнай сіле тварэння. Паразуменне і супрацоўніцтва з гэтай сілай ёсць здабытак культуры каляндарна-земляробчага тыпу – здольнасць перажывання радасці *"ад таго, што ты жывеш, сядзіш зроднена* (падкрэслена мною – *А.Р.*) *найперш з зямлёй..."*.

У еўрапейскай духоўнай культуры канцэпт *зроднасць* – альтэрнатыву імперскай чужасці – упершыню ўвёў ва ўжытак украінскі мысліцель эпохі Асветы Рыгор Скаварада. Кірунак жа на працяг канцэптуалізацыі ў рэчышчы фальклорнага экзістэнцыялізму быў вызначаны Ф.Скарынам, які асэнсаванне анталагічнага вопыту старажытных цывілізацый і індывідуалістычнага еўрапейскага Рэнесансу аформіў як альтэрнатыву радыкальна індывідуалістычнаму макіявелізму – на аснове "*паспалітага добрага*". Я.Колас стварыў напоўнены новай семантыкай фрэйм "родны кут" і такім чынам абагульніў вопыт супрацьстаяння "духу непрыгоннага" (Я.Купала) казармавай сістэме адпрэчання і падаўлення. У духоўным змесце прозы Г.Далідовіча выразна чуецца водгулле семантыкі коласаўскай канцэпцыі існавання – жыцця суб'екта ў роднасці з навакольным і адначасова працягненым, бязмежным светам. Першым жа, спадчынна і на ўзроўні эмацыянальнага ўспрымання далучэннем Г.Далідовіча да вопыту фальклорнага экзістэнцыяналізму было засваенне духоўнага вопыту малапісьменнай сялянкі – маці празаіка. Гэта ад яе ў маленстве ён пачуў, што на прадвесні – "*ой, якое маладое неба*", што жаваранак, вярнуўшыся з выраю, "*абспеўвае поле*", што не абспяваную жаўранкам зямлю нельга чапаць, бо "*яна пры родах*". У фальклорнай філасофіі існавання (жыцця) пунктам адліку каштоўнасцяў з'яўляецца паразуменне з усеагульнай Маці-Багіняй-Прыродай.

Эстэтыка слова ў прозе Г.Далідовіча фарміруецца як з'ява аднаўлення на аснове монафізіцтва духоўнай повязі чалавека з татальнымі сіламі тварэння (жыццябудаўніцтва – пісаў К.Чорны на пачатку 30-х гадоў). Далучэнне да "сусветных сіл" (Гегель) ажыццяўляецца праз уладкаванне роднай "тутасці", праз арганізацыю ўзаемадзеяння каштоўнаснай тоеснасці мікраманады "родны кут" і макраманады "*свет бязмежны, мой дом*". Суб'ект жыццятворчасці – гэта часцей за ўсё пачынальнік новага жыцця, чалавечае адзінства Яна – Я, якое ёсць у цэнтры патэнцыяльна жыццятворнай сферы, сярод лесу, сярод поля, сярод папялішчаў, сярод вайны і ...сярод ворагаў беларушчыны.

На сучасным этапе пісьменніцкая ўвага Г.Далідовіча засяроджана на праблеме пераадолення і напаўнення сэнсам *пустаты*, ці то пустотнасці, што ў індуізме азначана лексемай з характэрным шумавым афармленнем – шунья. Творчыя намаганні празаіка скіраваны на фарміраванне ў грамадстве патрэбы ў пераадоленні бездухоўнасці і абыякавасці ў адносінах да лёсу нацыі. Чалавецтва падышло да рубяжа лёсавызначальнага рашэння ў сітуацыі выбару: "*жыць і пладаносіць альбо наадварот, пуставаць*".

Эстэтыка слова ў прозе Г.Далідовіча – гэта эстэтыка першапачатковай стадыі існавання, жывой вадзіцы пад снежнай коўдрай. Семантычная дынаміка вясновай сімволікі вядзе да сюжэтных рашэнняў, у якіх актуалізуюцца ўстойлівыя, вербальна аформленыя сэнсы адшуканых сітуацыйных мадэляў і псіхічных комплексаў, азначаных лексемамі Іоў-сітуацыя, Фаўст-сітуацыя, "бацькі і дзеці", "яна і я", "вялікі злодзей", "кветка пажоўклая", "ажандараная радзіма", "чырвоныя ляды", "зверыяда", "свой дом". Увесь вопыт тварэння сферы сэнсаў Г.Далідовіч ацэньвае на аснове крытэрыяў, якія закладзены ў імманентным плане яго ўласнага канцэпта "покліч жыцця". Імкненне да дакладнай ацэнкі ствaральнага патэнцыялу нацыі падштурхоўвалі пісьменніка да дзейснай словатворчасці, адлюстравання нюансаў перажывання і пазнання, пераадолення шаблонаў і падсумавання сэн-

саў чалавечага існавання. На рубяжы творчай сталасці празаік звяртаецца да вопыту маладнякоўцаў, адкінуўшы іх "бурапенную" шуныю – шумавую імітацыю сацыяльнай актыўнасці: "*ахаладнелы і агаладалы за зіму чмель*"; "*не кожны мог музыканіць*" – клеплючы касу; не кожны з маленства ўмее "*кемна слухаць*". Зямля ў сваім часе павінна "*азімнівацца*". Певень у пэўным кантэксце атрымлівае тытул "*курынага цара*". "*Кроўнае слова*" празаіка зрывае маску з "*князькаватых*" псеўдалідэраў ("*курашчупаў*") і з псеўданаватараў, якія "*шашоляць і нашу мову* <...> *і нашу душу*".

Роднае з маленства слова дае сілу, каб пераадолець "*пачуццё асірацеласці*" стварае карціну паліхроннай настраёвасці ў пейзажных вобразах Бацькаўшчыны. Пасля заходу сонца на небе доўга пануе "*чырванец*"; летні дождж – гэта "*цёплы пырскуль ці ўліўны грыбасей*". Фарбы восені ствараюць прастору "*самотнай пажаўцеласці*" – аксюмароннае пачуццё радасці існавання менавіта тут, дзе ты нарадзіўся. Неазначанай тутэйшасці Г.Далідовіч супрацьпаставіў самаўсведамленне тутасці. Неалагізмы і фразеалагізмы пісьменніка не пратэндуюць на ролю слоўнікавага фонду – яны выконваюць ролю аказіяналізмаў і дакладна перадаюць і замацоўваюць адчуванне каштоўнасці непаўторнага ўспрымання і перажывання моманту, далучэння асобы да вялікага быцця макраманады ў канкрэтным пункце яе паверхні. Дэнацыяналізацыя знішчае гэтую першапачатковую духоўную аснову роднасці і людскасці.

Памяць і жывая пульсацыя нацыянальнай традыцыі адчуваецца не толькі ў псіхалагізме, але і ў пейзажных замалёўках ранніх твораў Г.Далідовіча: "Жнівеньскаю парою было высокае сіняе неба, яркае сонца, і, здавалася, яшчэ далёка да пякучых сіверных вятроў, нізкіх цяжкіх хмар і зацяжнога халоднага дажджу. Трымалася летняе цяпло, хоць парыжэла ўжо сена ў стагах, запахла ржышчам, свежаю раллёю зямля, а зяляніна страціла сваю майскую пяшчоту, жаўцела, злятала паволі долу" [2, 39].

У гэтай пейзажнай прэлюдыі да фабулы апавядання "Ліст да Олі" выразна адчуваюцца рытмы і інтанацыя ранняй прозы К.Чорнага – быцця мікрасвету ў макрасвеце. У Г.Далідовіча – гэта быццё на зямлі пад "*чуйным небам*". Яго пейзаж традыцыйна пашырае прастору духоўнага жыццядзеяння чалавека, але ў гэтай шырыні акрэсліваецца паласа часу і прасторы, на якой разгортваецца лёсавызначальная дынаміка чалавечых рашэнняў.

Моду на механічную аплікацыю ("інтэртэкст") Г.Далідовіч нават як бы і не заўважае. Яго цікавіць не "знікненне аўтара" ("мяне няма"), а самарух суб'екта, нават калі той усяго толькі падлетак і назірае за вяселлем, стоячы з аднагодкамі "за стаяком". З пэўнай доляй умоўнасці можна сказаць, што галоўным героем прозы Г.Далідовіча з'яўляецца юнацтва, якое ўглядаецца з туманнай сучаснасці ў сапраўдную будучыню, з восені ці зімы – у вясну. У атмасферы аналітычнай плыні бытавы факт стаў *парогам*, на якім гаспадарскі канон беларускай культуры сутыкнуўся з модай на нахрапісты цынізм: "Павыходзіўшы з аўтобуса, сябры Рамана цмокалі: "Славное местечко. Ещё бы жинку с хорошей тёщей, домик, деньжат!" І смяяліся. Ціснулі да болю маю руку: "Здароў, здароў, стары!", траслі бацькаву: "Привет, хозяин!" [2, 40]. Модна апранутыя, гарадскія госці "не саромеліся" "і адразу паселі за стол, пілі, елі, без супынку хвалілі катлеты, галубцы, піва". Пад гэтым напорам "*нашы, янкавінскія і з Налібак*", "*быццам адчувалі сябе лішнімі на гэтым вяселлі*". Праўда, так было толькі спачатку.

Аднак патэрны антыкультуры ўсё ж небяспечныя. Перад цынізмам Рамана, які недзе давучваўся, прыйшоўшы з войска, не змаглі ўстаяць Янак, Оля і Пецька. Г.Далідовіча цікавіць не ідэальны ці ўзорны герой, а здольнасць звычайнага чалавека, г.зн. народа, выправіць зробленыя памылкі выбару. Ліст, у якім першакласнік Пецька збіраецца Олі і Янаку расказаць "*усё-ўсё*" – гэта сродак

духоўнага ачышчэння і аздараўлення, інстынктыўны парыў маладога пакалення ў ачышчаны ад бруду чалавечы свет.

Аздараўленчая місія літаратуры была ўсвядомлена Г.Далідовічам на самым пачатку творчага шляху. У апавяданні "Сустрэча" пісьменнік у белетрызаванай форме перадаў сэнс гутаркі Я.Купалы і Я.Коласа ў час іхняй сустрэчы ў 1912 г. у Смольні: памагчы свайму народу "*абудзіцца*". У якасці прыклада бяруцца самыя блізкія суседзі – літоўцы і ўкраінцы. Вядомы факт з жыцця Купалы і Коласа актуалізуецца сцэнай іх сустрэчы з "тожапатрыётам" – настаўнікам і па сумяшчальніцтву даносчыкам Каплёнкам.

Грунтоўна распрацоўваецца тэма мастака і мастацтва ў апавяданнях "Іста", "Клава" і "Аглая", якія ствараюць своеасаблівы трыпціх. Савецкая ружовая кінаідылія з таленавітымі акцёрамі, культура без Дастаеўскага і Талстога і савецкая гулагаўская рэальнасць – нібы "*сячкарня*", праз якую, паводле задумы, павінны прайсці ўсе, хто ўмее назіраць, разважаць, узнёсла марыць. Па сваёй форме апавяданне "Іста" набліжаецца да жанру "паэмы выніку" ў творчасці П.Панчанкі, А.Вярцінскага, А.Разанава. У самім загалоўку (Іосіф Сталін) адлюстравана сутнасць гістарычнага мутанта – грамадскай свядомасці сталінскай эпохі. "Клава" і "Аглая" сталі працягам і заканчэннем трагічнага трыпціху. Трагічны фінал непазбежны там, дзе кіруюць грамадствам людзі са скалечанай сталінізмам псіхікай.

Усведамляючы аздараўленчую ролю мастацкай літаратуры ў грамадстве, Г.Далідовіч, у адпаведнасці з логікай уласнай праграмы, спачатку раскрывае творчыя рэсурсы і патэнцыял асобы. Вырашэнне гэтай задачы складае змест яго творчасці да пачатку васьмідзясятых гадоў. На другім этапе пісьменніка ўжо больш цікавіць творчы патэнцыял беларускай нацыі ў цэлым. Гэтым абумоўлены яго зварот да гістарычнай тэматыкі. Першасны покліч жыцця і кліч званоў з гісторыі Бацькаўшчыны – так можна вызначыць лейтматывы прозы Г.Далідовіча на этапах станаўлення і творчай сталасці. Даверлівая лірызаваная нарацыя з элементамі медытацыі і споведзі ранніх твораў становіцца па-асветніцку педагагічна накіраванай. Пісьменнік у справе станаўлення нацыі надае вялікую ролю літаратуры і школе, якая заклікана зрабіць мастацкія скарбы духоўнай і сацыяльнай рэальнасцю сфарміраваць у пакалення патрэбу і ўменне трымаць у чысціні свой сямейны прытулак і сваю дзяржаву. Семантычным ядром у паэтыцы становяцца топасы "*абуджэнне*", "*родны звон*" – духоўныя складнікі канцэпта покліч жыцця. Рух у рэчышчы нацыянальнай традыцыі забяспечыў Г.Далідовічу магчымасць арыгінальнай рэалізацыі ўласнага творчага патэнцыялу ў беларускай і агульнаеўрапейскай літаратуры.

**Патэнцыял асобы.** У літаратуры покліч жыцця ва ўмовах татальнага спустошання і страты волі да паўнацэннага жыцця сам па сабе з'яўляецца з'явай. Г.Далідовіч на пачатку творчага шляху імкнецца выявіць жыццятворны імпульс ва ўсіх сферах даступнага яму вопыту. Поле сацыяльнай актыўнасці яго персанажаў, як і прататыпаў, даволі вузкае – у межах дазволенага бюракратычнай сістэмай. Адносна больш свабодным у сваёй практычнай культуратворчай дзейнасці з'яўляецца настаўнік у яго зносінах з вучнямі. Гэтым тлумачыцца настойлівая ўвага пісьменніка да духоўнага свету настаўніцтва – інтэлігенцкай праслойкі, якая заклікана ўвасобіць у жыццё духоўныя ідэалы нацыі.

У беларускай літаратуры XX ст. асоба вясковага настаўніка традыцыйна атаясамлівалася з аблічам культурнага героя – сейбіта на ніве духу. Афіцыйная ідэалогія звяла сацыяльны статус асветніка да ўзроўню агітатара. У трыпціху "Настаўнікі" Г.Далідовіч адлюстроўвае вынік гэтых зменаў у савецкім соцыуме. Бытавая незабяспечанасць і неўладкаванасць ставіць настаўніка ў становішча абразлівай залежнасці ад нораваў тутэйшага князькаватага самадура ("Чуйнае неба"). Афіцыйная ўраўнілаўка і дзяржаўная незапатрабаванасць у інтэлігентных і творчых

дзеячах разбэшчвае вучняў, дэмаралізуе і настаўнікаў. Настаўнікі ж, выхаваныя ў духу коласаўскай асветніцкай традыцыі, свядома адмяжоўваюцца ад тых, чые намаганні засяроджаны выключна на пытаннях дабрабыту, "дзе ўсё прыводзіцца к карыту". Восеньскі вобраз дажджоў над вёскай – "*неба нізкае, шэрае, сыпалася дробнаю імжою*" – гэта эмблема шэрага, духоўна няўтульнага жыцця вёскі і вясковай школы ў другой палове XX ст. Выхадцы з горада ў пераважнай большасці жывуць надзеяй вяртання да асфальтавай ілюзіі: футбол, кавярня, тэатр. У вёсцы яны, маладыя, адразу трапляюць у сваю "восень", адчуваюць сябе лішнімі ("Ада"). Інакш трымаюцца выхадцы з вёскі. Мікалая ("Чуйнае неба") не выбівае з каляіны ні хамства брыгадзіра, у якога трэба прасіць каня, ні раздражнёнасць жонкі, ні абыякавасць вучняў і бацькоў у адносінах да вучобы. Яго аптымізм не выпадковы: пакуль у вёсцы існуюць людзі даўнейшага гарту, выхаваныя на гаспадарскай парадыгме, – існуе і справядлівая грамадская думка. Яна не мае нічога агульнага з афіцыйнымі дырэктывамі і рашэннямі сходаў, але менавіта, яны – конюхі, даяркі і "паляводы" – фармуюць у вёсцы маральна-этычную атмасферу. Чулы да вясковага "хору" настаўнік адчувае заўсёды не толькі маральную, але і фізічную падтрымку вяскоўцаў. Малады завуч васьмігодкі Мікалай Логвін ("Дажджы над вёскай") па дарозе ў школу перажывае няўлоўныя для староннняга чалавека пульсы засыпанага "*дробнаю імжою*" вясковага быцця: "вакол стаяла ранішняя мяккая, свежая ціш, толькі далёка, за поштаю глуха зарыпеў, як просячы спакою, стары калодзежны журавель, дзынкнула аб вочап вядро, і чуваць было, як лілася ў яго вада" [2, 3]. Логвін добра арыентуецца ў чалавечай сітуацыі, дзейнічае без хістанняў, але арсенал яго сродкаў не выходзіць за межы афіцыйнай наменклатуры. Ён па абавязку "саромiць": на бацькоўскім сходзе – Насцю, што не глядзіць сваіх дзяцей, у кабінеце – Элу Іванаўну, што прыйшла на ўрок без плана. Пісьменнік як бы не заўважае, што правільныя заўвагі маладога завуча не выходзяць за межы яго службовых абавязкаў. "Настаўніцкі" трыпціх заканчваецца апавяданнем пра восень настаўніка-пенсіянера Ігната Карлавіча – шчырага сейбіта "разумнага, добрага, вечнага" на працягу сарака год настаўніцкае працы. На юбілейным вечары ён звярнуўся да гасцей з заклікам захаваць у душы "гэту любоў да работы, без якой не было б вясны ў жыцці і вясновай радасці" [2, 34].

У заключнай частцы трыпціху аўтарская пазіцыя становіцца выразнай і акрэсленай, яна цалкам супадае з пазіцыяй героя: "Сам ён, здавалася пражыў не так, сумней, завельмі ўжо правільна, цвяроза, блытаўся ўвесь час у нейкім зачараваным коле, часцяком дробязным, нікчэмным" [2, 31-32]. Так Ігнат Карлавіч на схіле веку ачысціў свой духоўны свет ад "казённай трухляціны", ад якой Лабановіч у трылогіі Я.Коласа "На ростанях" вызваліўся на самым пачатку педагагічнай дзейнасці.

Сямідзесяцігадовы Сямён з аднаіменнага апавядання, які ў маленстве страціў вока, а ў гады вайны – жонку і дзяцей, прыйшоў на дапамогу настаўніцы, у якой не было з кім пакінуць дома дзіця. Сямён успомніў крэда сваёй Марусі – настаўніцы, расстралянай сваім жа чалавекам у час акупацыі: "Мая Маруся гаварыла, што дабрата ніколі не зводзіцца" [2, 155]. Тут міжволі на памяць прыходзіць шэкспіраўскае: "Што ім да Гекубы?". Што яму, сямідзесяцігадоваму вясковаму бабылю, аднавокаму Сямёну, пасля таго, як страціў сям'ю, сам сцёк крывёю, – што яму да таго, што настаўніцы няма на каго пакінуць малое дзіця? У Сямёна на падобныя пытанні адказ знаходзіцца сам сабою: "Нядобра ж выходзіць... Чалавек прыехаў вучыць нашых дзяцей, а мы..." [2, 155].

Г.Далідовіч добра разумее феномен беларускай традыцыйнай маральнасці і традыцыі беларускай мастацкай фенаменалогіі: тут сосны "струменяць" – з'ява эманацыі – у Сусвет "духмяны пах смалы" (Я.Колас) і мудрасць, а людзі – дабрыню.

У ранняй прозе Г.Далідовіча вызначаны, бадай, усе важнейшыя матывы на будучыню: душэўная шчодрасць людзей вялікага сэрца, памылкі выбару, бездапаможнасць чалавека перад ваяўнічым і жорсткім цынізмам. На першы погляд можа паказацца, што аўтарскія імпрэсіі існуюць самі па сабе, без усялякіх сувязяў з навакольным светам. На справе ж іх паэтыка адлюстроўвае рух быцця ў адпаведнасці з яго спрадвечнымі законамі. У аснове гэтага руху ляжыць не выпадак, а сустрэча. Часцей за ўсё паўтараецца матыў восені як магчымасці новай сустрэчы з жыццём пасля зімовага сну. Аўтар адчувае восеньскі матыў у жыцці беларускага народа. Аповесць “На новы парог” стала лірыка-філасофскім падсумаваннем заключнага этапу жыцця не толькі “неперспектыўнай” вёскі Бабчын Скон, але і ўсяго беларускага фундаменталізму. Аўтар стварыў галерэю партрэтаў, і кожны з персанажаў выношвае сваё разуменне сэнсу і каштоўнасці жыцця. Аўтарскія сімпатыі відавочна аддаюцца тым, хто дбае пра сям’ю, будуе дом. Як і ў іншых творах (“Ласяня”, “Губаты”), тут напружана гучыць матыў адзінства чалавека з яго “меншымі братамі” – паразуменне на аснове адчування каштоўнасці жыцця і “роднага кута”. Пісьменнік шукае варыянты і магчымасці пераадолення памылак, выйсця з тупіковых сітуацыяў, але не спяшаецца даваць гатовыя рэцэпты. Пабудаваны Гаптаром для сына і нявесткі новы дом застаўся пустым. Працаўнік і гаспадар па натуры, Гаптар адыходзіць у вечнасць, а сямейнае жыццё яго сына і нявесткі дало вялікую трэшчыну. Занадта звычайным і чэрствым для Антаніны быў яе муж. Аднак і яе прага інтэнсіўнага духоўнага ўзаемадзеяння таксама не забяспечана належным узроўнем культуры. Ляснік Тамаш, звязаны вялікім пачуццём з удавой Гэлькай, наадварот, глыбока адчувае пакутнае становішча сваёй жонкі і мужна пераносіць свой уласны боль.

Сіла замілавання жыццём, чысціня смутку, ціхай радасці, глыбіня анталагічнага зместу яднаюць аповесць “На новы парог” з такімі шэдэўрамі, як “Сокі зямлі” К.Гамсуна, “Зямля” К.Чорнага. Пры ўсім гэтым твор прасякнуты трывожным пытаннем у падтэксце: Беларусь, гаспадарская, сялянская, партызанская, калгасная, савецкая – адыходзіць. Дык хто сёння скажа, які дом патрэбен новай Беларусі? Што можа прапанаваць свайму народу сучасная інтэлігенцыя? На пошукі адказу на гэтыя пытанні накіроўвае грамадскую думку школьная тэматыка ў ранняй прозе Г.Далідовіча. Мастацкая логіка яго твораў выходзіць на ідэю дзяржавы-дома, у свой час сфармуляваную такімі мысліцелямі, як Ж.Бадэн, Ф.Скарына, Л.Сапега, А.Залускі, А.Алізароўскі. Пакуль што бачыцца пагроза збудаваць дом, у якім не будзе нікога з блізкіх і родных.

Беларуская восень у творах Г.Далідовіча як бы цяжарная вясной, як зямля зернем: вясною абавязкова адбудзецца новая сустрэча з жыццём. Лічба “два” складае адметнасць дыскрэтнага мыслення празаіка. Яно сёння выцясняе абяссіўную (навязлівую) нарацыю. Нельга сказаць, што Г.Далідовічу ўдалося канчаткова пазбавіцца “цягамоціны”: сацыяльная рэчаіснасць праз меру інертная, істэрычна працяглая. Аднак магчымасць і немінучасць другой сустрэчы, з *вясною*, ёсць лагічная заканамернасць мастацкай структуры і той рэальнасці, якую яна сімвалізуе. Часцей за ўсё персанажы ў творах Г.Далідовіча рэальныя людзі, у якіх “семнаццатая вясна”, як правіла, змарнавана. Сказанае зусім не азначае, што пісьменнік фатальна трымаецца прынцыпа “ўсё да найлепшага ў гэтым найлепшым свеце”. У трагедыйным каноне разгортваецца фабула апавяданняў “Страта”, “Новы свет”, у трыпціху “Тры жанчыны” (“Іста”, “Клава”, “Аглая”). Некаторыя любоўныя сюжэты заканчваюцца на стадыі “плакаць брыдка, а смяяцца грэх” (“Адлюблю за ўсю маладосць”, “Знайсці – страціць”). Г.Далідовіч шукае не магічны сродак ад усіх хваробаў – шукае аптымальны варыянт беларускага быцця, чалавечых паводзін, імкнецца надаць магічную сілу мастацкаму слову, выклікаць “*цяпло на першацвет*”. Зразумела, літаратурнай магіі непадуладны сілы прыроды, але мастацкае слова

можа мабілізаваць рэсурсы духу сілай сугестыі, калі ім умела валодаюць, і перш за ўсё – пісьменнікі і педагогі. Г. Далідовіч спыняецца на першапачатковай стадыі самаруху, з якой пачынаецца чалавечы шлях. Кожны чалавек некалі нарадзіўся і мае шанец у жыцці на сустрэчу, прысутнічаць пры нараджэнні з'явы ці жывой істоты, кволай і бездапаможнай. Г. Далідовіча найперш цікавіць сакральны сэнс *сустрэчы* – карнавальныя моманты жыцця: нараджэнне дзіцяці, вяселле, смерць, выхад на пенсію, развітанне з жыццём, пачатак інтымных адносін. Сутнасць чалавека раскрываецца, зыходзячы з яго запасаў душэўнага цяпла і жадання сагрэць ім "першацвет". Г. Далідовіч, паэтызуючы ў чалавеку сакратаўскую маеўтыку, не забывае і страшную "казку жыцця". Яе сімвалы – "востры нож", "цёплая кроў, адрэзаная галава ласяняці, усе ў крыві рукі мужчыны" ["Ласяня", 2, 65]. Гэта – на ўзроўні фізічнага існавання, барацьбы за выжыванне. Калі па Арыгену – дык на ўзроўні "першапачатковага", "аднолькавага" стану стварэнняў. На ўзроўні ж цывілізаванага быцця ў XX-м стагоддзі ў Беларусі – гэта сустрэча з выхадцамі з чалавечага стану ў стан "першапачатковасці" дзікай арды. Сімвал яе цывілізацыйнай дзейнасці – "спечаныя яблыкі на галінках", "белы, перамяшаны з дымам туман" [6, 47], вобраз самотнага падлетка над попелам бацькоў і сваёй хаты на хутары Амшарыку пад Налібакамі. Сімвалам беларускага лёсу ў XX-м стагоддзі стаў хатынскі помнік – бацька з забітым падлеткам на руках. Гэты сюжэт, увекавечаны С.Селіханавым у бронзе, упершыню быў створаны К.Чорным у рамане ваенных гадоў "Вялікі дзень".

Г. Далідовіч імкнецца ўзнавіць цэласную карціну духоўнага быцця. Яго творы нібы самі спалучаюцца ў цыклы, часцей за ўсё – у форме трыпціху. Аповесці "Юля" (1971), "Жаночае сэрца" (1975), "Жывы покліч" (1984) таксама могуць быць прачытаны як адзінае цэлае – як кніга лёсу сучаснай жанчыны. Цікавасць аўтара да асабістага жыцця, да культуры інтымных адносін нельга лічыць за адступленне ад сацыяльна значымай праблематыкі. Наадварот, інтымная сустрэча ёсць вынік і пачатак культуры грамадства ў цэлым. Матыў "яна і я" ў беларускай літаратуры разгортваецца на працягу стагоддзя, пачынаючы з аднайменнай паэмы Я.Купалы. Яго неаміфалагізацыя і сакралізацыя мае на мэце паказ тварэння першапачынальнікамі новага свету на руінах знішчанага жыцця. Вялікім крэатыўным сэнсам культуры інтымных адносін у XX – XXI стст. цікавіліся і філосафы. Праца Шапэнгауэра "Метафізіка палавога кахання" не страціла сваёй актуальнасці і ў наш час. Генрых Рыкерт (1863-1936) – адзін з заснавальнікаў неакантыянскай плыні ў філасофіі культуры, абстрагуючыся ад чыста біялагічнай, сацыяльна-этычнай і рэлігійнай санкцыяў кахання, пісаў у працы "Пра сістэму каштоўнасцяў": "Нас цікавяць цяпер толькі самі індывідуалізаваныя любоўныя адносіны ў сваёй самадастатковай сутнасці, і пры вытлумачэнні іх вялікае значэнне набываюць адносіны паміж бясконцай работай над будучыняй і тварэннем у сучаснасці". Мужчынскі клопат – вечна незаконченая праца розуму і рук над праектам будучыні. Характар жа жаночай існасці рэалізуецца ў сучаснасці. Толькі аб'яднаныя духоўнай сутнасцю ўзаемнага кахання мужчына і жанчына, паводле Г. Рыкерта, з'яўляюцца чалавекам (суб'ектам) поўным.

Паўнацэннае жыццядзеянне чалавека ў творах Г. Далідовіча пачынаецца з паглыбленага перажывання духоўнай блізкасці ў сферы інтымных адносін. Несумненным дасягненнем пісьменніка з'яўляецца раскрыццё ў чалавеку нязломнай патрэбы ў вяртанні да жыцця сапраўднага, да выпраўлення памылак, якія прывялі да непаразуменняў, разбурэння сям'і. На такое вяртанне здольны людзі чыстыя душою, якія ўмеюць ацэньваць сябе па вялікім рахунку чалавечнасці і ставіць перад сабой высокія патрабаванні. Юля з аднайменнай аповесці пасля разрыву з мужам не спакусілася выгодамі новага замужжа. Яе шчыра кахаюць ляснік, настаўнік, заляцаецца памаўзлівы сусед, дакарае маці: "Жыве, як старая

баба, хаваецца ад усіх" [3, 156]. Выйсці замуж без кахання Юля не можа. Недзе далёка ад дому пераасэнсоўвае і перажывае нанова ўсё Генадзь. Дом жа ў суседняй вёсцы стаіць пусты і занядбаны. Аповесць заканчваецца шчаслівай другой сустрэчай – "навекі зноў". Новае жыццё пачынаецца з вяртання ў свой дом. Юля перш за ўсё сцерла пыл з партрэтаў, запыленых так, што твараў не было відаць. Наступны сімвалічны акт – мыццё падлогі, якая, выцертая, "светла блішчала, ажно можна было глядзецца" [3, 206].

У крытыцы такія, без належнага псіхалагічнага абгрунтавання, сюжэтныя рашэнні выклікалі справядлівыя закіды: "У прымірэнні Юлі з Генадзем, – пісаў С.Адраюк, – шмат надуманага, літаратурнага. У развязцы адчуваецца зашмат саладжавасці" [17, 263]. У якасці частковага апраўдання можна сказаць, што пісьменнік выконваў задачу пошукавую, сцвярджаў аптымальны варыянт сродкамі ідыліі, гэта значыць – гіпатэтычнага мыслення, якое ў вераемным шукае рэальна магчымае. Аповесць "Юля" можна ўспрымаць як "казку жыцця".

Падобная калізія вырашаецца ў іншым ключы ў аповесці "Жаночае сэрца". Інспектар РАНА Міхаіл Іванавіч умее аказаць вельмі кваліфікаваную метадычную дапамогу і ацаніць па заслугах працу здольных настаўніц. На грунце ўзаемапаразумення ў яго склаліся вельмі блізкія адносіны з Антанінай Іосіфаўнай, але для яго ў гэтым была ўсяго толькі чарговая прыемная прыгода – пасля падобнай жа прыгоды з Вольгай Аляксандраўнай. Тут ужо замест ідылічнага фіналу раскрываецца прастор для паглыбленага пазнання маральнай дэградацыі чалавека на пасадзе.

Своеасаблівымі першапачынальнікамі чалавечага роду на спустошанай зямлі выступаюць Васіль і Яніна ў аповесці "Жывы покліч". Сярод поля яны спыніліся "*са страхам у душы*": фронт пасунуўся на захад, але "*на гэтым здзічэлым без людзей полі*" смерць пільнавала іх кожную ноч. Брат Яніны загінуў зусім не па-геройску. Ён і Яна ідуць у сваё агульнае жыццё з вялікім цяжарам ранейшых памылак, што засталіся ім у спадчыну, але ні ў Васіля ні ў Яніны не ўзнікла сумненне ў патрэбе сумеснага руху ў будучыню.

Пастаўленыя ў тэкст культурнай традыцыі, персанажы і сітуацыі ранняй прозы Г.Далідовіча раскрываюцца як сэнсаваёмкія сімвалы сучаснай філасофіі жыцця.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

Л І Т А Р А Т У Р А.

Творы Г.Далідовіча:

1. БНР і БССР: Роздум аб пакутным шляху беларускай дзяржаўнасці ў ХХ стагоддзі.— Мінск: "Пейто", 2002.
2. Дажджы над вёскай. Апавяданні. – Мінск: "Маст. літ.", 1974.
3. Цяпло на першацвет. Аповесці і апавяданні. – Мінск: "Маст. літ.", 1976.
4. Маладыя гады. Апавяданні, аповесць. – Мінск: "Маст. літ.", 1979.
5. Міланькі. Аповесці. – Мінск: "Маст. літ.", 1980.
6. На новы парог. – Мінск: "Маст. літ", 1983.
7. Станаўленне. Апавяданні і аповесць. – Мінск: "Маст. літ.", 1985.
8. Міг маладосці. Апавяданні. Аповесць. – Мінск: "Б-ка бел. Прозы", 1987.
9. Гаспадар-камень. Раман. – Мінск: "Маст. літ.", 1987.
10. Пабуджаныя. Раман. – Мінск: "Маст. літ.", 1988.
11. Свой дом. Раман. – Мінск: "Маст. літ.", 1999.
12. Жывы покліч: Выбранае. – Мінск: "Маст. літ.", 1995.
13. Жар кахання. – Мінск: "Маст. літ.", 1996.
14. Заходнікі: Раман. Аповесць. Апавяданні. – Мінск: "Маст. літ.", 1998.
15. Кліч роднага звона: Раман-хроніка. – Мінск: "Юнацтва", 2000.
16. Сярод лесу, сярод поля: Апавяданне-імправізацыя, лісткі запісных кніжак. – Мінск: "Кнігазбор", 2007.

Яўген Лецка



…Літаратуру нельга абмяжоўваць
паказам таго або іншага героя.
Яе задача — паказаць жыццё
ва ўсёй яго разнастайнасці і шматпланавасці…

# Зрухі жыцця і літаратуры

## *Творчы партрэт Вячаслава Адамчыка*

### Частка ІІ. Сталасць.

*Заканчэнне. Пачатак у №2 (51).*

З другой паловы 60-х гадоў беларуская, як, зрэшты, і ўся савецкая літаратура, відочна запавольвае тэмп развіцця, узяты гадоў дзесяць назад. Гэта асабліва адчувалася ў паэзіі, але на абмінула і прозы. Цікава, што якраз цяпер В. Адамчык выходзіў на шлях сталасці і мастацкай стабільнасці.

З адчування трывогі за стан беларускага апавядання вынікла дыскусія на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», якая 28 сакавіка 1969 года распачалася артыкулам В. Бурана «Вялікія праблемы малога жанру».

Варта адзначыць, што недахопы, пра якія гаварылі ўдзельнікі дыскусіі, напрыклад, І. Навуменка: «Адсутнасць роздуму аб працэсах, якія адбываюцца ў нашым сённяшнім жыцці, аб вядучых тэндэнцыях сучаснасці і адлюстраванні іх у літаратуры», найбольш адбіліся на творах, напісаных на гарачым матэрыяле сучаснасці, дзе падымаліся вострыя злабадзённыя праблемы. Прычына найперш была ў паступовым адыходзе ад прынцыпаў дэмакратызму, якія пачалі

ўсталёўвацца ў грамадстве ў постсталінскі перыяд. Але пра гэта ніхто з удзельнікаў дыскусіі не сказаў па вельмі простай прычыне, што такую праўду ў той час проста не дазволена было гаварыць з меркаванняў партыйнай і цэнзурнай, выбачаюся за слова, «этыкі». У грамадстве існаваў відочны раскол і гэтую асаблівасць можна было вызначыць па многіх выступленнях удзельнікаў дыскусіі. Тое, што з артыкула В. Бурана В. Адамчык «выпаў», цалкам зразумела і апраўдана пазіцыяй гэтага крытыка, яго шмат у чым рэгламентаванымі патрабаваннямі да героя навелістыкі. Ні слова пра гэтага празаіка не было ў артыкулах Я. Герцовіча і В. Поляка, пазіцыя якіх вызначалася відавочнай аднабаковасцю і звужанасцю.

Аднак у выступленнях большасці творчасць Адамчыка не толькі не замоўчвалася, а якраз і была падставай для разваг маштабнага характару, ставілася імі ў цэнтр развіцця тагачаснай беларускай навелістыкі, прызнавалася з’явай, на якую трэба раўняцца.

«Кароль Нябожа» В. Адамчыка, — пісаў Васіль Жураўлёў, — належыць да твораў, дзе ў форме звычайнай «бытавой» гісторыі ставяцца і вырашаюцца тыя адвечныя філасофскія і сацыяльныя пытанні аб жыцці і смерці, аб месцы і прызначэнні чалавека на зямлі, якія хвалявалі, хвалююць і, напэўна, ніколі не перастануць нас хваляваць.

Дык ці не занадта мы звужаем аб’ём і рэальныя граніцы малога жанру, калі часцяком адводзім для апавядання вельмі ўжо нязначную, элементарную функцыю ў пазнанні, мастацкім ахопе рэчаіснасці і духоўнага жыцця чалавека?» Пастаўленае пытанне нібыта заключае ў сабе і адказ, бо на прыкладзе згаданага твора крытык пераканаўча давёў, што ідэйна-эстэтычныя магчымасці «малога» жанру не такія ўжо і малыя.

Дзеля пацверджання сваёй канцэпцыі духоўнасці літаратуры на «Караля Нябожу» спасылаецца і В. Каваленка, пра духоўную сутнасць характару Мішкі Галубца гаворыць С. Андраюк, спыняючыся на апавяданні «Хата» як на удалым прыкладзе актыўна-творчага пераўвасаблення жыцця ў творчасць.

Гэты ж твор актыўна абжываецца і П. Дзюбайлам: «Жыццёвай шматграннасцю, якую нельга ўціснуць у пракрустава ложа звыклых літаратурных схем, вызначаецца, напрыклад, апавяданне В. Адамчыка «Хата». Высока ацэньваючы ўменне аўтара сказаць шмат у «сціслай, канцэнтраванай форме», крытык разам з гэтым папракае празаіка за неабавязковыя, на яго думку, падрабязнасці, якія сустракаюцца ў гэтым апавяданні.

У выступленнях большасці ўдзельнікаў дыскусіі творчасць В. Адамчыка разглядалася не так у сваіх самацэнна-мастацкіх якасцях, а як зачэпка і падстава дзеля пацверджання ўласных гіпотэз, высноў і меркаванняў. А. Яскевіч здолеў паяднаць адно з другім. Яго «Пахвала жанру» ўсім сваім пафасам была скіравана супраць запеўнага для дыскусіі артыкула В. Бурана, якога крытык абвінавачваў у звужаным поглядзе на адметнасць і задачы тагачаснай навелістыкі, бачыў прычыну гэтага ў ігнараванні змен, якія адбыліся ў гэтым жанры за апошнія гады. Датычыла сказанае як разумення сутнасці мастацкага характару, ці, як часцей тады называлі, героя, так і жанравай спецыфікі апавядання, карацей кажучы, ігнаравання нетрадыцыйнасці, наватарства. І галоўным доказам у спрэчцы быў «Дзікі голуб». «Як на першае беглае прачытанне, — піша крытык, — дык апавяданне Адамчыка здаецца раскіданым, несабраным у сюжэтным сэнсе. Але паспрабуйце «выраўняць» сюжэт, зняць лірычныя адступленні, абсекчы гэтае мноства жыццёвых сувязяў, што крыху цягнуць убок дзеянне, апусціць шматлікія падрабязнасці, якія існуюць у творы толькі дзеля настрою. Гэта будзе згубная для твора аперацыя, бо, можа, дзякуючы якраз гэтым падрабязнасцям і дадатковым планам расказаная пісьменнікам «крымінальная» гісторыя набыла істотнасць глыбокай чалавечай гісторыі, сутнасць якой — у вельмі ўважлівым падыходзе да самай малой дробязі жыцця,

у пільнай маральнай праверцы ўсяго, што адбываецца пры нас і вакол нас».

Вынікам дыскусіі было прысвечана пасяджэнне прэзідыума Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, на якім з дакладам выступіў І. П. Мележ — у той час сакратар Праўлення. Ён выказаў папрок у адрас саміх апавядальнікаў, якія не прынялі ўдзел у дыскусіі, што магло б яе ажывіць і канкрэтызаваць, хоць «агульнае ўражанне ад дыскусіі прыемнае...

Асабліва былі адзначаны, — працягваў пісьменнік, — поспехі маладзейшых апавядальнікаў. Шмат добрага, напрыклад, было сказана ў дыскусіі пра Вячаслава Адамчыка як пра арыгінальнага празаіка».

Выступілі на абмеркаванні і іншыя пісьменнікі, прычым досыць скептычна ацанілі вынікі дыскусіі. Ян Скрыган, цікавы празаік і не менш цікавы прафесійны «прачытальнік» літаратурнага тэксту, які тонка разумеў спецыфіку мастацкага твора, умеў разгадваць яго таямніцы, хоць у жанры крытыкі вельмі рэдка дзяліўся гэтымі «сакрэтамі» з чытачом. Гэтаксама і на старонках «ЛіМа» ў спрэчках не паўдзельнічаў, але пры падвядзенні вынікаў дыскусіі гаварыў занадта рэзка, па сутнасці, не толькі зводзіў на нішто выступленні яе ўдзельнікаў, але і адмаўляў магчымасці беларускай крытыкі весці адмысловы аналіз твораў. Пісьменнік адзначыў, што «ніхто не паглыбіўся ў сутнасць справы, што ўся далейшая (пасля артыкула В. Бурана. — *Я. Л.*) размова набыла дробны выпадковы характар, паказаўшы непадрыхтаванасць крытычнай думкі да такой важнай з'явы, як мастацкі аналіз, прычым аналіз не толькі формы, а ўсёй ідэйна-мастацкай думкі твора», абвінаваціў крытыкаў у тым, што яны не аналізавалі «стыль, почырк, інтанацыю, вобраз, паўзу, дэталь, пейзаж і іншыя кампаненты мастацкага твора, пры дапамозе якіх да чытача даносіцца яго змест, ідэя, сутнасць».

Крытычна паставіліся старэйшыя пісьменнікі да таго, што ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў дыскусіі была творчасць маладых празаікаў, у якіх, зазначыў А. Кулакоўскі, «часам пафас агульначалавечага выцясняе пафас сацыяльны», у сувязі з чым прамоўца гаварыў аб тым, «што крытыка наша часам траціць меру і задужа шчодра раздае пахвалы і кампліменты літаратурнай моладзі — замест таго, каб даць спакойную і цвярозую ацэнку зробленага ёю».

Янка Брыль паспрабаваў на стан беларускай навелістыкі зірнуць праз прызму класікі, перш за ўсё здаўна любімых ім (маецца на ўвазе творчасць) А. П. Чэхава і Л. М. Талстога. «Дык вось, — падсумоўваў прызнаны майстар малой формы, — калі гаварыць пра тое, што здрабнела наша апавяданне, дык перш за ўсё трэба сказаць, што, відаць, мы самі здрабнелі ў сваіх думках і пачуццях, сталі баязлівымі і не заўсёды апраўдваем сваё высокае званне...

Калі у пісьменніка няма бесперапыннага пошуку тэмы, пошуку форм, калі ў пісьменніка няма свайго стаўлення да рэчаіснасці, яму пагражае небяспека стаць рамеснікам».

Шырынёй погляду, клопатам пра беларускую літаратуру, пра яе стан і будучыню вызначалася і выступленне В. Адамчыка:

«Літаратуру, — выказваўся ён наконт адной з асноўных злабадзённых праблем, — нельга абмяжоўваць паказам таго або іншага героя. Яе задача — паказаць жыццё ва ўсёй яго разнастайнасці і шматпланавасці.

Іншая справа, што ўвага да так званага простага чалавека стала ў нас у апошні час своеасаблівай модай. Модай таму, што за гэтай быццам увагай няма глыбіні, няма шырыні погляду на жыццё ўвогуле. А без шырыні пісьменіцкага погляду на жыццё і людзей так званы просты чалавек ператвараецца ў творы ў прастакаватага чалавека».

Надрукаваныя ў той час у перыёдыцы творы В. Адамчыка былі глыбока прааналізаваны ў манаграфічным раздзеле «Апавяданне на сучасным этапе», напісаным В.Жураўлёвым для грунтоўнага акадэмічнага выдання «Беларуская савецкая проза.

Апавяданне і нарыс». Творамі Адамчыка, уласна кажучы, завяршалася асэнсаванне праблем развіцця жанру; такім чынам даследчык нібыта звязваў перспектывы развіцця навелістыкі з творчасцю менавіта гэтага пісьменніка.

Але здараліся і недарэчнасці. Тым больш прыкрыя. Маю на ўвазе даклад Праўлення СП БССР на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, з якім выступіў першы сакратар СП Максім Танк. У ім выступоўца адзначыў усе больш-менш прыкметныя раманы і аповесці, расказаў пра здабыткі ў жанры нарыса і публіцыстыкі, але ні словам не закрануў праблем, стану і тэндэнцый развіцця беларускай навелістыкі, нават не назваў пісьменнікаў, якія актыўна ў міжз'ездаўскі перыяд працавалі ў жанры апавядання. У гэтым факце яскрава выявілася даўняя завядзёнка ігнараваць здабыткі малой празаічнай формы, пра што, дарэчы, даволі шмат гаварылася падчас вядомай нам перадз'ездаўскай дыскусіі. Ды, як бачым, «воз» з месца не крануўся.

Але ашчэ большая прыкрая недарэчнасць утварылася ў дачыненні да зборніка В. Адамчыка «Дзікі голуб», які быў падрыхтаваны і здадзены аўтарам у выдавецтва «Беларусь», але атрымаў адмоўныя заключэнні і быў зняты з плана выданняў. На вялікае шчасце, былі тады яшчэ людзі не толькі з высокімі пасадамі і ўзнагародамі, але і з высакароднымі душамі, высокім усведамленнем свайго грамадзянскага абавязку перад роднай беларускай культурай. Такімі ў дачыненні да В. Адамчыка выявілі сябе народныя пісьменнікі Беларусі Міхась Лынькоў і Іван Мележ. Вось што пісаў апошні ў закрытай рэцэнзіі-водгуку (1971) для выдавецтва «Беларусь», крыху пазней (1975) абнародаванай у кнізе артыкулаў, эсэ, інтэрв'ю «Жыццёвыя клопаты» (пасмяротна) лаўрэат вышэйшай у Савецкім саюзе Ленінскай прэміі Іван Паўлавіч Мележ:

«Аўтар кнігі «Дзікі голуб» Вячаслаў Адамчык звярнуўся да мяне як да празаіка з літаратурным вопытам і сакратара Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР з просьбай прачытаць яго кнігу і памагчы ў яе далейшым лёсе.

Да зборніка прыкладзены два водгукі, зусім процілеглыя, — Івана Кудраўцава і Міхася Лынькова, што рэкамендуе кнігу В. Адамчыка да выдання».

Далей І. Мележ прыступае да канкрэтнага разгляду зместу. Яго аналіз, вельмі тонкае, пранікнёнае і глыбокае разуменне сутнасці твора, індывідуальнай манеры мастака, бескампраміснасць ацэнак, шчырасць і дакладнасць пазіцыі, непрымірымасць да фальшу — могуць быць высокім прыкладам для крытыкі на ўсе часы.

«Вячаслаў Адамчык — не толькі таленавіты пісьменнік, але — гэта трэба сказаць таксама — нялёгкі і няпроста пісьменнік. Чытачу, які звык глядзець на літаратуру як на простую арыфметыку, — гэтая кніга можа аказацца цяжкаватай.

Праўда, — развівае Мележ думку, — і ўлічваючы тое, што В. Адамчык — пісьменнік няпросты, тонкі, не магу зразумець, як можна было, прачытаўшы кнігу, напісаць тое, што напісаў І. Кудраўцаў: нібы ў кнізе В. Адамчыка «знік мастак». Калі не тое што кожная старонка, кожны абзац паказвае: аўтар яе — мастак, мастак сапраўдны.

Цяжка зразумець, як можна было напісаць, што ў апавяданнях В. Адамчыка «не атрымліваецца цэласнай карціны... твор распадаецца на ўдала напісаныя сцэны, эпізоды... твор не выратоўваюць вельмі выразныя бытавыя дэталі, запамінальныя замалёўкі. Яны толькі штрыхі, мазкі, эцюды да карціны, а дзе сама карціна?.. Карціну, — слушна зазначае І. Мележ, — В. Адамчык піша гэтымі самымі мазкамі, дэталямі і піша, трэба сказаць, па-майстэрску. Ярка, дакладна, так, што ўсё бачыш, нібы яно праходзіць перад вачыма. Аўтар проста здзіўляе шчодрасцю жывапісу...

Мае права на таварыскую ўвагу і падтрымку і В. Адамчык, вядома, зусім на іншую, чым «падтрымка», якую ласкава аказвае І. Кудраўцаў. Падтрымаць В.Адамчыка трэба ў імя таго, што ён зрабіў і што зробіць для нашай літаратуры.

А зрабіць ён зможа нямала», — такімі словамі глыбокай веры ў талент маладога празаіка закончыў свой водгук і адначасова грунтоўны разгляд творчасці празаіка І. Мележ.

Я знарок вылучыў у мележаўскім тэксце найбольш вызначальныя для творчасці В. Адамчыка месцы, хоць, зразумела, каб па-належнаму ацаніць значнасць і трапнасць характарыстык народнага пісьменніка, трэба прачытаць не толькі прыведзеныя тут мясціны, а ўвесь, надрукаваны ў «Жыццёвых клопатах», водгук.

Пасля такой ацэнкі не толькі ў межах Беларусі, але і ў агульнасаюзных абсягах славутага пісьменніка кніга В. Адамчыка лёгка пераадолела выдавецкія патырчакі і выйшла да чытача.

А што далей? Здавалася б, крытыка павінна была ўстрапянуцца і радасна прывітаць перамогу здаровага сэнсу над цемрашальствам. Ды не — прамаўчала-праспала. Адзіная, што з'явілася, счакаўшы год пасля выхаду, была невялікая рэцэнзія Янкі Казекі, аўтара вопытнага, сталага і кваліфікаванага, у набытку якога былі цікавыя і арыгінальныя артыкулы і рэцэнзіі. І на гэты раз матэрыял быў напісаны з веданнем справы, хоць яго і не аднясеш да адназначных удач крытыка. Гэта, хутчэй, своеасаблівы разгорнуты водгук на кнігу, якая, калі меркаваць па тону рэцэнзіі, напісана ў асноўным сумленнай і таленавітай рукой, але нічым асаблівым не вылучаецца на агульным літаратурным фоне. Крытык адзначыў, што ў зборніку ёсць «некалькі апавяданняў, напісаных з добрым веданнем штодзённага людскога побыту, з глыбокай зацікаўленасцю да лёсаў людзей, з тонкім адчуваннем настрою, перажыванняў герояў», указаў на іх прывязку да Навагрудчыны, «дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады пісьменніка», а потым добрасумленна пераказаў змест і праблематыку «Дзікага голуба» і «Пагарэльцаў», пахваліў багатыя на тонкія, дакладныя псіхалагічныя дэталі апавяданні «Там, на хутары», «Два злоты», дадаў, што «запыняюць увагу чытача многія эпізоды ў апавяданнях «Кароль Нябожа» і «Хата» — іх напісаў удумлівы мастак», крытычна зірнуў на «Калі ападае лісце» і ў заключэнне адзначыў: «Там жа, дзе пісьменнік ідзе ад уласных назіранняў, ад свайго вопыту, за яго словам бачыш жывыя аблічы людзей, рэальныя праявы жыцця, запамінальныя характары: там яго чакаюць цікавыя мастацкія адкрыцці».

У час, калі пісалася апавяданне «Дзікі голуб», літаратараў усё больш настойліва пачынала цікавіць у чалавеку своасаблівае, непаўторнае, чым ён вылучаецца сярод іншых людзей, аб'ёмнае выяўленне характару, а не толькі, скажам, тое, як ён выконвае свае вытворчыя абавязкі, паводзіць на службе, адносіцца да грамадскіх абавязкаў і даручэнняў. Чалавек як загадка і таямніца, феномен, як вялікі і своеасаблівы, складаны і супярэчлівы жыццёвы свет, які не выпадае мераць і ацэньваць па нейкіх стандартных, агульнапрынятых, абавязковых для ўсіх і кожнага нормах, — вось што ляжала ў аснове мастацкага тыпу, новага для літаратуры характара.

Вобразамі дзівакоў, ці, кажучы мовай арыгіналу, «чудиков», «чудаков», рускую літаратуру ўскалыхнуў Васіль Шукшын. Дзіваватасць уласціва і некаторым персанажам Вячаслава Адамчыка. Але перад намі не арганічна ўнутранае, а хутчэй знешняе, вонкавае падабенства. У адрозненне ад рускага пісьменніка, які дэманструе, знарок вылучае дзівацкае ў чалавеку, робячы яго дамінантай у самавыяўленні вобраза, публіцыстычна завастраючы права на яго «месца пад сонцам», беларускі празаік заглыбляецца ў чалавечую сутнасць і паказвае яе знутры, вонкава нідзе не падкрэсліваючы дзівацтвы Марціна Дзікуця. Іншыя, адрозныя ў гэтых празаікаў і прынцыпы стварэння, «лепкі» мастацкага вобраза.

Апавяданне «Дзікі голуб» уяўляе сабой нібы два колы — вялікае, якое ў сваім мастацкім абсягу ўвасабляе думку пісьменніка пра неабсяжнасць, усеабдымнасць жыцця, сусвету, і малога, у сярэдку якога знаходзіцца чалавек з уласцівай яму неспазнанасцю, загадкавай таемнасцю. Пры гэтым чалавек не проста часцінка сусвету, а роўназначная з ім жыццёвая каштоўнасць — калі індывід гвалтоўна гіне, тады

і сусвет, фармальна застаючыся ўсё такім сама бязмежна вялікім, якасна бяднее, страчвае ў сабе штосьці істотна важнае, непаўторнае, у выніку чаго парушаецца прыродная суразмернасць, цэласнасць і гарманічнасць.

Перад намі на першы погляд просты не толькі паходжаннем, месцам у жыцці, характарам, але калі ўважліва прыгледзецца і раздумацца, досыць складаны і супярэчлівы чалавек. Аўтар не ідэалізуе і не асуджае свайго персанажа, а імкнецца спасцігнуць ягоную душу, разабрацца, хто ён такі, што сабой уяўляе як асоба, як індывід. На прыкладзе гэтага нестандартнага персанажа сцвярджаюцца прынцыпы гуманізму, тое, чым заўсёды была моцнай беларуская літаратура з яе ўвагай да так званага "простага" чалавека, у якога, аднак, ёсць свой унутраны духоўны свет. Мімаходзь зробленая ў пачатку апавядання заўвага пра Дзікуця як абібока і гультая насамрэч адпавядае сапраўднасці: у яго ні ў хаце, ні за хатай парадку няма. Бесгаспадарчасць героя падаецца аўтарам цалкам аб'ектывізавана, але без прыкметнага асуджэння, іроніі, насмешкі, здзеклівасці, бо сэнс твора заключаецца не ў вузкапрыкладным, сацыялагічным, павучальна-бытавым значэнні, а ў высокім гуманістычным, маральна-этычным пафасе, перад якім пабытавыя «ісціны» адступаюць на задні план. Ды і навошта яго, Марціна Дзікуця, асабліва моцна і зацята асуджаць за яго жыццёвую неўладкаванасць, калі больш, чым хто, ён сам сябе карае сваім напоўненым трагізмам лёсам. Не па-пракурорску асуджаць, а пашкадаваць такога чалавека і шчыра паспачуваць яму трэба. Менавіта ў сцвярджэнні гэтага бачыцца нам сутнасць маральна-этычнай пазіцыі апавядальніка. Таму ніяк не можам пагадзіцца з ацэнкай гэтага вобраза і апавядання ўцалку, выказанай на старонках шматтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя. Кніга першая», (Мінск «Беларуская навука», 2004, с. 528) акадэмікам В. А. Каваленкам у манаграфічным раздзеле, прысвечаным жыццю і творчасці Вячаслава Адамчыка: «Аднак менавіта ў апавяданні «Дзікі голуб» В. Адамчык, кіруючыся нейкім праніклівым адчуваннем сутнасці падобнага тыпу, якім быў Марцін Дзікуць, асмельваецца на абагульненне-вобраз, у якім перадаюцца горшыя рысы мясцовых людзей, а, магчыма, яшчэ шырэй — усіх беларусаў, вылучаючы «нядбайнасць да сябе»...

Пакуль што не даю тут агульнай ацэнкі раздзела Віктара Каваленкі пра Вячаслава Адамчыка ў гісторыі беларускай літаратуры, бо размова пра раманы пісьменніка наперадзе. Што ж датычыць навелістыкі, то яе прачытанне нібыта на акадэмічным узроўні выклікала непаразуменне і здзіўленне, бо цэласнага асэнсавання зробленага празаікам у гэтым жанры тут проста няма — гэта ўсяго толькі некалькі фрагментаў пра асобныя апавяданні без уліку таго, як ішло яго станаўленне як навеліста. І, уявіце сабе, ва ўсім раздзеле няма ніводнай (!) спасылкі на іншых даследчыкаў. Свядома гэта зроблена ці незнарок, але выглядае, што пра творчасць В. Адамчыка, апрача самога Каваленкі, больш ніхто і не пісаў. А гэта ж зусім не так, бо і па гэтым матэрыяле чытач мае магчымасць пераканацца, што, наадварот, пісалі шмат і, побач з прахаднымі матэрыяламі «з нагоды» было нямала высокапрафесійных (І. Мележ, І. Навуменка, Р. Шкраба, С. Андраюк, А. Яскевіч, У. Юрэвіч і іншыя), дзе зроблена шмат трапных назіранняў і высноў, без уліку якіх проста немагчыма стварыць цэласны і аб'ектыўны партрэт празаіка, вызначыць уклад пісьменніка ў родную літаратуру.

Аднак вернемся да «Дзікага голуба». (...) Апавяданне кампазіцыйна разгортваецца нібы ў трох планах: гэта, па-першае, непасрэдна чалавечае, прыроджанае выяўленне жыццёвай сутнасці персанажаў, потым іх уключэнне ў падзеі і канфлікты вялікай сацыяльнай значнасці і, нарэшце, як выніку ўсяго папярэдняга, як своеасаблівы знак-папярэджанне — праекцыя жыццёвага зместу на сусветныя, «касмічныя» праблемы. Ёсць у апавяданні выдатна абмаляваная карціна граду, якая пры ўсёй яе канкрэтнасці набывае сімвалічнае гучанне: «Я падняў галаву і ўбачыў: над мястэчкам стаяла цёмная хмара з папяловымі краямі — кругом зрабілася сцішана і жаўтавата, як на шарай гадзіне, і стаяла духата, як накінулі на

цэлы свет радзюжку. Хмара, варочаючыся клубкамі, ішла сюды, процi ветру: над мястэчкам каля шашы ўставалі аж да неба жоўтыя косы пылу...

Хмара ішла пры самай зямлі — там нешта шумела, гуло, як гарачыя каменні ў дзежцы з вадою. Ужо не было відаць местачковых хат, алешніку на поплаве — там стаяла шэра-жоўтая сцяна. Толькі два галубы, кідаючыся ў бакі, ляцелі туды, дзе яшчэ, як радасць, сярод цёмных хмар яснела неба.

Холадам у мяне па спіне прабег страх — я кінуўся пад Марцінаву хату, а за мною вецер каціў па ржышчы бярэмя скошанага гароху.

А там, над мястэчкам, над поплавам грымела, раўло, нібы ламалася і падала на зямлю вялікімі крыгамі неба. Мне зрабілася страшна: я ўспомніў, — казала маці, — што калі на зямлю ўпадзе хмара, то на тым месцы паўстане мора».

Чытаем дзеля эканомнасці фрагментарна пададзеныя эпізоды вельмі цэласнай карціны і міжволі згадваем «Суд у Слабадзе» і «Неруш» В. Казько — творы, дзе драматызм у бачанні сучаснага жыцця набывае больш паслядоўнае ўвасабленне, пранізвае названыя аповесць і раман, складаючы істотны момант паэтыкі празаіка. У творчасці ж В. Адамчыка такія абагульнена-сімвалічныя эпізоды хоць і рэдкія, але таксама шматзначныя, у мастацкіх адносінах цэласныя и арганічныя для беларускай літаратурнай традыцыі, якая ў сваіх вызначальных тэндэнцыях ніколі не адрывалася ад зямных асноў, не рабіла прыём самамэтай.

Разам са смерцю Дзікуця ў памяці героя-апавядальніка ўсплывае і крыху пазнейшае, тое, як згаладнелы без гаспадара Марцінаў сабака разарваў ягнё, а яго дошкай па галаве біў раз'юшаны Клемус Война, які ў нашых вачах вырастае да сімвала жыццененавісніка, знішчальніка ўсяго жывога, у чым ён бачыць небяспеку для сябе і набытага праўдай і няпраўдай багацця.

Такія апавяданні, як «Дзікі голуб», з'яўляюцца вяршыннымі дасягненнямі не толькі ў творчасці В. Адамчыка, але і ўсёй беларускай навелістыкі.

Шчыльная канцэнтрацыя жыццёвага зместу, уменне не толькі выявіць характар чалавека ў нейкай адной праяве, праз асобны эпізод, дэталь, але і ўзнавіць на паперы ўвесь яго лёс, цесна паяднаны з доляй народа, значна пашыраюць і ўзбуйняюць жанравыя магчымасці апавяданняў — яны часам нагадваюць сабой спрасаваныя да мінімальных памераў раманы.

Магчыма, у гэтым выяўлялася тагачасная ўстаноўка на раман, над якім пісьменнік працаваў паралельна з навеламі, задоўга да выхаду зборніка «Дзікі голуб», пра што можна здагадацца па вядомых нам «Крэсках з аўтабіяграфіі»: «Я думаў і думацьму пра тое, чаму асталося восем мільёнаў беларусаў, а іх было больш дзесяці яшчэ тады, калі слынны чалавек з-пад Наваградка, чытаючы курс лекцый у Каледж дэ Франс у Парыжы, гаварыў пра найкепную прастату нашае мовы.

Я хачу гэта зразумець: для сябе і для другіх. Пра што і будзе свая кніга».

«Крэскі...», як памятаем, пазначаны датай 17 ліпеня 1967 года. «Дзікі голуб» выйшаў у 1972-м. Значыць, над будучым раманам пісьменнік працаваў больш дзесяці гадоў, паралельна з навеламі, што ўвайшлі ў зборнік «Дзікі голуб». Зусім верагодна, што вопыт раманіста, які набываўся аўтарам у гэты час, уплываў на жанравую адметнасць навел. Разгледзім апавяданне «Хата». Перад намі нібыта звычайны будзённы выпадак, звязаны з тым, што герой апавядання пераязджае жыць у горад, родная хата застаецца пустой, яна яму становіцца непатрэбнай і, каб пазбыцца лішняга клопату (будынак патрабуе догляду) Мішка Галубец вырашае яе прадаць. У пераказе так выглядае, што нібыта і пісаць тут няма пра што. Прадаў — і такой бяды: спажывай атрыманыя грошы і жыві на здароўе! Ды не, выяўляецца, не ўсё так проста, бо хата — гэта не проста будынак, месца часовага пражывання, як, скажам, гарадская кватэра, з якой жыхары, здабываючы прастарнейшую, выгаднейшую, у лепшым месцы — з лёгкай душой развітваюцца. Не: хата і кватэра зусім розныя рэчы. Хата — гэта своеасаблівы мікрасвет, неадлучна

звязаны з наваколлем, з памяццю рода, з традыцыямі, звычаямі, культурай, мовай менавіта гэтай мясцовасці.

Пачаўшы чытаць апавяданне, звярніце увагу на тое, якая ўчэпістая на дэталі у пісьменніка памяць, што, нібы найноўшая апаратура спецпрызначэння, фіксуе драбніцы рэчаіснасці. Аднак пісьменнік зусім не проста так дэманструе свае да гэтага здольнасці, а перадае такім чынам растрывожаны стан душы героя, Мішкі Галубца, які прыехаў апошні раз у асірацелую хату, каб назаўсёды развітацца з ёю, прадаўшы першаму лепшаму, у гэтым выпадку Самусю Дзедзічу — кавалю з суседняй вёскі. Перад намі хутчэй той, каго мы называем адмоўным персанажам, хоць, трэба зазначыць, у празаіка няма кантраснага падзелу людзей на добрых і дрэнных, няма размежавання фарбаў, якімі ён абмалёўвае мастацкія вобразы, на светлыя і змрочныя, бо ў звычайных людзей усё нашмат складаней, тут замест кантрастаў пераважаюць светацені. Гаворка, яшчэ раз падкрэслім, пра людзей нармальных, а не пра якіх рэцэдывістаў, закаранелых злачынцаў, якія аддалі сваю душу д'яблу і знелюдзелі. Асаблівых сімпатый да сябе Самусь Дзедзіч не выклікае. Выбар такога персанажы дазволіў празаіку абвастрыць душэўны стан і боль у прынцыпе харошага, хоць і зусім не ідэальнага, хлопца Мішкі Галубца, які назаўсёды вымушаны развітацца з родным, дарагім і блізкім, увасабленнем чаго выступае хата, але насамрэч усё шырэй і складаней. Бо гэта яшчэ і развітанне з тым, што называецца малой радзімай. Такім чынам тут праглядваецца матыў, які стане вызначальным у рамане пісьменніка «Чужая бацькаўшчына».

Канкрэтны факт продажу хаты празаік здолеў узняць на вышыню значнага мастацкага гучання, агульначалавечага, агульнанацыянальнага напаўнення. Абвастрылася сацыяльная думка пісьменніка, набыла большую грамадзянскую пэўнасць і значнасць: за, здавалася б, прыватным выпадкам бачыцца адкрыццё тыповага для нашай вёскі працэсу, які тады толькі ўгадваўся, прадчуваўся, а вялікай агульнадзяржаўнай праблемай стаў у нашы дні, калі на кожным кроку можна ўбачыць асірацелыя, з пазабіванымі вокнамі вясковыя хаты, а ў тых, дзе яшчэ цепліцца жыццё, пераважна пазаставаліся пажылыя нямоглыя людзі, якія патрабуюць догляду і ласкі да сябе.

А цяпер прапаную ўважліва прачытаць невялічкі фрагмент апавядання; яго можна ўспрымаць як заключны акорд твора:

«Убіралася ў сілу вясна — цвіў куст агрэсту за плотам. Бабы, не акрыўшыся, з голымі рукамі, насілі на каромыслах ад калодзежа поўныя, як вока, вёдры, Адна з іх спынілася каля хаты, не ставячы на зямлю вёдры, загаварыла да мужчын — тыя зарагаталі на страсе. Яна засаромелася гэтага рогату, апусціла галаву і, гледзячы ў цёмныя, пустыя вокны, сказала сама сабе: «Вот і зваліся Галубцы ў нашай вёсцы...» — і пайшла сагнуўшыся, — вада бліскала ў вёдрах і выплюхвалася на дробную траву».

Тут, з аднаго боку, мы бачым вясновае абуджэнне жыцця пасля зімовага здранцвення-сну, калі ўсё прыходзіць у рух, набірае новую сілу і паўнату, адкрытасць, разняволенасць, выклікае радасць, але танальнасць мяняецца, калі адна з жанчын з паўнюткімі, як вока, вёдрамі вады ў аголеных руках падыходзіць да прададзенай гаспадаром хаты. Яна — натура тонкая, куды больш далікатная за мужчын, што рагочуць, разбіраючы страху (для іх гэта звыклая будзённая праца і толькі), а для яе адчуванне і прадчуванне чагосьці сумнага, невясёлага. Звярніце, шаноўныя, увагу, як гэта паўплывала на яе стан — «пайшла сагнуўшыся», якую сімвалічна-сэнсавую афарбоўку набывае дэталь.

Трывога і боль галоўнага героя апавядання Мішкі Галубца не дэкларуюцца, нават не называюцца, але імі напоўнена апавяданне, пранізаны яго асобныя дэталі. Мішка Галубец — тыповы прадстаўнік пакалення, чыё маленства прыпала на ваеннае ліхалецце. У яго, як і ў многіх ягоных равеснікаў, вайна забрала бацьку і ён

спаўна спазнаў горкі смак сіроцтва: жыў з маткай у хлевушку, бо хата згарэла, мерз і галадаў, з восьмага класа перавёўся ў вячэрнюю школу і пайшоў на свой хлеб, нялёгкі і несалодкі. Падобная доля была і ў аўтара, пра што ён напісаў у «Крэсках з аўтабіяграфіі». Потым у Мішкі была вучоба ў мараходцы, плаванне, вяртанне да хворай маці, праца электраманцёрам. Карацей, сам, без анічыёй дапамогі, прабіваў сабе дарогу ў жыццё і гэта не можа не выклікаць нашых сімпатый да яго.

Апавяданню ўласціва эканомнасць пісьма, уменне некалькімі штрыхамі схапіць сутнасць чалавека, эпізадычнага для твора персанажа. Усяго некалькі абзацаў прысвечана настаўніку Грыцу, а перад намі, як жывы, паўстае вобраз інтэлігента з народа, які не парваў сувязі з асяроддзем, якое яго нарадзіла і ўзгадавала. Гэта ж можна сказаць наконт стварэння вобраза Ладака Аўсяніка, паводле аўтарскай атэстацыі «невысокага булаватага мужчыну», з якім Мішка сустракаецца на вечарынцы. Усяго два сказы аўтару спатрэбілася, каб у агульных абрысах абазначыць цікавы і арыгінальны характар: «Ладак быў самы дужы ў вёсцы чалавек — адзін за тоўсты камель паднімаў дзеравіну, а на вечарынках любіў разбараняць хлопцаў, насіў іх, п’яных, дамоў або ўгаворваў у цемнаце каля плота. Але сам ніколі не біўся, быў ціхі і сарамлівы, як дзіця ў чужых». Падобнымі ж скупымі, але ёмістымі па мастацкаму напаўненню шрыхамі абмалёўваюпца вобразы звекавелай у дзеўках Сабіны, нямой дзяўчыны, дзелавога Рэдзькі.

Праз успаміны Мішкі Галубца, праз яго эмацыянальныя перажыванні апавяданне набывае рухомую плынь жыцця, настраёва афарбаванага сумам па тым, што назаўжды знікае і не заўсёды мяняецца на лепшае. Нягледзячы на гаротнае сірочае маленства, цяпер, калі даводзіцца абрываць карані з родным кутом, смуткам і жальбою перапаўняецца Мішкава душа, пратэстуе і заходзіцца ў маўклівым плачы па тым, што самахоць асуджаецца на разбурэнне і забыццё. Менавіта такім настроем пранізана карціна продажу хаты, а таксама наведванне вечарынкі — і моладзі вельмі паменшала, і няма ўжо гармоніка з бубнам, на якім так лоўка ўмеў выбіваць рытмы Мішка, і танцы пад радыёлу зусім не тыя. Але маладзейшым, што прыйшлі на змену пакаленню Галубца, усё здаецца нармальным і звыклым.

«Апавяданне «Хата» было напісана да таго, калі з глыбінь народнага жыцця ўзнялася магутная хваля рускай «вясковай» прозы, што абудзіла вакол сябе шумлівыя гаворкі, выкліканыя трывогай за маральна-этычны, духоўны стан грамадства, да славутай аповесці Валянціна Распуціна «Развітанне з Мацёрай», іншых выдатных твораў, якімі руская проза здолела актыўна сябе сцвердзіць не толькі ў агульнасаюзных маштабах, але і ў сусветным літаратурным кантэксце.

Сказанае зусім не значыць, што беларуская проза, у дадзеным выпадку навелістыка, выявіла сябе слабейшай за рускую. Але нашы пісьменнікі былі прадстаўлены самі сабе, без належнага крытычнага забяспячэння, адсутнасці як зацікаўленых, высокакваліфікаваных крытыкаў, даследчыкаў, так і органаў друку, якіх у Расіі было ў дзесяткі разоў больш. А да гэтага трэба дадаць і магутны партыйна-адміністрацыйны рэсурс, сродкамі якога прапагандавалася, нават сілком навязвалася, як тады лічылася, самая перадавая літаратура свету, усяму сацлагеру, краінам так званай народнай дэмакратыі.

Беларускае пакаленне шасцідзесятнікаў спакваля займала вядучыя пазіцыі ў тагачасным літаратурным працэсе. На пачатку васьмідзесятых узнікла патрэба асэнсаваць створанае на акадэмічным узроўні. На добры лад, варта было б такую працу даручыць кваліфікаванаму зацікаўленаму спецыялісту. Але падабраць такога адмыслоўца было не проста, патрэбен быў знаўца як прозы, так і паэзіі адначасова. Ідэальнай кандыдатурай мог быць прафесар Брэсцкага педуніверсітэта Уладзімір Калеснік, паводле майго меркавання, тады постаць нумар адзін у літаратуразнаўстве. Аднак у Акадэміі навук, у інстытуце літаратуры да яго адносіліся досыць стрымана, рэўнасна. Сярод сваіх акадэмічных нас панавала размежаванне па профілю:

адны спецыялізаваліся на прозе, іншыя на паэзіі, што натуральна, як і падзел пісьменнікаў на празаікаў, паэтаў, драматургаў і крытыкаў. З улікам наяўных сіл у сектары сучаснай літаратуры, мяркую, найбольш прыдатна было б даручыць выкананне абагульняючай працы двум высокакваліфікаваным адмыслоўцам, адзін з якіх, Варлен Бечык, спецыялізаваўся на паэзіі, больш таго, быў у яе горача закаханым, а другі, Серафім Андраюк, мог кваліфікавана асэнсаваць прозу. Яны былі блізкімі па поглядах на літаратурны працэс, па сваёй грамадзянскай пазіцыі, а таму праца, выдадзеная асобнай кнігай, успрымалася б цэласнай манаграфіяй пра на той час ужо сярэдняе пакаленне. Але начальства пайшло найлягчэйшым, але не самым плённым і эфектыўным шляхам: вырашылі пра найбольш відных прадстаўнікоў філалагічнага пакалення напісаць асобныя нарысы. Праблема заключалася ў тым, хто трапіць у спіс абраных на годнасць быць «увекавечаным» асобнай кніжкай-даследаваннем. Выкананне калектыўнай тэмы меркавалася ў два заходы: пасля напісання запланаванага нарыса пра жыццё і творчасць вызначанага пісьменніка, вызвалены супрацоўнік павінен быў узяцца за іншага. Ды тут атрымалася непрадбачнае. Але пра гэта крыху пазней. У кагорту першых, мяркуй найлепшых, трапілі, бясспрэчна, тыя, хто ўжо набыў вядомасць у чытача, сфармаваўся як творчая індывідуальнасць. Немалаважным на той час фактарам была і партыйная прыналежнасць, хоць адступленне ад гэтага вызначальнага для савецкага грамадства прынцыпу, хочаш ці не, а ў дачыненні да людзей творчых, таленавітых, даводзілася рабіць. Бо як, скажам, было абыйсці У. Караткевіча, калі ў яго ўжо тады была найбольшая з усяго пакалення папулярнасць...Безумоўна, спіс фармаваўся і ўзгадняўся паміж дырэктарам інстытуту В. Каваленкам, які перад заняццем высокай пасады тэрмінова аформіў сваё членства ў КПСС, і сакратаром партыйнай арганізацыі П. Дзюбайлам: ён адначасова быў загадчыкам сектара сучаснай літаратуры, дзе запланаваная тэма выконвалася. У выніку розных пертурбацый і ўзгадненняў персаналіі і выканаўцы былі прадстаўлены наступным чынам. Падаю згодна з алфавітам прозвішчы кандыдатаў на «увекавечванне», а побач, у дужках, пазначаны выканаўцы, гэта значыць аўтары будучых нарысаў:

1. Вячаслаў Адамчык (Яўген Лецка)
2. Рыгор Барадулін (Любоў Гарэлік)
3. Генадзь Бураўкін (Марына Барсток)
4. Анатоль Вярцінскі (Варлен Бечык)
5. Уладзімір Караткевіч (Анатоль Верабей)
6. Іван Пташнікаў (Серафім Андраюк)
7. Барыс Сачанка (Лідзія Савік)
8. Янка Сіпакоў (Антаніна Лысенка)
9. Іван Чыгрынаў (Таіса Грамадчанка).

Дасведчаны у гісторыі пасляваеннай літаратуры чытач напэўна здзівіўся, не ўбачыўшы ў спісе прозвішчаў на той час з філалагічнага пакалення адных з найбольш вядомых — Ніла Гілевіча і Івана Навуменкі. А мо нават і западозрыў, што гэтыя салідныя заслужаныя людзі ў момант складання спісу чымсьці не дагадзілі ўладзе. Ды не — паводзілі яны сябе ва ўмовах сістэмы як належыць. Іх кандыдатуры, калі можна так сказаць, ад інстытута літаратуры перахапіў Белдзяржуніверсітэт, дзе яны тады працавалі. Учынак, здавалася б, правільны: іх там добра ведалі, а на філфаку працавала некалькі вопытных даследчыкаў літаратуры, якім, так мовіць, і карты ў рукі. Аднак выбар быў зроблены не найлепшы. Пра абодвух нацыянальна каларытных, выдатных знаўцаў роднай мовы, фальклору, традыцый і абрадаў (апошняе найбольш датычыць Ніла Гілевіча) узяўся пісаць Георгій Сіненка. Адгортваем на адпаведнай старонцы Т. 5 шасцітомнага бібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» і чытаем:

«Сіненка Георгій Дзмітравіч нарадзіўся 9.II.1923 г. у вёсцы Сватава Варашы-

лаўградскай вобл. на Украіне. Яго бацька быў патомным чыгуначнікам, інжынерам-эканамістам. Дзіцячыя гады Г. Сіненкі прайшлі ў прыгарадзе Харкава на станцыі Аснова, дзе ён скончыў у 1941 сярэднюю школу». Потым быў Казахстан, ваенна-пяхотнае вучылішча, удзел у баях на Калінінскім фронце, вучоба пасля вайны на рускім аддзяленні філфака Харкаўскага ўніверсітэта. У 1950 г. накіраваны на працу ў Беларусь. Працаваў у школе, потым, скончыўшы аспірантуру, выкладчыкам, дацэнтам кафедры рускай савецкай літаратуры. Галоўная сфера навукова-літаратуразнаўчай зацікаўленасці — творчасць Фёдара Гладкова. Хоць чалавек пражыў у Беларусі вунь колькі гадоў, але наша мова, культура і літаратура былі яму далёкія. Узнікае пытанне: чаму і навошта было даручаць менавіта яму пісаць кнігі пра нацыянальна самабытных, бяспрэчна таленавітых пісьменнікаў. І які ж вынік? Амаль такі, як у В. Адамчыка ў апавяданні «Млечны шлях» на тых старонках, дзе ён паспрабаваў апісаць казахскі стэп — яму далёкае, чужое і незразумелае жыццё. Дык там сапраўды выдатны мастак здзейсніў своеасаблівы эксперымент усяго на некалькіх старонках тэксту. А тут? Выйшла дзве не такія і тонкія памерам кнігі пра лепшых беларускіх пісьменнікаў, а пра тыя даследаванні, калі верыць таму самаму шасцітомнаму слоўніку «Беларускія пісьменнікі», нават і слова не было прамоўлена на старонках беларускай, а тым больш агульнасаюзнай перыёдыкі: проста кнігі не мелі ніякага крытычнага і літаратурна-грамадскага рэзанансу. Напісаныя па-руску, потым, мабыць, машыністкай перакладзеныя на беларускую мову, яны цяжка чытэльныя і нецікавыя ні даследчыкам, ні звычайным аматарам. Дык навошта ганьба, марнаванне фінансавых сродкаў, а заадно дэманстрацыя амаральнасці? Дзеля славутай галачкі, што вось, бачыце, які ў нас вялікі клопат пра нацыянальную літаратуру, як мы імкнемся падтрымаць і заахвоціць да творчасці таленавітых пісьменнікаў? Ці ўвогуле тут штосьці яшчэ больш пачварнае, недарэчнае і шкоднае з загадзя спланаванай акцыяй па дэскрыдытацыі беларушчыны, свядомым намерам адбіць у чытача любоў да роднай мовы і літаратуры?!.

Да другой чаргі напісання нарысаў пра пісьменнікаў філалагічнага пакалення ў інстытуце літаратуры так і не дайшло. Больш за тое, калі ўжо завяршылася напісанне прац першай раты, раптам недзе там угары схамянуліся, што зроблена планаванне і выкананне тэмы заўчасна па той прычыне (вы толькі дайце веры!), што ўсе, каму прысвячаліся кнігі, жывыя, а мецьманаграфіі, што нібы аўтаматычна ўзводзіла аўтараў у ранг класікаў, можна было толькі нябожчыкам. А калі так, то і выданне напісаных кніг адмянялася. Пачалі чакаць...

Гэты, увогуле анекдатычны факт праз заўчасную смерць таго, хто ў першую чаргу меў падставы называцца класікам, набыў і містычнае ўвасабленне, як і шмат чаго іншага, звязанага з «жыццём і ўзнясеннем» (менавіта гэтыя словы ў двукоссях сталі назвай прысвечанай незабыўнаму Уладзіміру Сямёнавічу кнігі ягонага сябра Адама Мальдзіса). Разам з пасмяротна выдадзеным нарысам жыцця і творчасці У.Караткевіча, выйшлі ўсе запланаваныя і напісаныя пра жывых, за выключэннем кнігі пра Анатоля Вярцінскага, аўтарам якой быў наш выдатны крытык Варлен Бечык. Падключыўся ён да выканання гэтай працы крыху пазней, бо завяршаў іншую. А потым перайшоў на працу ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Ды не гэтыя затрымкі і пярэбары сталі на шляху выдання кнігі пра любімага ім паэта, а заўчасная смерць ад няўмольнай хваробы веку, з якою ёй мужна і стойка змагаўся да апошніх дзён...

Сярод тых, хто не трапіў у першачарговы спіс, шмат «харошых і розных», назаву толькі таго, без каго ніяк нельга зразумець багацце мастацка-стылёвай палітры філалагічнага пакалення. Гэта Міхась Стральцоў, які, дарэчы, як выявілася пазней, пераклаў з рускай на беларускую мову «Хатынскую аповесць» Алеся Адамовіча. Быў у Міхася цяжкі перыяд, звязаны з сямейнай драмай, іншымі

жыццёвымі непаразуменнямі, сярод якіх і пералом нагі. Жыць яму не было дзе і ён застаўся на пару месяцаў у маім інтэрнацкім пакоі. Пра гэты перыяд можна шмат расказваць, пісаць успаміны, а мо і мастацкі твор. Жылі мы душа ў душу і, бадай, у той перыяд у яго не было бліжэйшага чалавека, з якім ён дзяліўся самым патаемным. Цікава тлумачыў свой зварот да адамовічавага твора. Перакладам хацеў паказаць, і сапраўды гэтага дамогся, што па-беларуску Адамовіч мог загучаць больш па-мастацку натуральна. Яго ж рускамоўныя творы, а гэта ўсе, што не маюць дачынення да даследчай і крытычнай дзейнасці, ды калектыўнай «Я з вогненай вёскі», М. Стральцоў не прызнаваў, як сам аўтар, высокамастацкімі, стыль адточаным, а мову свежай і жывой. Але як даследчыка-мысліцеля Адамовіча ставіў вельмі высока, меркаваў, што калі б ён цалкам прысвяціў сябе гэтай стыхіі, то меў шанец навечна сябе ўпісаць у нацыянальную, духоўную спадчыну. Але імкненне да прыжыццёвай славы, як усміхаўся ён, «фраера згубіла». Для яго ўсё тут было адназначна зразумела і ясна, ніякай, апрача гэтай, як у выпадку з Максімам Багдановічам, ён разгадкі не бачыў і прызнаваў Аляксандра Адамовіча за яго празаічныя творы сярэдняй рукі рускім пісьменнікам.

Не ведаю, ці дайшло што з гэтых разважанняў да Алеся Міхайлавіча, але факт, што асаблівай прыязні ў яго да Міхася Стральцова не было. У гэтым бачу адну з асноўных прычын, што Стральцоў не апынуўся у тым першачарговым спісе побач з Уладзімірам Караткевічам, значэнне якіх для нашай прозы, паэзіі, крытыкі, эсэістыкі лічу роўназначным, хоць выяўлялі яны сябе зусім у розных творчых іпастасях. Але хіба зробленае для рускай літаратуры Львом Талстым і Фёдарам Дастаеўскім можа перакрэсліць ролю і значнасць укладу Антона Чэхава і Івана Буніна? Для П. Дзюбайлы з яго артадаксальнай партыйнасцю і, няхай на тым свеце даруе, дубаватасцю як крытыка і даследчыка літаратуры было проста немагчыма зразумець сутнасць і месца Міхася Стральцова ў літаратуры, а вось Алесь Адамовіч, не сумняваюся, гэта выдатна ўсведамляў і мог настояць, каб яго вылучэнец Віктар Каваленка (Алесь Міхайлавіч сябраваў з прэзідэнтам Акадэміі Барысевічам, быў у прыязных дачыненнях з сакратаром ЦК КПБ па ідэалогіі Кузьміным і праз іх уплываў на кадравую палітыку) уключыў Стральцова ў спіс побач з Уладзімірам Караткевічам. Мог, ды не схацеў...

Праблем з уключэннем Вячаслава Адамчыка ў спіс нарысаў пра жыццё і творчасць пісьменнікаў, мяркую, не ўзнікала: ён паспеў зарэкамендаваць сябе як сталы майстар у жанры навелістыкі, а чацвёрты па ліку зборнік «Дзікі голуб», пераадолеўшы пры спрыянні народных пісьменнікаў Міхася Лынькова і Івана Мележа перашкоды на шляху да выдання ў выдавецтве «Беларусь», яшчэ вышэй узняў аўтарытэт аўтара. Чарговай кнігай быў раман «Чужая Бацькаўшчына» (1978), якім пісьменнік пацвердзіў, што гэты буйны празаічны жанр яму таксама пад сілу.

Зборнікам «Дзікі голуб» пісьменнік паспяхова здаў экзамен на мастакоўскую сталасць. Пераходзячы да раманаў, ён зноў выпрабоўваў сябе, але цяпер ужо ў новай жанравай і мастакоўскай якасці, беручы для эстэтычна-філасофскага асэнсавання не толькі лёсы асобных персанажаў, але і ўсяго беларускага народа, лёс Бацькаўшчыны, значная частка якіх апынулася пад уладай буржуазнай Польшчы. Узнаўленнем гэтага перыяду жыцця нацыі, які закончыўся ўз'яднаннем беларускіх зямель у БССР, якая, у сваю чаргу, знаходзілася ў складзе вялікай імперыі новага часу — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік паставіла перад народам і пісьменнікам новыя, не менш значныя, чым папярэднія, праблемы і задачы...

## Частка III. Лёс народа ў раманах цыкла «Цень ад шчыта»

«Дзікім голубам» В. Адамчык засведчыў сябе спелым майстрам малой жанравай формы — яго зборнік адзін з найбольш цэласных і завершаных сярод кніг

беларускай навелістыкі. Здавалася б, перад празаікам адкрыліся вялікія магчымасці далейшага перспектыўнага самасцвярджэння ў жанры апавядання, які (жанр) на той час, перш за ўсё ў выніку адыходу да працы над аповесцямі і раманамі прадстаўнікоў сярэдняга і старэйшага на той час пакаленняў, пачаў прыкметна запавольвацца ў развіцці і відавочна здаваць заваяваныя раней пазіцыі. Увогуле цікавая для беларускай літаратуры асаблівасць: як толькі той ці іншы празаік паналежнаму пачынае сцвярджаць сябе ў навелістыцы, амаль адразу ж «здраджвае» гэтаму прэстыжнаму ў еўрапейскім літаратурным кантэксце жанру і «перабягае» у іншы. На жаль. Нават цяжка ўявіць, колькі сапраўдных талентаў пагасілі сябе гэтым як творцаў еўрапейскіх абсягаў. Але ў гэтым яны арыентаваліся на сваю бліжэйшую суседку, рускую літаратуру, якая ў савецкі час, таксама зусім неапраўдана, адступіла ад чэхаўскіх «еурапейскіх» традыцый і, аслепленая гігантаманіяй, што пераважала ва ўсіх сферах жыцця пад тыповымі бальшавіцкімі лозунгамі, арыентавалася на тое, што заахвочвалася на самым высокім узроўні і самымі прэстыжнымі ўзнагародамі. А у той час, пра які гаворка, якраз і пачаўся спачатку ў рускай, а потым, як гэта заўсёды і паўсюль практыкавалася, пад непасрэдным націскам крамлёўскіх ідэолагаў, дзе пад прымусам, а дзе нібыта і добраахвотна, «расцякалася-распаўзалася» па ўсіх нацыянальных літаратурах на бяскрайніх абшарах СССР, перакідвалася адсюль і на так званыя краіны «народнай дэмакратыі», ці, іначай, сацлагера, разам з добрым і стандартная для ўсіх «пошасць».

Аднак Вячаслаў Адамчык быў не тым чалавекам, які лёгка паддаваўся кан'юнктуры і паслухмяна станавіўся пад новыя, ініцыяваныя партыяй, лозунгі і ўстаноўкі, якога лёгка было збіць з абранай ім самім дарогі. Уся яго папярэдняя творчасць сведчыла, што ён, пераадольваючы цяжкасці росту, не зважаючы на часта няслушныя папрокі ў крытыцы і настойлівыя «падказкі» як і пра што трэба пісаць, нягледзячы на спробу гвалтоўна перакрыць дарогу праз забарону друкаваць зборнік «Дзікі голуб», а потым глухое маўчанне вакол гэтай этапнай у нашай прозе кнігі, цвёрда і ўпэўнена ішоў да вызначанай мэты і захоўваў вернасць арганічным для яго эстэтычным прынцыпам. Таму пераход да рамана аніколечкі не быў звязаны з кан'юнктурнымі меркаваннямі. Думка пра раман як пра найбольш прыдатны і па-мастацку ёмісты сродак па-эпічнаму шырокага і поўнакроўнага адлюстравання лёсу роднага народа на крутых гістарычных пераевалах і віражах, жыла ў ім даўно і, як гэта нават ні дзіўна, папярэднічала працы над апавяданнямі. Вельмі цікавыя прызнанні-сведчанні пакінуў нам пісьменнік у свой час, адказваючы на прапанаваную мной анкету:

«Чужая бацькаўшчына», ды і ўся кніга «Цень ад штыка», над двума раманамі з якое («Год нулявы» і «Скажа той, хто народзіцца») цяпер працую, нараджалася ў галодныя студэнцкія гады, але я мусіў адступіцца, каб праверыць сябе, і пачаў з апавяданняў, паставіўшы перад сабою трохі злосную мэту: «Калі са ста маіх апавяданняў надрукуюць адно — буду пісаць!» І ўсё далейшае жыццё было пастаўлена маладому цвёрдаму жаданню дамагчыся свайго».

Мяркуючы па выказванню, праца над апавяданнямі і раманам ішла паралельна. Цікава і слушна наконт сужыцця ў творчасці пісьменніка двух празаічных жанраў разважаў на старонках часопіса «Маладосць» крытык Серафім Андраюк:

«Не будзем забываць, што кожны сапраўдны пісьменнік заўсёды піша, імкнецца пісаць пра сваю зямлю, пра свой народ. Творы Адамчыка, з самых першых, менавіта пра гэта. Але то былі як бы кавалкі, асобная фрагменты народнага жыцця, якое ён ведаў, якім сам жыў. Логіка творчасці, маштабы планаў і характар задум, мастакова пазіцыя, як бы творчы інстынкт няўхільна вялі да рамана, да цыкла раманаў. І гэта натуральна. Лёс народа, прычым на самых крутых пераевалах, патрабуе найперш раманнага ўвасаблення».

У раманах В. Адамчыка сапраўды ёсць тое, без чаго не можа быць паўнавар-

таснага твора буйной жанравай формы, — думка пра народ, якая вызначыла сабой канцэпцыю ўсяго цыкла і прадвызначыла адбор жыццёвага матэрыялу і адпаведных дзеля яго ўвасаблення мастацкіх сродкаў.

У адрозненне ад «Дзікага голуба» пра першы раман цыкла — «Чужую бацькаўшчыну» пісалі шмат. Іншая справа, наколькі аб'ектыўна і прафесійна твор ацэнены. Рэч, аднак, не ў адназначных ацэнках тыпу «выдатны», а найбольш дакладным і ўсебаковым яго прачытанні, то бок літаратуразнаўчым аналізе, бо толькі гэта і можа быць мэтай ацэнкі сапраўднай мастацкай з'явы. Усе, хто пісаў пра «Чужую бацькаўшчыну» — апісальных ці аднабакова кампліментарных або разносных матэрыуялаў не выяўлена — у той ці іншай меры паглыблялі даследаванне сутнасці рамана, хоць, вядома, многія назіранні, палажэнні і канцэпцыі абуджаюць спрэчку, выклікаюць пярэчанні. Яны датычаць наступных момантаў: звужанага да бытавога паказу жыцця адной вёскі разумення канцэпцыі і праблематыкі твора; прадузятага прыпісвання аўтару трактоўкі лёсу народа і паказанай рэчаіснасці як своеасаблівага «ідыятызму вясковага жыцця»; спробаў вывесці генезіс рамана не з канкрэтнага жыцця Заходняй Белавурсі і нацыянальнай літаратурнай традыцыі, а з «свядомай» арыентацыі аўтара на узоры іншамоўнай мастацкай стыхіі. Больш канкрэтныя пярэчанні датычаць сутнасці разумення выведзеных у рамане персанажаў, што, зразумела, у кожным канкрэтным выпадку таксама пэўным чынам уплывае на больш шырокае асэнсаванне ідэйна-мастацкай канцэпцыі і праблематыкі рамана.

Першым друкаваным водгукам на яго была рэцэнзія А. Рагулі «Людзі на раздарожжы» ў «ЛіМе». Сталася так, што канцэпцыя аўтара, хоць на яго ніхто і не спасылаўся ў далейшым, пэўным чынам паўплывала на большасць пазнейшых ацэнак рамана.

Аляксей Рагуля бярэ адзін аспект твора — праблему страты народам нацыянальнай свядомасці — і публіцыстычна завастрае думку, пэўным чынам падганяючы пад яе ўвесь змест «Чужой бацькаўшчыны», паказваючы, што значыць для асобнага чалавека і усяго народа быць бязродным, нацыянальна цёмным, несвядомым. Усё, пра што ні расказваецца ў рамане, пад абвострана-гнеўным зрокам крытыка ператвараецца ў суцэльную трагедыю, у штосьці пазбаўленае логікі, сэнсу і гістарычнай перспектывы. Вытрымкі з рэцэнзіі: «Жыццё стала падобным на жыццё ў мяшку, канцы і пачаткі многіх жыхароў Версава і Дварчан аказаліся страчанымі.

Аўтар творам сваім сцвярджае, што жыццё народа без вялікай, яднаючай ідэі ў корані сваім фальшывае, несапраўднае, яно падобнае на «збэрсаны» маток нітак...

Пазбаўленае перспектывы, яно абмежавана «курынымі» маштабамі і нагадвае жыццё ў падпечку».

Зыходзячы з такога разумення сутнасці рамана, досыць адвольна вытлумачваецца сутнасць характараў і іх учынкаў, у якіх аўтар рэцэнзіі бачыць толькі праяўленне чагосьці змрочнага, у перспектыве пазбаўленага якога-небудзь грамадскага сэнсу. Менавіта зыходзячы з гэтага, твору знарок прыпісанага, А. Рагуля імкнецца правесці паралель паміж творчасцю беларускага аўтара і аднаго з самых вядомых у свеце сучасных пісьменнікаў, японцам Кабо Абэ, аўтарам аповесці «Жанчына сярод пяску», у якой з высокай мастацкай дасканаласцю абмаляваны трагічна прывабны і мужны ў аб'ектыўнай бессэнсоўнасці змагання з непадольным наступам пяску, што ўвасабляе сабой нейкую непераможную бездухоўную сілу, характар жанчыны. У аснове твора — распаўсюджаны экзістэнцыялісцкі матыў марнасці, нават абсурднасці намаганняў штосьці змяніць, перайначыць на лепшае ў жыцці, бо кепства ўсеахопнае і непераадольнае. А яшчэ больш абвострана матыў безнадзейнасці і абсурду чалавечага існавання паказаны ў рамане гэта ж пісьменніка «Чалавек-скрынка».

Зразумела, у невялікай памерам рэцэнзіі цяжка было раскрыць усю веліч і паўнату ідэйна-эстэтычнай канцэпцыі рамана. Пры гэтым звернем увагу на адзін вельмі істотны момант, што будзе праігнараваны ў працах крытыкаў-наступнікаў; першарэцэнзент не атаясамлівае мастацкі свет твора з агульнай карцінай заходнебеларускай рэчаіснасці і не пераносіць атэстацый мастацкіх вобразаў на характарыстыку ўсяго сялянства Заходняй Беларусі, быццам нейкай спрэс цёмнай і бездухоўнай масы, як гэта робіць доктар філалогіі Міхась Тычына:

«Кола жыццёвых інтарэсаў сялян звужана да крайняй ступені: гаспадарчыя клопаты, бытавыя нелады, сямейны дабрабыт, сваркі, плёткі, забабоны... І амаль нічога звыш гэтага...

Брат ідзе на брата, чалавек забівае чалавека, вёска варагуе з вёскай — тыповы малюнак заходнебеларускай рэчаіснасці, і аўтар узнаўляе яе поўна і дакладна...»

Паказальна і фраза «на выжарыне агульнай бездухоўнасці», сказаная крытыкам, які не толькі аднабакова вытлумачвае змест рамана, ігнаруючы яго «светлыя» бакі, але і выносіць жорсткі прысуд усёй заходнебеларускай рэчаіснасці, атмасфера у якой была іншай, чым гэта ўяўляецца М. Тычыну. Каб пераканацца ў гэтым, раю яму разгарнуць адну-дзве кнігі свайго колішняга выкладчыка па Дзяржаўнаму брэсцкаму педінстытуту, грамадзяніна і чалавека гранічна праўдзівага, шчырага і прынцыповага. Асобы з вялікай літарары, без перабольшання волата духу, які не ганяўся за званнямі, тытуламі, узнагародамі, ілюзорнай славай, а цягавіта і нястомна рабіў усё магчымае дзеля роднай Беларусі, свята верачы ў вызваленне і духоўнае адраджэнне свайго спакутаванага і знявечанага не толькі чужынцамі, але і сваімі, у тым ліку і надзеленымі высокімі пасадамі і званнямі адрачэнцамі. Маю на ўвазе Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, а раю пачытаць хоць бы такія яго прыжыццёвыя выданні як «Зорны спеў», «Ветразі Адысея», «Усё чалавечае» і асабліва пасмяротна выдадзеную, як своеасаблівае падсумаванне гэтым слаўным сынам беларускага народа кнігу «Доўг памяці».

У сваіх канцэптуальна глыбокіх, прынцыповых і шчырых даследаваннях Уладзімір Андрэевіч, хоць не быў не тое што акадэмікам, але не схацеў нават абараняць доктарскую ступень, бо быў пераканы, што ступені і званні ў навуцы зусім нічога самі па сабе не значаць і не вырашаюць, у галаве розуму не прыбаўляюць. У сваіх даследаваннях не мудрагеліў, не пускаў людзям пыл у вочы, прыдумляючы розныя паскораныя шляхі развіцця беларускай літаратуры (адкрыццё акадэміка В. Каваленкі) не выдумляў абсалютна схаластычнай тэорыі з нараджэннем так званай «сверхлитературы» (адкрыццё акадэміка А. Адамовіча/ і г.д., а ішоў ад жыцця, ад яго рэальных праблем, падымаў з небыцця цэлыя пласты, цэлыя перыяды ў духоўным развіцці роднага народа, у тым ліку і падчас яго панявольнага існавання пад панаваннем буржуазнай Польшчы ў міжваенны перыяд. Услед за незабыўным маім старэйшым таварышам і сябрам маю гонар сцвердзіць, а пад гэтым падпісаліся б жыхары ўсіх навакольных вёсак, што міф аб бездухоўным, рабска-прыніжаным, бязвольным існаванні беларусаў пад палякамі ва ўмовах акупцыі імі нашай Бацькаўшчыны — гэта беспардонная лакейская хлусня, выдумка рабоў духа, у якіх няма нацыянальнай годнасці, гонару за свой народ, веры ў тое, што ён урэшце пазбавіцца ад усякага прымусу і зноў стане паважаным у свеце, як у часы ВКЛ...

А цяпер звернемся да самой рэчаіснасці, якая ёсць самым важкім аргументам у спрэчцы. Дык вось заходнебеларускае жыццё шмат па якіх паказчыках якраз і сведчыць пра нацыянальна і сацыяльна ўсвядомленае духоўнае быццё народа ва ўмовах чужацкай акупацыі, супраць якой беларусы самаахвярна змагаліся за сваё разняволенне, за навучанне, друк і школу на роднай мове, за сваю дзяржаўную самастойнасць. Дастаткова тут будзе прыгадаць пра дзейнасць Беларускай Сялянска-Работніцкай грамады, якая за кароткі час пад свае сцягі сабрала звыш

ста тысяч чалавек і лічылася самай моцнай арганізацыяй такога кшталту ва ўсёй Еўропе.

Асабіста для мяне куды важней за розныя «тэарэтычныя» вычварэнствы сведчанне непасрэднага ўдзельніка векапомных падзей, нашага (да таго, як яго талент зглумілі саветы), геніяльнага паэта Максіма Танка, які ў артыкуле «Светлая дата» пісаў адразу пасля вайны на старонках «Літаратуры і мастацтва»:

«Напалоханая небывалым уздымам нацыянальна-вызваленчай барацьбы афіцыйная польская газета «Recz Pospolita» (2 кастрычніка 1925 г.) пісала: «...на крэсах пануе фатальны стан. Калі на працягу некалькіх год не будзе змен, мы будзем мець усеагульнае паўстанне, якое адарве ад нас значную частку тэрыторыі...» А каб гэтага не здарылася, газета падказвала ўраду як адзін са сродкаў барацьбы з рэвалюцыйнымі масамі фашысцкі тэрор: «На паўстанне ёсць шыбеніцы, больш нічога... На ўсё беларускае насельніцтва зверху да нізу павінен пасці жах, ад якога застыне кроў».

Нягледзячы на рэпрэсіі, сярод якіх і скаранне смерцю праз павешанне на плошчы ў Наваградку найбольш мужных і зацятых барацьбітоў за вызваленне роднага краю ад акупантаў, нацыянальна-вызваленчая барацьба не толькі не згасала, але на працягу 20-х гадоў шырылася і разгаралася, набываючы новыя формы і метады. Каб наглядна пераканацца, звернемся да архіўных матэрыялаў1, якія датычаць палітычнага становішча ў былым Наваградскім ваяводстве, зямлі, на якой адбываецца дзеянне раманаў адамчыкавай эпапеі «Цень ад штыка». Мной выяўлены досыць цікавы і характэрны для таго часу дакумент — данясенні мясцовай тайнай паліцыі цэнтральным уладам. Пад пільным наглядам дэфензівы было ўсё, на чым выяўляліся адзнакі класавай і нацыянальнай свядомасці, асабліва дзейнасць Наваградскай беларускай гімназіі і беларускай кнігарні ў ваяводскім цэнтры. У красавіку 1929 г. шпікі паведамлялі:

«У шырэйшым абсягу выявілася падрыхтоўка да першамайскіх святаў з боку Кампартыі, менавіта членаў ячэйкі СКМ ЗБ (Саюза Камуністычнай моладзі Заходняй Беларусі. — Я. Л.). У Наваградскай беларускай гімназіі быў зачытаны адкрыты ліст АК (Акружнога камітэта. — Я. Л.) СКМ ЗБ да вучняў беларускай гімназіі, у якім, між іншым, Кампартыя заклікае ўзяць чынны ўдзел у першамайскіх святах і правядзенні ў сузязі з 1-м Маем адпаведнай агітацыі сярод тутэйшага люду».

У наступным месяцы ахоўнікі парадку паведамлялі ў цэнтр як праходзілі першамайскія святы на тэрыторыі ваяводства і ў самім Наваградку, падрабязна пералічалі скіраваныя супраць існуючага ладу акцыі, ды з задавальненнем канстатавалі, што «факт арышту дзесяці самых актыўных дзеячаў ТБМ (Таварыства беларускай школы. — Я. Л.) у значнай ступені спаралізаваў запланаваныя дэманстрацыйныя мерапрыемствы, у тым ліку і першамаёвыя...»

І усё ж арышты не маглі паралізаваць рэвалюцыйнай, нацыянальна-вызваленчай волі народу — на працягу ўсяго года ў тайных данясеннях віжоў і паліцыі гаворыцца аб вызваленчай барацьбе беларусаў. Апрача так званай, кажучы па-польску, выўратовай, гэта значыць падрыўной, дзейнасці супраць існуючага ў тагачаснай Польшчы ладу, на абшарах Наваградскага ваяводства актыўна праводзілася культурна-асветніцкая праца, у сваёй аснове таксама скіраваная супраць санацыйнай палітыкі ўрада Пілсудскага, у падтрымку савецкай Беларусі, міжнароднага рабочага руху. Так, «паводле інфармацыі канфідэнтаў», павінен быў «наладзіцца» беларускі канцэрт у вёсцы Нягнявічы, прыбытак ад якога перасылаўся на карысць МОПРу». А праз некалькі месяцаў зноў паступае падобнае гэтаму данясенне: «У сувязі з павышэннем узроўню зацікаўленасці беларускімі справамі ўвогуле, беларускай асветай у прыватнасці, бацькоўскі камітэт беларускай гімназіі у Наваградку зладзіў аматарскі спектакль у Нягнявічах, прыбытак з якога ў суме 341 злотых прызначаны на будаўніцтва бурсы (жытла для навучэнцаў. — Я. Л.) беларускай гімназіі ў Наваградку».

У згаданых тут Нягнявічах, у вялізнай аборы, напэўна што помніку беларускага драўлянага дойлідства, якая, дарэчы, у вельмі добрым стане захавалася да нашага часу, беларускія прадстаўленні ладзіліся вельмі часта, а сродкі, сабраныя ад іх, былі выключна на грамадскія патрэбы, У гэтым жа будынку, адмысловым Доме культуры на той час, наладжваліся сустрэчы тутэйшых людзей з беларускімі пасламі ў сойм, ці, кажучы па сучаснаму больш зразумела, з дэпутатамі у вышэйшы заканадаўчы орган дзяржавы, з навучэнцамі Віленскай і Наваградскай беларускіх гімназій, якія падчас канікулаў вярталіся на пабыўку дахаты, выступалі з беларускімі лекцыямі перад сваімі землякамі. Зусім верагодна, што тут гучаў непаўторны голас і слаўнага сына зямлі беларускай, вядомага мастака, помнік якому ўстаноўлены у Траецкім прадмесці ў сталіцы Беларусі, Язэпа Драздовіча, які, як вядома, пэўны час працаваў выкладчыкам малявання ў Наваградскай беларускай гімназіі, дзе тады вучыўся мой родны дзядзька Павел, які пайшоў добраахвотнікам на фронт і загінуў у Венгрыі ў крывавай бойні за возера Балхаш. Язэп Драздовіч з дзядзькам Паўлам пасябравалі, ён неаднойчм бываў у нашай хаце ў Пабрэззі, куды, дарэчы, завітваў Максім Танк падчас сваёй тайнай падпольнай дзейнасці, пра што ёсць згадка ў ягоным дзённіку, названым «Лісткі календара». Але куды больш шаноўны Яўген Іванавіч (так афіцыйна, па жыцці і па пашпарту мянаваўся класік беларускай літаратуры Максім Танк) распавёў мне — суразмоўца ён быў выключны, як і рэдкай душэўнай дабрыні чалавек — падчас нашай супольнай з ім паездкі на Усесаюзную канферэнцыю ў Цюмень, прысвечаную актуальным праблемам савецкай літаратуры — пра свае падпольныя вандроўкі па нашым краі, тады я ўпершыню і пачуў ад яго, што захадзіў у нашу хату да дзядзькі Паўліка. Зразумела, быў ён там тайком, як падпольшчык, і ні пра якія публічныя выступы не магло быць і гаворкі. І ўсё ж...

Вяртаючыяя ў думках да будынка у Нягнявічах, я памеркаваў: а хіба нельга вярнуць яму колішні статус культурнага цэнтра, дзе можна было б размясціць мясцовы краязнаўчы музей, бо мая школьная настаўніца беларускай літаратуры Анфіса Юльянаўна Шкарпета — паздароў, Божа, ягоныя дні — шмат зрабіла, збіраючы экспанаты, а вось колькі-небудзь прыстойнага памяшкання пад музей у Нягневіцкай беларускай вясковай гімназіі так і не адвялі. Дый увогуле пасля таго, як мястэчка набыло статус аграгарадка, тут (дайце веры!) усё, што хоць неяк нагадвала пра культурны адпачынак, было зліквідавана — Дом культуры, бібліятэка, бальніца, лазня... «Работаць нада, нечава, — выбачайце, за яго словы, — хярнёй займацца, нада строіць цвятушчую Беларусь, а пастроім, тагда і начнём жыць панастаяшчаму, как палагаецца... — ці то жартам, ці на поўным сур'ёзе казаў адзін сярэдняй рукі мясцовы начальнік.

Аднак вернемся з дня сённяшняга ў дзень мінулы, да падзей рамана «Чужая бацькаўшчына». Пачатак 30-х гадоў вызначаецца актыўным наступам рэпрэсіўных органаў Польшчы на любыя праявы нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Тое самае, дарэчы, бачым, мы і ў Савецкай Беларусі, але там усё рабілася куды больш жорстка і «паспяхова», а таму праявы свядомай беларускасці былі амаль цалкам задушаны і вынішчаны за пару гадоў — растрэлы, турмы, масавы вываз у далёкія сіберныя краі ў ГУЛАГі. Тут, у Заходняй, усё адбывалася значна мякчэй і марудней, але таксама настойліва і паслядоўна. Трэба сказаць, што мэта па вынішчэнні беларускасці, яшчэ раз падкрэслім, як з'явы духоўнай, культурнай, адукацыйнай без фізічнага вынішчэння яе носьбітаў, да сярэдзіны 30-х гадоў у асноўным была дасягнута: масавыя правалы і пагромы не маглі не прывесці да разгубленасці і няўпэўненасці тых, хто заставаўся на волі, да паралізаванасці нацыянальна-вызваленчага руху ў цэлым. Звяртаючыся да рапартаў тайнай паліцыі Наваградскага ваяводства ў цэнтр, мы бачым, што яны істотна розняцца па свайму тону і зместу ад тых, якія дасылаліся некалькімі гадамі раней. Так, у данясенні,

датаваным снежнем 1932 года, паведамляецца: «Пасіўнасць палітычна і грамадскі неарганізаванай беларускай меншасці выявілася ў тэндэнцыі да далейшай стабільнасці. Характэрна тое, што ў сучасны перыяд гэта меншасць ужо зусім не рэагуе на любыя з ранейшых унутраных і знешніх праяў, на якія без сумнення актыўна рэагаваў беларускі вызваленчы рух раней...»

Зыходзячы з гэтага, дэфензіўшчыкі рабілі канкрэтныя прапановы, як і што трэба рабіць далей: «У сувязі з ахарактарызаванымі настроямі сярод беларусаў існуе цяпер вялікая здатнасць да правядзення паспяховай асіміляцыйнай акцыі», што, як вядома, яшчэ з большым імпэтам пачало здзяйсняцца ўрадам Юзафа Пілсудскага.

Пра факты барацьбы супраць існуючага ладу празаік не паведамляе нам мовай публіцыстыкі, а, наколькі дазваляе яму спецыфіка твора, паказвае праз ёмістую мастацкую дэталь, з вялікай сілай абагульнення і душэўнага хвалявання выпісаныя сцэны катавання Міці Корсака, галоўнага героя эпапеі, у паліцыі. Трэба таксама ўлічваць тое, што шмат чаго аўтар апускае у падтэкст, які адыгрывае ў «Чужой бацькаўшчыне» вялікую ролю, патрабуе для больш глыбокага і правільнага разумення твора ведання канкрэтнай рэчаіснасці, без чаго раманы В. Адамчыка зразумець цяжка.

Празаік у асноўным засяродзіўся на паказе жыцця і побыту адной вёскі, аднак у рамане няблага адчуваецца агульная атмасфера ў краі, дзе ніколі не згасаў нацыянльна-вызваленчы рух.

Словы, што цяпер усе на палітыцы звіхнуліся, згадкі пра ўсё новыя і і новыя арышты, пра тое, што родзічы носяць перадачы ў турмы, бядуюць па зняволеных барацьбітах за волю, падобныя ім, баццам незнарок рассыпаныя па мастацкай тканіне рамана дэталі іграюць істотную ролю ў падтэксце «чужой бацькаўшчыны».

У рамане В. Адамчыка паказаны такі стан вясковага свету, калі загерметызаваны ў самім сабе, вякамі спрасаваны і закасцянелы ўклад жыцця пачынае ўваходзіць і падключацца да свету вялікіх праблем, ідэлагічных і маральных каштоўнасцей, палітычнай барацьбы, калі такія паняцці, як Радзіма, пачуццё нацыянальнай годнасці, пашана да іншага народа, сумленне, абавязак, чалавечнасць, дэмакратычныя правы з пустых для вясковага жыхара гукаў ператвараюцца ў жывую плоць, закранаюць самыя блізкія інтарэсы, пачуцці і думкі людзей. Нельга не ўлічваць таго, што раман «Чужая бацькаўшчына» ўзнік у выніку асэнсавання лёсу беларускага народа, узрос на канкрэтным грунце заходнебеларускай рэчаіснасці і з'явіўся арганічным працягам нацыянальнай традыцыі, перш за ўсё творчасці Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, І. Мележа. Таму ўдакладнення патрабуюць асобныя палажэнні В. Каваленкі, які наступным чынам вытлумачвае вытокі рамана і яго сутнасць. «Абапіраючыся на рэймантаўскую традыцыю, — зазначае даследчык, — В. Адамчык раскрывае сацыяльнае аблічча паказанай ім рэчаіснасці знутры, праз побыт, праз нярадасную, маральна няўстойлівую, духоўна глухую і скалечаную будзённасць».

Ох ужо гэтыя нашыя, калі пы высокім рахунку, самадзейна-самаробныя кратыкі! Прачыталі б гэты «пасаж» польскія даследчыкі, а пра эпапею У. Рэўманта напісаны гора літаратуразнаўчых прац, бо і пасёння «Сяляне» лічацца шэдэўрам у сусветнай прозе пра жыццё і лёс сялянства. Гэта сапраўдны гімн вясковаму жыццю, услаўленне селяніна-хлебароба, Гаспадара на зямлі з вялікай літары. Але наш гора-крытык нічога велічнага і ўзнёслага тут не бачыць, застаецца глухім і сляпым да магутнага жыццёвага, поўнага страсцей, ды якіх, роўных хіба што казацкай стыхіі «Ціхага Дону» М. Шолахава і, выбачаюся, нібы еўнух на дзяўчыну-прыгажуню, вабную натуральнай прыгажосцю для сапраўды здаровага і жыццерадаснага дзецюка ці мужчыны, пачынае гнюсавіць пра яе штосьці брыдкае, непрыстойнае, нават агіднае. Бо ў еўнуха адабралі тое, дзякуючы чаму хвалюецца сэрца і кроў пры ўспрыманні

дасканалага, гарманічнага жаночага цела. Што паробіш, калі чалавека ўсяго гэтага прымусам пазбавілі, бо толькі такім, без натуральных жыццёвых імпульсаў, ён быў патрэбен гаспадарам як наглядчык і пастух над жанчынамі, якія не могуць яго нічым завабіць і спакусіць, а ён спазнаць адну з самых насалодных і ўсезахопных чалавечых радасцяў. Еўнухаў па чалавечы шкада, грэх здзекавацца за іх нямогласці, бо не яны самі ў гэтым вінаваты, а багацеі, якім менавіта ў такім змярцвелым стане некалі, да аскаплення, жывы і жыццерадасны чалавек стаў патрэбен. Ну а хто і што пазбавіла натуральнага, светлага і чыстага погляду на жыццё і чалавека нашых асобных даследчыкаў?..

Падумалася, мо прычына гэтаму менавіта ў гэтым канкрэтным выпадку тое, што пад руку даследчыка трапіўся якісьці няўдалы расейскі пераклад? Што датычыць мяне, то я чытаў «Сялян» у арыгінале, быў імі захоплены ў такой меры, што ўзяўся за пераклад, але потым, у працэсе працы, мяне спыніла наша заўсёдная бяда — адсутнасць на культуру, на духоўнасць, на літаратуру ў прыватнасці, фінансавых сродкаў — ніхто не ўзяўся прафінансаваць выданне эпапеі ў чатырох кнігах. Дый хіба толькі ў гэтым выпадку мы ашчаджаем на духоўным, абкрадваючы свае душы, а ўкладаем сродкі зусім у іншае, ёй супрацьпаказанае — у тытунь, алкаголь, напрыклад.

У «Чужой бацькаўшчыне» — тут В. Каваленка мае слушнасць — празаік сапраўды «раскрывае сацыяльнае аблічча паказанай ім рэчаіснасці знутры, праз побыт...» Але чаму ў гэтым абавязкова трэба бачыць уплыў польскага пісьменніка? Ці ж гэтыя асаблівасці не ўласцівыя і прадстаўнікам іншых літаратур, не з'яўляюцца трывалай традыцыяй і беларускага прыгожага пісьменства, ці ж не яны вызначаюць і ўнутраную сутнасць творчасці названых вышэй класікаў? Наша пярэчанне выклікае не толькі разуменне крытыкам сутнасці ўплываў аднаго аўтара на другога, але і вытлумачэнне даследчыкам спецыфікі і пафасу выдатнага твора польскай літаратуры, у якім нібыта, як і ў «Чужой бацькаўшчыне» В. Адамчыка, паказана «нярадасная, маральна няўстойлівая, духоўна глухая і скалечаная будзённасць». Госпадзі Божа! — даруй мне, што я трывожу памяць нябожчыка, але гэта несусветнае глупства, якое наўрад ці магло прыйсці ў незамутнёную д'ябальскімі спакусамі галаву чалавеку з нармальнай здаровай псіхікай! Бо на самой справе і польскамоўнаму класічнаму і беларускамоўнаму, якога таксама пара ўзводзіць у ранг класічнасці, творам арганічна ўласцівы пафас высокага жыццясцвярджэння, хоць, прызнаю, у гэтым плане нан беларускі пісьменнік з'ява няпростая, складаная, што, аднак, не адмаўляе значнасці ягонага твора.

«Сяляне» Уладзіслава Рэйманта, як і «Новая зямля» Якуба Коласа напісаны з унутранай любасцю да вялікага працаўніка зямлі, асноў жыцця на ўсе вякі.

Між тым класікі і беларускай, і польскай літаратур, пішучы пра вёску, не заплюшчвалі вачэй на адмоўныя праявы сялянскага побыту, бо кожны сапраўдны мастак слова, пра што яму даводзіцца пісаць, заўсёды бачыць жыццёвыя з'явы ў руху і супярэчнасцях.

Ідучы ў рэчышчы класічнай традыцыі і, галоўнае, арыентуючыся на саму рэчаіснасць, В. Адамчык зусім не глядзіць на паказанае ў рамане жыццё сялян як на суцэльны абсурд, што яму будуць прыпісваць крытыкі. І У. Рэймант, і В. Адамчык паказваюць гістарычную прадвызначанасць і заканамернасць развіцця грамадства такім, як гэта было насамрэч. Іншая справа, што твор Адамчыка пісаўся ў іншы час, калі літаратура мела за плячыма пісьменніка значны вопыт, да яе ў грамадстве былі іншыя патрабаванні, у дзяржаве ўсякім чынам навязвалі так званы метад сацыялістычнага рэалізму, які ягоным заўзятым прыхільнікам шмат нарабіў шкоды. Але, дзякаваць Богу, дагматычныя ўстаноўкі амаль не закранулі іхняй мастацкай структуры ў раманах цыкла «Цень ад штыка». Перад намі, можна сказаць, шчаслівае выключэнне, бо ў паплечнікаў, якія перайшлі да напісання твораў

буйной жанравай формы — І. Навуменкі, І. Чыгрынава, Б. Сачанкі рудыменты камуністычнай ідэалогіі на паверхні. Зрэшты, ад гэтай пошасці не ўтрымаўся і старэйшы пісьменнік, на той час ужо прызнаны класік нацыянальнай літаратуры Іван Мележ.

Але, зазначаючы на гэта, не будзем забываць, што паказанае ў раманах Адамчыка жыццё — заходнебеларуская рэчаіснасць — карэнным чынам адрозніваецца ад жыццёвай першаасновы іншых, названых тут пісьменнікаў, якія пісалі пра савецкі лад і склад жыцця, за два з гакам дзесяцігоддзі цалкам перайначанага па канонах камуністычнай ідэалогіі. Ломку, якую зазналі беларусы ва ўсходняй частцы краіны, тут, у заходняй, давялося перажыць з верасня 1939. Была яна не менш жорсткай і трагічнай.

Творчасць В. Адамчыка не ізалявана ад вопыту іншамоўных літаратур, прынамсі, пра што ўжо была гаворка, ад спадчыны У. Рэйманта — аўтара несмяротнай эпапеі, якая, бадай, і дасюль з'яўляецца адным з найбольш маштабных, роўных «Ціхаму Дону» М. Шолахава, хоць гэта вельмі адрозныя рэчы, як па складзе мастакоўскага пісьма, характарах, аўтарскім светапоглядзе і г.д, глыбокіх твораў пра сялянства ва ўсёй сусветнай літаратуры.

Да кожнага працаўніка зямлі незалежна ад яго месца на ёй у сэрцы пісьменніка месціцца спачуванне, любасць, спагада ці, ва ўсякім разе, разуменне. Асабліва паказальныя адносіны да абмаляваных з вялікай цеплынёй і шчырасцю парабка Кубы і парабчука Вітка. Але ідэал пісьменніка ўсё ж бачыцца ўвасобленым ў вобразе селяніна заможнага, разумнага і гаспадарлівага. Слова «господаж», бадай што, самае ўзнёслае і аўтарытэтнае ў рамане: пра што б ні гаварылі рэймантаўскія мужыкі і што ні меркавалі зрабіць, заўсёды ў канчатковым выніку раяцца з Мацеем Барынам.

Другой светапогляднай адрознасцю пазіцыі В. Адамчыка ад класіка польскай літаратуры мы лічым адсутнасць рэлігійнасці ў яе самакаштоўнай вартасці, якая вельмі шмат значыць для мастацкіх характараў «Сялян» У. Рэйманта. Некаторыя вобразы твора нібы знарок створаны дзеля таго, каб праілюстраваць сабой дагматы хрысціянскай, у гэтым выпадку каталіцкай веры. Шмат каму па творах заходнееўрапейскага жывапісу, напэўна, вядомы вобраз Магдалены, якая ў рэлігійным экстазе каяцца перад богам за грахі сваёй маладосці. Падобнае ўласціва і вобразу Ягны ў «Сялянах». Спачатку яна паказваецца перапоўненай жыццёвымі пачуццямі, ва ўладзе якіх доўга прабывае, не могучы засцерагчы сябе ад спакушальнікаў: «Заўсёды так з ёю робіцца, няхай толькі хто пагляне юрліва на яе, альбо і сцісне моцна... дык усё ў яе задрыжыць, надыходзіць знямога, і так млее ўнізе ўлоння, што ўжо ні пра што не памятае... ці ж яна вінавата?»

Аднак потым чыста зямная страсць пераходзіць у бесцялеснае, «святое» пачуццё да арганіставага сына, якое наўрад ці можна нават наз ваць каханнем, бо маладыя людзі глядзяць адно на аднаго праз акуляры рэлігійных уяўленняў і знаходзяцца у абсягах хутчэй містычных, чым зямных адчуванняў. Тое, ранейшае, што падпарадкавала сутнасць натуры Ягусі і вызначала яе стаўленне да мужчын, цяпер робіцца ёй арганічна непрымальным, фізіялагічны агідным, а таму яна з ненавісцю ўспрымае заляцанні юрліўца і адпрэчвае ад сябе сына Мацея Барыны Антака. Пераўвасаблення грэшніцы ў «святыя» не могуць убачыць і зразумець вясковыя кабеты, якія, помсцячы за колішняе, ганебным чынам караюць Ягусю. А яна выступае тут у ролі ахвяры і пакутніцы за зямныя грахі людзей.

На падставе прыведзеных фактаў, бадай, можна пераканацца, што ў раскрыцці і асэнсаванні вобраза Ягусі, у паказе яе эвалюцыі, месца і ролі ў сюжэце рамана няма ніякага падабенства з вобразам Алесі ў мастацкай сістэме «Чужой бацькаўшчыны». Таму і выклікае нязгоду выснова В. Каваленкі наконт «роднасці» раманаў У. Рэйманта і В. Адамчыка. «Раскрываюцца аднолькавыя шмат у чым страсці і супадаюць

прычыны канфліктаў, ёсць падобныя характары, як, напрыклад, Ягна Дамініка і Алеся Мондрых у «Чужой бацькаўшчыне», — піша крытык ва ўжо цытаванай рэцэнзіі, надрукаванай у часопісе «Полымя» (1979, № 1).

Асноўнае «непадабенства» заключаецца ў тым, што Ягуся, як адзначалася, малюецца ў вобразе ахвяры цёмных чалавечых страсцей і памкненняў, тады як сэнс Алесінай ролі супрацьлеглы. Пра яе, як ахвяру, можна казаць толькі ў самым шырокім трактаванні з'явы, у тым плане, што кожны злачынца з'яўляецца вынікам і ахвярай канкрэттных грамадскіх умоў часу. Што датычыць сутнасці іх натур, то Алесі менш за ўсё ўласціва ірацыянальная пачуццёвасць як вядучая дамінанта характару. Яе самы вызначальны для праблематыкі рамана ўчынак, дакладней — злаўчын, звязаны з атручваннем сваячак, не з'явіўся нечакана, раптоўна, як вынік якогасьці часовага ачмурэння, стыхійнага наплыву развярэджаных пачуццяў, а нарастаў спакваля, здзяйсняўся прадумана і рацыяналістычна запраграмавана. Праўда, ў тэксце і «Сялян», і «Чужой бацькаўшчыны», на што звяртае ўвагу чытача Віктар Каваленка, ёсць параўнанне жанчын з сытымі ялавіцамі, але на падставе гэтага наўрад ці апраўдана рабіць шырокія «тэарэтычныя» высновы аб падабенстве, нават супадзенні характараў. Бо памятаць трэба аб істотна адрозным падыходзе пісьменнікаў да раскрыцця персанажаў, пра тое, што вобраз Алесі цалкам зямны і рэальны, пазбаўлены пантэізму і містыкі, уласцівых рэймантаўскай гераіні.

Пазіцыя беларускага, падкрэслім, да таго ж на той час і савецкага пісьменніка, супрацьлеглая рэймантаўскай і ў разуменні сацыяльнага ідэалу. У «Чужой бацькаўшчыне», само сабой зразумела, няма культу ўласніка і ўласніцтва, уласцівага светапогляднаму грунту «Сялян». У гэтым сэнсе паказальным з'яўляецца факт замужжаства гаспадыні на сваёй зямлі і ў хаце Алесі, якая бярэ да сябе ў прымы бесхацімца, чалавека беднага, як кажуць, без кала і двара, і асабліва з-за гэтага яе перажывае.

У «Сялянах» вера ў бога традыцыйная, непарушная і трывалая. Польскі касцёл і звязаныя з ім культы і абрады настолькі моцна ўвайшлі ў свядомасць мужыка, што займаюць у яго пачуццях і думках месца поруч і нароўні з грунтам і асновай жыцця вясковага чалавека — зямлёй. Час тут вымяраецца не месяцамі, тыднямі, гадзінамі і хвілінамі, а прамежкамі ад аднаго рэлігійнага свята да другога, ад службы да службы ў касцёле. Калі трэба сказаць, што жыхар Ліпнік не забавіўся, то гавораць, што за гэты час можна было прамовіць усяго адны пацеры, а калі чалавек затрымліваецца дзесьці надоўга, то паводле часовага вымярэння ліпічанцаў, праходзіць імша і г.д.

«Гасподаж» і ксёндз — два найвялікшыя для вяскоўцаў маральныя аўтарытэты і арыенціры, якія з'яўляюцца для іх нормамі жыцця цяперашняга, зямнога, і таго, што немінуча наступіць яму на змену — нябеснаму, вечнаму. З імі ён увесь час радзіцца, як жыць і што рабіць у той ці іншай жыццёвай сітуацыі. Праўда, пазіцыя пісьменніка ў дачыненні да апошняга заключае ў сабе ноткі іроніі і падсмейвання, ён увесь час нібыта спускае божага служку з неба на грэшную зямлю, ці, дакладней, паказвае неадпаведнасць паміж тым, што прапаведвае ксёндз і як ён сябе паводзіць у будзённым зямным жыцці.

Нельга лічыць, што такім чынам У. Рэймант імкнуўся пахіснуць рэлігійныя ўстоі — не, наадварот! Будучы строгім рэалістам, ён паказвае канкрэтны чалавечы характар ў яго зямных праявах і цалкам зямным абліччы, але з пазіцый асобы, што сама глыбока верыць у бога і з гэтай маральнай, духоўнай вышыні бачыць неадпаведнасць ідэалу рэальнасці. Самі ж па сабе рэлігія, вера, касцёл не толькі не ставяцца пад сумненне, а тым больш не адмаўляюцца, але падаюцца чымсьці нязрушна трывалым, надзейным і на ўсе вякі грунтоўным, дзякуючы чаму і менавіта на чым трымаюцца маральныя ўстоі, нормы і прынцыпы чалавечага быцця. З

рэлігіяй і касцёлам пісьменнік лучыць свае надзеі і спадзяванні на нацыянальнае адраджэнне страчанай польскай дзяржаўнасці і незалежнасці ад Расійскай імперыі. Асабліва паказальнай з'яўляецца дзейнасць Роха, які распаўсюджвае сярод сялян нелегальную польскую літаратуру, заклікае не пускаць дзяцей у школу, дзе вучаць па-руску, прапаведуе зацятае змаганне за навучанне на роднай мове.

Калі б сутнасць рамана У. Рэйманта перадаць сродкамі жывапісу, то атрымалася б панарамнае палатно, карціна, у цэнтры якой абавязкова ўзвышаўся б магутны і велічны адначасова будынак каталіцкай бажніцы, калі б гэтую ж сутнасць узнавіць на мове музыкі, то вядучым тонам тут быў бы звон касцельных званоў, мелодыі арганаў, пад гукі якіх людзі снедаюць, палуднуюць і вячэраюць, нараджаюцца і паміраюць.

Што датычыць герояў В. Адамчыка, то ў іх душах, а тым больш у паўсядзённых клопатах і словах вера ў бога, рэлігія і касцёл амаль зусім не адчуваюцца. Адзіны выпадак, дзе касцёл і ксёндз непасрэдна паказваюцца ў «Чужой бацькаўшчыне», — гэта тады, калі Імполь і Алеся едуць у мястэчка дамаўляцца наконт шлюбу. Але сітуацыя гэта апісана з гумарам, пра што, дарэчы, на старонках колішняга ўсесаюзнага часопіса «Дружба народов» цікава пісаў наш празаік Алесь Жук у рэцэнзіі «На парозе радасцяў і трывог».

Калі польскі пісьменнік глядзіць на касцёл як на адзін з асноўных захавальнікаў роднай мовы, свядомасці палякаў, іх нацыянальнай годнасці, агулам кажучы «польскасці», як на будзіцеля барацьбы, падрыхтоўкі змагання з расійцамі за вызваленне польскай краіны ад іншанацыянальнага прымусу і змагання за аднаўленне сваёй дзяржаўнасці, то ў аўтара раманнага цыкла «Цень ад штыка» — «Чужая бацькаўшчына» (1578), «Год нулявы» (1983), «І скажа той, што народзіцца» (1987), «Голас крыві брата твайго» (1990), зноў жа ў адпаведнасці з гістарычнай праўдай, касцёл на абшарах Беларусі выступае актыўным сродкам і нават механізмам дэнацыяналізацыі і паступовага цалкавітага апалячвання беларускага народа. Менавіта, дзякуючы гэтаму згаданы ў «Чужой бацькаўшчыне» эпізод з ксяндзом не сам па сабе існуе, але выконвае істотную ролю ў асэнсаванні цэнтральнай для ўсёй эпапеі праблемы бацькаўшчыны і яе адчужэння ад родных дзяцей.

Тут у асноўным гаварылася пра істотныя моманты, якія сведчаць, што нельга ставіць знак роўнасці паміж гэтымі творамі, бе пазіцыі польскага і беларускага пісьменнікаў розняцца, а іх творы вынікаюць з розных гістарычных эпох і адметна-самабытных нацыянальных культур. Але повязь, прытым відавочная, паміж гэтымі творамі існуе, яе, зрэшты, і сам беларускі пісьменнік не адмаўляў, больш таго, пакінуў у раманах цыкла «Цень ад штыка» канкрэтныя пазнакі гэтага, скажам, у падабенстве назвы вёскі Верасава, дзе адбываецца дзеянне ўсіх раманаў з Ліпнікамі — цэнтральнай арэнай дзеяння рэўмантаўскай эпапеі. А таму, калі В. Каваленка пісаў пра залежнасць беларускага твора ад польскага, то сказаць так у яго пэўныя падставы былі. Параўноўваючы «Чужую бацькаўшчыну» з «Сялянамі», даследчык слушна зазначаў:

«І там, і тут паслядоўна падрабязнае раскрыццё побытавага жыцця вёскі без колькі-небудзь значнага выхаду за яе ваколіцы, вельмі падобная агульная танальнасць апавядальнай манеры — непаспешлівай, засяроджанай, з асаблівай увагай да сельскай прыроды, з апісаннямі падзей вясковага жыцця (праца каля дому, вячоркі, выезд на кірмаш, парадкаванне свежыны і г.д.).

Такое падабенства сапраўды існуе, але ці толькі паміж гэтымі творамі?! Думаецца, што там, дзе паказваецца вёска, побыт сялянскага жыцця, прырода, — такіх паралеляў можна знайсці ў дзясятках і сотнях твораў пісьменнікаў, якія з'яўляліся прадстаўнікамі розных народаў і пісалі ў самыя розныя часы, кожны на сваёй нацыянальнай мове! Больш істотнае, на нашу думку, заключаецца ў тым, што В. Адамчык услед за У. Рэймантам стварае, засяроджваючыся на паказе адной вёскі,

яе жыхароў і наваколля, своеасаблівую мастацкую мадэль гістарычнага быцця народа на пэўным этапе яго існавання і развіцця.

Гэтая важная для разумення рамана думка больш ёмкую фармуліроўку, мабыць, набыла ў рэцэнзіях М. Тычыны. «Словы «верасоўцы» «ведраўцы», «дварчане», «дубатоўцы», «людзі», «сяло», «акруга», па сутнасці, з'яўляюцца сінонімамі паняцця «народ» у рамане Адамчыка. У аснове твора яны займаюць асаблівае месца. Гэта «апорныя словы», на якіх трымаецца аўтарская канцэпцыя жыцця. Па тым, як яны паводзяць сябе ў розным кантэксце, можна рабіць пэўныя вывада аб руху пісьменніцкай думкі», — напісаў крытык на старонках часопіса «Маладосць» і тое самае паўтарыў, рэцэнзуючы пераклад «Чужой бацькаўшчыны» на рускую мову, на старонках маскоўскага часопіса «Литературное обозрение».

Аднак асаблівасць мастацкай манеры беларускага пісьменніка крытык падае без уліку створанага польскім папярэднікам, але менавіта У. Рэйманту ўласціва здольнасць узняць побыт асобнай вёскі да ўзроўню гістарычнага быцця нацыі, народа, краіны, паказваючы разам з гэтым жыццё вельмі непасрэдна, канкрэтна. В. Адамчык дасягае гэтага шмат у чым падобнымі сродкамі, малюе карціну жыцця фарбамі, можна сказаць, запазычанымі ад У. Рэйманта, асабліва з першай кнігі «Сялян», названай «Восень», дзе вызначальным з'яўляецца той самы, што і ў «Чужой бацькаўшчыне», шэры колер. Падобны і рытм раманаў, у сваёй аснове максімальна набліжаны да жыцця прыроды, да каляндарнай цыклічнасці. Тут, мяркую, В. Адамчык стаіць значна бліжэй да рэймантаўскай традыцыі, чым да ўласна сваёй, нацыянальна-беларускай. Таму ўдакладнення патрабуе думка М. Тычыны, які пісаў: «Каляндарная цыклічнасць сюжэтна-кампазіцыйнай будовы рамана таксама збліжае яго (раман «Чужая бацькаўшчына». — Я. Л.) з творамі нашай класікі», — а пазней пашырыў сваё разуменне вытокаў гэтай з'явы: «Сюжэтна-кампазіцыйная будова рамана збліжае яго з творамі і беларускай класікі і асабліва фальклору».

Выходзіць, што на гэтай «каляндарнай цыклічкасці» трымаецца ўся наша класічная літаратурная спадчына. А заўвага пра «сюжэтна-кампазіцыйнае» збліжэнне з фальклорам таксама агульная, бо нават немагчыма здагадацца, што канкрэтнае мае тут крытык на ўвазе.

Пэўнае падабенства можна заўважыць у тым, як абодва пісьменнікі не абыходзячы адмоўных праяў у жыцці народа, усё ж арыентуюцца на здаровае і трывалае ў ім, па-свойму яго паэтызуюць, абмалёўваючы здаровых, прыгожых і дужых людзей, якія маглі б, аб'яднаўшыся ў адно цэлае, усвядоміўшы вышэйшы сэнс свайго жыцця не толькі дзеля сябе, сваіх фізіялагічных патрэб, але і для Бацькаўшчыны, роднага народа, стаць маналітнай арганізаванай нацыяй і ўнесці ўклад у духоўную скарбніцу чалавецтва.

Варта тут падкрэсліць арганічнасць засваення В. Адамчыкам вопыту свайго геніяльнага папярэдніка. Знойдзеныя У. Рэймантам прыёмы і сродкі не ляжаць у «Чужой бацькаўшчыне» і наступных раманах на паверхні, а ўключаюцца ў новую ідэйна-мастацкую сістэму і набываюць сваё другое, ужо цалкам адрознае, падпарадкаванае новым задачам жыццё. Задачы гэтыя спраецыраваны на асэнсаванне канкрэтнага быцця беларускага народа, якое, у сваю чаргу, паслужыла і жыццёвай, і мастацкай першаасновай раманаў цыкла «Цень ад штыка».

Ірына Шаўлякова



...ключавымі задачамі становяцца не толькі стварэнне адэкватнай выклікам эпохі літаратурна-мастацкай “метамовы”, але і пошук спосабаў яе самаактуалізацыі...

# Дыялогі пасярод мяжы

## *Культурна-камунікатыўныя перспектывы найноўшай беларускай літаратуры*

У сучасным беларускім мастацтве слова (у прыватнасці, у літаратурным працэсе першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя) канцэпт між-быцця, адзін з найважнейшых складнікаў канцэптасферы нацыянальнага прыгожага пісьменства XIX-XX стагоддзяў, набывае вагу ключавога чынніка. “Беларусы здаўна прызвычаіліся да існавання “паміж”, спакушаючы сваёй адкрытасцю і Захад, і Усход”, — заўважае літаратуразнаўца І. Афанасьеў [1, с. 369]. Адчуванне “паміжнасці” быцця як анталагічнай наканаванасці было геніяльна “персаніфікаванае” Янкам Купалам у вобразе-канцэпце “тутэйшасці”, які ўтварае філасофска-мастацкае ядро п’есы “Тутэйшыя” (1922), прысвечанай людзям, што жывуць на гістарычных скразняках, людзям, асуджаным быць грамадзянамі “сярэдзіннай тэрыторыі” — не толькі ў геаграфічным, але і ў ментальным, духоўна-маральным сэнсах. “Не сягоння — заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры

якой здольны аратар будзе магчы купацца як сыр у масле", — запэўнівае Мікіта Зносак у другой дзеі, якая, паводле задумы драматурга, адбываецца ў снежні 1918 года. На заўвагу Янкі Здольніка пра тое, што гэтая "свабодная прафесія" не для "рэгістратарскага светагляду", Зносак шчыра здзіўляецца: "Не разумею, пры чым тут мой, между протчым, светагляд? Можна мець светагляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, а рабіць чацвертае, як навучае мой профэсар гэр Спічыні. І я пастанавіў у сваёй аратарскай профэсіі моцна прытрымлівацца гэтай мудрасці" [2, с. 438]. Аленка ў апошняй дзеі (адбываецца ў чэрвені 1920-га) скрушна зазначае: "Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Але так пагналі, што і след згінуў. Ужо тут, у Менску, мы даведаліся, што перш адны гналі, пасля — другія, потым — зноў тыя самыя, потым — зноў другія, а там далей і няведама, хто гоніць і куды гоніць" [2, с. 469]. Нам ужо даводзілася акцэнтаваць увагу на тым, што тлумачэнне "беларускага ментальнага тыпу" ў айчыннай славеснасці (і ўласна мастацкай, і філасофска-публіцыстычнай) памежжа XX-XXI стагоддзяў нярэдка зводзіцца да мадэрнізацыі — больш ці менш абгрунтаванай — якраз канцэпта "тутэйшасці". Прычым купалаўскі "арыгінал" у творах новай літаратурнай генерацыі актуалізуецца часам надзвычай арыгінальна (адным з яскравых прыкладаў у гэтым сэнсе паўстае вершаваны тэкст В. Куставай "Посттутэйшыя, або Пакаленне «Ы»", размешчаны ў маі 2007 года на форуме сайта www.litara.net).

Тым не менш, якраз у абсягах мастацкай славеснасці найбольш рэльефна, "рэчыўна" — шматаспектна і рознаўзроўнева — выяўляецца своеасаблівая сэнсаформа існавання і літаратуры, і аўтэнтычнай культуры ў цэлым, што рэпрэзентуе адмысловасць быцця ў бясконцым міжчассі і на непераадольным памежжы. Гістарычны, геапалітычны і да т.п. фактары дазволім сабе прымаць за "відавочнасць", якую неабходна мець на ўвазе падчас асэнсавання і атрыбутавання спецыфічнага тыпу літаратурна-мастацкай творчасці, агульныя прыметы якога, на наш погляд, спакваля пачынаюць акрэслівацца менавіта "зараз" — у межах чарговага (сучаснага нам) "пераходнага перыяду".

Ужо сам факт прыналежнасці літаратара да эпохі Пост абумоўлівае ў вачах тэарэтыкаў "другаснасць" яго мастацкага плёну, бо сама літаратура ўважаецца за "гульню ў гульню", угрунтаваную ў логіцы "паразітавання" на адкрыццях папярэднікаў. Да ўсяго, у айчыннай культурнай прасторы сітуацыя ўскладняецца неабходнасцю даводзіць самім сабе ўласную ж аўтэнтычнасць: адпрэчваць наяўныя і ўяўныя абвінавачванні ў тым, што, маўляў, новая нацыянальная літаратура была "сканструявана" з фрагментаў іншых ("чужых") традыцый, таму пра арыгінальнасць (тут: адзінкавасць, унікальнасць) найноўшай мастацкай славеснасці нібыта і гаварыць не выпадае. Разам з тым, менавіта вырак між-быцця абумоўлівае дыялагізм нацыянальнай літаратурнай традыцыі; прычым тэндэнцыі развіцця мастацкай славеснасці першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя, калі "межы" пачынаюць замяшчаць сабою ўласна "прастору" ("сціскаецца прастора, // як сіло" (Алесь Разанаў)), яскрава сведчаць пра іманентнасць дыялагізму як асноватворнага грунту аксіялагічных, духоўных, маральных, эстэтычных, мастацкіх (ідэйна-праблемных і вобразна-выяўленчых) пошукаў сучасных беларускіх літаратараў (празаікаў, паэтаў, драматургаў, крытыкаў). Згаданы дыялагізм як іманентная ўласцівасць мастацкай анталогіі беларускай нацыянальнай літаратуры выяўляецца праз дыялагічнасць (адмысловую якасць найноўшай мастацкай прасторы) і ўрэчаўляецца ў мастацкай практыцы ў досыць шырокім спектры індывідуальна-аўтарскіх "версій", якія (хоць і з вялікай доляй умоўнасці) можна тыпалагізаваць — напрыклад, паводле ўзроўню і ступені выяўлення дыялагізму ў літаратурна-мастацкім творы.

Паводле прапанаваных крытэрыяў у агульным корпусе мастацкіх тэкстаў апошняга дзесяцігоддзя выразна вылучаюцца дзве тыпалагічныя групы. Адна

ўлучае творы з дыялагічнасцю "ўнутранай", схаванай у глыбінях тэксту: працінаючы ўсе ўзроўні яго структуры, ахопліваючы твор цалкам, выяўляецца такая дыялагічнасць, як правіла, ва "ўскоснай інтэртэкстуальнасці", праз асацыятыўную актуалізацыю не толькі іншакультурных кантэкстаў, але і аўтэнтычнага падтэксту. Акрэслены тып уласцівы пераважна творам прадстаўнікоў так званага сярэдзіннага пакалення беларускіх літаратараў (мусім абмежавацца згадкаю найбольш рэпрэзентатыўных, на наш погляд, тэкстаў): паэмы "Ірландыя" Л. Дранько-Майсюка, "Ра", "Эміграцыя" А. Бадака; вершы І. Бабкова, а таксама яго "раман у 10-ці эпізодах" "Адам Клакоцкі і ягоныя цені"; раман "Рэвізія" А. Федарэнкі; аповесць А. Брава "Каменданцкі час для ластавак"; аповеды і навелы Уладзіміра Сцяпана, С. Рублеўскага, М. Андрасюка, Вінцэся Мудрова, М. Касцюкевіча і інш. Асабліва паказальнымі ў дадзеным аспекце бачацца аповесці "Сэрца мармуровага анёла", "Пярсцёнак апошняга імператара", "Ночы на Плябанскіх млынах", раманы "Золата забытых магіл", "Скокі смерці", "Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію", "Сутарэнні Ромула" Л. Рублеўскай. Яе раманная проза апошніх гадоў — "інтэнсіўна інтэртэкстуальная" (З. Шаўчук) [3], тут аднолькава актуальнымі паўстаюць айчынныя і замежныя літаратурныя крыніцы (летапісы, дыярыушы, мастацкія творы, мемуары, дакументы розных эпох), з'явы розных відаў мастацтва (выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога, музычнага, тэатральнага), аб'екты побытавай культуры... Галоўны крытэрый іх адбору — важкасць унёску ў справу рэміфалагізацыі аўтэнтычнай беларушчыны. У дадзеным выпадку размова ідзе не пра збыткоўную цытацыю прэцэдэнтных для найноўшай культурнай парадыгмы тэкстаў і не пра пастышавае жангліраванне знакавымі для нацыянальнай традыцыі ідэямі, канцэптамі, імёнамі і г.д. Напрыклад, мастацкая персаніфікацыя інтэртэкстуальнасці ў "Сутарэннях Ромула" — Кніга Вячкі Скрыніча разгортваецца як вандроўка па Тэксце беларускай культуры — неад'емнай часткі еўрапейскага гісторыка-культурнага ландшафту.

Да другой групы можна аднесці творы маладзейшых літаратараў, якія ў абсягах першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя міжволі "кансалідуюцца" ў "найноўшае філалагічнае пакаленне": яно, у адрозненні ад згаданага вышэй "сярэдзіннага пакалення", уступае з іншакультурнымі тэкстамі не ва "ўнутраны", але ў "публічны" дыялог. Па сутнасці, паэзія, проза і нават крытыка пакалення 1990-х (за рэдкім выключэннем), а таксама тых, хто выступіў са сваімі творамі ўжо ў 2000-х, ёсць плёнам "гучнага" — і пры гэтым нязменна іранічнага і/ці самаіранічнага — дыялогу з тэкстамі (у шырокім сэнсе: літаратурнымі, філасофскімі, музычнымі, кінематаграфічнымі і г.д.) іншых культур: прыгадаем паэтычныя творы М. Баярына, А. Хадановіча, С. Прылуцкага, М. Шчура, В. Гапеевай, Вальжыны Морт; зборнік "Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў", раманы "Праклятыя госці сталіцы", "Сарока на шыбеніцы" Альгерда Бахарэвіча, "Рэканструкцыя неба. Раман у дэталях" В. Гапеевай, раманы "Замак пабудаваны з крапівы" З.Вішнёва, "Бег" А. Талстова; артыкулы і рэцэнзіі М. Аляшкевіч і інш. Мастацкі тэкст у дадзеным выпадку найчасцей выштукоўваецца на "мяжы-скрыжаванні" філасофіі постмадэрнізму-дэканструктывізму-постструктуралізму — і іранічнай меладрамы, трагедыі — і вадэвілю: мімесіс дасягаецца за кошт гвалтоўнага, шокавага спароўвання "верху" і "нізу", якое, відаць, на думку адпаведных аўтараў, адно і здольнае "аднавіць" хаосмас сучаснасці.

У творах апошняй літаратурнай генерацыі (умоўнага пакалення дваццацігадовых), у сваю чаргу, іншакультурныя тэксты скарыстоўваюцца, як правіла, інструментальна: "імёны" з іншых культур закліканыя стварыць "імя ўласнае" маладому літаратару, паколькі яны, з аднаго боку, адпаведным чынам маркіруюць паэтычную ці празаічную прастору, а з другога боку, маніфестуюць эстэтычныя ды мастацкія арыенціры літнеафіта.

Заўвага аднаго мастацкага персанажа — “...Беларусь знаходзіцца між Захадам і Усходам (але на Захадзе)...” [4, с. 168] — надзвычай красамоўна “адгукаецца” ў бягучым літаратурным працэсе. Так, ЛеГАЛ, упікаючы маладую паэтку Насту Кудасаву (чый першы паэтычны зборнік “Лісце маіх рук” выйшаў у 2006 годзе) у безразважнай і апантанай захопленасці “непадробным талентам выдатнай расійскай паэткі М. Цвятаевай”, фармулюе агульны прысуд: “Чамусьці многія з беларускіх паэтаў захопліваюцца... а працей скажам падпадаюць пад уплыў рускай класікі: Ясеніна, Маякоўскага, Ахматавай, Пастэрнака, Мандэльштама, Рубцова, Бродскага і г.д. Ды рэдка хто “наследуе” беларускую нацыянальную класіку (за выняткам такіх імён як Багдановіч і Разанаў). <...> Пад Купалу (да 1929 года) падрабіцца ўвогуле немагчыма, паколькі гэта натуральны нацыянальны талент, а Прыроду, як вядома, ніякай штучнасцю і версіфікацыйнымі вымогамі не падменіш...” [5]. “Рэха паэзіі “сярэбранага веку”, найперш, Марыны Цвятаевай”, “сугучнасць матываў, вобразаў, ладу мыслення, самаасэнсавання” чуецца і іншаму крытыку — Л.Алейнік — у зборніку Л. Рублеўскай “Шыпшына для Пані” (2007) [6]. Міхась Южык, разважаючы ў допісе “Чаму мы не цытуем класікаў?” [7] пра “нейкі дзівосны беларускі феномен”, дакарае не толькі сённяшніх пісьменнікаў і крытыкаў, журналістаў, але і суайчыннікаў наогул: чаму, цытуючы “чужых” класікаў і нават мала вядомых літаратараў, беларусы ігнаруюць класікаў беларускай літаратуры.

Між тым, аналіз літаратурна-мастацкіх твораў апошняга дзесяцігоддзя сведчыць пра істотнасць “узроставага” фактару падчас выбару тым ці іншым пісьменнікам, у якім кірунку (“усходнім” ці “заходнім”, “класічным” ці “авангардысцкім”) перасягнуць уяўную Мяжу, вырвацца з яе цянётаў, каб здзейсніцца ў культурным дыялогу — і праз яго. Прадстаўнікі памянёнага “сярэдзіннага пакалення” могуць рушыць у розных “геаграфічных” кірунках (напрыклад, А. Федарэнка найчасцей звяртаецца да рускай літаратуры — А. Чэхава, Л. Талстога, а Л. Дранько-Майсюк — да заходнееўрапейскай), але амаль заўсёды ўтрымліваюцца ў полі прыцягнення даўнейшай і сучаснай класікі. Маладзейшыя літаратары таксама ахвотна апелююць да класікі, але гэта, за рэдкім выняткам, зусім іншыя “класікі” — пераважна постмадэрну (прыгадаем іранічную інкарнацыю ідэй Р. Барта ў вершы Ю. Аляксеенкі “Смерць Аўтара”) альбо маскульту. Зрэшты, “рубікон” паміж гэтымі дзвюма “класікамі” ў некаторых выпадках настолькі станчаецца, што перасягаецца літаратарам незаўважна для яго самога, з зухаватай лёгкасцю. Напрыклад, А. Лапіцкая, аналізуючы творы двух аўтараў, якія надрукавалі свае першыя празаічныя творы ў 2000-х, прыкладна ў дзевятнаццацігадовым узросце, заўважае: “Трэба адзначыць, што і А. Бруй, і Тэда Лі абсалютна не засяроджваюцца на нацыянальна-палітычных пытаннях, дый выявіць пераемнасць з папярэдняй беларускай літаратурай у іхніх творах амаль немагчыма: у апавяданнях Тэды Лі згадваюцца Бах, Муракамі, Франсуаза Саган, Кастанеда, Уэльбек, Гамер, Гары Потэр, “Cosmopolitan”, “Дзённік Брыджыты Джоўнс” — родныя ж аўтары/творы/выданні, апрача “Маладосці”... і Аляксандра Кулінковіча... застаюцца тут па-за ўвагай. Для твораў жа А. Бруя апеляванне да фактаў сучаснай культуры было б даволі недарэчным — зрэшты, самі ягоныя тэксты яскрава выяўляюць арыентацыю аўтара на еўрапейскі ўзровень, ягоную прыхільнасць да творчай свабоды — пры поўным адмаўленні ад тэндэнцыйнасці і абавязковага ўздымання «вострых сацыяльных праблемаў»” [7].

Паказальным таксама з’яўляецца тое, што цягам апошніх гадоў з’явіліся — перакладзеныя якраз маладымі літаратарамі на беларускую мову — кнігі сучасных польскіх, нямецкіх, украінскіх, чэшскіх, ізраільскіх, шведскіх пісьменнікаў, а вось беларускіх перакладаў твораў сучасных расійскіх аўтараў, тым больш выдадзеных асобнымі кнігамі, практычна не было.

Калі гаварыць пра перспектывы найноўшага беларускага мастацтва слова ў аспекце спецыфікі выяўлення дыялагізму як іманентнай уласцівасці нацыянальнага прыгожага пісьменства, то, на нашу думку, у бліжэйшы час у айчыннай літаратурнай прасторы будзе павялічвацца ўдзельная вага дыялагічнасці другога тыпу — “гучнай”, “наўпроставай”. Але ўжо зараз ёсць падставы меркаваць, што найбольш верагоднай альтэрнатывай “колькаснай” перавазе “публічнай” дыялагічнасці станецца аксіялагічная ды мастацкая “якасць” (вартасць) твораў, што паўстаюць на грунце дыялагічнасці “ўнутранай”. Акрамя таго, нарастанне адмысловых дыфузных тэндэнцый у сусветнай літаратурнай прасторы (звязаных з паскарэннем працэсаў узаемапранікнення, змяшэння, узаемаўплыву, сінтэзу і пераўтварэння элементаў розных мастацкіх сістэм) ужо зараз сведчыць на карысць нядоўгага існавання гэтай умоўнай “альтэрнатывы”. Найноўшае нацыянальнае мастацтва слова, якое мы ўважаем за сістэму, здольную да самаарганізацыі і самаразвіцця, сёння сутыкаецца з вострай неабходнасцю актуалізаваць у спецыфічных умовах інфармацыйнага грамадства сваю ролю як суб’екта міжкультурнай камунікацыі. Відавочна, што істотнае абнаўленне “камунікатыўнага арсеналу” ў гэтай сітуацыі непазбежнае. Адпаведна, ключавымі задачамі становяцца не толькі стварэнне адэкватнай выклікам эпохі літаратурна-мастацкай “метамовы”, але і пошук спосабаў (шляхоў, тыпаў, сродкаў, прыёмаў, форм, etc.) яе самаактуалізацыі ў найноўшай культурнай парадыгме, арыентаванай на дыялогавае “маўленне”, што ў айчыннай сітуацыі канкрэтызуецца, увасабляецца ў дыялогах ПАСЯРОД мяжы, “выгнутай” у скрыжаванне.

З нашым, як той казаў, шчасцем...

ЛІТАРАТУРА:

1. Афанасьеў, І. Там, дзе пачынаецца вечнасць / І. Афанасьеў / Анталогія сучаснага беларускага мыслення. — СПб. : Невский Простор, 2003. — С. 365—381.

2. Купала, Янка. Драматычныя творы / Уклад. А .А. Сляпцовай; Паслясл. В. А. Каваленкі; Мал. В. П. Шаранговіча / Янка Купала. — Мінск: Маст. літ., 1989. — 494 с.

3. Шевчук, З. В. Засоби моделювання історії в постмодерній українській прозі: Автореф. дис... канд. філол. наук: 10.01.06 / З. В. Шевчук; НАН України. Ін-т л-ри ім. Т. Г. Шевченка. — Київ, 2006. — 19 с. — укр. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.lib.ua-ru.net/dissertation.htm. — Дата доступу: 10.01.2011.

4. Пятровіч, Барыс. Шчасце быць... (Трыпціх, аповесці, апавяданні, мроі) / Барыс Пятровіч. — Мінск : УП “Тэхнапрынт”, 2004. — 576 с.

5. ЛеГАЛ. Кулуары / ЛеГАЛ // Літаратура і мастацтва. — 2007. — 2 лістапада. — С. 16.

6. Алейнік, Л. Смак шыпшыны / Л. Алейнік // Літаратура і мастацтва. — 2008. — 1 лютага. — С. 6.

7. Южык, Міхась. Чаму мы не цытуем класікаў? / Міхась Южык. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://iuzhyk.livejournal.com/?skip=20/. — Дата доступу: 08.02.2011.

8. Лапіцкая, А. Ад трэцяй асобы... Паралельны агляд творчасці Тэды Лі і Аляксея Бруя / А. Лапіцкая. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.dziejaslou.by/inter/dzeja/dzeja.nsf/htmlpage/lap44/. — Дата доступу: 02.04.2011.

Барыс Клейн



...“гарадзенскаму трохкутніку” было наканавана існаваць толькі некалькі гадоў...

# Што бачыцца цяпер

## *Чытаючы кнігу Сяргея Шапрана “Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця”*

У якім жанры напісаны два тамы гэтай выдатнай кнігі? Лічыць яе акадэмічнай энцыклапедыяй жыцця і творчасці класіка беларускай літаратуры? Вядома, можна і так. Але чытач не знойдзе ў ёй, як у іншых падобных выданнях, размеркаванай па рубрыках, “кандэнсаванай” інфармацыі. Перад намі таксама і не летапіс, хоць увесь сабраны матэрыял выверана храналагічна.

Гэтае выданне — нешта іншае. За аснову быў узяты “хрэстаматыйны прынцып”, як падкрэсліў сам Сяргей Шапран у лісце да мяне. Злучаліся розныя крыніцы: архіўныя дакументы, рукапісы, эпісталярная спадчына. Падрабязна цытаваліся вытрымкі з мемуараў, прамоваў, артыкулаў і іншых тэкстаў, напісаных, трэба адзначыць, не заўсёды з сімпатыяй да галоўнага героя. Аўтар двухтомніка прысвяціў сябе не аднаму толькі сухому даследванню тэмы; ён нібы агучваў паліфанію вялікай чалавечай душы. З яго дапамогай Беларусь вяртала свайго выдатнага духоўнага лідара.




Падзеі апошняга часу пацвярджаюць, наколькі актуальная гэтая праца. Яшчэ раз паспрабаваць вызначыць яе асноўную каштоўнасць можна, напэўна, так: ад даследваных гісторыкам фактаў яна прыводзіць да абагульненняў, набліжае да ўрокаў мінулага, якія неабходна сёння асэнсаваць.

Мяне, вядома, асабліва прыцягвае ўсё, што сведчыць пра быкаўскія (і нашы з Карпюком) шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Пакуль гэта мне пад сілу, паспрабую нешта яшчэ прыгадаць; магчыма, пераасэнсаваць.

Калі склаўся "гарадзенскі трохкутнік" Быкава, Карпюка, Клейна (тэрмін, якім ужо карыстаюцца беларускія гісторыкі і журналісты), для ўлады гэта стала напамінкам, што ў горадзе на мяжы краіны фармуецца ідэйна чужая і палітычна варожая група інтэлігенцыі. Як вызначае Аляксандр Фядута (у прадмове да маёй кнігі "Недосказанное: имена"), у Гародні тады ўзнік "шматгадовы інтэлектуальны цэнтр жыцця цэлага рэгіёну", які сёння ўспрымаецца як частка гісторыі народу. У глыбокім даследаванні Алега Дзярновіча "Гродзенскі трохкутнік" ("Arche", № 1-2, 2010, стар. 576) зазначана: "Аляксея Карпюка можна назваць класічным шасцідзясятнікам". Здаецца, такім жа аўтар лічыць і мяне.

Светапогляд Быкава трактуецца па-іншаму. Аб гэтым можна меркаваць і па ўспамінах Валянціна Тараса пра іх мінскі гурток іншадумцаў перыяду шасцідзясятых гадоў. Там аддавалася даніна надзеі на нейкі "сацыялізм з чалавечым тварам", тады як у Быкава, падкрэслівае мемуарыст, аніякіх падобных ілюзіяў не было ні тады, ні раней. (Глядзі "Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця", том 2, стар. 667).

Такое меркаваннне мне ўяўляецца дакладным, але няпоўным; варта было б паразважаць яшчэ, каб зразумець тое, што было на самой справе. Ці праўда, што мы з Карпюком былі "шасцідзясятнікамі"? Магчыма, так. Асабліва ў першыя гады "адлігі". Ды і для Быкава важная была тая ступень свабоды, якую тады ён адчуў. Бо пачынаўся яго выхад у вялікую літаратуру. Галоўным аўтарытэтам лічыўся часопіс "Новый мир" А. Твардоўскага, з якім у Васіля завязалася трывалая сувязь.

Але з сярэдзіны шасцідзясятых выявіліся істотныя разыходжанні — як у думках, так і ва ўчынках. Не выпадкова для гісторыкаў грамадскай думкі ў Расіі мяжой "дысідэнцтва" з'яўляецца працэс Сіняўскага і Даніэля, якія друкаваліся за мяжой без дазволу ўладаў. А для нашай гарадзенскай групы (пра іншыя меркаваць не бяруся) духоўная змена напрамку была звязаная з публікацыяй аповесці Васіля Быкава "Мёртвым не баліць" спачатку (у 1965 г.) у "Маладосці", а потым, у пачатку 1966-га, у "Новом мире". Гэтая аповесць — нешта асобнае ва ўсёй літаратуры былога СССР. Справа не толькі ў тым, што Васіль Быкаў першым паказаў паўнакроўныя адмоўныя вобразы чэкістаў. У аповесці ў самым крытычным выглядзе была звернута ўвага на мянтальнасць усемагутнай установы, што трымала пад прыгнётам народы. Адсюль такая

цікавасць да гэтага твора за мяжой, пераклады на іншыя мовы. Адпаведна і кампанія жорсткай, у самых грубых формах, цкавання аўтара. Ніхто да Быкава не выяўляў такой творчай і асабістай смеласці ("Архипелаг ГУЛАГ" яшчэ быў невядомы). Мяркую, што ўсё, звязанае з "Мёртвым не баліць", нібы вылучала і Васіля, і нас, што трымаліся побач з ім у Гародні, за межы "класічнага шасцідзясятніцтва".

У Маскве, як пацвердзілі пазнейшыя мемуары, сярод інтэлектуалаў пашырылася псіхалогія "зыходу ў зручныя нішы". Пры садзейнічанні некаторых крамлёўскіх чыноўнікаў многія іншадумцы ўладкоўваліся ў напаўфіктыўны Інстытут гісторыі міжнароднага рабочага руху, у арбатаўскі інстытут амерыканістыкі і падобныя ўстановы. У тых аўдыторыях пры някепскім матэрыяльным забеспячэнні вяліся доўгія дыскусіі, нават нараджаліся філасофскія канцэпцыі. Аднак таленавітыя людзі прызнаваліся ўслых, што ім цяжка ад прозы злабадзённай палітыкі; яны імкнуліся кудысці вышэй, што, урэшце, і патрабавалася ад іх. І ў выніку аказалася, што расейская эліта (уключаючы дысідэнтаў) напісала нямала кніг на розныя тэмы, але не падрыхтавала ніводнага рэальнага плана рынкавых рэформаў. Не вылучыла і моцнага палітыка, які быў бы здольны ўзначаліць змену рэжыму.

Васіль Быкаў у часы наведвання сталіцы адчуваў гэтую атмасферу нарастаючай палітычнай апатыі. Ён не аднойчы паўтараў у нашых гутарках: супраціўлення ўладзе ў Маскве не будзе. Тым уважлівей мы ўзіраліся ў тое, што адбывалася "ў суседзяў": у Варшаве і Празе.

У сакавіку 1968-га ў Польшчы пачаліся студэнцкія дэманстрацыі, якія падтрымала большасць кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў. З некаторымі палякамі мы падтрымлівалі кантакты праз Беласточчыну. Тады ж мы пачулі па замежным радыё, што ў Празе чэшскім Саюзам пісьменнікаў пачаў выдавацца штотыднёвік "Literarni Listy". З сакавіка былі адразу распрададзены ўвесь яго тыраж — 120 тысяч экземпляраў. Быкаву хацелася зразумець прычыну такога поспеху. Я пайшоў на галоўпаштампт у Гародні і даведаўся, што ў пераліку часопісаў з "братэрскіх краінаў" ёсць і гэты, можна на яго падпісацца. Неверагодна, але факт: некалькі месяцаў я легальна атрымліваў крамольнае выданне. Ведаючы беларускую і польскую мовы, я крыху авалодаў навыкамі чытання па-чэшску. Як мог, перакладаў галоўныя артыкулы, так што са зместам "Literarni Listy" маглі знаёміцца Быкаў, Карпюк ды яшчэ некаторыя. Але пасля жніўня, калі мы чакалі арышту, давялося спаліць увесь камплект.

Наколькі прыгадваю, нас не вельмі хвалявалі перспектывы "сацыялізму з чалавечым тварам". Затое ўразіла наватарства тактыкі лідараў "пражскай вясны". Якая хуткасць падключэння моладзевых гурткоў, прафсаюзаў, другіх арганізацый да выключна інтэлігенцкіх групаў! Раптам з нічога складваўся сур'ёзны грамадскі рух. Але гэта было не ў нас... З горыччу прыгадваў Васіль Быкаў пасля, што ўварванне Савецкай Арміі ў Чэхаславакію выклікала захапленне ў некаторых гарадзенцаў: "Пра чэхаў казалі: свабоды ім захацелася! Мы ж во жывем без свабоды, але не бунтуем. А ім — свабоды! Яшчэ чаго! І так гаварылі не горшыя і не самыя дурныя з нашых знаёмых". ("Доўгая дарога дадому", стар. 287). Гэтыя яго словы сведчаць (так яно і было), што мы не маўчалі, размаўлялі з рознымі асобамі, імкнучыся абвергнуць (часцей без поспеху) наветы на пражскіх рэфарматараў.

У жніўні 1968-га на ўвесь свет разнеслася вестка пра дэманстрацыю пратэсту некалькіх дысідэнтаў на Краснай плошчы. Меней пісалі пра тое, як рэагавала на гэта маскоўскае насельніцтва. А як гэта выглядала ў нас у Беларусі? Быкаў апісвае нашую сустрэчу з ім на мастку каля рэдакцыі "Гродзенскай праўды" ў дзень, калі было абвешчана пра тое ўварванне. Аказваецца, у Гродна фар-

міравалася рэзервовая армія для ўдзелу ў аперацыі захопу Чэхаславакіі. “Мы з Клейнам выправіліся да Карпюка, — распавядае ён. — Яшчэ на падыходзе да Дому Ажэшкі, дзе звычайна працаваў Карпюк, пачулі, як на ўсю вуліцу гучала перадача Бі-бі-сі, распавядала, што савецкія войскі акупуюць Прагу. На вуліцы было нямала прахожых, некаторыя спыняліся, слухалі, а бальшыня хуценька кудысьці бегла”. Я не зусім прыгадваю, што было пасля таго рызыкоўнага эпізоду, калі Карпюк уключыў на поўную магутнасць “варожае” радыё. Запомнілася адно: выгляд вуліцы Ажэшка, куды на працягу двух-трох дзён пасля ўвядзення савецкіх танкаў у Прагу прыходзілі гараджане. Зусім не таму, каб выказаць “адзінадушную падтрымку” вайсковай акцыі. Прыходзілі студэнты, рабочыя, хатнія гаспадыні (у некаторых жанчын перад гэтым забралі ў армію мужоў). Людзі былі там гадзінамі, збіраючыся ў “дыскусійныя” гурткі і групы.

Не ведаю, як асвятлялася рэакцыя жыхароў і Гродна, і Мінска ў тады сакрэтных інфармацыях партыйных і іншых органаў. Але я асабіста быў сведкам далёка не ціхамірнай карціны. Агітатары з уладных структураў літаральна ціснулі на тых, хто з імі не згодны. Вылучаўся агрэсіўнасцю высокі малады мужчына Кузняцоў, сын начальніка гродзенскага КДБ. Ён даказваў, што раптоўным захопам Прагі “нашы” апярэдзілі заходне-германскі дэсант. Яго высмейваў не толькі я адзін. У другім кутку горада, паблізу ад дома Ажэшкі, збіраў сваіх прыхільнікаў Аляксей Карпюк. Пазней з’явілася і такая формула ў маім абвінавачанні: “У 1968 г. Клейн Б. С. выступіў супраць тых мераў, якія наш урад і ЦК КПСС распачыналі ў адносінах да Чэхаславакіі”. Мы і пазней дзейнічалі такім чынам, паводле нашых агульных перакананняў. Вядома, нядоўга: “гарадзенскаму трохкутніку” было наканавана існаваць толькі некалькі гадоў...

Гэтыя мае ўспаміны навеяныя падрабязным знаёмствам з вельмі павучальным цудоўным двухтомнікам Сяргея Шапрана “Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця”. Падзякуем аўтару і складальніка гэтага ўнікальнага выдання. Спадзяемся ўбачыць і трэці том выдатнага аўтарскага даследвання. Няма сумнення ў тым, што ён будзе напісаны з гэткай жа высокай скрупулёзнасцю, на такім жа літаратурна-навуковым узроўні, як і папярэднія.

*Пераклад з рускай мовы*
*Ванкарэма НІКІФАРОВІЧА.*

Леанід Галубовіч



...Што такое паэзія?
Найперш, гэта дух аўтара
(яго лёсу, часу, эпохі)
выяўлены ў слове...

# "Мы адкуем сябе ў агні паразы"

***Адамовіч Славамір. Рым: выбраныя вершы. 2002 – 2010. Беларусь – Нарвегія: вершы. – Мінск: Медысонт, 2011. – 108 с.***

Калі я пабачыў праект помніка Янку Купалу і Якубу Коласу "Набат" (бацькі і сына Гумілеўскіх), што будзе ўсталяваны ў Варшаве, – гэтую арыгінальную звон-ліру, то мой розум адразу перакінуўся на асобу сучаснага беларускага паэта Славаміра Адамовіча, які, на маю думку, больш адпаведна ўвасабляе вобраз менавіта такога паэта-званара, бо, як ведаем з гісторыі, постаці нашых славутых нацыянальных песняроў, творчы і жыццёвы шлях якіх быў падпарадкаваны, як бальшавіцкаму змусу, так і ўласнаму канфармізму, не настолькі адназначна пасуюць выяўленаму скульптарамі вобразу... Разумею, што ў гэтым месцы са мной будуць спрачацца, – для таго і пішу. А пакуль цытата з новага зборніка паэта Славаміра Адамовіча "Рым":

О так, я вярнуся і буду, як босы на вогнішчы;
о так, я вярнуся, таму што як той пралетар,
хто толькі свае адзначае купальлі й вадохрышчы,
і крэсівам словаў вялікі ўсчынае пажар.

Пра гэты зборнік апальнага паэта і пойдзе далей гаворка. Для гэтага зазірну ў самы пачатак яго літаратурнай творчасці. Першая кніжачка Адамовіча, што выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" у 1990 годзе, мела тонкую лірычную (з сімвалічнай падсветкай) назву: "Кальварыйскія клёны". Лепшыя творы гэтага зборніка я аднbackшу да найбольш выбітнога паэтычнага плёну паэта. Як прароча выдыхаліся той парой і сёння помныя радкі з некаторых яго вершаў:




О вобразы крывіцкія! О свет
І любасць над усім без атачэння!
Як хутка ападае белы цвет
І як марудна спее плод праменны.

Далей паэта зацягнула ў вір перабудоўчага грамадскага і нацыянальнага руху. Ад спакусы быць гаўрошамі пратэстных сходаў, мітынгаў і дэманстрацый утрымаліся толькі моцныя духам і халодныя розумам. С. Адамовіч быў не з іх. Ён паспрабаваў заявіць пра сябе ў творчай суполцы "Тутэйшыя", але, відаць, адэкватна ацаніўшы свае сілы (ідэйны сцяг там надзейна трымалі А. Сыс і А. Глобус), скіраваў сваім шляхам. Пачаў ствараць нацыялістычную партыю "Правы рэванш". З ёй і патрапіў у хітра пастаўленае сіло камітэтам дзяржаўнай бяспекі. Яго тэатралізаваны нацыяналістычны выступ у Доме літаратара быў скарыстаны тэлебачаннем, якое круціла ў вячэрнія часы зазняты ў пісьменніцкім доме і хітра змаціраваны рэжысёрам Ю. Азаронкам, дакументальны фільм "Дзеці хлусні..." напярэдадні рэферэндума па мове і сімволіцы (1995). Сёння мы ведаем, на карысць чаго і каго прагаласавала, хоць і нязначная, большасць беларускіх людзей. І недастаючыя пяць працэнтаў, магчыма, выцыганіла ў народа якраз тая аблудная тэлепрапагандысцкая страшылка нацыяналізмам. Таму далей паэту трэба было неяк апраўдвацца, залізваць раны і замольваць, пэўна, адчувальную ўласным нутром віну. Так неўзабаве з'явіўся верш-правакацыя "Убей президента!", за распаўсюд якога Славамір Адамовіч быў пасаджаны амаль на год за краты "Віцебскага цэнтрала"...

Хачу вышэй згаданым падкрэсліць, што адсюль і пайшла мастацкая зніжка ці, калі хочаце, аднастайнасць, як тэматычная (нацыянальна-адраджэнская), так і творчая (лірычная вобразная заглыбленасць змянілася патэтыкай і рытарычнасцю) у творчасці паэта. А так як эгацэнтрычнасць натуры С. Адамовіча прагла парнаскага першынства, то спатрэбіліся і сродкі прыцягвання публікі да сваёй персоны (зашыванне рота на мітынгу, ад'езды ў ЗША і Нарвегію) і творчасці (выявы вокладак кніг "Плавільшчыкі расы" і "Турэмны дзённік"). За вымогамі напаміну чытачам пра сябе, Адамовіч, нярэдка, забываўся ці не прыдаваў асаблівага значэння высокаму факту мастацтва ў сваіх новых вершах. Пачынаючы ад "Зямлі Ханаан", "Спіралі Бруна" і асабліва "Плавільшчыкаў расы" (з эратычным фота юнака з фаласам на вокладцы), Славамір стаў працаваць на публіку (зазываць свайго чытача). Да слова, у яго калегі і патаемнага спаборніка на ніве творчасці А. Сыса быў свой яркі імідж, але тое не тычылася яго паэзіі, якая заставалася аазісам сярод выпаленай пустэльні ўласнага жыцця. У Адамовіча ж вірусы эгацэнтрызму глыбока пранiклі ў самую стуктуру яго вершаў (змест, ідэю і нават форму). Зрэшты, як мы ведаем, сёння шмат хто пры патрэбе і неабходнасці ўмеюць пісаць дабротныя вершы, але мала хто з іх дабраахвотна ўзвальвае на сябе цяжкі Крыж Паэта з усімі дачаснымі, часам

трагічнымі, вынікамі. Безумоўна, гэтыя прапісныя правілы С. Адамовіч добра засвоіў. Ці не таму, як апраўданне, з'яўляюцца ў яго такія радкі:

Хто ж там прагне вершыкаў Славы?  
Хто ў эфіры мой ловіць крык?  
Я пісаў языкамі лавы,  
а ў адказ мне – зьмяіны сык?

Дазволю сабе ў дадзеным выпадку не паверыць паэту.

Кніга названа "Рымам". Рым для Адамовіча – гэта фізіялагічны, як ён піша, неспакой, прадчуванне чагосьці, а як на мой погляд, то рым для Славаміра – гэта звычайная хэнць (як любіць казаць філосаф Акудовіч), узбуджэнне ўласнай натуры дзеля чарговай грамадзянскай ці творчай акцыі. Заўважу паралельна, што выдаўшы гэтую кніжку вершаў і адначасна пачаўшы публікацыю рамана "Цана Еўропы..." ў часопісе "Дзеяслоў", аўтар ускладу на сваю літаратурную рэпутацыю дадатковыя патрабаванні з боку чытацкай публікі. Аднак, на маю думку, атрымалася так, што з падвойнай сілай выявіўся сам творчы і мастацкі воблік творцы, як асобы, з усімі яго харатэрнымі поглядамі на літаратуру, грамадства і жыццё ў цэлым. Але пры гэтым усё ж пацярпела мастацкая аснова зборніка вершаў, самаснае жыццё якой стала толькі падсветкай упомненага празаічнага рамана. (Дарэчы, Славамір у сваім блогу пажаліўся, што ў аглядзе "Дзеяслова", я не поўна і аднабакова пракаментаваў публікацыю рамана, не адасобіўшы аўтара і галоўнага героя, а таксама не правёўшы выразную ідэйную лінію твора. Не крыўдую, ведаю, што сёння так ставіцца да наўзбочных адносінаў да свайго твора амаль кожны аўтар. Хоць у нечым ён мае рацыю, і па завяршэнні публікацыі рамана я, безумоўна, больш шырока і акцэнтавана паспрабую вызначыць яго лепшыя і хібныя бакі, найперш як твора мастацкага. Яшчэ параіў бы аўтару пры выданні рамана кніжкай уключыць у яе змест і вялікі цыкл вершаў са зборніка "Рым", найперш тых, што адпавядаюць тэматыцы і ідэйнай скіраванасці яго "нарвежскай" прозы.) Але вернемся да зборніка "Рым". Напраўду сказаць, чытаючы прадмову да яго, якую напісаў не крытык і не паэт нават, а празаік старэйшага пакалення Васіль Якавенка, нядаўні публіцыст і цяперашні раманіст з дакументальным ухілам (дарэчы, рэдактар колішняй газеты "Набат"), гаворыць пра тое, што сам паэт знаходзіцца ў літаратурным вакууме. У яго няма моцных і глыбокіх творчых сувязяў з калегамі па пяру. Працей скажам, за адсутныя на Айчыне гады гэтыя сувязі паэтам былі амаль страчаныя. Іначай аўтарства прадмовы нічым іншым вытлумачыць немагчыма, пры тым што яна напісана цёпла і, можна сказаць, у характэрным для С. Адамовіча ідэйным рэчышчы, аднак жа, павярхоўная ў тым, што тычыцца самой сутнасці яго паэтычнай творчасці і мастацкіх напрацовак у цэлым. Але пры тым само з'яўленне яе адназначна падказвае чытачу, што яго чакае сустрэча з вершамі гістарычна-адраджэнскай, нацыянальна-свядомаснай ды грамадска-сацыяльнай тэматыкі.

Аднойчы я прайшоў яе наскрозь –  
Радзіму, што прысніў у снах трывожных.  
І стаў шукаць зямное кулі вось  
далёка ад айчынных раздарожжаў.

Што такое паэзія? Найперш, гэта дух аўтара (яго лёсу, часу, эпохі) выяўлены ў слове. Паэт С. Адамовіч моцны сваёй натуральнасцю. Энергетыка з яго проста прэ. Ён пастаянна ў эмацыйным роздуме над асабістым выракам і лёсам сваёй Айчыны. Нават спустошаны, паэт штучна напаўняе сябе творчым эфірам. Не хавае сваіх хібаў і ваганняў:

...свой верш пляту я, быццам грубы трал.
Я словамі прыгожымі не сьпешчаны...
Ты ведаеш, люблю я ў словах соль.
І блізкае да гэтага як у вершы “Смокча мяне памяць...”:
Не хапае словаў –
перайду на крык.

Большасць тэкстаў зборніка ўяўляюць сабой вершаваны дзённік. Усе яны пераважна біяграфічнага складу – і ў побытавым, і ў духоўным, і ў душэўным плане. Паэт нярэдка робіць прызнанні ў чыста ясенінскім стылі:

Далей ня памятаю – прачнуўся
і вершам выпаў на чысты ліст,
волю даўшы сапраўдным пачуццям,
з крыкамі болю чаргуючы сьвіст.

Часта і вельмі добрыя па першапачатковаму пасылу вершы заканчваюцца не тое што неўразумела, а на нейкім душэўна-мазгавым ступары аўтара, як, скажам, вось гэты:

Жанчына не прыйшла,
і маладосць мінула,
і доўгая шаша
закончылася шулам.

Ёсць тэксты настолькі аголеныя ўнутранай праўдай паэта, што іх можна было б вынесці не на старонкі вершаванага зборніка, а на старонкі газеты “Народная воля”. Да прыкладу, такія радкі (ад пачату і да канца нязменныя ў сваёй вульгарнай рытарычнай стылістыцы):

Бачу ўсё: як улазяць у скуру,
як аж плішчуцца вон з яе,
з польскім акцэнтам кажучы – курвы,
а па-нашаму – бледаўе.
Што ж вы, сукі, на целе Краю
выкабельваеце кубло?
У спадзеве, што вашу зграю
абароняць сіла й бабло?

Альбо як у вершы “Беларускай моладзі”:

Стойце мужна на нашых пляцах!
Стойце смела, ні кроку назад!
За нашу свабоду! За вольную працу!
За свой, за новы свабодны ўрад!

Іх бы ў свой час Маякоўскаму ў “Окна РОСТА”. Да такіх можна аднесці і верш “Дажынкі-2009” і яшчэ некалькі падобных. Яны вартыя ўвагі толькі як ідэйныя чыннікі аўтара. Іх можна (і трэба) друкаваць у партыйных-палітычных ды іншых нацыянал-ідэалагічных выданнях. Урэшце сённяшні Славамір Адамовіч – гэта не Мікола Засім і не Міхась Васілёк – і па таленту, і па абставінах жыцця і часу. Пачытайце своеасаблівую фінансавую паэму ў 2-х частках “Дэбет/крэдыт”, дзе, пасля шматлікіх арыфметычных падлікаў, выводзіцца чаканая для аўтара (ды і чытача) выснова: “Такім чынам працаваць няма сэнсу,/ і я/ застаюся паэтам”. (Нібыта паэтам працаваць не трэба.)

Безумоўна, С. Адамовіч адчувае гэтую голую рытарычнасць і надломленую пафаснасць, але нічога не можа з сабой зрабіць, бо вычувае, што толькі такім чынам (такім паэтам, запатрабаваным палітычным часам) ён можа быць абазнаным у сваёй змагарнай Радзіме. Здавалася б, у вершы “Сьвежы,

чысты і здаровы...” ён спрабуе пераасэнсаваць свой жыццёвы і творчы вопыт, жадаючы быць “паэтам красы і сілы”, але літаральна праз некалькі старонак яшчэ раз запэўнівае свайго чытача, што “калі заўтра вайна,/ я буду найлепшым салдатам”.

Што ж, досыць сыпаць соль на душэўныя раны паэта. Адчуваецца, што сёння яму бракуе паразумення і цеплыні сяброўскіх узаемаадносін, якія ў пэўны час ён сам, сыходзячы з прагматыкі моманту, і замарозіў... Душа адтала, але яшчэ поўна не аднавілася. Час паэтычнага ўваскрашэння Славаміра Адамовіча, хочацца спадзявацца, наперадзе. Пра гэта прагаворваюцца яго адмысловыя вершы, якіх таксама дастаткова ў зборніку “Рым”. Менавіта яны для мяне і вызначаюць талент паэта. Хіба такія радкі пакінуць чытача абыякавым:

Не прыязджай! Вярні мяне назад!
У дыпкур’ерскім правязі праз межы...
Я так хачу убачыць плодны сад
і позірк твой, пасля кахання свежы.

Тут няма месца для патэтыкі, надуманасці і хлуслівасці ў імя хай сабе і высокай ідэі, а ёсць месца ўзвышанасці – там, дзе паэт застаецца сам-насам перад уласным выракам, дзе сэнс жыцця асільвае прагматычныя пошукі магчымасці для існавання. А тое, што С. Адамовіч валодае паэтычным майстэрствам, што адчувае тонкую вібрацыю слова і голасу, можа прыводзіць да стану гармоніі неўтаймоўны хаас сваіх чалавечых эмоцый і пачуццяў, не навіна. А яшчэ лепшая навіна, што ў сваім жыцці “на перакладных”, у пастаяннай “езде в незнаемое”, ён даастатку не страціў адпушчанага яму таленту. (Нікога з чытачоў не павінны зводзіць у зман мае строгія і чыста суб’ектыўныя меркаванні пра яго творчасць, гэта сыходзіць ад маёй павагі і адметнай зацікаўленасці да яго паэзіі, ад жадання быць хоць нечым карысным у яго далейшай творчасці і поўным раскрыцці ягонага мастацкага патэнцыялу.) Таму, не зважаючы на крытычны тон гэтых маіх разважанняў, усё ж лічу С. Адамовіча адным з найбольш заўважных і высока адораных нашых паэтаў. Ён – адмысловы лірык, якога лёс змусіў хадзіць па гарачых вуголлях часу. Ён – спакутаваны гэтым неміласэрным часам – і боль ёсць адзіным яго натхненнем і выратаваннем, што агалошваюцца яго словамі адчаю, роспачы, пратэсту і спадзеву... Ён – яшчэ верыць. Тым і жыве, тым і жывы. Як і яго паэзія ўвогуле.

Ты ведаеш, мой дарагі зямляк,
што азначае жыць гадамі ў скрусе,
з нянавісьцю глядзець на мяккі знак
і бачыць здрайцу ў кожным беларусе.
Ты ведаеш, мой ранньні эпігон,
пісаць адно, а жыць жыцьцё другое,
вядома, можна, толькі як закон,
у выніку ні вершаў, ні героя.
Я столькі год, напрыклад, ні гу-гу,
адзін у гэтым вольным еўразьвязе.
І хоць падбі падковамі блыху –
тутэйшыя не зойдуцца ў экстазе.
Мы іншыя, зямляк, і напінаць
перыферыю жыл няма патрэбы,
а калі ўсё ж за нешта паміраць,
дык за цяпло сваёй айчыннай глебы.

Да падобных выбітных вершаў я аднёс бы і такія, як “Памятаеш, каханая...”,

Агонь, “Няўжо і пра цябе, о Сандвіка...”, “Калі я бачу, што бачу...”, “Госьця”, “Я дома быў! Я над гняздом зязюлі!..”, “Ты кажаш: пакайся, вярніся ў Будслаўе да маці...”, “Раманс”, “Да трэцяй гадавіны пахаваньня Анатоля Сыса”, “Калі заўтра вайна”, “Музыка”, “Перад кампутарам”, “Паўстаць з нічога не проста...”. Зрэшты, у кожнага чытача магчымы свой выбар.

Але і праходзіць незаўважна міма такіх радкоў таксама не варта, ёсць у іх сярмяжная праўда цяперашняга С. Адамовіча:

Ня тое ўсё! Ня так і не пра тых!
Аслаб, ачах, кудысьці зьнілі сілы,
І словаў не хапае залатых,
І сьняцца сны пра сьвежыя магілы.

Але гэта між іншым. Як чарговая заўвага на палях.

Напрыканцы не магу не выказацца і наконт васьмі рускамоўных вершаў, уключаных аўтарам у гэты зборнік. Што праўда, сказаць пра іх нешта пэўнае мне цяпер не можацца ды і не хочацца. Працытую лепш самога аўтара:

Вот это да – на странном языке
воссоздавать картину мирозданья,
слова катать тропинкою к реке
иль бормотать в минуту несознанья.
Я всё же знаю много языков,
хотя не так, как нужно бы для спора.
И в мудрость верю: избегай оков,
не заводя пустого разговора.

На тым, як казаў Маякоўскі, “вопрос исперчен”.

Як мне падалося, публікацыі рускамоных вершаў сведчыць яшчэ і пра тое, што нацыялістычны пасыл не галоўны для С. Адамовіча (гэта падцвярджае і верш “Адракаюся”, напісаны ім у 2004-м да 10-й гадавіны I з’езду беларускіх нацыяналістаў) . Якраз найбольш праяўляецца (асабліва ў згаданым яго рамане “Цана Еўропы...”) антыглабалісцкі накірунак яго цяперашняй ідэйнай творчасці (адсюль, і гэтыя іншамоўныя вершы, дарэчы, нярэдкія госці і ў папярэдніх яго кніжках, – а магчыма, і тут паэтам закладзены своеасаблівы метад правакацыі?). Між іншым, яшчэ напрыканцы свайго зняволення ў 1997 годзе, у кніжцы ”Турэмны дзённік” сам аўтар выказаўся так: “Убей президента” – верш наколькі вядомы, настолькі і слабы”. Не на шмат лепшыя і ўключаныя ў зборнік “Рым”.

Што ж, пара выкласці ёмкае рэзюме.

На меркаванне рэцэнзента, апошні з выдадзенных зборнікаў С. Адамовіча адназначна не працуе на мастацкае ўзвышэнне паэта, бо яго папярэдняя кніга “Плавільшчыкі расы” (1999, рэдактар С. Дубавец) была і пакуль застаецца для мяне, як для чытача, непераадоленай ім у гэтым сэнсе. Цяпер Славамір Адамовіч на Радзіме. Наперадзе ў яго вялікая творчая свабода. Застаецца толькі згарманізаваць з ёй сваю духоўную волю і паэтычнае натхненне.

# Надзённае

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Гілевіч Ніна. З рабочых сшыткаў філолага. Укладальнік і рэдактар Ніл Гілевіч. – Мінск: Про Хрысто. – 2010. – 96 с.**




Гэта ўжо шостая кніга, якую падрыхтаваў да друку Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч у памяць пра сваю паплечніцу і памочніцу, жонку Ніну Іванаўну, якая "была філолагам сапраўдным, па прыродзе душы і сэрца, па адносінах да слова – і кніжнага, і вуснага. Жыццё ў мове і літаратуры было яе пакліканнем, яе лёсам... І сталае, штодзённае, апантанае "супрацоўніцтва" са словам было яе любімай, незаменнай прафесіяй". Пацвярджэнне гэтым словам Ніла Сымонавіча сама новая і, спадзяемся, не апошняя, кніга.

**Дудзіцкі Уладзімір. Творы. Укладанне, прадмова і бібліяграфічны каментар Л. Юрэвіча. – Мінск: Лімарыус, 2010. – 400 с.**




Вяртанне спадчыны Уладзіміра Дудзіцкага на Беларусь адбылося дзякуючы новай серыі выдавецтва "Лімарыус". Лёс гэтага творцы склаўся трагічна: у 30-я гады быў арыштаваны НКУСаўцамі і сасланы ў Сібір, у 1944 годзе вымушаны быў эміграваць з Беларусі, жыў у Аўстрыі, Венесуэле, ЗША, Германіі... У 1962 годзе Уладзімір Дудзіцкі вярнуўся з сям'ёй у ЗША, дзе праз нейкі час прапаў без следу... Паэзія, проза і пераклады, што склалі гэты том, найбольш поўны збор твораў яшчэ аднаго адданага сына Беларусі.

**Дыкенс Чарльз. Олівер Твіст: раман. Пераклад Яўгена Балясіна, мастак Анатоль Тадорскі. – Мінск: Галіяфы, 2010. – 456 с.: іл.**




Адзін з самых вядомых раманаў Чарльза Дыкенса, перакладзены на больш чым на сто моваў свету, нарэшце, пабачыў свет па-беларуску. Гісторыя хлопчыка-сіраты, які трапіў у бедныя кварталы Лондана, пачынаючы з часу напісання ў XIX стагоддзі, хвалявала не адно пакаленне чытачоў. Жыццё тагачаснай Брытаніі паўстае са старонак кнігі ва ўсёй яго разнастайнасці: ад лонданскага дна да буржуа. Напрыканцы кнігі змешчаныя цікавыя ілюстрацыі, якія зрабіў мастак Анатоль Тадорскі.

**Жырандоля: літ. альманах Брэсцкага абл. аддзял. Саюза бел. пісьменнікаў, №3, 2010. – Брэст: «Брэсцкая друкарня», 2010. – 320 с.**




«Жырандоля» №3 выйшла напярэдадні 30-годдзя з дня ўтварэння Брэсцкага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Заснаваны альманах быў слынннай паэткай Нінай Мацяш, але вось ужо другі раз выходзіць з "Памяццю" пра яе, а таксама з успамінам пра тых землякоў, што пакінулі гэты свет за апошнія гады. Некалькі дзясяткаў аўтараў розных узростаў прадставілі на старонках альманаха свае лепшыя творы. Знайшлося месца ў "Жырандолі" і крытыцы, і артыкулам па краязнаўству, і гумару, і творам для дзяцей.

**Лепешаў Іван. Літаратура, мова, гісторыя: Надзённае: зб. артыкулаў. – Гродна: «Ламарк», 2010. – 172 с.**




Артыкулы, нарысы, нататкі, рэцэнзіі з гэтай кнігі друкаваліся ў апошнія гады ў перыядычным друку – пераважна ў розных беларускіх газетах і часопісах. Як і ў ранейшых кнігах І. Лепешава тут таксама “распрацоўваюцца новыя, нікім не чапаныя або спрэчныя навуковыя тэмы”, прысвечаныя мовазнаўству, краязнаўству, гісторыі Беларусі, жыццю і дзейнасці вядомых літаратараў, дзеячаў культуры нашай краіны і замежжа.

**Рада Увэ. Галасы Панямоння: гісторыя, культура, лёсы аднаго еўрапейскага абшару. Пер. з ням. мовы А. Пяткевіч, А. Талапіла, М. Уласава. – Мінск: Тэхналогія, 2011. – 287 с., [8] арк. іл.**




Нёман, Немэн, Нямунас, Мэмэль, Неман... Гэта не гістарычныя назвы славутай ракі, якая бярэ свой пачатак не так далёка ад Мінску – так яна называецца ў розных краінах сёння. Нямецкі журналіст, публіцыст і гісторык культуры Увэ Рада зрабіў захапляльнае падарожжа ўздоўж Нёмана ў нашыя дні, але з пастаянным зазіраннем у далёкае і недалёкае мінулае ракі, што цячэ скрозь межы і часы... Паўсюль шукае ён сляды, якія не падзяляюць нас, а яднаюць, лучаць у адной еўрапейскай прасторы: беларусаў, палякаў, літоўцаў, расейцаў, немцаў...

**Разанаў Алесь. З Вяліміра Хлебнікава: паэзія. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 76 с.**




Узяцца перакладаць аднаго з самых “неперакладных” расейскіх паэтаў ды яшчэ на мову блізкую па гучанні мог толькі... адважны чалавек і з талентам не меншым за аўтара арыгіналаў... Аднак Алесь Разанаў не перакладае вершы Хлебнікава, а пераствараае іх на беларускай мове, у чым можна пераканацца, параўнаўшы вершы з арыгіналамі, якія друкуюцца паралельна. Ну, паглядзіце: “чарот-вечарот” гэта нібыта тыя ж самыя “камыши-времыши”, але як па-беларуску гучаць!

**Сін Ілля. Тэатральныя дэманы: тэксты. – Мінск: Галіяфы, 2010. – 176 с. – (Другі фронт мастацтваў).**



Выдаўцы рэкамендуюць новую кнігу “трансгрэсіўнай прозы” Іллі Сіна “толькі падрыхтаваным чытачам”. Сам аўтар называе свае творы, якія можна ўмоўна-жанрава аднесці да імпрэсій, зацемак, апавяданняў і ўрыўкаў з апавяданняў (ёсць і п’еса “Беларусь”, якая друкавалася некалькі гадоў таму ў “Дзеяслове”) – проста і сціпла: “Тэксты”. У любым выпадку “падрыхтаваным чытачам” раім звярнуць увагу на гэтую кнігу, а непадрыхтаваным – адважыцца разгарнуць...

**Стужынская Ніна. Беларусь мяцежная. З гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 1920-я гг. – Вільня: Наша будучыня, 2011. –384 с.: іл. – (Неизвестная история).**




Назва кнігі гаворыць сама за сябе: у цэнтры даследавання Ніны Стужынскай малавядомыя падзеі беларускага супраціву – Слуцкае паўстанне, дзейнасць антысавецкай партызанкі ў 20-я гады XX стагоддзя. У кнізе выкарыстана “шмат раней невядомых крыніцаў, у тым ліку і дакументы ДПУ, прыватныя лісты, успаміны ветэранаў. Яна дакладна абвяргае міф камуністычнай прапаганды аб тым, што беларускі народ падтрымліваў бальшавіцкі рэжым”.

**Шалкевіч Віктар. Requiem па непатрэбных рэчах: проза. – Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2011. – 100 с.**




Кнігу-настальгію па нядаўнім мінулым і рэчах, што нас акружалі напісаў вядомы акцёр, бард, паэт, а цяпер і празаік Віктар Шалкевіч. «У кожнага чалавека знойдуцца ў хаце дзесяць-дваццаць рэчаў, якія абсалютна непатрэбныя, але расстацца з якімі няма сілы. Гэтая сціплая кніга – адначасова і падзяка, і вечная памяць тым рэчам, малым і вялікім,

сярод якіх мы гадаваліся, якія калісьці былі патрэбныя і ўсіх нас зрабілі такімі, якімі мы ёсць цяпер, а не іншымі», – напісаў аўтар у прадмове і праілюстраваў выданне здымкамі са свайго прыватнага альбома.




**Шчур Макс. Ліст, знойдзены на папялішчы: апавяданні. – Познань: Белы Крумкач, 2011. – 203 с.**

“Гэтая кніга – вынік пэўнай стомленасці ад літаратуры, ад змагання з ёю ці “за” яе, свайго кшталту капітуляцыяй: як мінімум, пацверджаннем вядомага тэзісу, што “ўсё вартае ўжо было створана” – нездарма значную яе частку складаюць літаратурныя пародыі, выраз пашаны і зайздрасці да маіх улюбёных аўтараў мінулага стагоддзя, імёны якіх залішне вядомыя, каб іх называць” – адзначае аўтар у прадмове да кнігі. Паспрабаваць угадаць на каго спасылаецца аўтар, каго пераймае і парадзіруе – цудоўны занятак для любога “падрыхтаванага” чытача...




**Янсан Тувэ. Камета над далінай мумітроляў. Пераклад з шведскай Насты Лабады і Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан. – Мінск: Зміцер Колас, 2011. – 154 с.: іл.**

Героі гэтай кнігі палюбіліся юным чытачам не толькі па перакладах творах Тувэ Янсан на рускую мову, але і па цудоўных мультфільмах, якія стала ўвайшлі ў сучасную дзіцячую класіку. Гэтая кніга – другая з серыі кніг, прысвечаных мумітролям, і другая выдадзеная па-беларуску. Выдаўцы абяцаюць пераклад на беларускую мову і выхад у хуткім часе новых кніг пра мумітроляў.

# Нашыя аўтары

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Безмацерных Кацярына** – студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Апавяданні і артыкулы друкаваліся ў беларускіх СМІ. Нарадзілася ў 1987 годзе ў горадзе Мінску. Жыве ў Мінску.

**Вярцейка Алесь** – паэт. Студэнт філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Оршы. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Рэканструкцыя неба» і інш. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фальклcraft, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валер** – паэт. Працаваў журналістам у розных беларускіх выданнях, у ЦК КПБ, галоўным рэдактарам выдавецтва “Беларусь”. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Емяльянаў-Шыловіч Алесь** – паэт. Вучыцца на завочным аддзяленні біялагічнага факультэта БДУ. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Законнікаў Сяргей** — паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1991). Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Календа Сяргей** – празаік, паэт. Аўтар кніг «Помнік атручаным людзям», «Казкі: гісторыі (не) пра нас». Лаўрэат незалежнай міжнароднай літаратурнай прэміі «Дэбют», якая прысуджаецца аўтарам, што пішуць па-руску. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў горадзе Капылі. Жыве ў Мінску.

**Карамазаў Віктар** – празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990). Аўтар кніг «Падранак», «Спіраль», «Пушча», «Дзень Барыса і Глеба», «Дома», «Дзяльба кабанчыка», «Крыж на зямлі і поўня ў небе», «З вясною ў адным вагоне» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Чэрыкаве. Жыве ў Мінску.

**Каржанеўская Галіна** – паэт, празаік, драматург, крытык. Аўтар кніг «На мове шчасця», «Мой сад», «Жыла – была», «На што падобна аблачынка?», «Вечны водгук», «Невымоўнае» і інш. Нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Касцюкевіч Павел** – празаік, перакладчык. Закончыў Тэль-Авіўскі акадэмічны каледж (факультэт псіхалогіі) і курсы творчага пісьма ў школе рэкламы Aboodi-Creative (Тэль-Авіў). Аўтар кнігі прозы «Душпастырскія спатканьні для дачнікаў» і трох кніг перакладаў. Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Кімхі Алона** – ізраільскі празаік. Аўтар некалькіх п’ес і зборнікаў апавяданняў, двух раманаў. Лаўрэат прэміі ACUM за лепшае апавяданне (1993), прэміі ACUM «Кніга года» за зборнік апавяданняў «Я, Анастасія» (1996), прэміі Бернстайна і французскай прэміі WIZO (1999), прэміі прэм’ер-міністра Ізраіля (2001). Творы перакладаліся на рускую, англійскую, нямецкую, французскую, італьянскую,

кітайскую, польскую, турэцкую і інш. мовы. Нарадзілася ў 1966 годзе ў Львове. Жыве ў Ізраілі.

**Клейн Барыс** — гісторык, публіцыст, доктар гістарычных навук. Аўтар кніг «Время выбора», «Рэвалюцыйны рух у Вільнюскім краі ў 1920-1939 гг.», «Вільнюскае падполле» і інш. Нарадзіўся ў 1928 годзе ў Віцебску. З 1992 года жыве ў ЗША.

**Лецка Яўген** — празаік, перакладчык, публіцыст, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Па цаліку», «Дарога ў два канцы», «Хараство і боль жыцця» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Пабрэззе на Наваградчыне. Жыве ў Мінску.

**Масквін Андрэй** – тэатразнаўца, культуролаг, перакладчык. Дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта, выкладае беларускую мову, літаратуру, мастацтва і культуру. Аўтар манаграфіі «Станіслаў Пшыбышэўскі ў расійскай культуры канца XIX пачатку XX стагоддзя» (Варшава, 2007). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Нясвіжы. Жыве ў Варшаве.

**Пацюпа Юрась** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг паэзіі «Ноч», «Сабака». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Плотка Алесь** – паэт. Скончыў факультэт замежных моваў Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсітэта імя Ф.Скарыны. Друкаваўся ў гомельскім самвыдаце. Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Рагуля Аляксей** – літаратуразнаўца, крытык, прафесар. Аўтар манаграфіі «Імгненні...» (1990), зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Пафас станаўлення» (1991), падручнікаў і навучальных дапаможнікаў па літаратуры, культуралогіі, методыцы выкладання. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Сянно на Навагрудчыне. Жыве ў Мінску.

**Сідарук Ігар** — паэт, драматург, празаік. **Аў**тар кніг «Чарнабел», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Творы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Содаль Уладзімір** – літаратуразнаўца, краязнаўца. Аўтар кніг «Францішак Бенядзікт Багушэвіч. Жыццё і творчасць», «Пуцявінамі сейбіта», «Кушлянскі кут», «Сцежкі Мацея Бурачка», «Жупранская старонка», «Тут бачу свой край», «Свіранскія крэскі», «Фальварак Карпілаўка» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў мястэчку Мормаль на Жлобіншчыне. Жыве ў Мінску.

**Цяльпук Юлія** – паэтка. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працуе ў праграме навінаў «Аб'ектыў» на спадарожнікавым тэлеканале «Белсат» у Варшаве. Нарадзілася ў 1982 годзе ў польскім горадзе Легніца.  Жыве ў Варшаве.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Укладальнік кніг: «Дажыць да зялёнай травы... Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960-2003)», «Паслаў бы табе душу... Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954-1971)» (разам з Н. Давыдзенка), кнігі паэзіі Р. Барадуліна «Перакуленае/Опрокинутое». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча за двухтомнае даследаванне «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляванне» і інш. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Ярмольчык Наталля** – празаік. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, факультэт французскай мовы. Пасля навучання на франкамоўным аддзяленні факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта ў 2006 годзе атрымала дыплом Інстытута кіравання прадпрыемствамі Універсітэта Парыж-1 Пантэон Сарбона, спецыяльнасць "міжнародны бізнес". Працуе перакладчыкам. Нарадзілася ў 1980 годзеў вёсцы Купяцічы на Піншчыне. Жыве ў Пінску.

# Contents

***PROSE***

**Leanid Dranko-Majsiuk.** In Vilnius and Nowhere Else. *A story. Continuation*.
**Viktar Karamazaŭ.** The Artist and the Servants. *Tne novel. Ending*.
**Halina Karžanieŭskaya.** Newcomers. *Parable.*
**Siarhiej Kalenda.** Let Your Bread Go with the Water. *Parable.*
**Ihar Sidaruk.** The Stadium. *Parable.*

***POETRY***

**Feliks Batoryn.** If It Hurts, You Are Alive. *Poems.*
**Yuraś Paciupa.** Your Name – Silence on the Lips... *Poems.*
**Alieś Emeljanaŭ-Šyłovič.** Amber *Poems.*
**Valer Duboŭski.** The Way Home. *Poems.*
**Alieś Viarciejka.** Echo of the Black-and-White Dreams. *Poems.*

***DEBUT***

**Yulija Cialpuk.** Day of a Foreign Language. *Poems.*
**Natallia Yarmolčyk.** The Blog of Angel. *A short story.*
**Alieś Plotka.** I Am Sending a Postcard to the Prisoner. *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**Alona Kimhi.** Lunar Eclipse. *A short story. Translated from the Hebrew by Paval Kasciukevič.*

"Transparent consciousness". Poems of the five Russian poets: *Subhat Aflatuni; Svetlana Bunina; Andrej Korovin; Anna Gorenko; Danila Davydov. Prefase by Zmicier Višnioŭ*.

***ARCHIVES***

**Siarhiej Šapran.** "Cinema is collective art..." *Dramatic cinema-dramaturgic destiny of Vasil Bykaŭ. Continuation.*

***DIARIES***

**Nil Hilievič.** The Tragical 96-th. *Selected pages of the diary.*

***TIME***

**Ryhor Sitnica.** Non-Anniversary. *To the 65-th anniversary of Uładzimir Niakliajeŭ.*

***WORDS***

"Will Not It Help, That Cures Always?..". *Andrej Maskvin talking to Siarhiej Zakonnikaŭ*.

***ESSAYS***

**Uladzimir Sodal.** Reed Is Playing – He's Alive... *To the 120-th anniversary of the "Dudka Białaruskaja" release.*

***ART***

**Kaciaryna Bezmacernych.** "Art Is Not Weed But Rye". *Artists Tacciana RADZIVILKA and Kanstancin SELIHANAŬ talking to Kaciaryna Bezmacernych.*

***CRITICISM***

**Aliaksiej Rahulia.** In the Woods, in the Field – in the Centre of Europe. *Ethics and Sociology of the Prose of Hienrych Dalidovič. Beginning.*
**Jauhien Lecka.** Shifts of Life And Literature. *A creative portrait of Viačasłaŭ Adamčyk. Ending.*
**Iryna Šauliakova.** Dialogues in the Middle of the Border. *Cultural-communicative perspectives of the newest Belarusian literature.*

***BOOKRONCLE***

**Barys Klein.** What Is Seen Now. *Reading the Siarhiej Šapran's book "Vasil' Bykau. History of Life".*
**Leanid Hałubovič.** "We Will Forge Ourselves in the Fire of Defeat". *Notes about the book of Slavamir Adamovič's poetry "Rome".*

***DZIEJASŁOŬ'S STOCK***

*New books on DZIEJASŁOŬ's shelves.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

## Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2010 годзе:

***«Проза».*** **Вінцэсь МУДРОЎ. За апавяданні “Мішка Чобат” і “Лёгкая смерць” №2 (45)**

***«Паэзія».*** **Вольга ГАПЕЕВА. За нізку вершаў “Пакуль маўчаць далоні”, №3 (46)**
***«Паэзія».*** **Настасся КУХАРЭНКА. За нізку вершаў “На крылах кахання”, №4(47).**
**Франак ВЯЧОРКА. За апавяданне “Ліза”, №1 (44).**
***Прэмію часопіса “Дзеяслоў” і Алеся Усені «За высокія творчыя дасягненні ў сучаснай беларускай літаратуры»*** **атрымаў Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**



**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў.**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.